13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы Час

«Літаратурная Беларусь»
Стар. 13–36
«Спартыўная Беларусь»
Стар. 37–48

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ




# Мы абавязкова вернемся!

Аксана КОЛБ

**Шаноўныя чытачы! На жаль, гэта здарылася. Вы трымаеце ў руках апошні нумар папяровага «Новага Часу». Прыватная друкарня «Ролл Прынт» больш не будзе друкаваць «Новы Час».**

Ліст пра тое, што «ў сувязі са змяненнем вытворчага цыклу і ўзнікшымі з-за гэтага вытворчымі складанасцямі» друкарня «Ролл Прынт» пасля 12 жніўня больш не зможа аказваць нам паслугі, мы атрымалі яшчэ 27 ліпеня. Вось такі падарунак на Дзень незалежнасці. З таго моманту рэдакцыя спрабавала вырашыць пытанне, каб не спыняць выхад папяровай газеты. Аднак беспаспяхова.

Таму сённяшні 48-старонкавы нумар — наш развітальны. На вялікі жаль, на наступным тыдні вы, нашы самыя лепшыя чытачы, больш не ўбачыце любімую газету ў паштовай скрыні — прынамсі, не пры гэтай уладзе.

Дзякуй вам, што былі з намі ўсе гэтыя гады. Што падтрымлівалі і словам, і справай. Што давалі нам сілы і натхненне працаваць яшчэ больш і яшчэ лепш. Дзякуй, што верылі нам і праглі вольнага слова. Дзякуй, што шанавалі і паважалі нашу родную мову. Кожны ваш ліст, кожнае тэлефанаванне, кожная сустрэча штурхалі нас наперад, дадавалі моцы рабіць нашу справу, падтрымлівалі веру ў тое, што мы робім нешта важнае і карыснае. Мы з вамі шмат чаго перажылі — перажывем і гэта.

Бо «Новы Час» не спыняе сваё існаванне. Мы застаёмся ў інтэрнэце. І нам яшчэ больш патрэбна ваша падтрымка. Чытайце наш сайт novychas.by, падпісвайцеся на нас у сацыяльных сетках, дасылайце навіны і фота ў наш бот у тэлеграм.

Некаторыя з вас не вельмі добра яшчэ карыстаюцца інтэрнэтам, але можа гэта якраз стане нагодай засвоіць нешта новае, каб мець магчымасць абіраць тыя крыніцы інфармацыі, якія вы хочаце і якіх вы вартыя. Ніякая прапаганда і прымус не могуць спыніць прагу да свабоды. А свабода — у кожным з нас. Таму вольнае слова немагчыма забіць.

Мы па-ранейшаму будзем працаваць дзеля вас і дзеля Беларусі, публікаваць актуальную і важную інфармацыю пра тое, што адбываецца тут і за мяжой, аналітыку, навіны спорту, знаёміць вас з невядомымі старонкамі гісторыі нашай краіны — усё, да чаго вы прызвычаіліся і што любіце ў «Новым Часе». Будзем лічыць, што для нас гэтая сітуацыя — пераход на іншы ўзровень.

А яшчэ мы абавязкова вернемся — і вы зноў адчуеце пах свежай фарбы і ўбачыце знаёмы лагатып, калі адчыніце паштовую скрыню. Мы абавязкова сустрэнемся ў новай Беларусі. Таму кажам вам на развітанне: «Да спаткання, да сустрэчы».

# Кожны дзень — новая бітва

**Вось ужо год як Беларусь жыве ў стане барацьбы і рэпрэсій, што не спыняюцца. Кожны дзень шалі перамогі гайдаюцца з боку ў бок, але апошняя кропка яшчэ не пастаўленая. Падрабязней пра галоўныя падзеі тыдня — у нашым дайджэсце.**

### Затрыманні

У Мінску затрымалі філосафа і метадолага Уладзіміра Мацкевіча. У яго дома прайшоўператрус. Ён — заснавальнік праграмы стварэння сучаснага ўніверсітэта ў Беларусі «Лятучы ўніверсітэт». Таксамаператрус прайшоў дома ў аналітыка Тацяны Вадалажскай, каардынатаркі «Лятучага ўніверсітэту». Пасля вобшуку яе затрымалі. Вадалажская і Мацкевіч застаюцца за кратамі, яны падазраваныя па крымінальнай справе, іх прызналі палітвязнямі. Вядома, што Уладзіміра Мацкевіча падазраюць паводле ч. 1 арт. 342 КК («Арганізацыя ці ўдзел у дзеяннях, што парушаюць грамадскі парадак»). Супрацоўнікі КДБ зладзіліператрусы і ў іх калег. Ва Улада Вялічкі ператрус доўжыўся дзве гадзіны. У яго канфіскавалі ўсю тэхніку, самога Вялічку пазней адпусцілі, ён падазраваны, пад падпіскай. Затрымлівалі і сацыёлага Аксану Шэлест, у яе таксама правялі ператрус і канфіскавалі тэхніку. Пазней Аксану Шэлест вызвалілі пад падпіску.

Фатографа «Новага Часу» Дзмітрыя Дзмітрыева асудзілі на 15 сутак за «непадпарадкаванне». А 6.40 ранку 5 жніўня ён паведаміў: «Да мяне прыйшлі». Пазней на судзе высвялілася, што «непадпарадкаванне» адбылося падчас затрымання. Раней нашага фатографа затрымлівалі падчас працы на маршах пратэсту. Верагодна, цяперашні арышт — прэвентыўная мера перад гадавінай прэзідэнцкіх выбараў. Вядома, што перад 9 жніўня па ўсёй краіне прайшлі арышты і ператрусы ў людзей, якія цягам апошняга года былі асуджаныя па артыкуле за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Супрацоўнікі міліцыі, якія затрымлівалі Дзмітрыева, мелі пры сабе спіс людзей, па якіх павінны прыйсці.

У дачыненні да актывіста і блогера Паўла Вінаградава распачалі крымінальную справу паводле ч. 1 арт. 367 КК (паклёп у дачыненні да прэзідэнта). Паўла затрымалі 5 ліпеня. Ён атрымаў 15 дзён адміністрацыйнага арышту за допіс у Facebook ад 8 траўня, у якім міліцыя і суд убачылі заклік выходзіць на масавую акцыю 9 траўня. Сам Вінаградаў асуджаў гэтыя заклікі апазіцыйнымі палітыкаў і іранізаваў над імі. Затым Паўлу далі яшчэ 30 сутак арышту паводле арт. 24.23 КаАП аб несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах. Цяпер ён знаходзіцца ў ІЧУ у горадзе Беразіно.

### Здарэнні

Беларускія памежнікі выявілі мужчыну неславянскай знешнасці ў цяжкім стане на беларуска-літоўскай мяжы каля прапускнога пункта «Бенякoні». Яны спрабавалі аказаць яму першую дапамогу, але мужчына памёр. Памежнікі паведамілі толькі пра «неславянскую знешнасць», а блізкі да прэс-службы Лукашэнкі Telegram-канал «Пул першага» ўжо назваў памерлага іракцам і адназначна зрабіў выснову пра «забойства», хоць вынікаў праверкі яшчэ няма.

У Мінску ў музеі Янкі Купалы падчас планавай праверкі сістэмы пажаратушэння «адбыўся выхад газу». Адзін чалавек загінуў, яшчэ адзін шпіталізаваны. Загінуў 67-гадовы загадчык матэрыяльна-тэхнічнага аддзела Анатоль Платонавіч Пасека. Ён працаваў у падвальным памяшканні. Іншага супрацоўніка, які страціў прытомнасць, паспелі своечасова вынесці на свежае паветра. Ён выжыў.

### Суды

Мінскі абласны суд 4 жніўня пачаў разглядаць крымінальную справу ў дачыненні да экс-кіраўніка штаба Віктара Бабарыкі Марыі Калеснікавай і адваката Максіма Знака. Ён праходзіць у закрытым рэжыме. Калеснікаву і Знака абвінавачваюць па: ч. 1 арт. 357 (змова або іншыя дзеянні, здзейсненыя з мэтай захопу ці ўтрымання дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам); ч. 3 арт. 361 (публічныя заклікі да захопу дзяржаўнай улады, або гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь, або здрадзе дзяржаве, або ўчынення акта тэрарызму ці дыверсіі, або здзяйснення іншых дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, альбо распаўсюд матэрыялаў, якія змяшчаюць такія заклікі, учыненыя з выкарыстаннем СМІ ці інтэрнэту); ч. 1 арт. 361-1 (стварэнне экстрэмісцкага фарміравання альбо кіраўніцтва такім фарміраваннем або структурным падраздзяленнем, якое ў яго ўваходзяць).

У Маладзечне асудзілі да 2,5 гадоў зняволення адзінаборца Аляксея Кудзіна, якога затрымалі ў Расіі і экстрадавалі ў Беларусь 21 ліпеня. Аляксея вінавацяць паводле ч. 2 арт. 363 КК (супраціў супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак, спалучаны з ужываннем гвалту або з пагрозай яго прымянення). На пачатку суда Аляксей Кудзін, які знаходзіцца пад вартай, хадайнічаў аб спыненні крымінальнай справы ў сувязі з прымірэннем бакоў. Аднак з гэтым пагадзіўся толькі пацярпелы Яндола. Іншы пацярпелы і пракурор выступілі супраць, таму хадайніцтва не было задаволена. Кудзін яшчэ раней сплаціў кампенсацыю двум пацярпелым. Спартоўцу пагражала да 5 гадоў пазбаўлення волі. У жніўні 2020-га Кудзін удзельнічаў у пратэстах у Маладзечне, калі адбыліся сутычкі з сілавікамі. Кудзіна спрабавалі затрымаць і ён проста абараняўся. Пасля спартсмена жорстка затрымаў у Маладзечне спецназ, яго збілі. Аляксей Кудзін быў пад адміністрацыйным арыштам, яго аштрафавалі. Далей распачалі крымінальную справу. У лістападзе 2020-га Кудзін не прыйшоў у суд, і яго аб'явілі ў вышук.

Лідара АГП Мікалая Казлова асудзілі да трох месяцаў арышту. Яго прызналі вінаватым паводле ч. 1 арт. 407 Крымінальнага кодэкса за разгалошванне даных па крымінальнай справе супраць Каардынацыйнай рады, але канкрэтныя эпізоды абвінавачання невядомыя, бо суд праходзіў у закрытым рэжыме. Раней Казлоў некалькі разоў адмаўляўся даваць падпіску аб неразгалошванні пасля допытаў у СК па крымінальнай справе супраць Каардынацыйнай рады. За гэта яго ўжо прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці.

### Эмігранты

Палітвязень Дзмітрый Кулакоў, якога асудзілі на тры з паловай гады «хіміі» за тое, што ён абражаў і пагражаў гвалтам супрацоўнікам міліцыі ў тэлеграм-чаце, збег з папраўчай установы і пакінуў межы Беларусі. Дзмітрый Кулакоў — жыхар Шуміліна, бацька дваіх малых дзяцей. Згодна з абвінавачваннем, ён абражаў і пагражаў гвалтам супрацоўнікам міліцыі ў суполцы аднаго з месенджараў «Лепель для жыцця». Дзве з трох экспертыз паведамлення Кулакова паказалі, што пагроз і абразаў у іх не было, і толькі трэцяя экспертыза прызнала, што пагроза прысутнічала.

Лідар гурта «Дай Дарогу!» Юрый Стыльскі з'ехаў з Беларусі. 5 жніўня ў Ленінскім судзе Брэста прайшоў суд аб прызнанні экстрэмісцкім матэрыялам кліпа на песню «Баю-бай». Стыльскі на гэты суд не з'явіўся — яго прадстаўляў адвакат. Пазоў на песню падаў ГУБАЗіК МУС. Міліцыянтам не спадабаліся іх вобразы ў кліпе, і яны вырашылі, што ён «зняты з мэтай дыскрэдытацыі работнікаў сілавых структураў».

### Правалы

У Мінску загадалі прыбраць з лепшых паліц у крамах тавары тых краін, якія ўвялі санкцыі супраць Беларусі. Старшыня Мінскага гарвыканкама Уладзімір Кухараў падчас выязнога пашыранага пасяджэння прэзідыума Савета Рэспублікі абурыўся, што тавары з краін, якія ўвялі супраць Беларусі санкцыі, стаяць у беларускіх сеткавых крамах на найлепшых паліцах.

У Беларусі найгоршы вынік у гісторыі на Алімпіядзе ў Токіо — усяго сем медалёў. Да гэтага антырэкордам была алімпіяда 2016 года, на якой у Беларусі было 9 медалёў.

Ірак прыпыняе ўсе пасажырскія рэйсы ў Беларусь на нявызначаны тэрмін. Самалёты з Багдаду ў Мінск будуць лётаць — але толькі для таго, каб вярнуць іракцаў на радзіму.

### Сыход

У 99 гадоў сышла любімая беларуская пісьменніца многіх пакаленняў падлеткаў — Алена Васілевіч, аўтар тэтралогіі «Пачакай, затрымайся...» з культавай аповесцю «Расці, Ганька!».

### Супраціў

У шэрагу гарадоў свету 9 жніўня прайшлі маштабныя акцыі, прысвечаныя гадавіне выбараў у Беларусі.

У сваім тэлеграм-канале «кібер-партызаны» абвясцілі пра ўзлом сервера Дэпартамента забеспячэння аператыўна-вышуковай дзейнасці МУС. На ім захоўваюцца аўдыёзапісы праслушкі размоў з мабільных тэлефонаў. У сеціва выкладзены тры размовы. На іх жанчына з голасам, падобным да голасу прэс-сакратаркі Лукашэнкі Наталлі Эйсмант, і мужчына з голасам, падобным да голасу камандзіра мінскага АМАПа Дзмітрыя Балабы, абмяркоўваюць аблавы на жыхароў пратэставых двароў: «Грушаўка», «Мегаполіс», «Каскад», «Новая Баравая», «Плошча Перамен».

### Ліквідацыі

«Беларускі ПЭН-цэнтр» ліквідаваны па выніках другога судовага пасяджэння па справе арганізацыі. Разгляд справы пачаўся ў Вярхоўным судзе 3 жніўня. 14 ліпеня сілавікі правялі ператрус па юрыдычным адрасе «Беларускага ПЭН-цэнтра». 19 ліпеня стала вядома пра арышт рахункаў «Беларускага ПЭН-цэнтра», а 22 ліпеня з'явілася інфармацыя, што Міністэрства юстыцыі падало пазоў аб ліквідацыі арганізацыі. «Беларускі ПЭН-цэнтр» заснаваны ў 1989 годзе. З 2019 года арганізацыю ўзначальвае Святлана Алексіевіч.

Міністэрства юстыцыі падало ў Вярхоўны суд пазоў пра ліквідацыю грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва», паведаміў яго старшыня Анатоль Шумчанка. 14 ліпеня Следчы камітэт арыштаваў разліковы рахунак «Перспектывы». Аб'яднанне «Перспектыва» прадстаўляе інтарэсы індывідуальных прадпрымальнікаў. Арганізацыя з'явілася ў снежні 2002 пасля масавых акцый пратэсту прадпрымальнікаў летам і восенню таго года.

# На лецішчы затрыманы аматар-раварыст Аляксандр Рыбка

Зінаіда ЦІМОШАК

**Імя раварыста Аляксандра Рыбкі, бухгалтара па спецыяльнасці, стала вядомае многім беларусам пасля таго, як ён 18 кастрычніка 2020 года на ровары праехаў са Слуцка 100 кіламетраў для ўдзелу ў Партызанскім маршы ў Мінску.**

Пасля 10 жніўня 2020 года Аляксандр адседзеў трое сутак у Жодзіна без афармлення папер. Другі раз быў затрыманы 20 жніўня каля прахадной МАЗ і пакараны штрафам у 20 базавых велічынь па артыкуле 23.34.

21 кастрычніка Аляксандр Рыбка ўдзельнічаў у мерапрыемстве каля помніка ахвярам гета, і за гэта таксама быў пакараны 15 суткамі арышту. Пасля былі дададзены яшчэ 15 сутак за ўдзел у мінскіх акцыях.

Апошнія месяцы Аляксандр жыве ў Слуцку з бацькамі. Раніцай 9 жніўня 2021 года яго затрымалі на бацькоўскім лецішчы ў вёсцы Мецявічы Салігорскага раёна. Пра затрыманне сына бацькі даведаліся толькі вечарам ад сваіх сваякоў па тэлефоне.

— Каля 7 гадзін раніцы Саша прыгатаваў сабе ежу, але не паспеў пад'есці, — дзеліцца атрыманай інфармацыяй маці, Валянціна Уладзіміраўна. — Суседзі бачылі, што пад'ехалі два бусы з мігалкамі, выскачылі амапаўцы ў чорных масках, атачылі дом. Дзеля вобшуку пачалі шукаць панятых, шмат хто з суседзяў катэгарычна адмовіўся.

Пасля зрабілі ператрус і перавярнулі ўвесь дом. Па якім артыкуле яго затрымалі — невядома. Яшчэ будзем даведвацца. Вывелі яго з дому толькі а дзясятай — у кайданках, майцы і шортах.

Ужо ў абед слуцкія міліцыянты пераскочылі праз плот (варотцы былі зачынены на ключ) і ўвайшлі ў дом бацькоў у Слуцку. Дома быў толькі глухі бацька, якога напалохала такая спецаперацыя. Нічога крамольнага міліцыянты ў доме не знайшлі.

— Муж чысціў бульбу, уключыў ТБ, каб паглядзець выступ Лукашэнкі, як раптам убачыў побач з сабой пастой 5 міліцыянтаў, — распавядае Валянціна Уладзіміраўна. — Нічога не патлумачылі. Але пасля агляду дома патэлефанавалі некаму і сказалі, што нічога не знайшлі. Сышлі з дома. Я на той час адсутнічала ў хаце, а муж мне не патэлефанаваў, бо не хацеў трывожыць. Я ўжо ў гадах і маю слабае здароўе.

Пасля атрымання інфармацыі ад сваякоў (з Салігорскага РАУС ніхто так і не патэлефанаваў), бацька тэрмінова выехаў на лецішча, зняважанае ператрусам.

Маці ж паехала ў Салігорск у пошуках інфармацыі пра сына.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Згарэў хлеў — гары і хата!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Вялікая размова Лукашэнкі» ці не ўпершыню была мне нецікавая. Зрэшты, яна была нецікавая ад самага яе планавання. Было зразумела, што гэта будзе, па-першае, «міжсабойчык», а па-другое, там нічога новага не скажуць.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Рэальна, а з кім Лукашэнка размаўляў 9 жніўня ажно 8 гадзін? Замежных карэспандэнтаў пазбавілі акрэдытацый яшчэ летась, улады закрылі карпункт «Еўрарадыё», знішчылі TUT.BY, заблакавалі інтэрнэт-газету БелаПАН «Беларускія навіны», «зачысцілі» рэгіянальныя СМІ, прызналі экстрэмісцкім тэлеканал «Белсат». Кіраўніцтва «Нашай Нівы» сядзіць у турме, «Народную Волю» ў Беларусі не друкуюць, суд па ліквідацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў адбудзецца 11 жніўня, і нават рэдактар дзіцячага часопіса «Асцярожна, дзеці» знаходзіцца пад следствам. Дзе ўзяць журналістаў, з якімі б Лукашэнка «размаўляў»?

Не дзіўна, што «размова» ператварыўся ў маналог, — гэткі вельмі працяглы стэндап для сваіх.

Таму, як і меркавалася, восем гадзін казалі пра тое, што «цёмная вада ў аблацэх». Няма не тое што плану развіцця краіны — няма нават прыблізнага разумення наконт будучыні. Таму Лукашэнку і хістала ў прамовах з боку ў бок — то ён заявіў пра падступны Захад, то абмовіўся пра нармалізацыю адносін з Літвой. То казаў, што ён сыдзе «вельмі хутка», то заклікаў у сваю падтрымку войска. То казаў, што пераразмеркаванне прэзідэнцкіх паўнамоцтваў павінна прайсці да канца года, то заявіў, што не вызначыўся ні з праектам Канстытуцыі, ні са статусам Усебеларускага народнага сходу. Карацей, суцэльны разброд і хістанне.

Адзінае, на што можна было звярнуць увагу ў гэтым стэндапе, — гэта на пагрозу спыніць супрацоўніцтва з Захадам у сферы барацьбы з кантрабандай ядзерных матэрыялаў, калі на Беларусь будзе працягнуты санкцыйны ціск.

Вось да гэтай заявы Захад паставіцца вельмі сур'ёзна. Таму што Лукашэнка неаднаразова заяўляў, што не будзе стрымліваць міграцыю — і ў выніку пачаў запаўняць мігрантамі Літву. Цяпер ён ужо другі раз згадвае кантрабанду ядзерных матэрыялаў. І калі такое раптам здарыцца — наступствы будуць далёка не вясёлкавыя. І нават не санкцыйныя.

Ядзерныя матэрыялы — гэта не цыгарэты ў вагонах «Беларуськалія». Гэта рэальная пагроза нават не рэгіянальнай — сусветнай бяспецы. Тэлеграм-канал «Лісты да дачкі» пісаў пра гэта так: «Калі ты пачынаеш разважаць, што не можаш справіцца з ядзернымі тэрарыстамі, якія з'явіліся невядома адкуль, то знойдзецца шмат жадаючых дапамагчы. Ад амерыканскіх марскіх коцікаў, да кітайскіх снежных барсаў». І Расія ў гэтым выпадку абараняць «саюзніка» нават не рыпнецца: краіны «ядзернага клуба» ёй хутка пакажуць на яе месца. Але іншых аргументаў у «супрацьстаянні з Захадам» у Лукашэнкі, падобна, не засталося. Акрамя як эмацыйнага выказвання: «Задушыцеся вы гэтымі санкцыямі ў Вялікабрытаніі!»

Відавочна, такая рыторыка вызначае паводзіны, паказаныя ў загалоўку. Хай нешта ідзе — і нешта будзе. Але такія адносіны да справы наўрад ці дазваляюцца кіраўніку краіны.

Так, ЗША, Канада, Вялікабрытанія 9 жніўня ўвялі новыя санкцыі, практычна аналагічныя сектаральным санкцыям ЕС. І ў гэтай сувязі варта адзначыць, што Вялікабрытанія, паводле інфармацыі беларускага МЗС, заняла шостае месца ў спісе вядучых імпарцёраў беларускіх тавараў. Прычым, нафтапрадукты, якія трапілі ў санкцыйны спіс, з'яўляюцца (паводле таго ж МЗС) асноўнай экспартнай пазіцыяй Сінявокай у Злучаным Каралеўстве.

Але больш важна тое, што Вялікабрытанія — адна з нямногіх краін, з якой у Беларусі станоўчае сальда знешняга гандлю: пры экспарце ў 2020 годзе ў 814 млн долараў, імпарт — 202 млн. Гэта значыць, Злучанае Каралеўства — крыніца такой неабходнай нам цяпер валюты. Акрамя таго, Вялікабрытанія займае трэцяе месца (пасля Расійскай Федэрацыі і Кіпра) па аб'ёмах прамых замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі: у 2020 годзе яны склалі 514,6 млн. долараў.

Дык хто ў выніку «задушыцца»? У гэтым плане Злучанае Каралеўства нам нават важнейшае, чым ЗША, з якімі ў нас і гандлёвае сальда адмоўнае, і тавары экспарт нават да 200 млн. долараў у мінулым годзе не дацягнуў. Вядома, у нас з ЗША завоблачны экспарт паслуг — 1,26 млрд. долараў. Але амаль усё гэта — IT-сфера. А большасць айцішнікаў ужо рэлакаваліся за межы «краіны для жыцця».

Санкцыі ЗША ў дачыненні да Беларусі хваравітыя іншым — указам Байдэна (executive order) на фарміраванне санкцыйных спісаў і сектаральных санкцый. Да ўступлення ў сілу сектаральных санкцый пройдзе нейкі час на іх падрыхтоўку і фіналізацыю (каля паўгода). Мяркуючы па тым фармацэ, які быў прадстаўлены, дзяржкампаніі Беларусі і праўладныя бізнесы ў канцы 2021 — пачатку 2022 года чакаюць усёабдымныя сектаральныя санкцыі «іранскага фармату» — разам з так званымі «другаснымі» санкцыямі. Гэта азначае, што любая кампанія, якая будзе супрацоўнічаць з дзяржбанкамі, дзяржаўнымі бізнесамі або дзяржустановамі Беларусі, аўтаматычна трапіць у санкцыйныя спісы ЗША. Такім чынам, любое супрацоўніцтва расійскіх банкаў і бізнесаў з дзяржкампаніямі Беларусі і бізнесамі атачэння Лукашэнкі можа быць азмрочанае трапляннем у «другасны» санкцыйны спіс з максімальна жорсткім рэгуляваннем.

Легальна атрымаць крэдыты з Расіі пасля ўвядзення сектаральных санкцый ЗША па новым указе прэзідэнта стане немагчыма без траплення ў санкцыйныя спісы ЗША. Фактычна, галоўным наступствам стане абсяканне ўсіх крэдытных ліній ад расійскіх банкаў. Магчыма, у тым ліку і Ашчадбанка Расіі, які якраз выдае Сінявокай урадавыя расійскія крэдыты.

Таму цяпер пачнецца маштабнае «засваенне бюджэтных сродкаў». Яно, вядома, не спынялася, але чыноўнікі будуць больш інтэнсіўна імкнуцца «распілаваць» грошы, пакуль яны не скончыліся. Віцебскі гарвыканкам, напрыклад, абвясціў тэндар на закупку двух слупоў з указальнікамі. Фінансуецца закупка за кошт бюджэтных сродкаў, і кошт пытання — 6000 рублёў. Больш за тысячу долараў на слуп. Цікавы тэндар, праўда?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Святлана Алексіевіч



**З праграмы літаратуры для беларускіх школаў выкраслілі кнігу Алексіевіч, а замест яе дадалі Чаргінца.**

Таксама з беларускай школьнай праграмы рускай літаратуры прыбралі творы Уладзіміра Набокава і Аляксандра Салжаніцына.

На сайце нацыянальнага адукацыйнага парталу даступныя школьныя праграмы на будучы навучальны год, а таксама прынятая ў 2017 годзе праграма, якая дзейнічала і ў 2020 годзе.

У праграме, зацверджанай у 2020 годзе, у раздзеле «Месца і роля ў літаратурным працэсе дысідэнцкай літаратуры» прысутнічаюць Аляксандр Салжаніцын, Уладзімір Набокаў, Віктар Някрасаў. Асобна на вывучэнне твору «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» ў праграме стаялі 3 гадзіны. Сярод твораў для дадатковага чытання пазначаны «Матрёнин двор». У зацверджанай у 2021 годзе праграме рэкамендаваным пісьменнікам застаўся толькі Някрасаў.

Сярод літаратуры, створанай беларускімі пісьменнікамі на рускай мове, у праграме 2020 года ў раздзеле «Проза. Чалавек і вайна» вывучалася кніга Святланы Алексіевіч «Последние свидетели». У новай праграме на яе месцы пазначаны старшыня праўладнага саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

20 жніўня 2020 года Генеральная пракуратура Беларусі распачала крымінальную справу па факце стварэння Каардынацыйнай рады. 26 жніўня Святлану Алексіевіч дапыталі ў Следчым камітэце. Пазней яна з'ехала з краіны. А 9 жніўня 2021 года Вярхоўны суд ліквідаваў беларускі ПЭН-цэнтр — літаратарскую праваабарончую арганізацыю, заснаваную ў 1989 годзе, якую з 2019 года ўзначальвала нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч.

## Таццяна Звярко



**У Лідзе паўтара года калоніі атрымала мама ў дэкрэтным адпачынку. Яе малодшаму дзіцяці няма і двух гадоў.**

Лідчанку асудзілі па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу: арт. 369 (Абраза прадстаўніка ўлады) і арт. 368 (Абраза прэзідэнта). Таццяна Звярко павінна выплаціць кампенсацыю маральнай шкоды міліцыянту, якога прызналі пацярпелым па справе.

Паводле праваабаронцаў, прадстаўнік улады, якога абразіла Таццяна, — намеснік начальніка лідскага РАУС Дзяніс Жынко. Справу разглядаў суддзя Ігар Кашко.

Жанчыну ўзялі пад варту прама ў зале суда.

У Таццяны — двое дзяцей: 20-гадовая дачка і сын, якому цяпер 1 год і 9 месяцаў. Жанчына была ў дэкрэтным адпачынку. Знаёмая Таццяны напісала, што яе сын быў на грудным гадаванні.

Згодна з артыкулам 63 Крымінальнага кодэкса, наяўнасць на ўтрыманні ў вінаватага малалетняга дзіцяці прызнаецца акалічнасцю, што змякчае адказнасць.

## Аляксандр Тарайкоўскі



**Год прайшоў з часу гібелі ў Мінску пратэстоўца Аляксандра Тарайкоўскага. Крымінальная справа па яго забойстве так і не была распачатая.**

34-гадовы індывідуальны прадпрымальнік Тарайкоўскі ўдзельнічаў у пратэстах супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Яго застрэлілі на другі дзень актыўнага супрацьстаяння сілавікоў і пратэстоўцаў каля станцыі метро «Пушкінская» (каля 23-й гадзіны 10 жніўня).

Па аператыўна агучанай версіі МУС, у руках Аляксандра Тарайкоўскага быццам узарвалася выбуховае прыстасаванне. Аднак шматлікія відэа абверглі гэтыя словы. На іх бачна, што мужчына з пустымі паднятымі рукамі стаяў насупраць шэрагу сілавікоў. Пасля ў яго стрэлілі — і ён упаў.

Толькі ў лютым 2021 года тагачасны старшыня СК Іван Наскевіч прызнаў, што ў Тарайкоўскага стралялі сілавікі.

Алена Герман, удава забітага, звярталася ў Следчы камітэт па копію пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце гібелі мужа. Яна прасіла правесці службовую праверку асоб з СК, а таксама вярнуць рэчы, у якіх Тарайкоўскі знаходзіўся ў момант сваёй гібелі. У адказе паведамілі, што вопратку і абутак вырашана захоўваць пры матэрыялах праверкі, у іншым адмовілі.

Яшчэ ў жніўні 2020-га каля станцыі метро «Пушкінская» ўтварыўся народны мемарыял Аляксандра Тарайкоўскага. Аднак улады яго знішчылі. Усіх, хто спрабуе там ушанаваць памяць пратэстоўца, намагаюцца затрымаць.

Азбука паліталогіі

# Загагуліна на шляху пабудовы інфармацыйнай аўтакратыі



Сяргей НІКАЛЮК

**Мы на вайне. Пакуль яшчэ гібрыднай. «Вайна вядзецца супраць часу, супраць свету, якім ён цяпер стаў, за вяртанне ў шчаслівыя сямідзясятыя».**

Ён занадта няўтульны, гэты празрысты свет, — і задача палягае ў тым, каб выправіць яго недахопы. Калі ўжо не глабальна, то хоць бы ў межах асобна ўзятай краіны», — тлумачыць расійскі публіцыст Іван Давыдаў.

Мы на вайне. Мы трымаем абарону. На нашым баявым штандары напісаны просты і зразумелы сваім і ворагам дэвіз: «Нашы каштоўнасці не ўпісваюцца ў сістэму глабалісцкай будовы свету». Ён служыць аналагам надпісу-папярэджання на апорах высакавольтных ліній: «Не залазіць, заб'е!»

Нас спрабуюць узяць у атачэнне. Ці тое яшчэ будзе.

### Мы — гэта хто?

Паводле гісторыка Аляксандра Ахіезера, «грамадства, асоба адказваюць на крызісную сітуацыю, на небяспеку, ці праз выпрацоўку інавацыйных ідэй, якія адкрываюць новыя творчыя магчымасці больш эфектыўных рашэнняў, ці на аснове вяртання да старых каштоўнасцяў, якія апраўдалі сябе ў мінулым».

Глыбокая думка. Але, як і ўсе падобныя думкі, яна з'яўляецца няпоўнай. Наш паўсядзённы вопыт падказвае трэці шлях — ён вядзе да старых каштоўнасцяў, якія ў мінулым сябе НЕ АПРАЎДАЛІ.

«Жыццё кароткае», — сцвярджаў Гіпакрат. Ён быў лекарам, і таму ў хуткаплынным часе разбіраўся прафесійна. 18 жніўня ва ўсіх плакальшчыкаў па СССР з'яўляецца нагода адзначыць 30-годдзе няўдалага путчу, які ўбіў апошні цвік у вечка труны «Саюза непарушнага рэспублік свабодных».

Найлепшай ілюстрацыі закона ненаўмысных наступстваў, мабыць, і не знайсці. Путчысты хацелі, як лепш... але і Гарбачоў ні сабе, ні краіне зла не жадаў. Ды і хто з нас, калі слухаў маладога генеральнага сакратара ў 1985 годзе, не пагадзіўся б з тым, што «так жыць нельга»?

«Пераменаў! Мы хочам пераменаў!» — спяваў Віктар Цой. І тут самы час разабрацца з займеннікам першай асобы множнага ліку «МЫ». Мы — гэта хто? Адважуся выказаць здагадку, што не толькі стомленыя ад дэфіцыту рабочыя і калгасніцы разам з праслойкай у выглядзе працоўнай інтэлігенцыі, але і большасць прадстаўнікоў так званай наменклатуры.

Айчынная гісторыя вучыць: абавязковай умовай для надыходу пераменаў з'яўляецца згода («кансенсус» — паводле тэрміналогіі Гарбачова) паміж кіраўнікамі і кіраванымі ў пытанні ўсведамлення, што далей «так жыць нельга». Адсутнасцю ўсеагульнай згоды і адрозніваюцца цяперашнія падзеі ад гарбачоўскай перабудовы. На жаль, але сёння жыць даводзіцца ва ўмовах, калі нізы не хочуць жыць па-старому, але вярхі па-старому кіраваць яшчэ неяк могуць.

### У 45 разоў у Расіі і толькі ў 5 разоў у Германіі

Сучасныя аўтарытарныя рэжымы для ўтрымання ўлады ўсё часцей адмаўляюцца ад страху і рэпрэсій на карысць маніпуляцыі інфармацыяй. На думку расійскага эканаміста Сяргея Гурыева, аўтара тэрміна «інфармацыйная аўтакратыя», гэтаму спрыялі тры прычыны:

Распад СССР прымусіў заходнія краіны адмовіцца ад падтрымкі рэпрэсіўных рэжымаў, бо немагчыма стала растлумачыць сваім народам, чаму гэтыя «сыны сучкі» па-ранейшаму застаюцца «нашымі».

Сучасныя тэхналогіі не дазваляюць хаваць масавыя рэпрэсіі і забойствы.

Эканамічнае развіццё немагчыма без доступу да інтэрнэту, міжнароднага гандлю і замежных інвестыцый.

Існуе прамая карэляцыя: чым больш дыктатар звяртаўся да рэпрэсій, тым меншая верагоднасць, што ён зможа мірна пакінуць сваю пасаду. Быць дыктатарам старога тыпу стала небяспечна.

На што накіроўваюць сваю энергію вярхі ва ўмовах інфармацыйнай аўтакратыі? У першую чаргу, на доказ кампетэнтнасці лідара. Сучасны лідар — гэта не проста швец і жнец, і на дудзе ігрэц. Гэтага недастаткова. Сучасны лідар у вачах большасці павінен быць па-за канкурэнцыяй ва ўсіх відах дзейнасці. Калі ён швец, то найлепшы ў свеце швец і г. д.

Зразумела, што такая ўніверсальнасць ні да чаго добрага не даводзіць. Аднак ахвочых падставіць плячо ў няпростай справе маніпулявання хапае. Дадзім слова Сяргею Гурыеву: «Даследчыкі адзначылі прамую залежнасць паміж тым, што ў аўтарытарных краінах прадстаўнікі эліты больш крытычныя да лідара, чым асноўная маса насельніцтва, але дабрабыт у прадстаўнікоў элітнага саслоўя ў такой краіне вышэйшы, чым у больш дэмакратычных краінах, дзе эліты больш падтрымліваюць лідара».

Гэта ключавы момант для падтрымання стабільнасці. Таму не варта здзіўляцца, што заробак, скажам, міністра фінансаў Расіі вышэй за сярэдні заробак па краіне ў 45 разоў, а ў яго нямецкага калегі — толькі ў 5 разоў.

Пра карупцыйную надбаўку да афіцыйнага акладу я прамаўчу. Але тое, што жонкі расійскіх чыноўнікаў рэгулярна аказваюцца надзвычай таленавітымі бізнесоўцамі і зарабляюць нашмат больш за сваіх мужоў, ні для каго не сакрэт. Прыгадаем жонку мэра Масквы Юрыя Лужкова мільярдэршу Алену Батурыну.

Стабільнасць, хай нават ва ўмовах інфармацыйнай аўтакратыі, мае патрэбу ў матэрыяльных рэсурсах. Іншая справа, што размяркоўваюцца яны з вялікім перакосам у бок кіраўнікоў. Нездарма ж даволі вядомы расійскі «вячэрні» тэлевядоўца Салаўёў набыў вілу на беразе возера Кома ў Італіі. Тры паверхі. Фасад у сем вокнаў. Прыгожа жыць не забароніш — тым больш за свае крэўныя.

### Плынь бягучай сучаснасці

У рэжыме інфармацыйнага аўтарытарызму, імітуючы дэмакратыю, беларуская мадэль праіснавала да 9 жніўня 2021 года. А далей здарыўся адкат да савецкіх і дасавецкіх метадаў падтрымання стабільнасці. У нашага таварыша па саюзным няшчасці ідзе аналагічны працэс, і трыгеру ў выглядзе «каляровай рэвалюцыі» для гэтага не спатрэбілася.

Сама логіка развіцця (дэградацыі) палітычных сістэм, якія ваююць супраць часу і не жадаюць упісвацца ў сучаснасць, вяртае іх да сілавых метадаў падтрымання стабільнасці. «Старэйшаму брату» прасцей. Па-першае, на дадзеным этапе ён не адчувае недахопу ў матэрыяльных рэсурсах для забеспячэння ўмоўных суадносін 45 да 1 для ўмоўнага міністра фінансаў. Дзякуй нафтавай, газавай і іншым відам прыроднай рэнты. Па-другое, у параўнанні з Беларуссю ў Расіі прынцыпова іншыя суадносіны плошчы з працаздольнасцю мяжы з «поўнымі мярзотнікамі».

Суседзяў не выбіраюць. Суседзі — ад Бога. Донару еўрапейскай стабільнасці ў гэтым сэнсе не пашанцавала. Вось і даводзіцца першым прымаць удар на сябе.

Але ў вяртання да жорсткага кіравання, як і ў кожнага медалю, маецца адваротны бок. Апішу яго словамі галоўнага архітэктара Беларускай мадэлі: «Зразумейце, што пры ўсёй жорсткасці курсу гэтая жорсткасць павінна быць звернутая на тых, на каго трэба. Мы не павінны задушыць ініцыятыву людзей, трэба падтрымліваць ініцыятыўных і сумленных людзей як у бізнесе, так і ў палітыцы».

Адасабляць сумленных людзей ад несумленных у палітыцы проста: сярод нязгодных з цяперашнім курсам сумленных не можа быць наогул. Прынамсі, за 27 гадоў ніводзін такі не выяўлены.

З бізнесам складаней. Мэта любога бізнесоўца — атрыманне прыбытку, гэта значыць, справа выключна прыватная. Вайна, якая вядзецца сярод родных бяроз і асін супраць часу, — гэта вайна за каланізацыю прыватнага грамадскім. Гэта выключна наша лакальная вайна. У свеце ідзе супрацьлеглы працэс: прыватнае каланізуе грамадскае.

Сучаснасць, згодна з брытанскім сацыёлагам Зыгмунтам Бауманам, з цвёрдага стану перайшла ў вадкі. Усякую дробязь, кшталту ІП, прыструніць нескладана. Але што рабіць з «акуламі капіталізму»? «Сёння, — тлумачыць аўтар бестселеру "Бягучая сучаснасць", — сітуацыя зусім іншая; адзін з бакоў з болем усведамляе, што яго партнёры па перамовах могуць лёгка ўстаць з-за стала і сысці ў любы момант; яшчэ адзін націск — і яны проста падхопяць свае кейсы і сыдуць, так што размаўляць будзе не з кім».

Такая вось праблема... Калі б не падтрымка з боку таварыша па саюзным няшчасці, то ў сваім цяперашнім выглядзе Беларуская мадэль і году б не працягнула. Плынь бягучай сучаснасці змыла б яе.



# Арсень Сівіцкі: «Крывавы разгон пратэстаў канчаткова разарваў сацыяльны кантракт»

Юры ДРАКАХРУСТ

**Сваім бачаннем і разуменнем падзеяў 2020 года з «Радыё Свабода» дзеліцца дырэктар Цэнтра стратэгічных і знешнепалітычных даследаванняў Арсень Сівіцкі.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Беларускі палітычны крызіс, які ўзнік адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня 2020 года і які характарызаваўся беспрэцэдэнтным узроўнем палітычнай мабілізацыі і сацыяльнай салідарнасці беларускай грамадзянскай супольнасці, стаў вынікам шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў і прычын, якія спелі на працягу апошніх пяці-дзесяці гадоў.

Калі гаварыць пра аб'ектыўныя прычыны, то, перш за ўсё, істотна змяніліся структурныя сацыяльна-дэмаграфічныя характарыстыкі беларускага грамадства, а таксама яго каштоўнасныя арыентацыі.

## Каштоўнасны зрух

Можна сцвярджаць, што беларускае грамадства за апошняе дзесяцігоддзе здзейсніла своеасаблівы фазавы пераход — ад грамадства, над якім панаваў светапогляднызруз савецкай спадчыны, да «пост-постсавецкай» супольнасці, у якой каштоўнасныя ўстаноўкі на свабоду, канкурэнцыю, зніжэнне ролі дзяржавы ў вырашэнні надзённых праблемаў, асабістую адказнасць за ўласны лёс і дабрабыт пачалі пераважаць традыцыйныя патэрналісцкія арыентацыі, характэрныя для перыяду 1990-х — пачатку 2000-х гадоў.

За гэты час беларускае грамадства стала яшчэ больш адкрытым і сучасным не толькі дзякуючы падключэнню Беларусі да працэсаў глабалізацыі, пераважна праз усталяванне гандлёва-эканамічных і палітычных сувязяў з іншымі краінамі, але і шырокаму распаўсюджванню інфармацыйна-камунікатыўных тэхналогіяў і падключэнню Беларусі да «глабальнай вёскі», што адыграла вядучую ролю ў беспрэцэдэнтнай палітычнай мабілізацыі і сацыяльнай салідарнасці падчас прэзідэнцкай кампаніі 2020 года і пасля яе.

Паралельна, насуперак ідэалагічнай пазіцыі беларускага кіруючага класу — пазіцыі, звязанай з захаваннем дамінуючага становішча дзяржаўнай уласнасці, — структурныя трансфармацыі ў эканоміцы прывялі да таго, што доля прыватнага сектару перавысіла ў 2020 годзе 50%.

Каштоўнасны зрух супаў з відавочным крызісам сацыяльна-эканамічнай мадэлі кіравання беларускай дзяржавы, якая больш-менш паспяхова выконвала свае функцыі да 2015 года, але пасля пачала ўвесь час даваць збоі з прычыны скарачэння доступу да нафтавай і геапалітычнай рэнты ў адносінах з Расіяй.

Перыядычныя эканамічныя спады і стагнацыя даходаў грамадзян на фоне трэнду росту дабрабыту ў суседніх краінах, з якімі беларусы сталі ўсё часцей і часцей суадносіць уласнае становішча, паставілі пад пытанне здольнасць дзяржавы выконваць узятыя на сябе абавязанні ў адпаведнасці з сацыяльным кантрактам з беларускім грамадствам. Неаднаразовыя і беспаспяховыя спробы рашуча пераадолець запаветную планку сярэдняга заробку «папіцот» з рухам у кірунку «па тысячы» ў доларавым эквіваленце не ўвянчаліся поспехам, а паводле ўзроўню сярэднедушавых наяўных рэсурсаў у 2020 годзе Беларусь выйшла толькі на ўзровень «папіцот» у беларускіх рублях.

Пандэмія каронавіруса і яе эпідэміялагічныя, эканамічныя і палітычныя наступствы сталі сапраўдным краш-тэстам для беларускага грамадства і дзяржавы. І калі для беларускага грамадства яна стала глыбінным матывам для беспрэцэдэнтнага ўзроўню сацыяльнай салідарнасці і ўзаемадапамогі, то дзяржава іспыт на эфектыўнасць і адэкватнасць вырашэння надзённых праблемаў беларусаў праваліла.

У выніку пандэмія каронавіруса паказала, што дзяржаве з цяжкасцю ўдаецца выконваць самыя базавыя функцыі ў рамках сацыяльнага кантракту з грамадствам — клапаціцца пра жыццё і здароўе грамадзян.

Высокі ўзровень трывожнасці і страху значнай часткі грамадства, які стаў вынікам непаслядоўнай і супярэчлівай лініі дзяржавы ў барацьбе з сацыяльна-эканамічнымі і ўласна эпідэміялагічнымі наступствамі пандэміі (70–80% лічылі антыковідныя захады ўладаў неэфектыўнымі і недастатковымі) лёгка трансфармаваўся ў пратэстныя настроі напярэдадні галоўнай палітычнай падзеі 2020 года — прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

Не паспеўшы купіраваць негатыўныя наступствы пандэміі, Аляксандр Лукашэнка прыняў найбольш рызыкоўнае для сябе рашэнне — праводзіць прэзідэнцкую выбарчую кампанію ў разгар першай хвалі эпідэміі.

На фоне ўвядзення надзвычайнага становішча і лакдаўнаў па ўсім свеце з прычыны пандэміі беларускае кіраўніцтва, паддаўшыся ўплыву канспіралагічных тэорыяў (згодна з якімі каронавірус — гэта глабальная авантура, зладжаная дзеля новага перадзелу свету), пайшла «ва-банк», аднак ані ў свеце, уключаючы бліжэйшага стратэгічнага саюзніка ў асобе Кітая, ані ў беларускім грамадстве такі «ковід-дысідэнцкі подзвіг» не ацанілі.

Толькі практычна праз год пасля пачатку палітычнага крызісу беларускія ўлады сталі пагражаць увесці ваеннае становішча — рашэнне, якое ў цяперашніх умовах не будзе падтрыманае беларускім грамадствам, яшчэ больш паглыбіць палітычны крызіс і канчаткова замацуе за Беларуссю статус крыніцы пагрозаў для міжнароднага міру і бяспекі.

## Палітычная мабілізацыя

Такім чынам, сукупнасць аб'ектыўных фактараў і суб'ектыўных памылак з боку беларускіх уладаў прывяла да беспрэцэдэнтнай палітычнай мабілізацыі грамадства, значная частка якога вырашыла перагледзець сацыяльны кантракт з дзяржавай.

Правядзенне прэзідэнцкіх выбараў без спробаў імітацыі хаця б некаторых атрыбутаў дэмакратыі і адсутнасць шырокага нацыянальнага і міжнароднага назірання, абмежаванне спаборніцтва выключэннем галоўных альтэрнатыўных прэтэндэнтаў у кандыдаты ва ўмовах вельмі нізкага даверу да інстытутаў улады (уключаючы Цэнтральную выбарчую камісію з рэйтынгам не большым за 20–30% даверу), рэгістрацыя ў якасці кандыдата Святланы Ціханоўскай (якая відавочным чынам кансалідавала ўвесь пратэставы і нейтральны электарат) і, нарэшце, «пераможны» вынік 80,1% для А. Лукашэнкі замест «прымальных 65%» у грамадстве і ў свеце — усё гэта стала фатальнымі паліттэхналагічнымі памылкамі беларускіх уладаў.

Сітуацыя канчаткова пагоршылася з-за беспрэцэдэнтнага ўзроўню непрапарцыйнага і хаатычнага гвалту з боку сілавых ведамстваў супраць пратэстуючых грамадзянаў, якія ў большасці сваёй выйшлі выказаць сваю нязгоду з вынікамі выбараў мірным спосабам. Гэта не выключае таго, што былі і тыя, хто выходзіў на вуліцы для сілавой дэманстрацыі сваёй нязгоды, але гэта ніяк не апраўдвае таго ўзроўню неселектыўнага гвалту з боку сілавікоў, які быў ужыты падчас пратэстаў.

У выніку крывавы разгон пратэстаў, раскрутка махавіку рэпрэсіяў супраць грамадзянскай супольнасці і апазіцыі не толькі падарвалі легітымнасць Аляксандра Лукашэнкі ў вачах беларускага грамадства і сусветнай супольнасці, але і канчаткова разарвалі сацыяльны кантракт паміж значнай часткай беларускіх грамадзянаў і дзяржавай (у сэнсе бюракратычных інстытуцыяў). Агульнанацыянальныя масавыя пратэсты і акцыі салідарнасці ў адказ на крывавыя разгоны сталі адказам на прыніжэнне чалавечага гонару і годнасці з боку ўлады, з якой і заключалася грамадзянская дамова.

У выніку беларускі палітычны крызіс можна ахарактарызаваць як раскол паміж, з аднаго боку, бюракратычнымі інстытуцыямі ў шырокім сэнсе і той часткай грамадства, чый дабрабыт залежыць ад карпаратыўнай лаяльнасці ў адносінах да іх, а з другога — грамадзянскай супольнасцю, чыё існаванне наўпрост не залежыць ад дзяржавы. То-бок гэта раскол паміж дзвюма сацыяльнымі структурамі і каштоўнаснымі сістэмамі — «адкрытым» грамадствам, якое імкнецца да зменаў і праявы свабоды, і «закрытым» грамадствам, якое супраціўляецца любым зменам і не гатовае браць на сябе адказнасць за ўласны лёс.

## Без геапалітыкі

Менавіта таму геапалітыка спачатку не прысутнічала ў пратэставым руху ані ў якай форме, бо пратэсты былі прадуктам мабілізацыі супраць палітычнага свавольства, несправядлівасці і расчалавечвання з боку ўласнай дзяржавы, а не знешніх геапалітычных актараў на Захадзе ці Усходзе, пагрозамі з боку якіх палохала дзяржаўная прапагандысцкая машына як падчас прэзідэнцкай кампаніі, гэтак і на працягу ўсяго палітычнага крызісу.

Адным з эфектаў адсутнасці геапалітычнага вымярэння стаў акцэнт на нацыянальных формах і ўсеагульнае выкарыстанне пратэставым рухам нацыянальных гістарычных сімвалаў — бел-чырвона-белага сцяга і гербу «Пагоня», аднак на гэтым нацыянальны змест быў вычарпаны. Гэта звязана з тым, што глыбінным матывам пратэставай дынамікі стаў запыт на абарону «ўніверсальных каштоўнасцяў», уласцівых грамадствам так званай заходняй цывілізацыі — самакаштоўнасці чалавечай асобы, жыцця, гонару, годнасці, свабоды і інш.

Палітычны крызіс 2020 года стаў крыніцай абуджэння беларускага грамадства і пачаткам зараджэння беларускай палітычнай нацыі. Аднак гэты ж крызіс выявіў усю крохкасць беларускай дзяржавы ў сэнсе здольнасці бюракратычных інстытутаў і ўладных структураў падтрымліваць агульнанацыянальны кансенсус паміж рознымі часткамі беларускага грамадства, прадстаўнікамі «адкрытай» і «закрытай» сацыяльных прастораў.

Ён жа паставіў пад пытанне здольнасць беларускай дзяржавы да самазахавання і ўзнаўлення з прычыны адсутнасці стратэгічнага бачання вырашэння гэтага крызісу ў беларускага кіроўнага класу. Па меры яго пертаварэння ў глабальную праблему, беларускае грамадства і дзяржава рызыкуюць трапіць у геапалітычную пастку, у якой іх лёс і будучыню будуць вызначаць іншыя глабальныя і рэгіянальныя гульцы. І як гэта часта бывае — без уліку нацыянальных інтарэсаў беларускага грамадства, не кажучы ўжо пра інтарэсы беларускай дзяржавы і кіроўнай элітнай групы.

## Толькі дыялог?

У гэтай сувязі адзінае магчымае і прымальнае рашэнне гэтага крызісу — шырокі і інклюзіўны дыялог паміж «адкрытай» і «закрытай» часткамі беларускага грамадства, прычым імкненне да паразумення і суперажывання з'яўляецца неабходнай перадумовай для пераадолення гэтага расколу. Нягледзячы на шматлікія сусветныя войны і канфлікты, якія праходзілі праз тэрыторыю Беларусі як праз еўразійскі калідор для ўварванняў з Захаду на Усход і з Усходу на Захад, на ўнутрыпалітычныя канфлікты, якія прыводзілі да грамадзянскіх войнаў і расколаў, якімі карысталіся імперыі на Захадзе і на Усходзе, — нягледзячы на ўсё гэта, беларусы кожны раз паўставалі з попелу і зноў выбудоўвалі свой дом і саміх сябе.

І гэта было магчыма дзякуючы волі да суіснавання насуперак палітычным адрозненням і супярэчнасцям, экзістэнцыйным крыўдам за мінулае і сучаснасць, дзякуючы салідарнасці і ўзаемадапамозе спачатку ўнутры родавых структураў і сем'яў, прафесійных супольнасцяў, а цяпер — на больш шырокім узроўні грамадзянскай супольнасці. Гэтая энергія, якая вызваляецца дзякуючы абуджэнню беларускай палітычнай нацыі, мае як творчы, гэтак і разбуральны патэнцыял. Таму аніякі зыход не гарантаваны, але палітыка — сфера магчымага, і беларуская палітычная нацыя мае ўсе шанцы для таго, каб паўстаць з попелу яшчэ адзін раз пасля завяршэння крызісу.

Напярэдзе нас чакае нялёгкі і напоўнены выпрабаваннямі шлях вялікага адраджэння беларускай нацыі.

# Гэта толькі маё рашэнне — падаць духам ці не

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Клапаціцца пра сябе і навакольных, спыніць стасункі з людзьмі, якія не прыносяць задавальнення, заставацца прыгожай і нават дазволіць сабе адпачынак, калі сын сядзіць турме. Пры гэтым ні на хвіліну не пераставаць змагацца за яго і дапамагаць іншым. Кацярына Літвіненка, маці палітвязня Мікіты Літвіненкі, распавяла, як падтрымлівае сына і іншых зняволеных і дзе бярэ на гэта сілы.**

### Было прадчуванне, што сына могуць затрымаць

Кацярына — стылёвая і зграбная бландзінка, шчырая, прамалінейная і мэтанакіраваная. Гледзячы на гэтую жанчыну, і не падумаеш, што жыццё яе было няпростым: яна адна вырасціла двух дзяцей, і старэйшы сын, 22-гадовы Мікіта, ужо 10 месяцаў знаходзіцца ў зняволенні.

Калі Кацярына распавядала пра свой лёс, прыгадала, як шмат гадоў даводзілася ўставаць а 5-й ранку і класціся а 1-й ночы, каб усіх дагледзець, накарміць, адвесці на гурткі і потым забраць — дзеці займаліся мовамі, музыкай, спортам. І ўсё гэта дало плён — сын і дачка выраслі самастойнымі, з шырокімі поглядамі на жыццё і моцным стрыжнем.

— Калі дачка лепш за ўсіх здала экзамены і паступіла ва ўніверсітэт у Празе, і калі сын паводзіў сябе нязломна (на судзе. — НЧ), я зразумела, што ўсё зрабіла правільна, — гаворыць Кацярына Літвіненка.

19 ліпеня яе сыну прысудзілі 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Суддзя Вікторыя Шабуня палічыла Мікіту і яшчэ трох хлопцаў — Яна Фалькіна, Уладзіслава Барысава і Уладзіміра Мацюха — вінаватымі ў падрыхтоўцы да ўдзелу ў масавых беспарадках, а таксама падрыхтоўцы да групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

Жанчына ўзгадвае: у яе было прадчуванне, што сына могуць затрымаць.

— Я сама хадзіла гуляць кожную нядзелю, апроч таго дня, калі яго забралі. Ён спартовец, прытрымліваецца здаровага харчавання, яму патрэбны пэўны набор прадуктаў, і ў той дзень я не купляла для яго ў краме ніякай ежы, — узгадвае маці.

13 верасня пасля трэніроўкі Мікіта збіраўся сустрэцца са знаёмым. Ён выйшаў з дому апоўдні. А прыкладна праз гадзіну Кацярыне патэлефанавала маці хлопца, з якім яны павінны былі сустрэцца. Суседзі патэлефанавалі ёй і сказалі, што іх хлопцаў, якіх было трое, збівалі людзі ў форме, якая не належыць ні да аднаго з родаў войскаў і службаў Беларусі. Нападнікі прыехалі на двух маршрутках і машыне і ўсіх разам збілі. Па словах маці, пра ступень збіцця Мікіты можна было меркаваць па ірванай адзежы, у тым ліку споднняй бялізне. Таксама былі траўмы носа і рэбраў, раны на кісцях і ступнях гнаіліся не адзін месяц. Па словах Кацярыны, у Мікіты быў сіні жывот, хлопца збівалі пры іншых затрыманых і пагражалі: маўляў, і з вамі будзе тое ж самае.

### «Віну не прызнаю, супрацьзаконнага не здзяйсняў, памілаванняў пісаць не буду»

Спачатку Мікіту арыштавалі на 15 сутак за ўдзел у акцыі пратэсту, аднак пасля заканчэння тэрміну арышту яго не выпусцілі, а затрымалі ўжо ў якасці падазраванага па крымінальнай справе. Паводле матэрыялаў справы, Фалькін, Літвіненка, Мацюх і Барысаў, уступіўшы ў змову, планавалі ўдзел у акцыях пратэсту, вызначалі маршрут, узгаднялі дзеянні ў выпадку затрымання. Хлопцы знаходзіліся ў тэлеграм-чаце, дзе і вялося абмеркаванне.

— У мяне нават на секунду не ўзнікала думкі, што іх затрымаюць па крымінальным артыкуле. Таму я хуценька зрабіла рамонт у пакоі Мікіты, была перакананая, што яго адпусцяць. Я думаю, што крымінальную справу завялі, таму што проста не маглі адпусціць чалавека з такой колькасцю пабояў, — мяркуе Кацярына.

У якасці падмацавання сваёй думкі яна прыводзіць факт, што паўгода следства па справе не вялося. Судовы працэс часткова быў закрыты. Адвакат пад падпіскай аб неразгалошванні, таму не можа распавесці, што на ім адбывалася. Але Кацярына перакананая: пасяджэнні рабілі закрытымі таму, што на іх не было абсалютна нічога, што магло б даказаць віну падсудных.

У апошнім слове, звяртаючыся да суддзі і дзяржабвінаваўцы, Мікіта Літвіненка сказаў: «Вы жывяце ў Беларусі і вам моцна пашанцавала, што вы будзеце адказваць за свае ўчынкі, здзейсненыя і тыя, што цяпер здзяйсняюцца, перад беларусамі. Чаму пашанцавала? Таму што мы — народ не злапомны, мы — народ, які ўмее даравать, які заўсёды дасць, у выпадку чаго, другі шанец. Нам не патрэбныя будуць нейкія паказальныя «судзілішчы». Мы проста патрабуем, каб вы адказвалі перад законам па ўсёй яго строгасці. Таму маліцеся, проста маліцеся. Не важна, каму. Любым выдуманым персанажам, любым вусатым іконам, каб усё было добра. І аднойчы… Аднойчы. Рана або позна. Хутчэй за ўсё, рана. Я прыйду сюды, у гэтую залу, і буду назіраць за вамі ў гэтай клетцы, як за звярамі ў заапарку. Толькі я буду назіраць не як за дзікім зверам, якога немагчыма прыручыць і паддаць дрэсіроўцы, а як за звычайным папугайчыкам, які толькі і робіць, што паўтарае тое, што сказаў яго гаспадар. Таксама хачу дадаць, што ніякіх адмоўных эмоцый я да вас не адчуваю. Хутчэй, наадварот. Нічога абсалютна адмоўнага да вас не маю. Нічога асабістага. І ў канцы хачу сказаць, што сваю віну я не прызнаю. Нічога супрацьзаконнага я не здзяйсняў. Мае дзеянні не прадугледжвалі і не прадугледжваюць ніякай грамадскай небяспекі. Таму яшчэ раз паўтаруся, што сваю віну я не прызнаю. Ніякіх памілаванняў я пісаць не буду. Ні перад кім я не буду прыніжацца».



Фота Яны Трусіла

### Займаўся спортам і хацеў з'ехаць у Амерыку

Маці ўзгадвае, што для Мікіты ніколі не быў важным матэрыяльны бок: галоўнае — не фасад, а тое, што за ім. Сын заўжды ўсім, што ў яго было, дзяліўся з іншымі, добра вучыўся. Са школьных сходаў Кацярына Літвіненка сыходзіла «самай шчаслівай мамай». Па яе словах, ён быў мужчынам у сям'і, з самага дзяцінства клапатліва ставіўся да малодшай сястры.

Ад Кацярыны сын пераняў абвостранае пачуццё справядлівасці. З чатырох гадоў маці вадзіла яго на футбол. Але ён заўжды бачыў несправядлівасць у тым, што на матчы часта ездзілі не лепшыя гульцы, а дзеці трэнераў. Таму ў пэўны час Мікіта вырашыў, што камандны спорт — гэта не яго, і да заканчэння школы займаўся веславаннем.

— Ён бачыў сябе ў спорце, вёў здаровы лад жыцця і вельмі хацеў паехаць у Амерыку, бо там нараджаўся бодзібілдынг. Сам пайшоў да рэпетытара і вывучыў англійскую мову, я нават не ведала пра гэта. Апошні год ён працаваў трэнерам, нягледзячы на тое, што вучыўся на дзённым аддзяленні БДЭУ.

Дарэчы, па затрыманні Мікіту адлічылі з універсітэта не адразу, а толькі пасля Новага года. Прычым — не за пропускі заняткаў (у гэтым была б хоць нейкая логіка), а за… няплату. Хаця насамрэч навучанне было аплачана. Пасля гэтага Кацярына вырашыла спагнаць з універсітэта грошы, заплачаныя за неаказаную паслугу, і цяпер займаецца гэтым. Цікава, што пасля таго, як сына адлічылі з вучобы, на яго імя сталі прыходзіць позвы з ваенкамата.

Кацярына характарызуе Мікіту як вельмі хатняе дзіця, сын ніколі не паліў, не паспытаў нават алкаголь. У яго заўжды была мэта, да якой ён ішоў. Пры гэтым, хоць знешне Мікіта — вялікі хлопец з моцнымі цягліцамі, характар у яго вельмі лагодны: ён нават камара не забівае, а стараецца яго адагнаць. А ў турме Мікіта ўвогуле стаў вегетарыянцам.

### Тых, хто нешта робіць, мала

Зняволенне змяніла не толькі Мікіту, але і Кацярыну. І гаворка тут не пра тое, што цалкам перамяніўся звыклы лад жыцця ды дадалося клопатаў і нерваў. Кацярына гаворыць, што ў цяжкую хвіліну яе падтрымалі не тыя, ад каго яна найбольш гэтага чакала. Часам гэта былі малазнаёмыя, а то і зусім не знаёмыя асобы. Таму цяпер яе асабліва натхняюць неабыякавыя людзі.

— Калі раней я з многімі падтрымлівала стасункі, таму што гэтага хацелася людзям, то цяпер я вырашыла, што нікому нічога не павінна і маю права сама выбіраць, з кім і як стасавацца. А яшчэ мне хочацца больш дапамагаць іншым. І калі пра Мікіту гавораць, то мне вельмі балюча і крыўдна за тых людзей, пра якіх мала хто ведае. Нават выбіраючы, каму пісаць лісты, мы з дачкой глядзім на тых, каму пішуць менш за ўсё, — распавядае суразмоўца.

Гаворачы на тэму падтрымкі (не столькі матэрыяльнай, колькі іншай — напісанне лістоў палітвязням, заяваў і скаргаў і інш.), Кацярына Літвіненка з сумам канстатуе: цяпер вельмі шмат добрых людзей, але мала тых, хто нешта робіць.

— Усе сядзяць ціхенька — і гэта не страх. Я не ведаю, што гэта. Калі ў мяне запытваюцца, што рабіць, я кажу: «Напішы чалавеку хаця б старонку!» Я перапісваюся з некаторымі хлопцамі, з якімі Мікіта сядзеў, у іх нават не палітычныя артыкулы. Яны такія добрыя, што іх немагчыма кінуць. Там вельмі шмат несправядлівасці, асабліва па «наркатычным» артыкуле.

### Які сэнс у скаргах, адвакатах і як дазволіць сабе адпачыць

Жанчына гаворыць, што да прысуду Мікіта не адчуваў асаблівых цяжкасцяў і спакойна пераносіў сваё зняволенне. Ён працягваў займацца спортам, стаў шмат чытаць, вывучаць анатомію, гісторыю і ўдасканальваць англійскую мову. І хоць не верыў у справядлівы сыход справы, нават угадаў тэрмін, які яму дадуць, — гэта крыху выбіла яго з каляіны. Але Мікіта, як і маці, — не з тых людзей, якія ліюць слёзы і наракаюць на несправядлівасць.

— Мы адзін аднаго падтрымліваем, усе эмоцыі праходзяць, застаецца справы. Адных толькі судоў па пытанні змянення меры стрымання мы правялі восем, — узгадвае суразмоўца.

Яна перакананая, што, нягледзячы на прадказальны вынік, напісанне скаргаў і заяў мае сэнс, і калі гэта здаецца непатрэбным цяпер, то абавязкова адыграе сваю ролю ў будучыні. Як і праца адвакатаў.

— Канечне, на тэрмін адвакат цяпер не ўплывае. Але наш адвакат, нават калі ішло следства, працаваў на будучыя суды. Адвакат дапамагае падабаронным заставацца людзьмі, падтрымлівае маральна і псіхалагічна. Дае ўпэўненасць і з'яўляецца сувязным звяном паміж падабаронным і сям'ёй.

Кацярына Літвіненка — адна з нямногіх мам палітвязняў, якія дазваляюць сабе расслабіцца, бо разумеюць: яны павінны быць поўнымі сіл і энергіі, каб дзяліцца імі са сваімі дзецьмі. Мы сустрэліся з Кацярынай напярэдадні яе адпачынку. І не маглі не спытаць: як яна рашылася на гэта?

— Сэрца разрываецца. Але я ведаю, што фізічна я вытрымаю. А маральна — гэта толькі маё рашэнне, падаць духам ці не.

Кацярына перакананая: трэба працягваць падтрымліваць вязняў і гаварыць пра іх, каб гэтая тэма не пераставала гучаць. І тады кожны наступны дзень будзе лепшым за мінулы. «Так і скажыце песімістам!» — дадае яна на развітанне.

Калі вы таксама задаяце сабе пытанне, што рабіць, напішыце ліст палітвязню. Адрас аднаго з іх, Літвіненкі Мікіты Паўлавіча, такі: г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1, 220030.

**З 8 ліпеня нашаніўцы Ягор Марціновіч і Андрэй Скурко знаходзяцца за кратамі. Лісты і да іх на Валадарку, і адтуль ходзяць кепска. Тыя радкі, што трапляюць на волю, — найдаражэйшы скарб для блізкіх. Калегі з НН апублікавалі лісты Адар'і Гуштын да Ягора і Паўліны Скурко да Андрэя на сваім сайце, а мы паставілі ў нумар.**

# Лісты за краты

## Пішыце палітвязням!

## «Кахаю цябе яшчэ больш, чым раней»



«Прывітанне, зай!

Мінуў месяц, як ты за кратамі. Самы доўгі і самы цяжкі месяц у нашым жыцці. Яшчэ ніколі мы не расставаліся на такі доўгі час, без магчымасці хаця б па тэлефоне сказаць адно аднаму хоць пару словаў.

Мы ведалі, што па нас могуць прыйсці. Па нас прыходзілі, і не раз. І ведаеш, некаторыя ўсё ж пытаюць, а чаму ты не з'ехаў. А я нават не ведаю, што ім адказаць, людзям, якія калі такое пытаюць, зусім не разумеюць, які ты чалавек. Восенню, калі ты быў на Акрэсціна, аператыўнік з МУС схіляў цябе пакінуць Беларусь. Як недарэчна гэта нават гучала. Гэта як трэба неахайна ставіцца да сваёй працы, каб прапаноўваць табе такое. Я памятаю, як ты ўсміхаўся, калі следчы забараніў табе выезд за мяжу. З'явілася надзея, што цябе прынамсі не будуць выпіхваць з краіны, як Калеснікаву.

Я вельмі рада, што за гэты цяжкі год у нашым жыцці было так шмат падарожжаў па Беларусі. Памятаеш, як мы прадавалі тэлевізар мужыку з Талачына, як ён гандляваўся за зніжку хоць у 10 рублёў — і прапаноўваў нам узамен экскурсію па горадзе? Ты памятаеш, які там прыгожы парк і касцёл? Ці як мы ездзілі ў Бераставіцу, памятаеш, красівенны, як казала мая бабуля, касцёл у цэнтры, а зверху гняздо з буслікамі? А за плотам, проста па суседстве, жыве самотная бабуля. Мы не паспелі разам з'ездзіць у Быхаў, цяпер я праглядаю здымкі адтуль і ўяўляю, як мы раненька ў суботу сядзем у машыну, возьмем з сабой чорны хвост і паедзем туды, на радзіму твайго дзеда. Як мы будзем смяяцца з тупых песень па радыё, абмяркоўваць, напрыклад, міграцыйны крызіс, і ты абавязкова раскажаш мне футбольную гісторыйку, напрыклад, пра жанчын-трэнераў, якіх усё часцей бяруць у прафесійныя каманды.

Пасля мы закажам песню на радыё для папона, з нейкім смешным паведамленнем, а ён будзе званіць і дзякаваць, як гэта было нечакана, хаця гэта ўжо амаль стала нашай традыцыяй. Мы спынімся ў дарозе, каб купіць у мясцовых ягад, а на запраўках — каб пакарміць пёселяў, якія туды забягаюць. Мы будзем заязджаць у вёскі і радавацца, якія беларусы малайцы, як у іх усё дагледжана, якія вялікія агароды. Я буду спыняцца і проста дыхаць свежым паветрам, трохі нават бурчаць, што ў Мінску няма чым дыхаць, а ты будзеш закочваць вочы і казаць, што няма ў свеце лепшага горада за твой.

Цяпер ты вымушана сядзіш у самым цэнтры Мінска. І я спадзяюся, тваёй фантазіі хапае, каб разбурыць муры і згадаць, што за кратамі — касцёл, тэатр, спуск да Нямігі, дзе я феерычна зваліся на хуткасці з самаката.

Кожны новы дзень я стараюся ўспрымаць як набліжэнне нашай сустрэчы. Мы ёсць адно ў аднаго. І ведаеш, калі б кагосьці з тых, хто біў цябе і здзекаваўся з цябе, хаця б на 10% кахалі так, як цябе і мяне, гэтыя людзі не рабілі б подласцяў і злачынстваў.

Адміністратар канала па дэананімізацыі сілавікоў расказала ў інтэрв'ю, што звесткі ім дасылаюць нават сваякі тых людзей. Пачула я тое і думаю: гэта як трэба жыць, каб твае родныя на такое пайшлі?

Мне ўвесь час пішуць людзі, часта незнаёмыя, якія перадаюць, што ў мяне самы цудоўны муж у свеце. Хтосьці кажа, засаліў спецыяльна для цябе сала і просіць перадаць яго на Валадарку. Хтосьці даслаў смс: «Старыя Дарогі з вамі», а я, шчыра сказаць, ніколі ў Старых Дарогах і не была. Учора вось беларус, які жыве ў Швейцарыі, запрасіў нас у падарожжа, там я таксама яшчэ не была. Але мы спачатку паедзем у Быхаў, а пасля, можа быць, і ў Швейцарыю. Навокал вельмі шмат добрых людзей. І ведаеш, калі мяне накрывае туга, я згадваю 16 жніўня 2020 года, слёзы шчасця ад таго, што мы ўбачылі. Мы пераможам. Я кахаю цябе яшчэ больш, чым раней».

## «Мой мілы Андрэйка, ужо месяц мы не разам»

«Прывітанне, мой мілы Андрэйка. Ужо месяц мы не разам, а здаецца, што дзень. Доўгі-доўгі дзень, які ўсё не канчаецца.

За гэты месяц у мяне было некалькі дзён тугі, суму (але не адчаю), калі хацелася проста лягчы і думаць пра цябе, і грэцца аб гэтыя думкі. А было і колькі шчаслівых дзён, і я хачу занатаваць іх для цябе і для гісторыі — якое яно, шчасце нашага часу.

Ведаючы, што на Акрэсціна вам не выдалі матрацаў, ды гледзячы на градуснік, які паказваў +35, я баялася ўяўляць, як ты там спраўляешся, як спіш. І першай маёй радасцю стала навіна: у цябе драўляныя нары — а не металічныя, і падлога ў камеры драўляная — а не цэментная. Ды яшчэ ёсць кран з вадой! Памятаю, пасля гэтых навін я ўжо нібы на крылах лётаю па ЦУМе, выбіраю табе мыла і зубную пасту. У перадачу, якую табе так і не перададуць:)

Другі момант шчасця за гэты месяц — даведацца, што цябе перавялі на Валадарку з гэтай акрэсцінскай душагубкі. Ура! Я магу сабраць перадачку-падарунак (і яе аддадуць!), пакласці розныя знакі любові: паштоўкі, качанную салату, майку з мядзведзем, каву…

Трэццяе шчасце — ліст ад цябе. Я дастала яго са скрынкі і пацалавала. Усе гэтыя тыдні я гаварыла з табой у думках, уяўляла нашы дыялогі, твае рэакцыі. Успамінала… І раптам ты зноў па-сапраўднаму да мяне гаворыш. Твой цёплы почырк, дарагія словы і вясёлыя карцінкі.

Цяпер я сплю, паклаўшы ля падушкі твой апошні ліст. Гэта амаль як трымаць цябе за руку.

Такое яно, цяперашняе беларускае шчасце. Калі вырастуць нашы дзеці, няхай шчасце ў іх будзе іншае.

Пра дзяцей:)

Наш з табой маленькі заяц навучыўся сёння гаварыць «дабаранач» («дабаба»). І вывучыў твой верш! Бачыш, не ўсё толькі кепскае дала нам турма — якія добрыя ў цябе там пішуцца вершыкі!:)

«Да Тамашыка ў …» — «Гого!» (госці)

«Бегла — хто?»

«Мімі!» (мышка) — «Узняўшы…» — «Хвоці!» (хвосцік)

«А на хвосціку …» — «Цёцё!» (сцяжок)

«А ў лапках …» — «Пёпёпё!!!» (піражок)

Кожную раніцу, толькі прачнуўшыся, Тамаш пытаецца: «Тата?» Сэрца маё кроіцца. «Тата ў камандзіроўцы. У Мінску. У замку…» «Дзядзі?» «Так, з іншымі дзядзямі». «Тата ма! Ма! Тата ма!» — Тамаш разводзіць ручкамі, а яго драматычныя інтанацыі кранулі б і камень. «Так, таты з намі няма, але мы яго будзем вельмі чакаць, і ён скора прыедзе ды абдыме нас». Настрой мяняецца: «Бyyyy! Чычы!» Раз тата прыедзе на машыне ды яшчэ з ключамі, то Тамаш згодны пачакаць. Не краіся, сэрца, наперадзе марафон, і ты мне ў ім яшчэ прыдасіся.

Мой мілы, кожную хвіліну я думаю пра цябе і добра адчуваю, што і ты думаеш пра мяне. Ты пісаў, каб я добра ела, адпачывала і берагла нервы. Добра! Я буду рабіць усё, што ты просіш!:) Сёння ў мяне свята: рассольнік (думаю, і ты часам ім ласуешся), рагу з гародніны ды мятнае пячэнне, а над усім гэтым чацвёрты дэтэктыў з серыі пра Кармарана Страйка. Я, як заўжды, праз пару месяцаў забуду сюжэт, і будзем з табой разам глядзець па гэтай кніжцы серыял. Яго скора здымуць. А ты скора выйдзеш.

У лісце ты пісаў, што гэтыя выпрабаванні дадуць нам новыя імпульсы і досвед адно для аднаго. Многа думаю над гэтым. Досведу сапраўды будуць вагоны! Тэм хопіць на гады. Ох і нагаворымся мы, Андрэйка! Скарэй бы засесці разам на ганку, піць чай і гаварыць-гаварыць-гаварыць!..

Я вяду спісачак рэчаў, якія мы зробім пасля твайго вызвалення: куды пойдзем, што купім, што з'ямо… Што абгаворым!:)

Мілы мой заяц, а якія людзі вакол! Пра кожнага з іх трэба будзе табе расказаць. Як правільна мы з табой жылі, што столькі цудоўных людзей аказалася з намі побач у цяжкую хвіліну.



А якія ў нас сем'і! Ты, я, нашы з табой бацькі і блізкія сталі такой зладжанай сістэмай — з нас цяпер падручнікі можна пісаць, што такое сям'я!

І знаеш, што яшчэ напаўняе мяне да краёў? Падтрымка, якую я атрымліваю з-за кратаў. Да камяка ў горле, да дрыжыкаў — што пішуць мне з турмаў, з хіміі знаёмыя і незнаёмцы, якія даведаліся пра нашу сітуацыю.

Ха, а ты б бачыў іх блізкіх! Чарга на перадачы каля Валадаркі нагадвае чаргу ў тэатр або на выставу: стылёва адзетыя, спакойныя людзі, разумныя, цвёрдыя твары. Усе вельмі інтэлігентныя, гатовыя дапамагчы. І нейкім чынам гэтыя людзі мяняюць прастору вакол сябе, і яна ўжо стараецца ім адпавядаць… «Мы яшчэ не перамаглі, але яшчэ і не прайгралі», — сфармулявала твая цешча, пастаяўшы ў гэтай чарзе.

За апошні год наш народ стаў проста гігантам салідарнасці. І ўвогуле гігантам. Сярод такога народу перажываць нашы выпрабаванні куды лягчэй. Аднойчы гэта мінецца, а мы застанемся. І будзем далей купацца ў нашым з табой шчасці, яшчэ больш моцныя і класныя».

**За кратамі дасюль нашы аўтары Дзяніс Івашын і Мікалай Дзядок, 15 сутак адбывае наш фатакор Дзмітрый Дзмітрыеў, а яшчэ калегі з іншых медыя. Агулам на сёння тры дзясяткі журналістаў знаходзяцца ў зняволенні толькі за тое, што сумленна выконвалі сваю працу. Пішыце ім лісты. Пішыце ўсім палітвязням. Гэта тое невялічкае, чым мы можам іх падтрымаць.**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Забароненае слова

У Германіі, як вядома, уваходзіць у вырашальную фазу парламенцкая кампанія. Нечакана прадметам выбарчых дэбатаў стала слова «негр». Усё з-за лідара «Зялёных» Аналены Баербок, якая на нейкім шоу выкарыстала гэтае слова, калі распавядала пра расісцкі інцыдэнт у школе.

Лідар партыі адразу папрасіла прабачэння за свой выбар слоў, але было позна. Многія палітыкі і грамадзянскія актывісты заклікалі больш не выкарыстоўваць слова «негр» ні ў якім кантэксце. Па іх словах, мова — гэта «сродак гвалту». Каб супрацьстаяць расізму, у Германіі неабходна пачаць доўгатэрміновы працэс карэннай змены моўнага паводзін. У тым ліку зачысціць лексічны багаж ад «структурна расісцкіх тэрмінаў».

Паколькі асаблівай крытыкі з боку кандыдатаў у канцлеры такія прапановы не выклікаюць, можна выказаць здагадку, што пасля выбараў немцам давядзецца карэнным чынам змяніць свае моўныя паводзіны. Альбо, прасцей кажучы, сачыць за тым, што кажаш.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Усе ў Сібір!

Многія расіяне звярнулі ўвагу на незвычайны заклік міністра абароны Расіі Сяргей Шайгу — пабудаваць у Сібіры тры-пяць буйных гарадоў з насельніцтвам больш за 500 тысяч чалавек. Прычым, адзін з гэтых гарадоў можа нават стаць новай сталіцай Расіі. Сваю прапанову ён аргументаваў аналагічнымі планамі, якія існавалі ў савецкі час, але не былі рэалізаваныя.

Частка экспертаў і палітыку віталі ідэю. Больш за тое, па іх словах, пытанне з пераносам сталіцы ў Сібір неабходна вырашыць у бліжэйшыя гады, каб у тым ліку вывесці грамадска-палітычнае жыццё ў Расіі з пад уплыву Еўропы. Ёсць і скептыкі. Яны сумняюцца, што чыноўнікі пагодзяцца размяняць маскоўскі камфорт на сібірскія новабудоўлі.

Так ці інакш, ёсць цікавы момант. Глабальнае пытанне інфраструктуры — гэта кампетэнцыя не Мінабароны, а, хутчэй, вышэйшага кіраўніцтва краіны. Як тут ні згадаць, што Шайгу лічыцца адным з галоўных кандыдатаў у пераемнікі Пуціна. Таму выключаць вялікіх будоўляў у Сібіры нельга.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІНТЭРНЭТ. Facebook змяняе рэлігіі

«Facebook імкліва змяняе аблічча рэлігій», — піша выданне Reuters. Аказваецца, у апошні час рэсурс уцягвае ў сваю арбіту цэрквы і мячэці.

У мінулым месяцы тэхнічны гігант правёў свой першы віртуальны саміт вернікаў, які трансляваўся ў Facebook Live. Падчас саміту смайлікі ў выглядзе сэрцаў плавалі па экране, пакуль рэлігійныя лідары чыталі пропаведзі.

Але гэта ўсяго толькі фрагмент нейкай больш глабальнай стратэгіі. Facebook таксама заснаваў Міжканфесійнальную раду для правядзення рэгулярных сустрэч з рэлігійнымі групамі, стварыў каманду «рэлігійнага партнёрства», рэкламуе акаўнты, дзе можна знайсці малітву на кожны густ.

У прынцыпе, такую стратэгію можна растлумачыць ростам колькасці людзей, якія падчас эпідэміі ўспомнілі пра вечныя каштоўнасці. Аднак так ці інакш прадукт Цукерберга пачынае актыўна ўплываць на рэлігійнае жыццё ва ўсім свеце. І многія баяцца таго, што атрымаецца ў выніку. «Кожны раз, калі Facebook выпускае нешта новае, гэта толькі таму, што яны спадзяюцца ў канчатковым выніку нейкім чынам прадаць вам нешта», — адзначае Reuters.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Праблема Камілы Харыс



Фота www.aljazeera.com

Яшчэ ўчора віцэ-прэзідэнтку Камілу Харыс — з-за слабага здароўя Байдэна — лічылі будучым кіраўніком ЗША. Як мінімум, так загадвалі шматлікія прыхільнік Дэмакратычнай партыі.

Аднак цяпер яе прыход у Белы дом выглядае не так відавочна. Апошнія апытанні паказваюць, што Каміла Харыс — самы непапулярны віцэ-прэзідэнт у гісторыі ЗША, пачынаючы з 1970-х гадоў. Галоўнай прычынай такога трэнду называюць нязадольнасць спыніць паток нелегальнай міграцыі з Лацінскай Амерыкі. Менавіта на гэты ўчастак працы паставіў яе Джо Байдэн.

Мала таго, яе крытыка мігрантаў не вельмі спадабалася суполцы лацінаамерыканцаў у Злучаных Штатах. Між тым, менавіта галасы выбаршчыкаў гэтай камуны часта вырашаюць лёс выбараў. Таксама фіксуецца нязначная папулярнасць Харыс сярод маладых выбаршчыкаў. Такім чынам, мяркуючы па ўсім, яна пачынае прадстаўляць стратэгічны галаўны боль для партыі дэмакратаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**




# Год пратэстаў. Погляд замежных медыя

Алег НОВІКАЎ

**Наўрад ці нехта год таму нават мог дапусціць думку, што праз год прэзідэнцкія выбары 2020-га года застануцца актуальнай тэмай для самых перадавых сусветных СМІ.**

LeMonde, Wyborcza, Wall Street Journal і іншыя медыя-гранды на гэтым тыдні згадваюць хроніку пратэстаў, спрабуюць аналізаваць беларускі палітычны працэс і, натуральна, спрагназаваць перспектыву.

Напрыклад, нямецкая Tageszeitung, як і некаторыя беларускія медыя, лічыць, што трыгерам выступаў была эпідэмія каронавіруса. З той розніцай, што, паводле нямецкіх журналістаў, яна выклікала ў беларусаў не істэрыю (версія ўлады), а канкрэтнае пачуццё: «Рэжым не можа гарантаваць людзям бяспеку». Пасля гэтага, як адзначае выданне, «рэпутацыя ўлады была сапсаваная. Шырокія пласты насельніцтва ахапілі пратэставыя настроі і надзеі на перамены».

Зрэшты, ёсць і іншая версія, якая прапануе разглядаць беларускую рэвалюцыю лагічным вынікам трансфармацый у грамадстве, фарміравання грамадзянскай супольнасці. «У гарадской культуры Беларусі паўсталі непадкантрольныя ўладзе нефармальныя сеткі камунікацый. Праходзілі працэсы, нечым падобныя да перабудовы — інтэлігенцыя ўнутрана рыхталася здрадзіць кіраўніцтву, каб самой стаць кіраўніцтвам», — піша расійскае выданне Ukraina.ru.

Гучыць і думка пра тое, што да нашай рэвалюцыі прывяла прагнасць чыноўнікаў. «Замест таго, каб правесці звычайныя маніпулятыўныя выбары і даць выплюхнуць негатыўную энергію з дапамогай кіраванай абоймы кандыдатаў, вырашылі зэканоміць і правесці выбары па-старому, дапусціўшы да выбараў крытыка», — тлумачыць генезіс жнівеньскіх пратэстаў 2020-га выданне «Знак».

Чаму пратэсты атрымалася лакалізаваць? Галоўным чынам у медыя пішуць пра два фактары. The Wall Street Journal (ЗША): «Лукашэнка ўтрымаўся за кошт лаяльнасці сілавога апарату. Ён па-ранейшаму карыстаецца падтрымкай магутных і ўплывовых службаў бяспекі». Украінская Gazeta.ua: «Важнай была і падтрымка расійскага аўтакрата Пуціна на піку пратэстаў. Пасля гэтага карныя сілы бяспекі разгарнулі агрэсіўную кампанію запалохвання апанентаў рэжыму».

Le Monde у артыкуле з характэрнай назвай «Беларускі рэжым — ганьба Еўропы» наогул заяўляе, што рэжым у РБ выжыў выключна дзякуючы ФСБ, «якая аказвае неацэнную дапамогу свайму партнёру ў Мінску, беларускаму КДБ».

Але некаторыя СМІ знаходзяць іншыя прычыны. «У Мінску добра вывучылі вопыт украінскага Майдану. Беларускія ўлады змаглі не дапусціць галоўнага — стварэння сталага ачага пратэстаў, як у Кіеве, дзе майданаўцы па-сутнасці захапілі галоўную плошчу краіны. Пасля чаго іх падаўленне скончылася б вельмі вялікай крывёю, што скоўвала сілавікоў» (Strana ua).

А вось у Маскве кажуць, што фактар Крамля пераацэнены. Напрыклад, у каментары «Весті. ФМ» гаворыцца, што пратэст страціў дынаміку з-за адсутнасці яркага лідара, які меў рашучасць і харызму. Таксама адзначаюць, што апазіцыя не высунула выразнай праграмы наконт таго, што збіраецца рабіць у выпадку перамогі.

Зрэшты, прызнаецца, шмат што змянілася. Перш за ўсё ў жніўні 2020-га нарадзілася і надзея на перамены, якая, нягледзячы на рэпрэсіі, дасюль не знікла. Пра гэта піша той жа Tageszeitung, што заканчвае артыкул фразай: «Беларусь жыве! Беларусь будзе вольнай!»

Праўда, час, калі пачнуцца перамены, не ведае ніхто. «Рэжым у Беларусі зайшоў так далёка, што шанцаў на рэальны дыялог не засталося, для яго няма ўмоў. Мы можам хіба што чакаць толькі нейкага новага сур'ёзнага крызісу на міжнароднай арэне, перастасоўкі, якая дазволіць вырваць Мінск з арбіты ўплываў Масквы. Гэта можа адбыцца праз некалькі гадоў або некалькі дзясяткаў гадоў», — сумна канстатуе польская Gazeta.pl, прапануючы сканцэнтравацца на фарміраванні кадравага рэзерву для будучай беларускай адміністрацыі.

Карыстаецца папулярнасцю думка, што беларускі вузел можа дапамагчы развязаць Пуцін, які, як прызнае Le Monde, трымае ў сваіх руках ключ да вызначэння лёсу Лукашэнкі.

Маўляў, адным з галоўных вынікаў пратэсту ў Беларусі стала ўмацаванне саюза Масквы і Мінска. І, адпаведна, рост залежнасці Беларусі ад Расіі. Пры гэтым у Маскве неаднаразова заяўлялі, што падтрымліваюць працэс унясення змяненняў у Канстытуцыю, па якіх бы абмяжоўваліся паўнамоцтвы прэзідэнта. Гэта значыць, як піша ўкраінская прэса, што ў атачэнні Пуціна фактычна рыхтуюць нейкі «трансфер улады ў Беларусі». Зрэшты, тая ж прэса канстатуе, што «працэс гэты ў Крамлі не падалюкоюць».

Арыгінальны, аднак варты таго, каб яго ўзгадаць, погляд мае расійска-украінскі палітолаг Уладзімір Ішчанка. Ён звяртае ўвагу на тое, што ў беларускай наменклатуры засталіся кадры, якія раней так ці інакш падтрымлівалі еўрапейскі азімут. Па ходзе ўзмацнення кааперацыі з Расіяй у Крамлі дакладна паставяць пытанне: што ў беларускай адміністрацыі робяць гэтыя людзі? Таму не выключаны нейкі бунт з боку гэтай фракцыі чыноўнікаў.

Зрэшты, некаторыя адзначаюць: катэгарычна казаць, што сітуацыя ў Беларусі цалкам стабілізавалася, напэўна, усё ж рана. Захад спадзяецца, што ўведзеныя санкцыі адмоўна паўплываюць на эканоміку і прыбыткі насельніцтва, што, у сваю чаргу, выкліча незадаволенасць — і, адпаведна, прымусіць нашых чыноўнікаў шукаць кампрамісы з Захадам і апазіцыяй. Спікеры адміністрацыі ж кажуць, што размова на мове санкцый не мае сэнсу, паколькі за намі стаяць Масква і Пекін. Таму можна пагадзіцца з украінскім выданне Strana.ua: «Цяпер ключавое пытанне — ці хопіць у рэжыму рэсурсаў на ўтрыманне сітуацыі і захаванне хоць бы існуючага ўзроўню заробкаў і пенсій».

# Штраф за любоў да дыктатара

**Іспанскі ўрад збіраецца забараніць праяву сімпатый да дыктатуры Франка (1936–1975). Парушальнікам закону пагражае штраф аж да 150 тысяч еўра.**

Калі два гады таму цела Франка было вынесена з базілікі ў Даліне Загінулых, што пад Мадрыдам, падавалася, фінальны акт асуджэння дыктатуры адбыўся. Нагадаем, што тая базіліка была культавым месцам для шанавальнікаў дыктатуры. Доўгі час сама ідэя перапахавання цела дыктатара была сапраўдным табу. Праект з перапахаваннем Франка парламент ухваліў яшчэ ў 2007-м, аднак спатрэбілася 12 гадоў, каб большасць іспанцаў падтрымала перапахаванне.

Напрыканцы ліпеня іспанскі ўрад, які фарміруюць сацыялісты, прапанаваў праект «Закона пра дэмакратычную памяць». Адзін з ініцыятараў яго прыняцця міністр юстыцыі Фелікс Баланьёс тлумачыць неабходнасць новага закона тым, што дыктатура і вайсковы пераварот дасюль не асуджаныя ў іспанскіх прававых дакументах. Акрамя таго, на гэтай падставе можна будзе пачаць працэс кампенсацыі ахвярам дыктатуры.

«Законапраект з'яўляецца вяхой у імкненні ўрада ліквідаваць рознагалоссі з нагоды месца Франка ў гісторыі Іспаніі». Дыктатура XX стагоддзя была «самым змрочным перыядам нашай сучаснай гісторыі», — дадаў Баланьёс.

А вось апазіцыя так не лічыць. Яна звяртае ўвагу на тое, што, паводле новага закона, будзе забаронена «ўхваленне палітыкі Франка і знявага годнасці ахвяр путчу 1936 года або Грамадзянскай вайны». Такі артыкул, як адзначае правая прэса, створыць легальную глебу для крыміналізацыі шматлікіх арганізацый. Перш за ўсё, фонду імя Франсіска Франка, які рэкламуе спадчыну былога дыктатара.

Акрамя таго, праблемы могуць узнікнуць у права-папулісцкай партыі Vox, апалагеты ідэалогіі якой успрымаюць Франка як палітычнага генія, які навёў парадак, запусціў заводы, вырашыў праблему сепаратыстаў, абараніў ад анархістаў касцёл і г.д.

Правыя выданні і палітыкі нават лічаць, што новы закон можа кепска адбіцца на маштабах турызму (важная галіна іспанскай эканомікі). Турысты, маўляў, не паедуць у краіну, дзе трэба ўвесь час трэба асцерагацца, каб не ляпнуць нейкую крамолу. Інакш можна атрымаць штраф мінімум у 200 еўра. Такую суму, паводле законапраекту, павінен будзе заплаціць той, хто дапусціць пазітыўную ацэнку рэжыму Франка.

На самай справе, тэма штрафаў за падтрымку Франка дастаткова спекулятыўная. Закон пра дэмакратычную памяць дазволіць вырашыць шмат іншых, важных пытанняў.

Так, ён дасць магчымасць стварыць за кошт бюджэту нацыянальны банк ДНК для дапамогі ў пошуку зніклых без вестак і меркаваных мёртвых іспанцаў сярод парэшткаў у безыменных або агульных магілах. Іх да гэтага часу вельмі часта знаходзяць. У цяперашні час грамадскія рухі і сям'і вымушаныя аплачваць пошук і эксгумацыю самі. Дарэчы, на цяперашні дзень, згодна з падлікамі спецыялістаў, каля 110 000 ахвяраў вайны і дыктатуры Франка застаюцца неапазнанымі.

Прапанаваны закон таксама накіраваны на раскрыццё праўды пра катаванні і зверствы, якія мелі месца ад пачатку Грамадзянскай вайны і аж да прыняцця новай Канстытуцыі 1978 года. Пасля прыняцця закона аб дэмакратычнай памяці мяркуецца прызначыць спецыяльнага пракурора, які будзе вывучаць такія выпадкі. Раней такое было немагчыма, паколькі закон аб амністыі 1977 года забараняў прыцягваць франкісцкіх сілавікоў да адказнасці.

Прысуды па палітычных, рэлігійных ці сексуальных матывах, вынесеныя пры Франка, таксама будуць адменены. Найбольш непрыемны сюрпрыз, напэўна, чакае арыстакратаў, якія атрымалі тытулы ў часы дыктатуры. Такога кшталту графы ды герцагі будуць пазбаўленыя санаў і аўтаматычна стануць простымі грамадзянамі.

Тым не менш, безумоўна, без праблемаў не абыдзецца. Напрыклад, не зразумела, як павінен ставіцца суд да іспанца, які на людзях раптам згадае, што ў часы Франка іспанская эканоміка дэманстравала добрыя тэмпы развіцця, што, дарэчы, праўда. Ці можна будзе гэта лічыць гларыфікацыяй дыктатуры?

Таксама нельга выключаць, што іспанскі «Закон аб дэмакратычнай памяці» стане апраўданнем для прыняцця вельмі супярэчлівых законаў на тэму гісторыі ў краінах з аўтарытарнымі або папулісцкімі ўрадамі. Так, у Расіі забаранілі параўноўваць нацысцкую і савецкую палітыку. У Польшчы нельга казаць, што Асвенцым быў польскім лагерам смерці і г.д.

Што можна на гэта сказаць? У прынцыпе, нават самыя ліберальныя гісторыкі пагаджаюцца, што дзяржавы выкарыстоўваюць наяўныя механізмы ўлады, каб выдаліць з масавай свядомасці адну версію мінулага і навязаць іншую. Ці можна ў нашым выпадку разглядаць гэта як форму самаабароны дэмакратычнай дзяржавы ад спробаў вярнуць у Іспанію практыкі дыктатуры? Напэўна так.



Фота REUTERS

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Зяленскі



Многія палітолагі лічаць, што ўкраінскі прэзідэнт даў адмашку на аналаг «ночы доўгіх нажоў». Так называлася зачыстка радыкальных штурмавікоў СА, якую Гітлер арганізаваў у 1934 годзе. Нешта падобнае назіраецца ва Украіне, дзе пракацілася хваля арыштаў радыкальных нацыяналістаў, перш за ўсё з групоўкі «Нацыянальны корпус», палітычнай структуры на базе палка «Азоў».

Улясна кажучы, нечага такога варта было чакаць. Азоўцы, прыкрываючыся пасведчаннямі ветэранаў вайны на Данбасе, паволна, але пераходзілі ўсе прававыя межы. У ход ішлі рэкет, рэйдарскі захоп прадпрыемстваў, гвалт у дачыненні да палітычных апанентаў і г.д. А яшчэ яны ўсталявалі шырокія сувязі з міжнароднымі неанацысцкімі групоўкамі.

Некаторыя лічаць, што менавіта Захад — а дакладней Байдэн — прымусіў Кіеў пачаць затрыманні. Зрэшты, дапускаюць, што Зяленскі пераследуе нацыяналістаў, паколькі яны, як правіла, нелаяльныя да яго. Увосень, калі, як чакаецца, могуць выбухнуць пратэсты супраць росту тарыфаў ЖКГ, менавіта радыкалы здольныя стаць іх авангардам. Так ці інакш, пагром праварадыкальных структур узмацніць персанальную ўладу Зяленскага, які, мяркуючы па ўсім, збіраецца на другі тэрмін.

### Даніэль Артэга



Прэзідэнт Нікарагуа імкліва ідзе да пераабрання на новы прэзідэнцкі тэрмін у лістападзе. Пры гэтым ён не грэбуе ніякімі метадамі.

Днямі Вярхоўны выбарчы савет краіны пазбавіў статусу юрыдычнай асобы апазіцыйную партыю «Грамадзяне за свабоду» іануляваў пасведчанне яе лідара Кармела Роджэрса. Гэта ўжо сёмы кандыдат ад апазіцыі, якога знялі з выбараў, а яшчэ 20 палітыкаў проста інтэрнаваныя.

Сітуацыя стала яшчэ больш пікантнай пасля таго, як на пачатку гэтага тыдня Белы дом заявіў, што прэзідэнцкія выбары, якія адбудуцца ў Нікарагуа ў лістападзе, з пункту гледжання Злучаных Штатаў, нелегітымныя. Пра гэта гаворыцца ў заяве дзяржсакратара ЗША Энтані Блінкіна. «Працэс выбараў, у тым ліку іх вынікі, не выклікаюць даверу да іх», — сказана ў дакуменце. Такі крок дазваляе меркаваць, што перамога Даніэля Артэга па сутнасці запускае ў Нікарагуа палітычны крызіс.

Між тым, Злучаныя Штаты і ЕС увялі супраць шэрагу нікарагуанскіх палітыкаў санкцыі. Самы цікавы персанаж у гэтым спісе — 70-гадовая Расарыё Мурыльё, віцэ-прэзідэнтка і жонка Даніэля Артэга, якая мае моцны ўплыў на ўнутраную палітыку краіны. Менавіта яе еўрапейскія ўлады лічаць адказнай за цяперашнюю кампанію сілавога пераследу апазіцыі.

### Любоў Собаль



Правая рука Аляксея Навальнага ў Фондзе барацьбы з карупцыяй (ФБК) з'ехала з Расіі, што не дзіўна. Пад ціскам рэпрэсій з РФ апошнім часам іміґравалі больш за дзясятак лідараў антыпуцінскай апазіцыі. Іх арганізацыі, у тым ліку ФБК, абвешчаныя экстрэмісцкімі.

Аднак справа Собаль — асаблівая. Актывістка адправілася за кардон праз пяць дзён пасля таго, як была прысуджаная да аднаго года і шасці месяцаў абмежавання волі за парушэнне санітарных нормаў на несанкцыянаваных акцыях. Акрамя «санітарных спраў», Собаль таксама была прысуджаная да года папраўчых прац за незаконнае пранікненне ў чужую кватэру.

Як вядома, асуджаныя па гэтых артыкулах грамадзянін Расіі не можа пакідаць яе межы. Адсюль пытанне: чаму апазіцыянерку адпусцілі? Натуральна, дапускаецца версія, што ёй проста неяк пашанцавала збегчы. Але, хутчэй за ўсё, улада сама дала санкцыю на эвакуацыю палітыка. Навошта? Можна дапусціць, што тэма жанчыны-апазіцыянеркі, якая сядзіць у турме, можа кепска паўплываць на імідж Крамля. Зрэшты, дапускаюць і самую фантастычную версію, паводле якой грамадзянка Собаль даўно завербаваная ФСБ і цяпер атрымала новае заданне — адправіцца на Захад, каб разбурыць эміграцкія антыпуцінскія арганізацыі.

13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741) Новы час

# Турма ў лёсах вядомых гістарычных асоб

Павел БУЛАТЫ

**Трапіць за краты і не зламацца, вытрымаць зняволенне, вызваліцца і дасягнуць вяршыняў. У біяграфіі і лёсы дзясяткаў зорных асоб нашай гісторыі закраўся такі штрых, як турма. Як і за што адбывалі пакаранне і чым усё скончылася для вязняў?**

## Трапіў у палон і прыйшоў да ўлады

Гаворка ідзе пра знакамітага, легендарнага і апутанага міфамі полацкага князя Усяслава Брачыславіча, больш вядомага як Усяслаў Чарадзей.

Галоўнымі палітычнымі канкурэнтамі князя ў рэгіёне былі кіеўскія Яраславічы — сыны ранейшага вялікага князя кіеўскага Яраслава Мудрага. Менавіта з імі Усяслаў скрыжаваў мячы ў легендарнай бітве на Нямізе ў 1067 годзе. І вось праз 4 месяцы па бітве Яраславічы запрасілі Усяслава на перамовы, парушылі абяцанне, замацаванае цалаваннем крыжа, схапілі Усяслава з сынамі, адвезлі ў Кіеў і кінулі ў «поруб». Поруб — гэта земляная турма без дзвярэй, пабудаваная вакол зняволенага. Там вязень знаходзіўся ў пастаяннай вільгаці і холадзе, у пастаяннай цемры, пры сціплым харчаванні… Пры такіх умовах, з хваробамі, вязні доўга не жылі.

Звыш 14 месяцаў праседзеў Усяслаў у кіеўскім порубу. Але ў 1068 годзе на Кіеў напалі полаўцы, якія разбілі войска Яраславічаў. У паразе кіяўляне абвінавачвалі княжацкіх ваяводаў і патрабавалі, каб вызвалілі Усяслава — дасведчанага ў вайсковай справе князя. Яраславічы, натуральна, адмовілі кіяўлянам, але наравістыя месцычы паднялі паўстанне: выпусцілі Усяслава з порубу, выгналі Яраславічаў, і, па завядзёнцы сярэднявечнай дэмакратыі, — абвясцілі былога вязня вялікім князем кіеўскім.

На велікакняжацкім троне Усяслаў прабыў 7 месяцаў. За час свайго кіеўскага княжання былы вязень разбіў полаўцаў, здзейсніў паход на Тмутаракань. З кіеўскага трона Усяслаў нібыта ўцёк сам. Каля Кіева з'явіўся выгнаны князь Ізяслаў Яраславіч, які паспеў заручыцца падтрымкай Польшчы. Усяслаў разам з кіянамі пайшоў насустрач Яраславічу, каб даць бой. Але, не жадаючы пачынаць братазабойчую вайну, ён нечакана для ўсіх уначы пакінуў войска і вярнуўся ў родны Полацк. Матыў яго ўчынку — дакладна не вядомы, але назваць Усяслава баязліўцам не выпадае. Трэба меркаваць, што для вяртання ў Полацк былі важкія прычыны.



**Павел І наведвае Тадэвуша Касцюшку ў зняволенні**

## Зняволены гуманіст і асветнік

У біяграфіі самага знакамітага айчыннага дзеяча культуры — першадрукара і асветніка Францыска Скарыны — таксама ёсць турэмныя штрыхі. Не, Скарына нікога не забіваў і не рабаваў, не быў у палоне… Справа ў яго — побытавая і класічная для XVI стагоддзя: пазыка.

Ішоў 1532 год. Скарына ўжо атрымаў навуковую ступень, пажыў у Празе і Вільне, паўтара дзесяцігоддзя займаўся выдавецкай дзейнасцю… У той год 5 лютага вялікі князь Жыгімонт выдаў указ, у якім загадваў затрымаць Скарыну і зняволіць яго.

Падставай для затрымання стала скарга варшаўскіх яўрэяў Лазара і Майсея, якая тычылася даўгоў памерлага брата асветніка Івана Скарыны, а таксама маёмасці, якую, па іх меркаванні, доктар Францыск узяў сабе і збег з Вільні. У сярэдзіне красавіка Францыска Скарыну, які прыехаў у Познань, па гэтай справе заключылі ў турму.

На дапамогу першадрукару адразу прыехаў пляменнік Раман, сын брата-нябожчыка. Ён пайшоў у гарадскі магістрат і заявіў, што паколькі, па сведчанні самога яўрэя, доўг быў зроблены яго бацькам, то і адказваць павінен ён сам. Пры гэтым ён мае сродкі для гэтага, гатовы ўнесці залог. Раман патрабаваў, каб яго дзядзьку неадкладна вызвалілі.

Судовая справа і разбіральніцтва зацягнуліся. Карэнным чынам сітуацыя змянілася, хутчэй за ўсё, дзякуючы пратэкцыі высокіх саноўнікаў. У новым указе ад 24 траўня кароль, даведаўшыся, што Францыск Скарына з'яўляецца вельмі паважаным і маёмасным чалавекам, загадваў неадкладна яго вызваліць.

Урэшце працэс скончыўся для асветніка паспяхова, хоць яму і прыйшлося правесці некалькі месяцаў у познаньскай турме. Пасля гэтага Францыск Скарына пакінуў Вялікае Княства Літоўскае і пераехаў у Прагу.

## Палон, эміграцыя, адыход ад спраў

1794 год. На землях Літвы і Польшчы палае паўстанне — апошняя адчайная спроба захаваць незалежнасць Рэчы Паспалітай абодвух народаў. У бітве пад Мацяёвіцамі 10 кастрычніка расійскімі войскамі быў паранены і ўзяты ў палон правадыр супраціву Тадэвуш Касцюшка.

Схопленага генерала, ва ўмовах канспірацыі — пад прозвішчам «шляхціц Шыманскі» і акружным шляхам праз Кіеў, Магілёў, Віцебск, Ноўгарад — 10 снежня 1794 года даставілі ў Пецярбург. Там яго затачылі ў Петрапаўлаўскай крэпасці, пачалося следства. Трэба адзначыць, што рэжым утрымання Касцюшкі не быў строгім. У мурах крэпасці яго трымалі ў доме каменданта, зняволены меў магчымасць атрымліваць газеты, генерал-пракурор цікавіўся, якія кнігі хацеў бы мець вязень, пра стан яго здароўя дакладвалі асабіста імператрыцы.

Следства па справе Тадэвуша Касцюшкі скончылася ў сярэдзіне 1795 года, але прысуд, па розных прычынах, так і не быў вынесены… У хуткім часе 17 лістапада 1796 года памерла імператрыца Кацярына ІІ. Спадчыннікам расійскага прастола стаў Павел І, які, мякка кажучы, ненавідзеў сваю папярэдніцу. Гэтая непрыязь абумовіла тое, што палітычныя рашэнні новага імператара былі прадыктаваны жаданнем перайначыць усё, што зрабіла Кацярына. Гэта праяўлялася і ў яго знешняй палітыцы: стаўленне Расіі да Рэчы Паспалітай таксама змянілася, што, без сумневу, было на руку вязням імператрыцы.

Неўзабаве 26 лістапада 1796 года зняволенага Касцюшку наведаў Павел І, а ўжо 28 лістапада імператар вызваліў яго. Але справа з вызваленнем — не такая простая. Спачатку Касцюшка атрымаў прапанову аб паступленні на расійскую ваенную службу, ад якой ён адмовіўся. Але ўмовай вызвалення было падпісанне гэтак званай «клятвы вернасці» з абавязацельствам абараняць інтарэсы імператара і яго спадчынніка Аляксандра. Толькі пасля прынясення прысягі ўдзельнікі паўстання атрымалі свабоду.

Імператар даў Касцюшку 12 тысяч рублёў — эквівалент кошту 1000 прыгонных душ. Пасля вызвалення Касцюшка пакінуў Расійскую імперыю, а праз 2 гады, 4 жніўня 1798 года, Касцюшка напісаў імператару Паўлу, што не лічыць магчымым выконваць прысягу, дадзеную пад ціскам, і вярнуў падораныя грошы.

У гэтай справе, вядома, шмат акалічнасцяў і палітычных тонкасцяў. З 1798 года генерал Касцюшка пасяліўся ў Еўропе. У тых падзеях, якія разгарнуліся на еўрапейскім кантыненце потым і былі звязаныя з французскім імператарам Напалеонам Банапартам, Касцюшка ўжо актыўнага ўдзелу не прымаў.

## Навука ў выгнанні

Бадай, першым гучным судовым працэсам на захопленых Расійскай імперыяй землях Вялікага Княства Літоўскага была справа філаматаў і філарэтаў.

Пачалося ўсё ўвосень 1817 года, калі некалькі студэнтаў Віленскага ўніверсітэта вырашалі заснаваць таемнае студэнцкае таварыства, каб аб'яднаць найбольш блізкіх сяброў. У аб'яднання была амбіцыйная і па-юнацку летуценная мэта — узаемадапамога ў паглыбленні адукацыі, творчае ўдасканальванне і грамадская праца дзеля роднага краю. З часам таварыства павялічвалася. Супольнасць студэнтаў была таемнай, але ўладам, выпадкова, удалося яе выкрыць. У аб'яднанні студэнтаў убачылі пагрозу дзейнай уладзе…

У 1823 годзе самыя актыўныя сябры таварыства філаматаў і філарэтаў былі арыштаваныя і знаходзіліся ў зняволенні ў былых віленскіх кляштарах, пакуль цягнулася шматмесячнае следства, распачатае сенатарам Мікалаем Навасільцавым. Частка філаматаў падчас следства ўтрымлівалася ў былым кляштары місіянераў, частка — у былым базыльянскімі кляштары Святой Троіцы. Менавіта ў гэтых мурах з 23 кастрычніка 1823 года па 21 красавіка 1824 года быў заключаны Адам Міцкевіч разам з іншымі філаматамі, там жа разгортваюцца падзеі 3-й часткі яго паэмы «Дзяды».

Пад суд пайшлі звыш сотні ўдзельнікаў студэнцкіх арганізацый, і гэта — найбуйнейшы студэнцкі палітычны працэс у Еўропе таго часу. Згодна з прысудам, 10 філарэтаў і 10 філаматаў назаўсёды высылаліся ў аддаленыя губерні Расіі. Самы суровы прысуд атрымалі Тамаш Зан, Ян Чачот і Адам Сузін — высылка і заключэнне ў крэпасці.

Для былых студэнтаў Віленскага ўніверсітэта высылка не стала крыжам на жыцці і навуцы. Многія з іх сталі выкладаць у іншых універсітэтах, дасягнулі вяршынь у навуках — гуманітарных і натуральных. Што праўда, у выгнанні.



**Кіяне вызваляюць Усяслава і яго сыноў з порубу, 1068 г. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу, XV ст.**



Філаматы ў зняволенні

Філаматы, як перліны, рассыпаліся па Расійскай імперыі і яе замежжы. Адам Міцкевіч стаў вядомым на ўвесь свет паэтам, Францішак Малеўскі дасягнуў поспехаў у дзяржаўнай службе ў галіне права, нягледзячы на арышт і пастаяннае падазрэнне. Юзаф Яжоўскі выкладаў у Маскоўскім універсітэце грэчаскую мову, займаўся навуковай працай, выдаў кнігі «Шэсць песень "Адысеі" Гамера». Ануфры Петрашкевіч займаўся перакладам з нямецкай мовы падручніка хіміі. Высланы ў Казань Юзаф Кавалеўскі выкладаў ва ўніверсітэце, вывучаў усходнія мовы, даследаваў Манголію і Кітай. Пасля вяртання з высылкі Ян Чачот сабраў каля тысячы аўтэнтычных беларускіх народных песень і выдаў іх у шасці фальклорных зборніках…

## «Неблаганадежный» мастак і кампазітар

У жыццёвым досведзе кампазітара і выдатнага мастака, які пакінуў у спадчыну мноства акварэляў з замалёўкамі помнікаў архітэктуры, Напалеона Орды ёсць і досвед зняволення, прычым атрыманы ім двойчы.

Свой першы турэмны тэрмін Орда атрымаў, калі яму было 20 гадоў, у 1827 годзе. За ўдзел у таемным таварыстве «Заране» студэнт фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта быў арыштаваны і выключаны. Пасля 15-месячнага турэмнага зняволення вярнуўся ў родавы маёнтак Варацэвічы, дзе знаходзіўся пад наглядам паліцыі.

А потым было паўстанне 1830 года, у якім Напалеон Орда браў актыўны ўдзел. За гэта ён быў узнагароджаны крыжам ордэна «Virtuti Militari» і атрымаў званне капітана. Пасля паўстання — эміграцыя, дзе ён прабыў да 1856 года, пакуль цар Аляксандр II не абвясціў аб амністыі для ўдзельнікаў паўстання.

Ужо паважаным чалавекам з высокім статусам — вядомы кампазітар, мастак, дырэктар Італьянскай оперы ў Парыжы — Орда вярнуўся на Радзіму. Але тут яго чакала новае зняволенне. У 1863 годзе пачалося чарговае паўстанне. Пасля яго падаўлення ў 1866 годзе Напалеон Орда быў арыштаваны па падазрэнні ва ўдзеле ў паўстанні і пасаджаны ў Кобрынскі турэмны замак. У наступным годзе ваенна-палявы суд прыгаварыў мастака да высылкі ў аддаленыя губерні Расіі, але дзякуючы стараннем жонкі і дапамогі пасла Францыі прыгавор пасля адмянілі.

Орду не дазволілі жыць і браць у арэнду свой родавы маёнтак, ён пасяліўся ў сваякоў. І выправіўся з фарбамі і пэндзлям у вандроўку. Наведаў шмат мясцін былога Вялікага Княства Літоўскага, дзе замалёўваў пейзажы і будынкі, звязаныя з жыццём вядомых людзей свайго часу.

## Вязень «Валадаркі»

Якуб Колас. Народны паэт Беларусі, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы, лаўрэат шматлікіх прэмій і дэлегат разнастайных сходаў…

Гэта ўсё потым, а 15 верасня 1908 года Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе і нелегальную работу быў асуджаны на тры гады пазбаўлення волі. Судзілі будучага класіка ў Мінску, тут жа ён і адбываў сваё пакаранне. У Пішчалаўскім замку — турме, якая сёння больш вядомая як «Валадарка» (Следчы ізалятар №1). Яшчэ да зняволення Канстанцін Міхайлавіч патрапіў пад пераслед уладаў — быў звольнены са школы, на загад паліцыі мусіў пакінуць Вільню…

У турме Колас, адарваны ад настаўніцкай працы, не губляў часу і актыўна займаўся літаратурай: пачаў ствараць свае знакамітыя паэмы «Сымон-музыка» і «Новая зямля». У той жа час выйшаў яго першы зборнік вершаў «Песні жальбы». Пасля вызвалення Колас вярнуўся да настаўніцкай працы ў 3-й прыходскай школы ў Пінску.

Цень турмы вярнуўся да паэта праз некалькі дзесяцігоддзяў. Пры савецкай уладзе Коласа закранула хваля рэпрэсій 1930-х гадоў. У яго доме праводзіліператрусы, самога класіка выклікалі на допыты. Савецкія органы дзяржбяспекі абвінавачвалі яго ў «нацдэмаўшчыне».



Якуб Колас на судзе



Якуб Колас у вязніцы




Мікалай Улашчык




Мікола Улашчык. Турэмны здымак, 1941 г.

## Ад сталінскага вязня да доктара гістарычных навук

Жыццё беларускага даследчыка Мікалая Улашчыка — прыклад таго, што, калі табе наканавана быць навукоўцам, то нішто гэтаму не перашкодзіць, нават вір і молах жудасных рэпрэсій.

Выпускнік педагагічнага факультэта БДУ Мікалай Улашчык першы раз быў арыштаваны 16 чэрвеня 1930 года па абвінавачванні ў тым, што нібыта кіраваў моладзевым цэнтрам выдуманага чэкістамі «Саюза вызвалення Беларусі». Прысуд па першай справе: 5 гадоў высылкі ў горад Налінск. У высылцы ў 1932 годзе даследчыка зноў арыштавалі і судзілі: статус ссыльнага змяніўся на статус зняволенага строгага рэжыму, яго этапавалі ў Марыінскі лагер, а потым у пасёлак Суслава Кемераўскай вобласці.

Умоўная свабода надышла ў 1935 годзе. Каб пазбегнуць паўторнага арышту на піку рэпрэсій 1930-х ва ўмовах татальнага сачэння і даносаў, Улашчык вымушаны быў часта мяняць месца працы і жыхарства. У 1939 годзе ён пераехаў у Ленінград, пачаў займацца па аспіранцкай праграме… Але зноў на творчых планах паставілі крыж: на другі дзень вайны навукоўца трэці раз арыштавалі і выслалі ў Чалябінскую вобласць. Пры заступніцтве акадэміка Леана Арбелі 28 лістапада 1942 года Улашчык быў вызвалены. Адышоўшы ад турмы, ён вярнуўся ў Маскву, паступіў у аспірантуру і ў 1947 годзе паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю. Адбылося яго вяртанне ў навуку, нядоўгае.

У 1948 годзе «малады» навуковец (хоць меў 42 гады) выкладаў у Маскоўскім універсітэце, а ў 1949 годзе быў беспадстаўна звольнены з працы. Арыштаваны чацвёрты раз па даносе 23 снежня 1950 года, маўляў, крытыкаваў калгасны лад у БССР. Этапаваны ў лагер пры пасёлку Суслава ў Сібіры, дзе навуковец ужо адбываў пакаранне.

Канчатковае вызваленне надышло ў сімвалічны дзень — 25 сакавіка 1955 года. Гэту дату, названую ім Днём вызвалення, даследчык будзе адзначаць штогод у сямейным коле, разам з бліжэйшымі сябрамі, калегамі. Галоўнае ў жыцці Улашчыка было наперадзе. Праз шэсць гадоў перапынку ён вярнуўся ў гістарычную навуку, а ў 1964 годзе стаў доктарам гістарычных навук.

Галоўныя кірункі даследаванняў — праблемы аграрнай гісторыі, крыніцазнаўства, археаграфіі Беларусі, айчыннага летапісання. Ён упершыню пераклаў і падрыхтаваў да выдання «Хроніку Быхаўца», адшукаў і апісаў два спісы «Хронікі літоўскай і жамойцкай». На працягу яшчэ 20 гадоў Мікалай Улашчык займаўся гістарычнымі пошукамі і даследаваннямі. Свой унёсак, нягледзячы на арышты і турмы, у нашу гістарычную навуку ён зрабіў без перабольшвання каласальны.

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ



**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. Працягваем знаёміць вас з тымі, у каго дзень народзінаў у жніўні.**

## 16 жніўня

**52-гі дзень народзінаў сустрэне за кратамі Аляксандр Сяргеевіч Юрчык** — жыхар Мінска, асуджаны на **8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Юрчыка і яшчэ 10 палітвязняў абвінавацілі ва ўдзеле ў тэлеграм-чаце "радыкальнага напрамку". У паказаннях фігуруюць некалькі чатаў. Акрамя гэтага — у нумеры пашкодзіць або знішчыць тры «Табакеркі».

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

29 гадоў споўніцца **Данілу Цімафеевічу Хабаўцу.** Ён стаў фігурантаў справы аб масавых



беспарадках у Брэсце 10 жніўня, распачатай паводле **ч. 2 арт. 293 КК.** Затрыманы 2 красавіка 2021 года і ўзяты пад варту ў СІЗА да суда.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

**26-годдзе сустрэне за кратамі Уладзіслаў Валер'евіч Гуліс** — аўтамыйшчык з Мінска.

Быў затрыманы за нанясенне 9 верасня на асфальце каля мемарыялу загінуламу падчас пратэстаў Аляксандру Тарай-



коўскаму каля станцыі метро «Пушкінская» надпісу: «Не забудзем!».

Уладзіславу было прад'яўлена абвінавачанне паводле **ч. 2 арт. 339** (хуліганства) і **ч. 2 арт. 218 КК** (наўмыснае знішчэнне ці пашкоджанне маёмасці, здзейсненае грамадска небяспечным спосабам або якое пацягнула нанясенне шкоды ў буйным памеры).

8 снежня суд Фрунзенскага раёна Мінска вынес прысуд Гулісу. Суддзя **Юлія Крэпская** асудзіла паводле ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэкса палітвязняў Дзяніса Граханава і Ігара Самусенку да 1,5 года абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хіміі»), а Уладзіслава Гуліса — **да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №9. 213410, г. Горкі, вул. Дабралюбава, 16.

## 18 жніўня

**43 гады споўніцца Сяргею Леанідавічу Ціханоўскаму — аўтару youtube-канала «Краіна для жыцця».**

Ціханоўскі выказаў жаданне балатавацца на пасаду прэзідэнта, аднак перад самым пачаткам выбарчай кампаніі быў арыштаваны за арганіза-



цыю несанкцыянаванага мерапрыемства і не змог асабіста падаць дакументы ў Цэнтрвыбаркам. Паводле яго даверанасці гэта зрабіла яго жонка Святлана Ціханоўская, але ЦВК не зарэгістраваў блогера ў якасці прэтэндэнта ў кандыдаты, бо даверанасць не была ім асабіста падпісаная. Тады дакументы на рэгістрацыю падала яго жонка — і яе зарэгістравалі.

8 чэрвеня Сяргею Ціханоўскаму і яшчэ шасці затрыманым па «гродзенскай справе» прад'яўлена абвінавачанне паводле **ч. 1 арт. 342 КК.** Пазней Ціханоўскаму прад'явілі абвінавачанне яшчэ і паводле **арт. 191 КК — «Перашкода правядзенню выбараў і працы Цэнтрвыбаркама».** Гэта справа была распачатая пасля заявы, пададзенай на блогера ў Следчы камітэт кіраўніком ЦВК Лідзіяй Ярмошынай.

У сакавіку Следчы камітэт завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да блогера Сяргея Ціханоўскага, лідара незарэгістраванага аб'яднання «Народная грамада» Мікалая Статкевіча і іх паплечнікаў. Цяпер у закрытым рэжыме над імі адбываецца суд у гомельскім СІЗА.

Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

## 19 жніўня

**18-годдзе адзначыць у няволі Аляксандр Андрэевіч Вінярскі** — жыхар Брэста, асуджаны судом Ленінскага раёна горада на **тры гады выхаваўчай калоніі** па **ч. 2 арт. 293 КК.** Разам з ім былі асуджаныя яшчэ 12 чалавек.

Паводле версіі следства, падчас акцыі пратэсту ў цэнтры Брэста пасля выбараў абвінавачаныя груба парушылі грамад-



скі парадак, учынілі пагромы, нанеслі супрацоўнікам міліцыі ўдары рукамі і нагамі, рознымі прадметамі. У ход ішлі дошкі, палкі, вулічныя скрыні для смецця, фрагменты лавак, тратуарнай пліткі і асфальту, бутэлькі, камяні, металічныя балты, ёмістасці з фарбай, піратэхнічныя вырабы.

Адрас для лістоў: Выхаваўчая калонія №2. 213807, г. Бабруйск, вул. Генерала Батава, 4.

**28 гадоў споўніцца Анатолю Уладзіміравічу Хіневічу** — праграмісту і барду з Барысава.

Суд Савецкага раёна 24 снежня асудзіў яго да **двух гадоў і шасці месяцаў пазбаўлення волі** паводле **ч. 2 арт. 363 КК** за тое, што 20 верасня на «Маршы справядлівасці» наносіў супрацоўнікам АМАПа «ўдары лежачы».

Анатоль скончыў інстытут Сахарава БДУ, з 2014 па 2018 працаваў у КУП «Цэнтр інфармацыйных тэхналогій Мінгарвыканкама». Ён удзельнічаў у распрацоўцы афіцыйнага сэрвісу Мінгарвыканкама. На



працы ён атрымліваў граматы, яго выява неаднаразова была на дошцы гонару. У родным Барысаве ведаюць Анатоля як барда і выканаўцу ўласных песень.

Адрас для лістоў: ПК №3. 211322, Віцебская вобласць, г.п. Віцьба.

## 20 жніўня

**35-годдзе сустрэне за кратамі Арцём Уладзіміравіч Такарчук** — архітэктар з Мінску.

Суд Цэнтральнага раёна Мінска 20 лістапада асудзіў яго паводле **ч. 2 арт. 363 КК на 3,5 гады калоніі** за супраціў 13 верасня на «Марш герояў» салдату тэрміновай службы.



Арцёма затрымлівалі два разы і жорстка збівалі. Першы раз яму накладвалі швы на галаву, другі раз — у бальніцы дыягнаставалі страсенне мозгу, закрытую чэрапна-мазгавую траўму, шматлікія ўдары і гематомы па ўсім целе. Пацярпелы салдат у медустанову не звяртаўся, пашкоджанняў не меў.

Арцём удзельнічаў у міжнародных конкурсах, мае грамату міністра інфармацыі за праект будынка Белтэлерадыёкампаніі. Прасіў суд не адпраўляць архітэктара ў калонію і пацярпелы салдат з в/ч 3214 Максім Чарнякоў.

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша 183.

## 21 жніўня

**36-ты дзень народзінаў сустрэне за кратамі Аляксей Андрэевіч Арцецкі** — жыхар



Брэста, фігурант «справы карагодаў», распачатай пасля акцыі 13 верасня.

Аляксей знаходзіўся на волі ў статусе падазраванага па гэтай справе (па **арт. 342 КК** ) да суда. 15 сакавіка ў судзе Ленінскага раёна Брэста быў вынесены прысуд Аляксею: **1 год і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.**

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

**19 гадоў споўніцца Дзянісу Андрэевічу Давыдуліну** — жыхару Жлобіна, асуджанаму на 1,5 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму па **арт. 342 КК** і па **арт. 364 КК**).

Дзяніса абвінавацілі ў тым, што ён разам з іншымі асобамі, вечарам і ўначы з 9 на 10



жніўня прымаў актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушылі грамадскі парадак, перашкаджалі працы грамадскага транспарту, выходзіў на праезную частку ў раёне вуліцы Першамайская, стаяў у сцэпцы. Таксама заклікаў астатніх не падпарадкоўвацца патрабаванням міліцыі, якія ахоўвалі грамадскі парадак, выкрыкваў лозунгі. Аказваў актыўны супраціў супрацоўнікам МУС, кідаў у іх бок камяні і бутэлькі, наносіў удары па экіпіроўцы.

18 сакавіка ў судзе Жлобіна Дзянісу вынеслі прысуд: **1,5 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №1. 211440, г. Навапалацк, вул. Тэхнічная, 8.

25-годдзе сустрэне за кратамі **Уладзіслаў Ігаравіч Карэцкі** — валанцёр штаба Віктара



Бабарыкі, затрыманы ў межах справы аб масавых беспарадках.

Улад працаваў для фільму «Урокі фарсі» рэжысёра Вадзіма Перэльмана. Гэтую карціну вылучылі на прэмію «Оскар» 2021 года ад Беларусі. У цітрах ёсць імя палітвязня.

*«Улад Карэцкі працаваў са мной у кіно як рабочы і на рэкламных роліках як асвятляльнік. Ціхі, спакойны хлопец. І як пярун з яснага неба — раптам на дзяржаўным канале кажуць, што ён арганізатар пратэстаў»*, — расказаў калега Карэцкага ў кінапрадукцыі.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

44 гады споўніцца **Сяргею Валер'евічу Волкаву** — актору Палескага драмтэатра, валан-



цёру. Яго ведаюць у Пінску як арганізатара культурніцкіх мерапрыемстваў і валанцёра гарадской бальніцы; ён выхоўвае дзіця з інваліднасцю. Быў затрыманы 5 траўня. Сяргею прад'явілі абвінавачанне па справе аб масавых беспарадках (**ч. 2 арт. 293 КК**), распачатай па падзеях у Пінску ў ноч пасля выбараў 9 жніўня.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №8–9 (180–181)
(жнівень–верасень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест





Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# «Бяссмертнае роднае слова»

Перад вамі апошні — у гэтым часе — папяровы выпуск «Літаратурнай Беларусі». У Беларусі, дзе ўжо не засталося аніводнага друкарскага варштата, каб старадаўнім скарынаўскім метадам распаўсюджваць беларускае слова — свабоднае, незалежнае. Дзе не засталося аніводнай легальнай магчымасці гэта рабіць…

У падобнае немагчыма было паверыць 15 гадоў таму, калі ў ліпені 2007-га выйшаў першы нумар «Літаратуркі». Не хочацца верыць у гэта і цяпер…

Вось перадмова-анонс з таго ўжо няблізкага выдання:

*«“Літаратурная Беларусь” — гэта супольны праект Грамадскага аб'яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў” і тыднёвіка “Новы час”, гэта альтэрнатыва адабранай у старэйшай творчай арганізацыі Беларусі і цяпер падкантрольнай уладам газеце “Літаратура і мастацтва”.*

*Гэта фармаванне незалежнай творчай думкі нацыянальнай эліты.*

*Гэта імкненне супрацьстаяць татальнаму замоўчванню вольнага мастацкага слова ў дзяржаўных СМІ.*

*Гэта свабодная трыбуна паэтаў, празаікаў, драматургаў, крытыкаў і чытачоў Беларусі.*

*Гэта напамін аб тым, што Беларусь — і дзяржаўная, і літаратурная — створана найперш пісьменнікамі, і яна патрабуе іхняй новай працы і апантанасці.*

*«Літаратурная Беларусь» — новы час чытання»…*

Час не выбіраюць. Ды й амаль ніколі ён не быў спрыяльным для нацыянальнай культуры, для беларускага слова. Забарона друку на беларускай мове паводле царскага ўказа была адменена толькі ў снежні 1904 года. А затым змяняліся «цары» і ўказы — але вальней беларускаму слову не станавілася. Вось толькі адно паэтычнае сведчанне Янкі Купалы, які яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя прарочa ўвершаваў наш нацыянальны кліч-пазоў «Жыве Беларусь!»:

*Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!*
*Ты крыўды, няпраўды змагло;*
*Хоць гналі цябе, накладалі аковы,*
*Дый да́рма: жывеш як жыло!*

*Свабоднае слова, ты, роднае слова!*
*Зайграй ты смялей, весялей!*
*Хоць га́дзіны сыкаюць, кружацца совы,*
*Жывеш ты на хвалу людзей.*

Новыя га́дзіны не стамляліся атручваць носьбітаў свабоднага беларускага слова і ў часы Курапатаў, і ў часы «кукурузаводства», і ў часы «пасляховага застою».

Вальней беларускаму слову не станавілася. І не становіцца…

Тым не менш, «Новы час» падараваў сучаснасці і гісторыі 181 нумар нашага выдання. А гэта — сустрэчы з сотнямі адметных беларускіх і замежных аўтараў, з тысячамі арыгінальных вершаў, апавяданняў, эсэ, нарысаў, рэцэнзій, артыкулаў, гутарак, лістоў, успамінаў. Гэта — штомесячныя творчыя сустрэчы як з класікамі беларускай літаратурнай сучаснасці, так і з іх наступнікамі-прадаўжальнікамі — творчай моладдзю.

Рыхтуючы гэты «часоваапошні» выпуск, мы вырашылі сабраць у ім найбольш адметныя мінулагоднія публікацыі, — і прапануем своеасаблівы «літбелаўскі» дайджэст, мініхрэстаматыю «новачаснага» літаратурнага сугалосся.

Вядома, выбраць лепшае з раней апублікаванага — справа суб'ектыўная і немагчымая. Таму перад вамі найперш тэксты тых творцаў, хто ўжо не зможа прапанаваць да друку сваю паэзію ці прозу ні сёння, ні заўтра: Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Анатоль Кудравец… А таксама — творы тых аўтараў, якія найактыўна супрацоўнічалі з «Літаратурнай Беларуссю» і станавіліся выразнікамі яе тэматычнага і стылістычнага накірунку.

У гэтых, трэба прызнацца, шчымліва-скрушных абзацах хочацца ад імя ўсяго Саюза беларускіх пісьменнікаў выказаць сонечную ўдзячнасць апантанцам вольнага беларускага слова: рэдакцыі «Новага часу», яе кіраўнікам — колішняму светлай памяці Аляксею Каралю і цяперашняй — Аксане Колб, а таксама, безумоўна, усім нашым аўтарам і вам, дарагія чытачы — за непахіснасць, веру і моц.

Але мы — не развітваемся! Заставайцеся з «Літаратурнай Беларуссю» — яе бібліятэчнымі «падшыўкамі» ды інтэрнэтнымі версіямі. Учарашнімі, сённяшнімі і — будучымі.

І памятайма: якія б совы не кружыліся над намі, якія б аковы не накладалі на нас і на нашае свабоднае слова, яно па-купалаўску «жыве як жыло».

А таму — да новых сустрэчаў!

# Вера і вернасць. Сіла і моц

Ніл ГІЛЕВІЧ (1931–2016)

### Да выхаду першых нумароў «ЛІТАРАТУРНАЙ БЕЛАРУСІ»

*Нарэшце! Нарэшце пабачыў, адчуў.*
*Аж стала да слёзаў шчымліва ў грудзях.*
*Аж стала прасветла-святлі́ста ўваччу.*
*Ёсць, ёсць беларускага думання сцяг!*

*Ёсць вера і вернасць. Ёсць сіла і моц.*
*І мараў разбежнасць. І стройнасць пісьма.*
*І гоства памкненняў. І чыстасць яснот.*
*А блуду і бруду — і на́ дух няма!*

**2007**

### Не выйдзе, лірычная мышка, нічога не выйдзе

*Лагодненькі-згодненькі лірык*
*з нявострым ад роду пяром,*
*паўвеку праседзеўшы ціха,*
*як мышка пад венікам ці памялом,*
*не піскнуўшы нават ні разу*
*у знак абурэння, пратэсту, нязгоды*
*з засіллем хвастатых ва ўладзе,*
*з разгулам нялюбцаў свабоды,*
*ні слова не мовіўшы*
*супраць бясчынстваў і гадства —*
*ні рыфмай, ні ў прозе, —*
*цяпер спахапіўся, апомніўся,*
*як гэта кажуць, «ужо на парозе»,*
*і ўздумаў — ні многа, ні мала –*
*у шэрай лірычнай старэчасці,*
*што трэба яму прапісацца*
*у часе, у веку, у вечнасці —*
*у ролі змаганца*
*супроць удушэння*
*нам Богам даверанай мовы, —*
*авось ды прызнаюць:*
*усё ж такі ў думках, употай,*
*і я быў гатовы...*

*Не выйдзе, лірычная мышка!*
*Нічога не выйдзе!*
*З мышынаю доляй змірыся.*
*Нервамі, сэрцам, крывёю*
*бароняць свабоду паэты.*
*Як ЯНКА. Або як ЛАРЫСА.*

### Крытыку сучаснай паэзіі

*З захлёбам ты вершы ў рэцэнзіях хваліш —*
*з «афулам» хвалебствы на аўтараў валіш.*
*А як працытуеш у доказ страфу —*
*чытач скаланецца і выгукне: «Цьфу!»*
*Цытуй адпаведна, брат! Гэта ж рэклама!*
*І геніяў, бардзо пшэпрашам, таксама.*

### Даруй, Мікіта, гэта я ад зайздрасці

*Выхаванец і ўслаўляльнік ладу,*
*сто прыварак грэбшы да акладу,*
*трыццаць год сцярджаў у кінатворах,*
*хто працоўнаму народу вораг.*
*А цяпер ён стаўся мільярдэрам,*
*збудаваў маёнтак з бельведэрам,*
*пяць катэджаў, для гасцей прыгодных,*
*мае псярню, стайню рысакоў...*
*Не хапае мужыкоў прыгонных.*
*Пуцін! Дай Мікіту мужыкоў!*
*Ды не мёртвых душ, а жвавых, дужых!*
*І не сотню, а — хаця б паўтысячы.*
*Каб не толькі чынна неслі службы,*
*а й было каго на стайні высечы!*

### Народ

*Народ! Калі ты ёсць народ,*
*А не бязвольны раб дармовы, —*
*Не дай пусціць сябе на звод:*
*Не выракайся роднай мовы!*

*Яна не горшая нічуць*



*За мовы іншых слынных нацый.*
*Таму — адрынь, адпрэч, адгудзь*
*Майстроў хлусні і махінацый!*

*Каб не загналі без пары*
*Цябе ў магілу злыдні-юды, —*
*Загавары, загавары*
*На роднай мове скрозь і ўсюды!*

*Загавары — каб свет наўсцяж*
*Пачуў твой голас валадарны!*
*Тады на дзедаўскіх касцях*
*Узыдзе лёс — як дзень бясхмарны.*

### Як мала...

*Як мала*
*за мову зямлі беларускай*
*пакутнікаў!*
*Як многа*
*ахвочых па ёй патаптацца*
*паскуднікаў!*

*Як мала*
*за нашу душу беларускую*
*ратнікаў!*
*Як многа*
*ад гэтай душы адшчапенцаў*
*і здраднікаў!*

### Не падайце духам, хлопцы!

*Не падайце духам, хлопцы!*
*Адкіньце суздром сумнеў!*
*І гнеў не тапіце ў стопцы —*
*У сталь загартуйце гнеў!*

*Не траццце надзей і веры,*
*Пакутнай зямлі сыны!*
*На вежах званіц збуцвелых*
*Мы ўдарым яшчэ ў званы!*

*Яшчэ мы абудзім сілы,*
*Што спяць да пары ў касцях.*
*Яшчэ мы на Шлях Гусіны*
*Уздымем наш Герб і Сцяг!*

*Каб бачыла ўся планета,*
*Каб ведала людства ўсё,*
*Якая вядзе нас мэта,*
*Што ў сэрцах сваіх нясём.*

*Не падайце ж духам, хлопцы!*
*Адкіньце суздром сумнеў!*
*І гнеў не тапіце ў стопцы —*
*У сталь загартуйце гнеў!*

### Дзе вы?

*— Дзе вы? Што робіце вы,*
*Беларусі сыны?*
*— П'ём, залажыўшы сумленне*
*ў ламбард Сатаны.*

*— А ці яшчэ вы не ўсё, што ільга, прапілі?*
*— Не! Дапіваем яшчэ. Вось — ізноў налілі.*

*— Дзіўна! Па-мойму,*
*вы ўсё прасцулячылі ўжо!*
*— Не! У запасе — барыш*
*ад прадажы крыжоў.*

*— Тых, што на храмах?*
*Што нам сцерагуць небасхіл?*
*— Тыя пасля. Напачатку —*
*з дзядоўскіх магіл.*

### Не пытаюся...

*Не пытаюся, бо знаю, Маці,*
*Знаю, што ім трэба ад Цябе —*
*Гэтым нелюдзям жандарскай масці,*
*Гэтай прагнай, хцівай галыцьбе.*

*Знаю, чым Ты іх так угнявіла,*
*Адчаго і шал на іх найшоў:*
*Воля, воля ім Твая няміла,*
*Уваскрэслая з магіл Дзядоў!*

*Не да смаку ім, што праўды светач*
*Азарыў Тваіх вякоў прастор,*
*Што, як роўная, Ты з цэлым светам*
*За адзін усаджваешся стол.*

*Ім нялюба, што на вольнай волі*
*Дыхаць робіцца Табе лягчэй,*
*Што дала Ты клятву — больш ніколі*
*Не ўгінаць перад ярмом плячэй.*

*Дык трымайся ж гэтай мужнай клятвы!*
*Не сагніся, Маці, і не ўкленч!*
*Не зважай, што нейкі найміт платны*
*Прымярае адэкватны фрэнч.*

*На сваёй зямлі адвечнай, Маці,*
*Не дадзім мы ўкрыжаваць Цябе —*
*Гэтым нелюдзям жандарскай масці,*
*Гэтай прагнай, хцівай галыцьбе!*

***

*Браты! Ачніцеся! Няўжо вам*
*Не чутна, хоць бы і скрозь сон,*
*Як прамаўляе божым словам*
*Да вашых сэрцаў вешчы звон?*

*Як кліча ён знайсці свой Кіцеж,*
*Паўстаць з прадоннай нематы...*
*Дык не праспіце ж, не ўпусціце ж*
*Час, Богам дадзены, браты!*

***

*Родная мова! Ты воч не расі!*
*Лёс твой — свабода.*
*Іменна ты незалежнасць дасі*
*Духу народа.*
*Ты — чыя веліч, і моц, і краса*
*Толькі ўзыходзяць.*
*Ты — чыя слава наперадзе ўся*
*Ў тысячагоддзях.*

***

*І зноў брыдота слоў пустых!*
*І зноў з экраннай рамкі цеснай*
*Якісь нявысветлены тып*
*Бялкамі бліскае злавесна.*

*І зноў крычыць пра Беларусь,*
*Маўляў: люблю і ганаруся,*
*Але ў вачах яго чамусь*
*Зусім не бачна Беларусі.*

*Каб хоць бы што ад той зямлі,*
*Што ўся замешана на ласцы,*
*На дабрыні, на цеплыні,*
*На мроях, светлых, як у казцы.*

*Пра Беларусь крычыць, аднак,*
*Як доўга слухаць я ні мусіў —*
*Каб хоць адзін маленькі знак,*
*Што гэта голас Беларусі.*

*Каб хоць бы што ад той душы,*
*Што ўся збалелася ад болю,*
*За гвалты дзякуй даючы,*
*За крыўды плацячы любоўю.*

*О, краю мой! Ты столькі знёс*
*Абраз — хапіла б на паўсвету.*
*Яшчэ і гэту ўскінуў лёс.*
*Няўжо знясеш яшчэ і гэту?*

***

*Усё гэта будзе абернута ў міф*
*Судом, што не хібіць ніколі.*
*І стлеюць паперы, паводле якіх —*
*Народу гібець у няволі.*

*Усё ператворыцца ў тлен спакваля,*
*Што мела трываласці знакі.*
*І здраднікаў косці адрыне зямля,*
*І іх парасцягнуць сабакі.*

***

*Сярод разнамоўных на свеце плямён*
*Ёсць рэдкі феномен — пачвары.*
*Па мове іх тут пазнавалі здавён,*
*А можна пазнаць і па твары.*

*У чым іх адметнасць, іх код племянны?*
*У тым, што, адрокшыся мовы,*
*Якой даражылі іх продкі, яны*
*І продкаў зрачыся гатовы.*

*Таму і гукае галоўны іх жрэц*
*Амаль што не з кожнай трыбуны:*
*«Пачвары! Тутэйшая мова — сырэц,*
*Не годны для будучай Думы.*

*Ніякае літасці к ёй, ні спагад!*
*З касцямі гламзайце ікласта!*
*З карэннем карчуйце! Як хмыз на лугах.*
*Як з сэрцаў — Вялікае Княства.*

*Карчуйце, пачвары, жывей і смялей,*
*Да ейнага плачу аглухшы!*
*І будзе ісці трыумфальна далей*
*«Язык наш, із лудшых найлудшы»!*

### Нават з амбону

*Божа праведны! Нават з амбону*
*Бласлаўляецца ўладным крыжом —*
*Не Свабода, не святасць Закону,*
*А душы беларускай пагром.*

*Пра якое яднанне ён кажа —*
*Гэты знаны вялебны святар?*
*Злыдзень рукі вяроўкаю вяжа,*
*Што паклалі вянок на алтар.*

*Пра якую духоўнасць вяшчае?*
*Пра якую маральнасць гудзе?*
*Злыдзень мову народа знішчае*
*І на вусны мне плямбу кладзе.*

*Пад якою харугвай святою*
*Ён пяе — каб і я падхапіў?*
*Злыдзень брудны, паскудны пятою*
*На святыні мае наступіў!*

*Для чаго ж, нібы дыму з кадзіла,*
*Напускае імглы ягамосць?*
*Каб забыў я, што наша Радзіма —*
*Гэта наша Радзіма і ёсць?*

*Марна, марна шчырые вялебны!*
*Беларусь на планеце — адна.*
*Нашы продкі ў змаганнях палеглі*
*Не затым, каб згібела яна.*

*А затым, каб насуперак гвалту*
*Нейчай волі нялюдскай, сляпой,*
*Узрасла і набралася гарту*
*Пад уласнай харугвай святой.*

# Ніл ГІЛЕВІЧ: «Будзем аптымістамі, іншага не дадзена»

**...Ён некалькі гадоў не выходзіў са сваёй кватэры на вуліцы Карла Маркса, але актыўна сачыў за навінамі, шчыра цікавіўся беларускай літаратурай і палітыкай. Цягам некалькіх гадоў Ніл Сымонавіч адмаўляў журналістам у інтэрв'ю. Але для прэс-службы Саюза беларускіх пісьменнікаў зрабіў выключэнне. Гэтая размова — пра Беларусь, Украіну, прэзідэнцкія выбары. Пра ўсё, што набалела.**

***— Ніл Сымонавіч, вы адзіны Народны паэт Беларусі, найстарэйшы нацыянальны творца, дзяржаўны дзеяч і палітык. Якою вам бачыцца сёлетняя Беларусь, ці адчуваюцца пэўныя змены да лепшага альбо да горшага?***

— На вялікі жаль, вясёлага на сённяшні дзень нічога не бачу. Як і раней — і год, і два, і пяць, і дзесяць назад — наша грамадства ці нават, скажам, народ наш, насельніцтва Беларусі далёка не ўсё паднялося да разумення галоўнай задачы, якая стаіць перад намі, перад нашай дзяржавай. Галоўная задача — не дапусціць, каб наша мова і далей гінула так, як яна гіне цяпер. Без усведамлення, што такое мова ў жыцці народа, што такое нацыянальная культура, нацыянальная гісторыя, у народа не можа быць будучыні. Дык вось, на вялікі жаль, гэту ісціну, апрабаваную дзясяткамі народаў на працягу стагоддзяў, у нас разумеюць далёка не ўсе. І таму падымаюць пытанні, патрабуюць вырашаць эканамічныя праблемы, сацыяльныя, экалагічныя і іншыя. Не ўсведамляючы, што паперадзе ўсіх праблем павінна ісці праблема мовы. Сказаў жа некалі першы вялікі, першы народны беларускі паэт Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Усё! Што ж незразумелага? Калі не хочам памерці, а хочам жыць, значыць, павінны перш за ўсё ратаваць мову. Гэтым не адмаўляючы важнасць рашэння іншых вышэйпералічаных задач. На вялікі жаль, і сёлетняя сітуацыя, і пяць гадоў назад, і дзесяць... Прэтэндэнты на самую высокую пасаду ў нас вось на гэта самае галоўнае забываюцца. Не лічаць самым галоўным. Мяне гэта бязмерна засмучае. Інтэлігенцыя гэта павінна разумець. Канечне, некаторыя з прэтэндэнтаў на правадыра краіны забываюцца па іншых прычынах. Але яны і не з'яўляюцца патрыётамі Беларусі. Іх мала цікавіць лёс Беларусі менавіта як «беларускай Беларусі». Таму лічу, што сёння найпершы абавязак усіх свядомых беларускіх грамадзян — патрыётаў бацькаўшчыны — думаць пра гэта, турбавацца пра гэта. Ну і па меры магчымасцяў дабівацца карэнных пераменаў у гэтых адносінах.

***— Апошнія некалькі гадоў назіраецца пэўнае ажыўленне цікавасці да мовы. Адкрываюцца добраахвотніцкія бясплатныя курсы беларускай мовы. І яны ніяк не звязаны з дзяржаўнай адукацыяй. Як вы думаеце, мажліва ў нашых варунках будучыня беларускай мовы за недзяржаўнымі адукацыйнымі праектамі?***

— Дык гэта і ёсць сапраўдная прапаганда беларускай мовы. Больш за тое, выхаванне павагі і любові да беларускай мовы, але менавіта не з ласкі дзяржавы. Гэта выдатная падзея, выдатная наша рэалія, што ўтвараюцца такія асяродкі, дзе кожны, хто жадае, можа палепшыць сваё веданне мовы.

***— Скажыце, наколькі ўдаецца вам сачыць за новымі кнігамі, за літаратурнай перыёдыкай, наогул за станам сучаснай беларускай літаратуры?***

— Я ўжо некалькі разоў сказаў «на вялікі жаль» і яшчэ раз скажу: на вялікі жаль, вельмі мала. Па стане здароўя. У мяне ўвогуле глядзіць толькі адно вока, і тое ўсё слабей і слабей. Мне чытаць вельмі цяжка, сам амаль не чытаю. Вось прыходзіць часам пляменніца, сястра малодшая, чытае. Ну яшчэ прэсу сяк-так перакідаю, хоць загалоўкі, набраныя буйнейшымі літарамі. Таму стараюся больш слухаць радыё. Бывае, што ўвесь вечар і да позняй ночы каля радыё — і нашага афіцыйнага дзяржаўнага, і Радыё Свабода, і іншыя станцыі — каб усё-такі быць у курсе, дзе, што і як адбываецца. Выручаюць і сябры, прыйдуць, раскажуць, абмяняемся думкамі па тым ці іншым пытанні. Я вельмі неабыякавы да таго, што адбываецца ў нашай краіне і ў блізкім свеце. За падзеямі ва Украіне з першага дня сачыў і сачу, як толькі можна. І вельмі хачу і спадзяюся, што паразумнеюць нарэшце тыя, хто сёння займае не тое што небратэрскую, але недружалюбную пазіцыю ў дачыненні да нашай братняй Украіны. Так нельга, катэгарычна так нельга.

***— Цяпер стаўленне беларусаў да Украіны праз расійскія СМІ падзеленае на два лагеры. Ёсць тыя, хто верыць расійскім навінам, і тыя, хто не верыць.***

— Натуральна. Мне цяжка сказаць, але я ведаю, што мы падзеленыя на дзве палавіны і, зноў жа «на вялікі жаль», нашмат больш тых, хто падтрымлівае Расію і не перажывае, не хварэе за лёс Украіны. Што хацець, калі наша насельніцтва, у вялікай сваёй частцы, за Беларусь не змагаецца і не перажывае — дык дзе ж ужо там за Украіну! І аднак жа, думаю, я не памыляюся, калі мяркую, што з ліку нашай моладзі ўсё больш і больш тых, хто разумее наш абавязак крэўных братоў, суседзяў украінскага народа суперажываць і, па магчымасці, дапамагаць. Мяне вельмі кранула, што нямала нашых хлопцаў удзельнічала і на Майдане, і ў баях на баку ўкраінскай арміі за незалежную і непадзельную Украіну. З вялікім хваляваннем чытаў пра смерць і пахаванне берасцейскага хлопца Алеся Чаркашына. Вельмі кранула мяне,



што столькі людзей сабралася на пахаванне. Узрадавала вестка пра ўрадавую ўзнагароду, дадзеную пасмяротна Міхасю Жызнеўскаму. Гэта і сапраўдныя беларусы, і сапраўдныя сябры братняй Украіны.

***— Вы кажаце, што праз радыё і газеты сочыце за грамадска-палітычнай сітуацыяй. Якое ў вас склалася меркаванне наконт чарговых прэзідэнцкіх выбараў, калі можна ўжываць тут гэтае гучнае слова.***

— Апошні раз я ўдзельнічаў у выбарах у 1994 годзе. Пасля вельмі хутка зразумеў, што з намі здарылася, з нашай Беларуссю. Выбараў сапраўдных, належных, як ва ўсіх дэмакратычных краінах, не можа быць, пакуль не памяняецца сітуацыя. З павагі да сябе, да свайго разумення, што такое дэмакратыя і абавязкі кіраўнікоў дэмакратычнай краіны, я не хачу прыніжаць сябе і ўдзельнічаць нават намінальна. І на гэты раз, што б ні гаварылі, што б ні абяцалі, усё застанецца як было. Мы павінны былі ісці шляхам, як у найбольш перадавых еўрапейскіх краінах: тэрмін прэзідэнцтва — максімум дзве кадэнцыі. Не больш. А ў нас, бачыце, — адзін і той жа правадыр... Хочаш не хочаш, атрымліваецца, тыя, хто будзе ўдзельнічаць у выбарах, гэтым самым сваім удзелам працуюць на каўзу аднаго кандыдата. У Еўропе скажуць: балатаваліся ж вы, але не прайшлі, і народ выбраў іншага. А як ён выбера, калі ў яго даўно ніхто не пытае. За столькі гадоў хіба не пераканаліся, што сапраўдных выбараў няма?..

***— Ніл Сымонавіч, але як змяніць гэтую сітуацыю?***

— Адна партыя ці група не зменіць нічога. Толькі Майдан зменіць. Як ва Украіне: быў Януковіч — і няма Януковіча. Выйшаў народ. Таму ўсе свядомыя змагары за беларускую Беларусь павінны рыхтаваць народ. А ён выйдзе тады, калі будзе гэтак жа нацыянальна выхаваны і патрыятычна настроены, як украінскі народ. Нам яшчэ далекавата да гэтага. Бо інакш як выйдзе народ увесь, не дзясяткі нават тысяч, а сотні, калі не разумеюць галоўнай задачы? І думаюць, што я прагаласую за таго, каго я хачу, і ўсё на гэтым. Ну і што? Даўно было сказана: выйграе не той, хто галасуе, а той, хто падлічвае галасы.

Але складаць рукі ў бяздзейнасці і маўчаць нельга. Трэба як мага больш актыўна тлумачыць народу, у чым наша слабасць. Простыя людзі і сёлета спадзяюцца, што пасля выбараў зажывуць лепш, багацей. Трэба ж разумець, калі гэта можа адбыцца. Няма іншага шляху, як асветніцтва ў народзе. Помніце, чыталі, як пры цары яшчэ дэмакратычная інтэлігенцыя ставіла задачу асветніцтва сярод масаў. Цёмныя масы могуць узарвацца, але чаго гэтым дасягнуць? Таго, што на змену аднаму дыктатару прыйдзе другі, на змену другому — трэці. Таму колькі ёсць магчымасцяў, хоць яны не такія вялікія, колькі ёсць сілаў, трэба гаварыць з людзьмі, тлумачыць, якім чынам мы можам павярнуць у іншы бок усю сітуацыю. Так, як людзі рабілі. Не мы першыя, не мы апошнія.

Глядзіце, найбольш даступны нам прыклад. Возьмем Польшчу. Дзвесце з гакам гадоў назад царская Расія на пару з Прусіяй і Аўстрыяй разарвалі Польшчу. Нават сталіца Польшчы апынулася ў складзе Расійскай імперыі, там быў заснаваны рускі ўніверсітэт, і ўсе найважнейшыя, галоўныя парадкі былі ўсталяваныя гэткія, як і ў Расіі. Але ёсць адно вялікае «але»: польская інтэлігенцыя, а следам за ёю і польскі народ, не адракліся ад польскай мовы. Наадварот, узяліся яшчэ з большым натхненнем выхоўваць нацыянальны польскі патрыятызм. Геніяльны польскі паэт Адам Міцкевіч нарадзіўся, калі Польшча ўжо была ў складзе Расіі. Але ён і яго сучаснікі — і пісьменнікі і навукоўцы — сталі вялікімі патрыётамі, адчуўшы сур'ёзную небяспеку. А таксама зрабілі некалькі спробаў вызваліцца ад прыгнёту. І што? Як толькі наступіў гістарычны момант, 1918 год, уваскрэсла Польшча, атрымала дапамогу ад іншых дзяржаў і настолькі адчула ўнутраныя сілы, што ў наступным годзе пайшла вайной на савецкую Расію. Вось што значыць — не страцілі нацыянальны дух, нацыянальную годнасць, пашану да сваёй польскай культуры і мовы. Цяпер, пасля апошняй вайны, навязаў Іосіф Вісарыёнавіч Польшчы такія ж парадкі, як і для ўсяго сацыялістычнага лагеру. Цярпелі, так, але і пры сацыялістычных парадках як расквітнела польская культура, літаратура, мастацтва. І як падышоў час — і ніякай крамлёўскай апекі. Вазьміце Прыбалтыку: здавалася, так прыдушылі, што далей няма куды. А што мы бачым цяпер? Нам ёсць з каго браць прыклад — з нашых суседзяў.

***— Пытанне на астачу: што б вы маглі пажадаць новым пакаленням беларускіх літаратараў і наогул беларускай моладзі? Якою бачыцца вам іх сучаснасць і іх будучыня?***

— Нядаўна Барыс Пятровіч прынёс аж шэсць новых кніжачак. З большынёю іх аўтараў я не знаёмы. Што выходзіць велічэзная колькасць кніжак маладых, мяне вельмі цешыць. Не важна, што яны не ўсе на тым узроўні, на якім хацелася б бачыць. Так было ва ўсе часы. Ёсць таленавітыя, ёсць вельмі таленавітыя, ёсць, дай Божа, геніі. І ёсць слабейшыя, але не безнадзейныя. Нешта карыснае могуць рабіць — хай робяць! Калі трапляецца зусім пустое графаманства — што ж з таго, гэтак і сто гадоў таму было. Ну, добра, вось шэсць, дзесяць, сто кніжак. Але нават калі палавіна будзе вартая ўвагі — і тое дзякуй Богу. Так што памажы Божа. Канечне, вельмі мала магу я чытаць, а па радыё з той кагорты маладых, якую я хачу пачуць, дзяржрадыё нікога не перадае, а пускае якраз тых, якія мала даюць падстаў ганарыцца.

Я вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў, што пачалі вяртацца ў наш Саюз беларускіх пісьменнікаў некаторыя таленавітыя людзі. Што яны былі ў праўладным, я не асуджаю. У кожнага малыя дзеці, сям'я, а чым карміць, калі прыгразілі, што паляціш з працы? Што ж, можна змірыцца, але часова. Можна змірыцца, але нельга рабіць подласць, як некаторыя. Падтрымліваць, як Купала казаў, «ворагаў беларушчыны», тым больш заўзятых, лютых ворагаў.

У мяне на маладых вялікая-вялікая надзея. Я некалі і верш напісаў «Кліч да беларускай моладзі» і заклікаў не падаць духам. «Не падайце духам, хлопцы, і гнеў не тапіце ў стопцы». Толькі так. Я пры гэтым разважаю, што не можа ўсё насельніцтва, увесь народ да такой ступені страціць розум, каб адмовіцца ад абароны сваёй Бацькаўшчыны. З ліку моладзі ўсё больш і больш тых, хто ўсё разумее. Таму і ходзяць і на курсы беларускай мовы, пішуць на роднай мове, і выдаюць, і чытаюць. Ну, і на мітынгі ідуць.

Я надзей не трачу. Я веру. Калі я заклікаў «не падаць духам», дык ясна, што і сам не падаю. Вельмі бывае цяжкі настрой ад усёй брыдоты, якую бачыш, чуеш. Але, як у народзе кажуць, перажылі зіму, перажывём і лета...

Мяне заўсёды падтрымлівае веданне, як выстаялі народы еўрапейскія, не проста меншыя колькасна за Беларусь, а ў некалькі разоў меншыя. Славенцы квітнеюць, чарнагорцы, македонцы, славакі, фіны... Нават чэхаў і балгараў менш, чым беларусаў. І трымаюцца, не скардзяцца Богу на свой лёс. Тут можна задушыцца ад крыўды: чаму беларусы нічога не бачаць і не разумеюць? Дзякуй Богу, моладзь пачала разумець, асабліва як стала ездзіць за мяжу.

Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу.

**2015**

**Гутарыў Ціхан Чарнякевіч**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8–9 (180–181) | 13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741) Новы час

# Жалезны камандзір

Васіль БЫКАЎ (1924–2003)



Атака сарвалася.

«Як жа так?. Як жа так?. От, праклятая шпокаўка! Адкуль яна ўзялася?» — праз горыч, боль і адчай стукала ў яго галаве неадчэпная думка ўвесь гэты час неспадзяваных ганебных уцёкаў ад вышыні ўніз, туды, у выратоўчыя рытвіны аўражыны, з якой гадзіну назад ён павёў людзей у атаку.

Ён ужо не спрабаваў падганяць байцоў, перастаў падаваць каманды — яго сарваны прастуджаны голас толькі сіпеў, без следу патанаючы ў грымотнай ліхаманцы бою. І Клімаў бег перад усімі, ведаючы, што толькі так можна не даць роце легчы, і раз за разам пазіраючы то ў адзін, то ў другі бок, дзе лупцавалі мерзлую, голую ад снегу зямлю злыя чорныя чэргі гэтай праклятай аўтаматычнай тарахцелкі.

Распырскаўшы абцасамі лёд у вымерзлай да дна лужыне, ён пераскочыў дарогу, пераскочыў канаву з пыльнай ссохлай травой.

Траншэя была ўжо зусім блізка, праз якіх дваццаць крокаў, калі агністыя калючыя клубкі разрываў падкаціліся амаль пад самыя ногі камандзіра роты. Асколкі ірванулі перапэцканыя полы паўшубка, бы дубцом сцебанулі па кірзавых халявах ягоных ботаў. Клімаў упаў ужо каторы раз за гэты сакавіцкі ранак — з усяго маху, як бег, і збітыя да крыві калені адразу апёк боль. Але ён адразу зразумеў[:] гэта не рана, гэта аб зямлю. Лейтэнант ускінуў галаву — у траншэі, прыгнуўшыся, беглі кудысьці зялёныя каскі, на брустверы, калюча бліскаючы агеньчыкам, сек аўтамат, яго кулі пырскалі ў вочы лейтэнанта пяском[;] ротны ўскінуў пісталет і торапка стрэліў туды тры разы. Побач торапка ўдарыў з аўтамата Косця. Заскарузлым рукавом лейтэнант выцер потны, запырсканы зямлёй твар. Чарга тым часам з гулкім трэскатам па ўмерзлым у зямлю леташнім іржэўніку кацілася далей, можна было ўскочыць. Яшчэ дваццаць шалёных імпэтных крокаў-скачкоў па адхоне — і ён узляцеў на бруствер, стрэліў перад сабой у чорную шчыліну траншэі і кульнуўся туды. Адразу перад ім, здаецца, іншыя, хто мог, ужо ўсе паўбягалі ў гэтае глыбока і шырока разварочанае прыродай сховішча і туліліся да яго голага, падзёўбанага напярэдадні мінамі берага, хаваючы ад куль і асколкаў галовы. Тарахцелка збавіла імпэт і, нібы задумваючыся, з перапынкамі біла па самым краі, часам з пералётамі, і тады траскотныя яе дваццацімілімятровыя снарады ірваліся ззаду, на другім баку аўражыны, між глеістых прамоін і гразкіх шэрых плям апошняга снегу.

«Адкуль жа яна ўзялася за ноч? Няўжо свежыя сілы?» — думаў ротны, стуліўшы за абрывам галаву. Сэрца яго шалёна гоцала ў грудзях, гарката стомы распірала лёгкія, у скронях з натужным звонам таўклася кроў. Ён выцягся на цвёрдым гліністым касагоры, з хвіліну аддыхваўся, затым, павярнуўшыся на бок, запіхаў у кірзавы кабур свой з драўлянай рукаяткай «ТТ». Пасля выглянуў на схіл пад вышыню, якая трохі ўжо суняла свой кулямётны вэрхал. Мацней за іншыя тачыла трывога за ардынарца Віцю Прахарэнку: ад самай дарогі ён згубіў яго. Але на схіле нікога жывога ўжо не відаць было, толькі там-сям бугрыліся шэрыя суконныя камякі забітых аўтаматчыкаў ды ля дарогі, наўскасяк перарэзаўшай схіл, з абвіслымі парванымі правадамі стаялі пасечаныя асколкамі слупы тэлефоннай лініі.

«І Смірнова не відно. І Пашы. Колькі ж засталося?»

Ён павярнуўся на другі бок — амаль побач на аўражным схіле, уткнуўшы твар у рукавы, ніцма ляжаў баец. З яго ўшчэнт пасечанага кулямі рэчмяшка выцягнуўся брудны вафельны ручнік, канец якога матляўся ад ветру на нерухомай спіне. Клімаў падцягнуўся і разы два штурхнуў ботам у чорную заскарузлую падэшву валёнка.

— Эй ты! Жывы?

Баец сапраўды варухнуўся, падняў на камандзіра зморана, зашчаціненае, ужо зусім не малады твар.

— Паранены?

— А хто яго... ведае. Не, здаецца. Замарыўся... От жа нарабіў гад... Каб на яго халера...

Баец заварушыўся, стомлена сеў, палез у кішэнь па курыва. Клімаў яго не ведаў (мабыць, ён быў з апошняга папаўнення, якое рота атрымала тры дні назад) і падумаў, што чалавеку для пачатку пашанціла нямала: куль з дзесяць, не меней, прайшло, не зачапіўшы, над самай яго патыліцай.

— Што ж гэта будзе цяпер, га, лейтэнант? Столькі пабіла! На фарміроўку адвядуць ці як?

— Ага, чакай.

— Няўжо ж пакінуць яшчэ?

Чуйна прыслухоўваючыся да таго, што рабілася наверсе, і раскручваючы чырвоную нямецкую маслёнку-партабак, ён з непрыкрытай трывогай глядзеў на камандзіра роты. Занепакоены сваім, Клімаў адной уцалелай рукавіцай збіў пыл з рассечанага асколкам бота.

— Твае як прозвішча? — запытаў ён.

— Маё? Ды прозвішча такое... Дзеўкін.

— Доўга жыць будзеш, Дзеўкін. Азірніся.

— Хто, я?

Намацаўшы ззаду шкоду, баец пачаў бурчэць і лаяцца, а лейтэнант споўз ніжэй, падняўся і пайшоў уздоўж ручая па аўражыне.

Аўражына была даволі глыбокая, але хадзілі ў ёй толькі па адным баку: другі быў пад агнём. Цяпер, аднак, тут папрыціхла, напэўна, ужо ўсе пахаваліся і страляць не стала па кім. У гэтай цішыні стала чуваць, як грахаталі выбухі пад вёскай, дзе вялі бой іншыя роты палка... Па аўражнаму схілу ўніз да ручая спусціўся баец у кароценькім пакамячаным шынялі, тупнуўшы разы два пяткай валёнка, праламаў тонкі лядок і пачаў кацялком зачэрпваць ваду. Ён таксама быў незнаёмы Клімаву. Незнаёмыя цяпер наогул траплялiся ў роце часта — полк шмат дзён у баях, і старых байцоў у ім засталося мала. Ды і сам ён у гэтай роце з'явіўся нядаўна, з тыдзень назад, да гэтага быў у іншым батальёне камандзірам узвода. Боты падварочваліся на касагорыне, ісці было нязручна. Клімаў спусціўся ніжэй да ручая. У аўражным беразе дзе густа, а дзе радзей, накапаным жвірам жаўцелі выдзеўбаныя за мінулую ноч ямкі-акопчыкі. Цяпер некаторыя з іх туліліся ў зямлі пустыя. Над берагам сям-там тузаўся на ветры быльнёг, і ў небе плылі-кудлычыліся шэрыя хмары. Было сцюдзёна, дзень абяцаў непагодзу. Клімаў пераскочыў ручай, следам ззвінелі тонкія ільдзінкі. Тут, ля завароткі, была самая адкрытая мясціна, лейтэнант, увагнуўшы галаву, кінуўся бягом, але ў канцы не ўтрымаўся і азірнуўся на вышыню — у якім кіламетры над шэрымі рытвінамі бруствераў сноўдалі, знікалі і зноў з'яўляліся галовы ў пляскатых касках.

«Сволачы! Не баяцца», — са злосцю падумаў ён, забегшы за паваротак. Хаця, чаго ім было баяцца: боепрыпасаў у роце не хапала, ашчаджалі кожную абойму з тых, што, атрымаўшы па норме, старшына прывозіў уначы ў роту. Лацно немцам. Але хай, да пары, суцешыў сябе лейтэнант, зноў пераскочыў ручаіну. Па нейкай палеглай і вельмі гразкай траве ён перайшоў крывуліну чарговага паваротка і ў задуменні аж схамянуўся ад нечаканай сустрэчы: перад ім стаяў конь. Конь, відаць, быў прыблудны, чужы, не падобны ні на аднаго з чатырох ротных вараных абознікаў, якія, дарэчы, цяпер былі са старшыной у тылах. Спачатку Клімаў махнуў рукой, спрабуючы сагнаць яго з свайго шляху, але конь нават не адрэагаваў на гэтую спробу, толькі трошачкі прыўзняў голаў і з такім анямелым дакорам зірнуў на чалавека сваімі бліскучымі бяздоннымі вачмі, што Клімаву стала няёмка. Ён дакрануўся да яго маршчыністай шыі, натапыраная поўсць з дробнымі белымі плямкамі — слядамі даўніх памулак — зябка здрыганулася на яго хрыбце, конь зрабіў спробу пераступіць, кульгануў і зараз жа падабраў пад сябе заднюю нагу. Пасля ён працяжна, трудна ўздыхнуў. Стараючыся болей не патрывожыць жывёліну, Клімаў праціснуўся па сцяжыне па-за яе боку і, прайшоўшы яшчэ крыху, палез угору, дзе перад гэтай няўдалай атакай пакінуў свой КП з тэлефонам да камандзіра палка.

За ўвесь час адсутнасці камандзіра роты на яго імправізаваным КП у глыбачэзнай старой варонцы на краі рова гаспадарыў тэлефаніст Тарасікаў. Ні наступленне, ні абарона, ні паспяховыя ці няўдалыя атакі — нішто, здавалася, не датычыла гэтага хлопца, які ведаў адзіны свой на вайне клопат, — сувязь. Што б там ні адбывалася навакол, ён, кавалкам бінта прывязаўшы да вуха трубку, карпеў над старэнькім УНФ, слухаючы і баючыся толькі за свой даўжэзны, безліч разоў ірваны і вязаны-перавязаны провад. Крыху вышэй за яго на апаражненай жалезнай шпульцы сядзеў ягоны напарнік — маўклівы з рабым тварам сувязіст, перад наступленнем прысланы да аўтаматчыкаў з роты сувязі.

Абрушваючы з берагоў варонкі падмерзлую зямлю, Клімаў ссунуўся ў яе дно на тоўстую заследжаную льдзіну. Тарасікаў як рупны падначалены пры з'яўленні начальства неяк няўлоўна падабраўся нутром, прыўзняўся, прыўстаў на каленях і крануў ручку апарата.

— Як сувязь? — прывычна кінуў Клімаў, і Тарасікаў з бадзёрай гатоўнасцю, тонам, у якім чулася трошкі выхвальнае «а як жа інакш», падхапіў:

— Ёсць, таварыш лейтэнант, — і, стрэльнуўшы на камандзіра прыгожымі выразнымі вачмі выхаванага, чуйнага хлопца, дадаў: — Тут вас дваццаць першы пытаўся.

— Даўно?

— Хвілін дзесяць.

Клімаў даўлянуў на шчоках жаўлакі і, укленчыўшы на адно калена, пад адтапыранае вуха шапкі сунуў канец трубкі. Пакуль у трубцы шчоўкалі кантакты пераключэнняў, Клімава абдало духмяным араматам махоркі, ён ускінуў голаў і моўчкі працягнуў руку да сувязіста. Той паспешліва адкусіў канец недакурка, выплюнуў яго. Клімаў зручней сеў ля апарата: са дзве зацяжкі калі не зусім супакоілі яго, дык усё ж пасобілі сабрацца перад непрыемнай размовай.

— Пашы не было тут? — усё яшчэ чакаючы з трубкай ля вуха, запытаў ён Тарасікава, які глыбей забіваў у зямлю стары паіржавелы штых, што служыў зазямленнем.

— Не, не было.

Нарэшце ў трубцы шчоўкнула, буркнула, Клімаў засяродзіўся ўсім сваім вельмі брывастым, вельмі абсівераным і ўсё ж, не зважаючы на гэта, маладым тварам.

— Слухаю, таварыш дваццаць першы.

— Што? Клімаў, ты? Што гэта ў вас сціхла там? Чаму не дакладваеш? Вышыня ўзята?

Клімаў зноў выдавіў на шархоткіх шчоках жаўлакі, рука яго намацала ў пале паўшубка дзірку, і пальцы з сілай ірванулі павіслы з белай паўсцёй мэтлах скуры.

— Алё! Далажы, як вышыня.

— Вышыня на месцы.

— Га? Алё! Што цябе дрэнна чуваць? Як вышыня, я пытаюся?

— Возьмем вышыню.

— Што? Возьмем? Ага, возьмем! — голас у трубцы адразу зрабіўся пагрозліва-з'едлівы. — Да вас што, толькі цяпер загад да розуму дайшоў...

Угары раптам грымотна трэснула, Клімаў інстынктыўна хіснуўся ніжэй да апарата, зірнуўшы з-пад локця ў неба, — над ровам плыло невялічкае рудае воблачка брызантнага разрыву. Камандзір палка яшчэ нешта казаў, але Клімаў зноў не пачуў, аглушаны новым, яшчэ больш блізкім разрывам. У доле наўкола бы хто сыпануў жменяю дробных каменьчыкаў — пыхнулі і прапалі пад ветрам сотні пыльных дымкоў.

— Малакасосы! Спалохаліся дзясятка вшывых фрыцаў! Аўтаматчык[і] мне называецца! Куча дрэні вы пасля гэтага. Вы... — далёкім злым голасам шархацела трубка.

Клімаў апусціў на калені трубку і, безуважны да яе шорхату, пацягнуў бычок.

Але ў гэты раз над ровам зноў аглушальна трэснула, і вецер хутка пагнаў прэч новае воблачка. «Прыстрэльваюць, — падумаў Клімаў.

— Цяпер будзе». Прыўзняўшы ў паветра трубку, ён спачатку не зразумеў, чаго гэта маўклівы тэлефаніст бокам ссунуўся на яго, прываліўся да пляча, галава яго ўпала на руку з трубкай, і лейтэнант схамянуўся толькі, калі струмені крыві пабеглі па яго штанах. Аднае рукой Клімаў згроб сувязіста, адхінуў назад і тут жа адхіснуўся сам — уся скроня байца была разварочана асколкам, з страшнае раны на твар, плечы зашмальцаванай ватоўкі і на лейтэнантаў паўшубак лілася кроў. Клімаў вылаяўся і з усяе сілы ляпнуў на лёд недакурак.

— Дабяруся!.. — крычала трубка, калі Клімаў зноў прыклаў яе да вуха пад ссунутай набок шапкай. Гнеўныя, злыя, несправядлівыя словы, якія за хвіліну да гэтага выклікалі ў ім толькі прыкрасць, цяпер узарвалі яго.

— А што вы крычыце! Я не палахлівы! І не для вас ваюю! Вось! А вышыню — не горш за вас ведаю, што трэба ўзяць. Але вунь шпокаўка не дае.

— Во-во, так і ведаў! Дрэннаму танцору, ведаеш, што заўжды перашкаджае? Якая гэта яшчэ ў цябе шпокаўка?

— У немцаў, не ў мяне. Дваццацімілімятровая аўтаматычная гармата, вось! З фланга, ад Сахно. Ды кулямётаў няма ўжо, адзін ручнік застаўся. А ў іх шэсць на вышыні. Ды яшчэ шрапнеллю лупяць, — скарыстаўшы нечаканую паўзу ў камандзіравай лаянцы, скардзіўся Клімаў. — А ў маіх па тры абоймы на вінтоўку ды па дыску на аўтамат. Чым браць, скажыце?

— Расплакаўся! Чым браць? Чым вунь Сахно бярэ? Чым Кузняцоў наступае? Храбрасцю! Гераізмам! Адвагай! Чуеш, які бой ідзе? Пад самай вёскай ужо. А ў іх па адной абойме на ствол. Сам праверыў. Затое ўмеюць. І не пушчаюць у штаны, як вы!

— Няма каму пушчаць, — гэтакім жа сварлівым тонам адказваў лейтэнант. — Трыццаць чалавек засталося. Ад усёй роты.

— От здзівіў: трыццаць чалавек! Вунь у Сахно па дваццаць у роце, і то не скардзіцца.

— Ну, у мяне яшчэ да гэтага не дайшло!

— Мяккацеласць праяўляеш, таварыш камандзір роты. У жаласць іграеш. Вайна ідзе, лейтэнант! Нечага шкадаваць для перамогі! Дывізіі гінуць! — перайшоў ужо на крык маёр і раптам закашляўся. Адкашляўшыся ж пасля паўзы, ужо мякчэй аб'явіў:

— Ладна, Клімаў. Карандашоў падкіну. Сёння зноў атрымаем. Прама з марша. Семак не прасі. Няма. А карандашы будуць. Ну, але і я з цябе скуру здзяру, калі ты мне да дванаццаці нуль-нуль не возьмеш вышыню.

— Немцы скарэй здзяруць. Яны бліжай, — сказаў лейтэнант, але трубка ўжо змоўкла, і ён паклаў яе ў апарат.

Нейкі час ён сядзеў, утаропіўшы вочы і не бачачы нічога, апроч дробных пыльных струменьчыкаў крыві, якія з-пад цела забітага хутка паўзлі-каціліся на затаптаную плаху лёду ў дне варонкі. Хутка астываючы, кроў слаба парыла рэшткамі апошняга цяпла, побач сінім дымком струменіў у паветры недакураны «бычок». Лейтэнант дзеўбануў яго наском бота і выскачыў з варонкі ў роў.

Назад да свайго ланцуга Клімаў ішоў, не разбіраючы ўжо, дзе сцежка, дзе ручай, а дзе адкрыта і прастрэльваюць немцы. Аднесіны да сябе з нейкага часу зноў сталі абыякавыя. Паўгадзіны назад ён бег з вышыні ў гэты роў, падаў, выкручваўся між разрываў, з усяе мочы стараючыся, як і ўсе, уберагчы сябе ад кулі або асколка, бо ў гэтым была найбліжэйшая небяспека і найбольшы клопат. Цяпер жа, разглаваны і расстроены сваркай з начальствам, ён ураз згубіў усю ашчаднасць да сябе. Гэта было незразумела і дзіўна, каб задумацца аб тым, але думаць не было калі.

Агнявы бой на ўчастку суседняга батальёна Сахно ішоў без асаблівай сілы: тузалі паветра мінныя выбухі, гудзела зямля, кулямётная траскатня перамежвалася таропкім нязладным буханнем вінтовак. «Не падобна, каб Сахно дужа прасунуўся, — услухаўшыся, падумаў Клімаў. — Топчацца перад самай вёскай». Вядома, у такім становішчы яму нямала пасобіла, каб рота аўтаматчыкаў узяла гэтую праклятую вышыню. Але зноў жа, калі Сахно возьме вёску, тады лягчэй будзе ўзяць і вышыню. Вось табе і зачараванае кола, і разарваць яго якой хітрасцю наўрад ці магчыма.

Насустрач яму ўздоўж ручаіны бег нізенькі, як здалося Клімаву, дужа шустры баец. Каска сядзела на яго галаве неяк бокам, каўнер шынялка быў пастаўлены, і зашмальцаваныя палявыя ромбікі пятліц, бы рожкі, тырчэлі ад падбародка. У абодвух руках падмышкамі баец трымаў распораты цынкі ад патронаў.

— З якога ўзвода? — запытаў Клімаў. Баец паслухмяна спыніўся.

— З першага, таварыш лейтэнант.

— Дзе Смірноў?

Баец прастадушна паціснуў плячмі.

— Хто яго ведае. Мусіць, там, — кіўнуў ён на вышыню. — Не прыбег.

Клімаў прамаўчаў, пасля кіўнуў на цынкі.

— Многа далі?

— Дзе там! Мала, — ахвотна, як пра балючае, загаварыў баец. — Паўсотню на ўсіх. Ды во яшчэ пяць фенек, — ён трасянуў цынку — і ў ёй важка грукнулі жалезам гранаты.

— Запалы не забыўся?

— Не. Во, — нязручна штурхнуў ён нагой абвіслую кішэню.



— Адразу ж зарадзіць. Магазіны таксама. Рыхтуйцеся да атакі.

Баец насцярожана ўскінуў голаў, з твару яго адразу знікла кароценькая бадзёрасць ад гэтай сустрэчы і камандзіравай увагі да яго спраў, дзве дробненькія зморшчыны скранулі яго абсiверанае пераноссе.

— Ёсць, — вяла прагаварыў ён і, чагосьці яшчэ чакаючы ад лейтэнанта, не ішоў, а глядзеў яму ўслед. Клімаў адчуваў гэтае замяшанне і гэты позірк, але не азірнуўся, каб не размякчаць свае халоднай суровасці, і на хаду кінуў:

— Сам павяду ўзвод.

Баец нявесела падабраў цынкі і пабрыў далей, а Клімаў, прыпыніўшыся, выцягнуў за цэпку з-пад палы гадзіннік: было без чвэрці дзесяць.

Ён пайшоў далей у трэці ўзвод, якім камандаваў малодшы лейтэнант Грэчка. Гэта быў цяпер адзіны камандзір узвода ва ўсёй роце. Што ён жывы, Клімаў ведаў пэўна, бо, бегучы з вышыні, бачыў, як трэці ўзвод раней за іншых паспеў схавацца ў рове і такім чынам найменш пацярпеў у той няўдалай атацы. Грэчка тады на беразе рова ўсё размахваў сваім ППД, аж покуль апошні баец яго не ўкрыўся ад агню.

Гэта было крыху на водшыбе ў тым канцы рова, які сама бліжай падступаў пад вёску з тае ўедлівай, такой ашалела-бязлітаснай гарматай. Роў тут рабіўся вузейшы і, мабыць, глыбейшы — голыя глiністыя абрывы зусім сціснулі замерзлую ручаіну, якая брала адсюль свой пачатак. Грэчкаўцы, відаць, акапваліся — з берага ўніз сыпалася зямля, і відаць было, як раз-пораз выляталі адтуль рассыпістыя лапаткі глею. «Ужо акапваюцца! Якія спрытныя», — злосна падумаў Клімаў. Ён ускарабкаўся па жорсткай калючай, бы наждак, кручы, крыху прайшоў і запытаўся ў байца ў ямцы, што назіраў за вышынёй, дзе камандзір. Баец паказаў у акоп за вымаінай, адкуль у паветра часта выляталі камякі зямлі.

Клімаў добра ўгрэўся, пакуль пералез тую вымаіну і дабраўся да ўзводнага. Грэчка так улёг у сваю працу, што не заўважыў ротнага і ўжо на самым брустверы ўссыпаў яму на шапку поўную лапату зямлі. Бокам прысеўшы на глей, Клімаў страхнуў яе ў акоп.

— А ну, вылазь сюды.

З акопчыка паказаўся разагрэты працай, белабрысы, з крутаватым падбародкам твар, на якім адзначыліся незадаволенасць і запытанне. Убачыўшы, аднак, Клімава, узводны адкінуў лапатку і лёгка выскачыў наверх. Гэта быў камлюкаваты, тугаплечы крапак, распрануты да гімнасцёркі з расшпіленым адкладным каўнярам, на чырвонаармейскіх пятліцах якой нечая няўмелая рука белаю ніткай насцягала па кубіку. На грудзях хлопца бліскаў ордэн Чырвонага Сцяга.

— Во вырый, ніякая шрапнель не возьме, — аддыхваючыся і папраўляючы на рамяні чорны кабур трафейнага парабелума, сказаў ён. Затым накінуў ватоўку і апусціўся побач з лейтэнантам. Клімаў без цікавасці зазірнуў у акопчык.

— Возьме. Рыхтуй узвод да атакі.

Грэчкавы рукі замерлі на захінутых краях ватоўкі.

— Які ўзвод?

— Свой.

— Зноў?

— Зноў.

Грэчка змоўк, не спускаючы позірка з Клімава, затым ляпнуў нагой у ком глею, які, падскокваючы і трушчачыся ў драбязу, пакаціўся ў роў.

— Не павяду. Хай вунь Сахно тую балаболку ўбярэ. Тады пайду.

Клімаў зламаў высахлую сцяблiну быльнёгу і раструшчыў яе ў пальцах.

— Пойдзеш на левым фланзе. Ад ляска. Так паспрабуем.

— Пайшлі яны да д'ябла. Усе на роце аўтаматчыкаў выязджаюць. У мяне галава не затычка. Як-ніяк жыць хочацца.

Ён ускочыў, адышоўся вышай і сеў на накапаную зямлю тварам да вёскі. Пэўна, з вышыні заўважылі нейкі рух тут, і кароткая кулямётная чарга пранізала паветра над самымі іх галовамі; на тым баку рова з кручы пасыпалася жарства. Грэчка, спахапіўшыся, упаў на бок, Клімаў сеў ніжай. Чарга змоўкла. Настала няёмкая для абодвух паўза. Клімаў пазіраў кудысь на пагоркі па той бок рова. Яршыстая ўпартасць Грэчкі яго не здзівіла. Гэты малодшы лейтэнант быў самы трудны з усіх узводных у роце, Клімаў ведаў яго яшчэ з фарміроўкі, пазнаёміўшыся, калі яшчэ сам быў камандзірам узвода. Стаўшы ротным і не раз сутыкнуўшыся з ім, лейтэнант адчуў, што найлепшае, што можна супрацьпаставіць яго ўпартасці, гэта неаслабная суровая цвёрдасць. Вядома, ён мог бы і проста загадваць, не дапускаючы абмеркавання, але таго не хацеў, бо ўсё ж як-ніяк яны былі знаёмыя, свае хлопцы, і думалася, што можна абысціся без гэтага, па-сяброўску.

— Паспрабуем ад лесу, — сказаў ён, коратка зірнуўшы на ўзводнага. — Там шпокаўка не дастане. Ад вёскі ёй не відно. Праўда, так будзе далей. За адзін брасок не адолееш. Але паспрабуем.

Грэчка стаў на калені і рэзкімі нярвовымі рухамі ўздзеў у рукавы ватоўку. Твар яго гарэў ад абурэння і нязгоды, светлыя вочы пад белымі брывамі зыркалі халодным агнём.

— Так даспрабуешся, што ў роце нікога не застанецца. Людзей па-дурному нішчыць. Брухамі глыжы церці. Да дурыкаў надакучыла гэта. Ісці дык ісці. А то туды, як чарвякі, а адтуль, як зайцы, — бурчэў ён, не пазіраючы на камандзіра. І раптам загаварыў гучна і рэзка:

— Зноў жа патронаў няма. З чым ісці? Па тры абоймы на вінтоўку. Аўтаматных па жмені.

— У Сахно вунь па адной засталося.

— Мне Сахно не ўказ. Хай аб тым у самога галава баліць. І што ты не растлумачыш капэ? — так ён зваў камандзіра палка.

— Ты кулямёт зберажы, — казаў Клімаў сваё. — Апошні застаўся. Дыскі з чатыры збяры для яго.

— Што ты яму не ўтлумачыш, кажу? Дрэйфіш? Ты яшчэ яго не ведаеш: паддасіся, дык ён цябе заганяе. Дай я з ім пагавару. Я ў яго артпадрыхтоўкі патрабую…

Грэчка раптам ускочыў з гліны і [падаўся] да бруствера за аўтаматам. Клімаў крыва ўсміхнуўся аднымі вуснамі.

— Што тлумачыць? Усё растлумачыў.

Працяг на стар. 18 (6) »

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8–9 (180–181) | 13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741) Новы час

# Жалезны камандзір

« Працяг.
Пачатак на стар. 16 (4)



Грэчка спынілася на схіле.

— Ну?

— Ну і ну. Загадаў атакаваць.

Малодшы лейтэнант плюнуў і вяла апусціўся на зямлю. Памаўчалі. Пасля ўзводны насцярожана зірнуў убок цераз голаў Клімава.

— Сібірачка чэша, — зусім другім тонам — сцішана і без следу злосці сказаў ён. Клімаў таксама азірнуўся і паспешліва захінуў падраныя полы паўшубка. Унізе ўздоўж ручая торапка ішла сюды Паша.

Абодва камандзіры некалькі часу глядзелі ўніз на кароценькую дзявочую постаць у падрэзаным і туга падпяразаным дзягай шынялі, касцы, непамерна вялікай на яе галаве. Паша была тоўсценькая, з празмерна поўнымі сцёгнамі; пераскокваючы рытвіны і камяні, яна няспрытна закідвала ўбакі ногі і размахвала адной рукой, прытрымліваючы другой на баку сваю таўшчэзную санінструктарскую сумку. Лейтэнанты змоўклі, назіраючы, як дзяўчына ўскарабкаецца па крутым адхоне, як, узлезшы, папраўляе споўзлую на лоб каску і расслабленым змораным крокам падыходзіць да іх. Яе шырокі, быццам расплюснуты твар, як заўжды ззяў здаровай маладой чырванню, адзінай адзнакай дзявочага хараства, якім так скупа надзяліла прырода гэту дзяўчыну.

Яна падышла да Клімава.

— Вы мяне шукалі?

Клімаў, зірнуўшы на яе, апатычна адвёў позірк.

— Я не шукаў.

Паша ссунула наперад сумку і стомлена апусцілася побач.

— А я з раненымі завазілася. Пакуль пасцягвала... Ой, і вы паранены! — спахапілася яна, убачыўшы яго парваныя полы.

— Не паранены, — няласкава адказаў Клімаў.

— Кроў жа...

— Кроў чужая. Тэлефаніста з роты сувязі...

Паша адкінулася на каленях і нахмурыла рэдкія броўкі.

— Што, памочнік смерці, многа мілёнкаў забінтавала? — грубавата запытаў у яе Грэчка. Паша ўздыхнула.

— Дванаццаць чалавек. Трое ляжаць: цяжкія. Ноччу трэба эвакуіраваць. Хайрудзінаў памёр. Толькі перавязала, гляджу, ужо ўсё. А Сокалаў на дарозе застаўся. Спачатку поўз яшчэ. Я — да яго, а яны з кулямёта. Дапаўзла — ужо гатовы.

— Сволачы, такую іх!.. — не зважаючы на прысутнасць жанчыны, салёна вылаяўся Грэчка. Паша заламала бровы і пачала скубсці з долу сухую леташнюю траву. Вецер падхопліваў яе з апэцканых ёдам пальцаў і кружыў над ровам. На Клімавым твары пульсавалі жаўлакі.

— Значыць перавядзеш узвод на той фланг, — закалянеўшы нахмураным тварам, сказаў ён. — Праз гадзіну пачнем.

Грэчка падняўся на калені і, асабліва злы ў свае зацятай маўклівасці, пачаў зашпільваць рамень на ватоўцы, пасля моўчкі падабраў з бруствера ППД і палез у акопчык па гранаты і сумку. Калі ён схаваўся ў зямлі, Клімаў таксама ўстаў, папраў на плячах свае кавалерыйскія партупеі і пачаў торапка збягаць уніз. За ім з асцярогай, рызыкуючы ўпасці, пайшла Паша.

За некалькі хвілін да атакі ён ляжаў на краі абрыву і пазіраў у канец рова пад лес, дзе Грэчка павінен быў падаць умоўны сігнал аб гатоўнасці яго ўзвода. Ззаду ў двух кроках ад яго, саставіўшы з кручы ногі, сядзела Паша і па свайму звычаю калупала шчэпкай зямлю.

Ішлі апошнія хвіліны цішыні, хутка, ведаў ён, яна знікне, на тысячы асколкаў расколецца громамі бою, небяспекі, і тысячы смерцяў пачнуць сляпа сцябаць зямлю ў пошуках гэтых трыццаці шасці жыццяў, якія замерлі, сталіся і нацэліліся цяпер на вышыню.

— Віця! Ну што, табе абавязкова весці ўзвод? Табе ж ротай камандаваць трэба. Можна б і не лезці на самы ражон — кулямёты ж, яны па ланцугу б'юць.

За ровам да пары свайго часу бруяў наліты вясновымі сокамі лес, вытаяўшы з-пад снегу, ажывала гатовая да сваёй адвечнае справы зямля. З кожным днём увачавідкі меншалі снегавыя лапікі — рэшткі па аўражынах, на падлесках, марнеў-падтайваў гразкі змутнелы лёд на забалаціх. Ішла вясна, першая вясна вайны. Праўда, пакуль было холадна, абцяжарвалася неба ад хмар, дзьмуў, не сціхаючы, рэзкі вецер, на мёрзлым доле прабірала да дрыжыкаў. Сцюжа і смерць. Сцюжа і смерць — вось што найбольш запомнілася з гэтай цяжкай, пакутна бясконцай зімы. І разам слабенькім балючым светлячком ліпела надзея — неспатольная, пастаянная, вялікая і меншая, слабая і мацнейшая — на круты паварот да перамогі ў гэтай несціханай калатнечы людзей са злом.

— Віць, а Віць... Ты чуеш?

— Чую, ну што? — з прыкрасцю павярнуў ён галаву да дзяўчыны. Скасіўшы вочы, тая злавіла яго кароткі позірк і ўсміхнулася з затоеным сумам.

— Нічога ты не чуеш. Пра другое думаеш.

— Ладна. Чакай. Каб сігнал не прагледзець.

— Давай трошачкі адстанем. Га? Як да дарогі дабяруцца, тады пойдзем, — з болем і сумам, не верачы ў тое, што яе паслухаюць, гаварыла Паша. Клімаў прыўзняў галаву.

— А ну паглядзі туды. Не махае?

Яны абодва ўгледзеліся ў канец рова, над якім залеглі, ужо не акапваючыся, аўтаматчыкі трэцяга ўзвода. Відаць было, як там нехта перабягаў ад аднаго байца да другога, пасля нехта з абрыву спускаўся ўніз. Не, сігналаў адтуль пакуль не давалі.

І будзе сонца на зямлі, і згіне сцюжа, і заззяе шчасце перамогі, і знікне з зямлі крывавая чума — фашызм. Толькі той час ужо не для іх. Вельмі мудрона выжыць у такой вайне, у такой пякельнай віхуры смерцяў — так мудра, што і не варта дбаць аб тым — дарма і недарэчна. Гэтую ісціну Клімаў усвоіў даўно — іншай у яго не было. А была толькі справа кожнага дня і задачы, якія трэба было выконваць, было начальства і немцы — яны дыктавалі, вызначалі, усё ў яго ным жыцці залежала ад іх.

— Вунь я некалі служыла ў другім батальёне. Там ротны быў Сіязаў. Дык ён усю восень з акопа пракамандаваў. Залягуць дзе байцы — адразу яму акоп. Два ардынарцы былі. Здаровыя такія дзецюкі, усё капалі, капалі, — лілася ў напружанай цішы ціхенькая, добразычлівая гаворка дзяўчыны. Клімаў, не адрываючы позірка ад Грэчкавага ўзвода, намацаў і расшпіліў на баку кабур.

— Ну і што ж гэты Сіязаў? Дзе ён?

— Цяпер няма ўжо. Пад Кашырыным забіла.

— Ну вось. А гаворыш: капалі.

— Дзівак! Дык то выпадак. Ноччу на маршы былі. За дзесяць кіламетраў ад перадавой. Самалёты бамбілі і — асколкам.

— Вось іменна.

Шэсць кулямётаў, зараджаных і нацэленых у іх, стаяць на вышыні, варушыцца дзясятак аўтаматчыкаў. Вінтоўкі. Дзесьці стаілася да часу батарэя, гатовая абрынуць на іх шрапнель. Чакаюць. Боепрыпасаў ім не шкада. У немцаў іх многа. Віхура агню і жалеза запяне на гэтым касагорыстым лапіку зямлі, наўскасяк перарэзанай вузенькім, стаптаным жывёлай прасёлкам. Летась тут было збожжа, была сяўба і жніво, быў хлеб. Цяпер будзе іншае жніво без сяўбы. Трыццаць шэсць страхаў чакаюць таго — за сваё слабае, такое падаткае пад жалезам цела, такое хліпкае сваё жыццё. І для кагосьці гэта ўжо апошні ранак, апошняя пядзя жыцця, апошні рубеж яго жыццёвага шляху. Толькі для каго? — вось якім праклятым і нікім ніколі не разгаданым пытаннем мучыць ад веку людзей вайна.

Але — трэба.

Трэба. Інакш нельга. Грукочыць, вурчыць, іржэцца ў вёсцы, джгаюць агністымі струменямі кулі, ірве цела метал. А трэба. Трэба ісці зноў туды, дзе ўжо ганялася смерць і за імі і дзе ляжаць вунь на іржышчы нерухомых бугаркі таварышаў. Трэба.

— Ты вось што, Паша, — не паварочваючыся да дзяўчыны, сцішаным голасам сказаў Клімаў. — Ты прыйдзеш пасля. На вышыню. Цяпер пабудзь тут, з раненымі.

Паша грэбліва фыркнула, наморшчыла загнуты піпачкай носік, твар яе ад таго стаў яшчэ больш непрыгожы — дурнаваты і плаксівы.

— Во яшчэ. І не падумаю. Я ад цябе сёння не адстану.

Ён павярнуў галаву.

— Надумалася. А як жа другія? Раненыя ж будуць.

— Во я іх і дагледжу. Як вышыню возьмем. Так жа ты хацеў?

Клімаў махнуў рукой і зноў распластаўся ніц.

— З табой дагаворышся! Толькі вунь байцы глядзяць. Думаюць, да ротнага як прыліпла.

— Я не прыліпла.

Усё нішто. Усё можна стрываць. Трэба стрываць. Калі б толькі болей сілы. Болей магчымасці і болей справядлівасці. Рускі чалавек усё можа, усё ўмее, усё здолее, толькі трэба яму болей чалавечнасці ці што. Людскасці. Каб без крыку, без гарлапанства. Душэўней бы. І патронаў. І зброі болей. Тэхнікі. Дужа цяжка так: штыком і прыкладам. Перад вайной гаварылі: усё ёсць. Усіх пераможам. Любога агрэсара разаб'ём на яго ж зямлі. Варашылаў падлічваў шчыльнасць куль на кіламетр фронту, параўноўваў. У нас атрымлівалася за ўсе арміі больш. Яму апладзіравалі. Тым ганарыліся. У вучылішчах вывучалі тактыку наступлення, менш абароны. Адступаць ніхто не вучыў: у Чырвонай арміі адступленне не прадугледжвалася. Вінтоўка СВТ выдавалася за лепшую ў свеце. Аўтаматы забракавалі. На вайне за ўсё гэта расплаціліся. Тыя, хто быў не віноўны ні ў чым. Заплацілі крывёю.

— Я не прыліпла.

— Што?

— Я не прыліпла. Калі так — то і не трэба. Я не ліпучка...

На абрыве зашуршэў глей, Клімаў азірнуўся. Паша, узмахваючы ўскінутымі рукамі, хутка, не разбіраючы шляху, збягала ўніз. Ззаду, шырока разышоўшыся ў разрэзе, хуценька матляліся полы кароценькай яе шынелкі.

— Ну і бяжы! Падумаеш!

— Устаць! Наперад!

Усё, што было дасюль — усе перажыванні, сумненні, клопаты — усё адляцела, знікла, быццам адсечанае назаўжды, засталося ў беззваротным былым. Наступіла новая часіна, пара новага быцця на страшным і няпэўным рубяжы жыцця і смерці.

Клімаў ускочыў, зірнуў у адзін бок, у другі, улавіў позіркам, як здрыгануўся нерухомы да гэтага рэдкі ланцужок яго аўтаматчыкаў і ірвануўся ў ветраную прастору поля.

Некалькі крокаў ён бег, але потым адчуў, што апярэдзіў іншых, і прытрымаў крок. Бліжэйшыя ад яго байцы ўжо ўсталі і беглі, уставалі дальнія. Густаватай купкай высыпаў зводдаль узвод Грэчкі.

Вецер шкуматаў полы паўшубка, сцябаў па твары матузамі ад шапкі, але Клімаў не прыкмячаў таго — бег. Адна толькі думка кіравала цяпер усім — хутчэй! Хутчэй, пакуль не ўдарылі немцы, пакуль ціха, прабегчы б לішні хоць дзясятак метраў да гэтай вышыні, куды — ведаў ён — шлях вось-вось абарвецца мукай і потам. Кожная часцінка ягонага цела сціскалася, напружылася і чакала гэтага гатовага вось-вось грымнуць удару.

— Шась, шась... шась, шась, — мялі струхлелы іржэўнік боты, валёнкі, гамашы з абмоткамі, каляныя англійскія бацінкі, тупацелі трыццаць шэсць пар ног. Клімаў ужо ўвесь да самых пят выбег на адкрытае, убачыў перакапаную траншэяй вышыню — усю, ад лесу да пакатага схілу ў вёску, згледзеў, як матлянуліся там у баку пляскатыя каскі, і ў той час вецер данёс слабы далёкі крык:

— Фойе...

Канец яго пакрыўся трэскатам дзясяткаў стваловў.

— Нічога, нічога, — казаў лейтэнант, не ведаючы каму — ні то сабе, ні то каму іншаму, хоць у громе і стукатні стрэлаў і сам не пачуў сваіх слоў. Кулі густа нізалі паветра, зыкалі, вірашчэлі, на ўсе галасы скуголілі над зямлёй. Здавалася, нейкія нябачныя рукі тузалі за нябачныя даўжэзныя струны, туга напятыя ў паднябессі.

Шквал агню з вышыні адразу прыгнуў людзей да зямлі, нехта ўжо ўпаў. Клімаў адчуў, што патрэбен рывок, інакш рота заляжа. Падхоплены ўласнай рашучасцю, ён выскачыў наперад, ускінуў угору рукі — адну з пісталетам на вузенькім раменьчыку, а другой проста кулак і, азірнуўшыся назад да сваіх, закрычаў:

— Бягом! Бягом!!!

І, не аглядваючыся больш, што было сілы пабег.

[1962?]

# Радкі любові



Данута БІЧЭЛЬ

### У Курапатах

*Выбіраеш свой шлях? Выбірай!*
*З апраметнай не трапіш у рай!*
*З Курапатаў шлях — на той свет,*
*а цяпер там спраўляюць банкет.*

*Скачуць чэрці ў гасцях на касцях*
*нявінна забітых людзей…*

*…Жывыя за рукі трымаюць дзяцей…*
*Дзеці трымаюць сцяг.*
*Немаўляты, таму што анёлы…*
*тармозяць чортавы колы!*

*У чарцей шмат іншых хадоў —*
*іх машыны заводзяцца зноў…*
*Нібы град, арда чарцянят*
*на крывавых касцях Курапат.*

*…Беларусь у яме маўчыць…*
*Вам смачна жэрці і піць, —*
*хто святую памяць Яе*
*за юдаў мядзяк прадае?*

*…Мара, Давід і Франак,*
*Ян, Якуб і Сымон…*
*у жывым ланцугу перад ямай:*
*— Вымятайцеся, чэрці, вон!*

*На магілах не сеюць пшаніцы!?*
*Курапаты — дарога ў нябыт.*
*Крыж Хрыста па нявінна забітых*
*з татам уздымае Давід.*

*Хто скрыўдзіў мяне адну —*
*таго старaной абміну…*

*Хто зняважыў наш род і сцяг —*
*таму люцыфер суддзя!*
*За здзек над касцямі без трун —*
*няхай пакарае пярун!*

### Радкі любові

*Пад збаўленчую музыку ціішы*
*прачынаюся на гарышчы,*
*праз шчылінку месячык з неба*
*цалуе вуснамі таты.*
*Праз стрэху ляцець страшнавата…*
*Усё само адбудзецца неяк…*

*Абы Ты, мая Ластаўка ў стрэсе,*
*маё сунічнае ўзлессе,*
*Галубка мая, Свіцязянка,*
*аднаўлялася з ранку да ранку.*

*Каб Дняпра і Нёмана хвалі*
*з любоўю цябе цалавалі,*
*чыстыя хмаркі і росы*
*сукруху з сэрца змывалі.*

*Радзіма, на мапе нябёсаў*
*адбітак Божай далонькі.*
*Цень ад далонькі Божай*
*на мапе зямелькі босай…*

### Заполле

Светлай памяці Алеся Зайкі

*Я думала: наша Заполле*
*ад Ліды да Косава,*
*там канюшыну косяць*
*літоўкамі-косамі,*
*каб не параніць пчолак…*
*А сябра Алесь Зайка*
*заблукаўся паміж вясёлак…*

*Прачынаецца ў паднябессі,*
*на крылцах школьных анёлаў,*
*у горы палескай сям'і,*
*у смутку духоўнай радні…*
*У памяці тэлефона*
*шчэ захаваўся Ваш голас…*
*Вы адгукаліся зрэдку…*

*Таму і прашу:*
*— Пазвані!*

*Пазваніце мне з таго свету,*
*сябра Алесь Зайка!*
*Як там на Божай градцы*
*зернем сябе пасеялі?*
*Няўжо і там мы заціснуты*
*між Польшчаю і Расеяй?*
*— Яны думаюць, што мы*
*ўгнаенне,*
*але мы тут насенне!*

*Пакуль не памерлі словы*
*ў агародах вясковых,*
*пакуль жыву, буду памятаць*
*Ваш голас, бадзёры самы:*
*— Калі ёсць рай на небе,*
*то насельнікі яго — нашы мамы.*

*Як збіралі Вы тут,*
*як выцягвалі з багны на груд,*
*абціраючы бруд,*
*моўны скарб, гэты цуд,*
*што бабулі пакінулі нам, —*
*так збірайце і там*
*непамерлыя словы,*
*і замест тэлеграм,*
*там, пры Богу, прыдумайце спосаб,*
*як вярнуць нашу мову адтуль.*

### Натхненне

*З рэўнасці, па маладосці,*
*нехта некаму пазайздросціў…*
*Злосная, як запалак,*
*распаліла пажар ад сварак.*

*Вось такое здарэнне…*

*На прымірэнне*
*яна пасылае яго*
*на бязлюдную выспу…*
*Ён павінен сваё натхненне*
*на выспе на досвітку высыпаць…*
*І каб аніхто не ўбачыў…*

*А Паэт усё перайначыў!*
*Захацеў так жыць,*
*каб натхненне*
*не з'яўлялася на імгненне,*
*а пасялілася ў сэрцы*
*ад нараджэння да смерці,*
*і без перасялення*
*заняло ўсяго сэрца абшар…*
*І няхай там палае пажар!*

*Так навучыцца трываць,*
*усё па-свойму мяняць,*
*і кожнае імгненне мяняцца,*
*ёй, адзінай, жыццё аддаць,*
*нікому больш не здавацца.*

### Экспромт пасля кароткага сну

*Ва ўсіх вялікіх хаты спалілі.*
*Залічаю сама сябе да вялікіх…*

*Мама, тата, вы ў маім сне,*
*падобныя да спарыша…*
*Спынены час глыбока на дне,*
*і вечная з пяткаў душа…*

*Прыходзіце сном*
*з няспаленай хаты,*
*знікаеце зноў*
*за свае небагляды…*
*і анігадкі…*
*Болей наш кроцік не поле*
*вольныя градкі.*

*Высахлі ў лесе суніцы…*
*Мама, тата,*
*не ўздумайце мне не сніцца…*
*Не шкадуйце вы мае вочы,*
*няхай плачуць…*
*Не шкадуйце вы маё сэрца,*
*няхай б'ецца!*



Фота radzima.org

### Галіне Скарына,

сяброўцы Ніны Мацяш

*Белым кветам адзета каліна…*
*У Белым возеры белы глей.*
*Унучка Францішка Скарыны Галіна*
*з продкам святкуе свой юбілей.*

*У Белым моры ёсць цёмнае месца,*
*там гадуецца зграя гадзюк.*
*Гады, чуеце добрае сэрца*
*і пяшчоту Галініных рук?!*

*Нават смутак з'яўляцца рэдка*
*паміж светлых хвілін пачуцця.*
*На руках у Галіны — паэтка,*
*усё жыццё, як малое дзіця.*

*Адбалеліся слоўцы Ніціны…*
*Хвалі, воблакі, белы птах…*
*А нашчадкі Францішка Скарыны*
*прадаўжаюць Скарынаў шлях!*

### Алег Лойка

*Прафесар юнацкіх душаў!*
*Калі гора прымусіла ампутаваць нагу,*
*ніхто з яго вучняў не адгукнуўся*
*забытым словам:*
*— Дапамагу!*

*Паслухалі, выйшлі — жывуць, як чужыя…*
*Дўшы да ўлады чужой перашылі…*
*А ён, стваральнік самабытнай*
*культуры, —*
*ад чэрствай, непрамакальнай скульптуры,*
*ад тых, каму розум і сэрца аддаў, —*
*у Слонім, як сам ад сябе, уцякаў…*

*Уцякаць гэтак страшна…*
*А, можа, не страшна?*
*Да Бога, вечнага, ад сябе, учарашняга…*
*хто мог залічыць у студэнты кожнага,*
*таленавітага, пустапарожняга,*
*кожнаму ўкласці ведаў, як лёду…*
*мудрасці кніжнай, Лойкавай логікі.*

*Калі патрэбны рукі і сродкі,*
*чым занятыя былі сябры-аднагодкі?*
*Ніхто на руках яго не паднёс,*
*як падносіў бязногіх Хрыстос…*

*Ён вучыў лётаць адкрыта і ўпотай…*
*ды ніхто, між будзённых спраў,*
*крылаў Ікаравых не змайстраваў.*
*Не падставіў плячо, не падаў руку*
*з удзячнасці за навуку…*

*А прыйшла да Лойкі жанчына —*
*яна не ведала, кім быў Скарына…*
*Калі тонеш, хапаешся за саломінку.*
*Лойка прыдумаў,*
*што любіць простую слонімку…*

*Кнігі, узоры, прасторы… музыка…*
*Лойка навучыўся падаць на муліцах*
*перад тым, невідочным, выраем,*
*у які паляцеў… і вынырнуў*
*на святло — і вярнуўся вуліцай…*

*Шлях, дарога, сцяжына, лаз…*
*Бессмяроцце. Покуць. Імжа.*
*Дыхнуў — сарваўся ў экстаз.*
*Жыве Беларусь! — і жыве душа!*

### Самабічаванне

*Каб абмануць сваё гора,*
*сэрца Маці-Радзімы вырвалі,*
*апрануліся ў скуры ворагаў,*
*пераліліся ў іх і загінулі…*

*Беларусь — няволі Краіна.*
*Каб жыць тут, трэба загінуць.*
*Беларусь — чужых войнаў дарога…*
*Каб жыць, трэба трапіць да Бога.*

*З нас усе прывыклі смяяцца.*
*Нас яшчэ не б'юць, мы хаваемся.*
*Тут каб жывымі застацца,*
*адразу падпісвай капітуляцыю.*

*Але моцныя мы, арэшкі,*
*вяртаемся ройна ў свой вулей,*
*таму, што ўсе грэблі, сумежкі*
*пераплаканыя матулямі…*

*Зязюля крыжыкам вышывае*
*меткі, у якіх гняздзечках хавае*
*сваіх нявылупленых птушанят…*
*Яшчэ нас, такіх, шмат…*

### Маналог уладаркі склепу

*У склепе мяне нарадзіла мама,*
*склеп мой на два паверхі.*
*Першы паверх — глыбокая яма,*
*другі — страха ў паднябессі.*
*Усе мае смуткі, згрызоты, цярпенні*
*праходзілі ў тым скляпенні.*
*Дажджу і аблокаў песні —*
*ў салодкім водары плесені.*
*Мяне называлі Стракозкай,*
*Склепкай, Саломінкай боскай.*
*Паілі мяне, як цялятка, з соскі*
*па чарзе шкадавальніцы з вёскі.*

*Былі ў мяне два таты,*
*ды яны аб гэтым не ведалі.*
*На хутары жыў дзед барадаты,*
*мяне туды «замуж выдалі…».*
*Калі я за дзеда замуж выходзіла,*
*было мне пяць годзікаў…*
*Мой жаніх-дзядуля быў добры:*
*карміў аладкамі з мёдзікам,*
*сунічкамі і сырадоем…*
*Падараваў мне кужэльную світку,*
*спёк на лісцейку ў печы духмяны хлеб…*
*Аднойчы перастаў дыхаць на досвітку.*
*Я ўцякла і схавалася ў склеп.*

*Шмат сірочых прайшла асяродкаў.*
*Ва ўнівер прынялі мяне, як сіротку.*
*Я працавала пісаркай і пісацелькай,*
*і настаўніцай, і выхавацелькай,*
*і уніяткай, і катэхеткай,*
*і прыбірачкай, і дармаедкай…*
*У хоры спявала святыя песні.*
*Па першай групе далі мне пенсію…*

*Калі мамы не стала,*
*брат не пускае ў склеп…*
*Кажа:*
*— Пайшла ты*
*на ўсе чатыры… у стэп!*

*…У склепе найлепей…*
*Калі тушацца ў вёсцы агні,*
*Рыцар збройны на белым кані*
*з мечам і тарчай*
*штовечар ад месяца скача…*
*І няхай сабе конь-агонь*
*ранкам ператворыцца ў клячу,*
*якая траву каля склепу скубае, —*
*мне ўсё роўна добра, я плачу.*
*Мне гэтага шчасця хапае!*

# Школа танцаў



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

## Слаўнае мора, свяшчэнны байкал

—Ты на Байкале быў? — спытаў Срабрэц. — На баркасе плаваў?..

Яны пілі гарэлку «Руслан» і запівалі падобным на кока-колу і на колішняе савецкае сітро газаваным напоем «Байкал», таму Срабрэц і спытаў: «Ты на Байкале быў?..».

Перад тым яны сядзелі і гаварылі пра жыццё. Яны й сышліся, каб пасядзець і пагаварыць пра жыццё, але пасля забыліся і напіліся.

Чэрня паспрабаваў успомніць, ці быў ён на Байкале. Па ўспамінах, нейкіх цьмяных, выходзіла, што не быў.

І на баркасе не плаваў. Ён нават не ведаў, што такое баркас. Човен нейкі, але які?

— Не быў...

— Дык запрашаю!

Яны пачыналі ўжо трэцюю пляшку — і Чэрня не здзівіўся.

— Калі?

— Сёння. Чаго цягнуць?

— Цягнуць няма чаго, — згадзіўся Чэрня. — Ката за хвост.

Кот Бонус ляжаў на стале паміж пляшкай з «Русланам» і бутэлькай з «Байкалам», слухаючы размову, якая нарэшце падалася яму цікавай, і кот паглядзеў на гаспадара ўхвальна: «Малайчына! Чаго цягнуць?..».

— Тады грошы патрэбныя, — сказаў Срабрэц. — На самалёт. Цягніком доўга.

Чэрня згодна кіўнуў. Цягніком, канешне, даўгавата. Дзе той Байкал? Ён і за савецкім часам быў не блізка, а цяпер...

— Толькі ты, Талян, скажы, — паспрабаваў ён перад тым, як рушыць на Байкал, вярнуцца да размовы пра жыццё, — я хіба вінаваты? Працую дзень і ноч, дзень і ноч гарбачуся, а яна...

— Не ві-на-ва-ты ты, Ві-цёк, — сціснуў яму галаву і пацалаваў у лоб Срабрэц. — І я не ві-на-ва-ты! Гарбачуся, працую дзень і ноч, а яна... Грошы патрэбныя.

Грошы, сем тысяч даляраў, назбіраныя за дзесяць гадоў жыцця на машыну, ляжалі ў спальні пад матрацам, так што з грашыма праблемы не было. Праблема была з жыццём — і яна не вырашалася. Гаварылі пра яе, гаварылі — і без толку.

Чэрня схадзіў у спальню і выцягнуў з-пад матраца, на якім спаў, грошы. Жонка думала, што ён ніколі не здагадаецца, на чым спіць. Ён бы, можа, і не здагадаўся, не дадумаўся, тым больш, што думаць не было для чаго, прапіваць грошы ён не збіраўся, але аднойчы перавярнуў матрац, бо нешта пад бокам замуліла, а там яны, у старых жончыны калготкі закручаныя, ляжаць. І ён ніводнага даляра не спёр — да сённяшняга дня, калі яны ў дарогу спатрэбіліся. Спачатку ён хацеў узяць палову, але прыкінуў, якая яна, дарога да Байкала — і ўзяў усе.

Закаркаваўшы пачатую пляшку і сабраўшы закуску, яны замовілі таксоўку.

Калі выходзілі з кватэры, Бонус заматляў хвастом, замяўкаў, закруціўся ў нагах гаспадара.

— На Байкал хоча, — паспрабаваў адчапіцца ад ката Чэрня, але кот не адчапляўся, і яны ўзялі яго з сабой. У Бонуса была свая, сплеценая з лазы хатка, у якую гэтым разам ён сам залез, хоць звычайна, калі трэба было некуды яго везці, усімі лапамі ўпіраўся.

— Омуля лавіць будзе, — зачыніў Бонуса ў хатцы гаспадар. — На Байкале рыба омуль.

Таксіст, у адрозненне ад ката, на Байкал ехаць не захацеў — і Срабрэц махнуў рукой:

— Тады ў аэрапорт!

Ужо цямнела, трэба было паспець хоць на апошні рэйс.

— Па-мойму, на Байкал ад нас не лятаюць... — паспрабаваў спыніць іх таксіст, убачыўшы, што грошы з іх можна стрэсці, далёка не едучы. — Лятаюць з Масквы.

— Тады ў Маскву! — сказаў Чэрня, але Срабрэц з таксістам не згадзіўся:

— І з Масквы, і ад нас... На Байкал лятаюць адусюль.

Таксіст уключыў лічыльнік.

— Ну, глядзіце... Адусюль дык адусюль, лятаюць дык лятаюць. Толькі плацім наперад.

Чэрня сунуў яму пачак:

— На!..

Пакуль ехалі ў аэрапорт, Чэрня глядзеў, як скакалі на лічыльніку, светлякамі мітусіліся, няўмольна павялічваючыся, лічбы, — і нешта яму гэта нагадвала, але што?..

Жыццё?..

Рыжая лярва ў касе аэрапорта прадаць ім тры квіткі да Байкала, два чалавечых і адзін каціны, не захацела, а калі Срабрэц сказаў ёй, што яна рыжая лярва, выклікала міліцыю.

— На Байкал, значыць, сабраліся? — знайшоўшы ў іх амаль сем тысяч даляраў, дапытваўся ў пастарунку малады, але ўжо палыселы капітан. — А гэта адкуль?..

— На Байкал, капітан, — адказаў на першую частку пытання Срабрэц, бо таго, як Чэрня даставаў з-пад матраца грошы, не бачыў, і сказаць, адкуль яны, не мог. — Ты быў на Байкале?

— Ты мне не тыкай! — адсек усялякае панібрацва капітан, з нечаканай тугой падумаўшы, што не: не быў ён на Байкале. Спачатку ў простай школе вучыўся, пасля ў школе міліцыі, а на Байкале не быў.

— Адкуль грошы? — затармасіў ён Чэрню, які ў цёплым пастарунку прыснуў і не хацеў прачынацца: яму сніўся Байкал і баркас на Байкале. А, можа, гэта быў і не баркас, хто яго ведае, але Чэрня думаў у сне, што гэта баркас — і баркас яму сніўся. Далёкі баркас з белым ветразем.

— І дзе вы ката ўзялі, начорта вам кот на Байкале?

Навошта ім кот, Срабрэц не ведаў. Забыўся, што омуля лавіць. А Чэрня не забыўся: бачыў Бонуса на баркасе, чорны кот здалёк відненўся на тле белага ветразя. Адзін кот бачыўся, болей на баркасе не было нікога, і Чэрня не мог уцяміць, дзе яны, ён і Срабрэц, падзеліся?..

У камеры Срабрэц паспрабаваў заспяваць «Слаўнае мора, свяшчэнны Байкал...», і Чэрня заспяваць паспрабаваў, але песня не пайшла — і яны заснулі.

— Грошы адкуль? — зноў прычапіўся з раніцы капітан, і Чэрня ўспомніў, што грошы гэтыя ён зарабіў, працуючы на маторным заводзе нарміроўшчыкам.

Капітан не паверыў, уперыўся ў вочы:

— Сем тысяч на заводзе?..

— Дык за дзесяць год...

— І што: на заводах яшчэ ёсць нарміроўшчыкі?

— Ёсць... — разгублена не зразумеў яго Чэрня. — Як гэта нарміроўшчыкаў можа не быць?..

— А так! — пляснуў па стале капітан. — Таго, чаго няма, значна больш за тое, што ёсць.

Сказаў нешта такое... Філосаф нейкі гэты капітан...

— Дзе яны пяцьсот даляраў падзелі? — падазрона пыталася у капітана Марына, Чэрніна жонка, якая была медсястрой і палюбоўніцай галоўнага ўрача шпіталя, у якім была медсястрой, і таму ў ноч, калі муж забраў грошы і на Байкал сабраўся, дзяжурыла. — Не маглі ж яны прапіць пяцьсот даляраў? — налягала яна на капітана, і той ужо шкадаваў, што не паслухаў яе мужа, які, пад раніцу працверазеўшы, прасіў выпісаць любы штраф, толькі не выклікаць жонку, бо мала тады не будзе і яму, і капітану, але ж трэба было пераканацца, што грошы гэтыя мужыкі не ўкралі.

— Я прэзідэнту на вас напішу! Нават ката не папаілі, замучылі, злодзеі, звяры!

Чэрня вінавата глядзеў на капітана: «Я ж прасіў цябе, я ж табе казаў...» — а Срабрэц радаваўся, што, дзякуй Богу, Чэрня, а не ён, ажаніўся з Марынай, іх колішняй аднакласніцай, але ж потым ажаніўся і ён, хоць і не з Марынай і нават не з аднакласніцай, але якая розніца, калі ажаніўся — лепш бы яшчэ тады, дваццаць гадоў таму, на Байкал паехаў.

Капітан дастаў сподак з падрапанай шафы і наліў Бонусу вады... Яны глядзелі, як кот сасмягла, захлёбваючыся, лыктаў, і Чэрня са Срабрацом усё менш разумелі, куды гэта яны ўчора сабраліся, а капітан, дыктуючы Марыне распіску: «Я, грамадзянка такая... грошы ў суме...» — прыкідваў, што яму рабіць пасля дзяжурства, да Марыны... таксама, дарэчы, Марына... адскочыць, ці ехаць адразу дахаты, і раптам падумаў, ката пагладзіўшы, што ў сподку вада, мусібыць, гэткая самая, як і ў Байкале.

**28.02.2010, Мінск**

## Школа танцаў

Галіна Язэпаўна памерла ў цягніку Мінск—Мурманск. У чацвёртым вагоне, у трэцім купэ на ніжнім дзявятым месцы.

Ёй у Мурманск не трэба было. Не было да каго. Проста яна любіла ездзіць у цягніках — і пад канец свайго зямнога шляху вырашыла выбрацца ў апошнюю вандроўку. У самую далёкую, у якую можна выбрацца з Мінска без перасадак. Галіна Язэпаўна не любіла перасадак, бо заўсёды губляла на іх ці валізы, ці дакументы, ці грошы.

Перад гэтым гадоў пяць яна моцна хварэла, амаль не магла рухацца і рабіла вось што. Купляла да першай станцыі, Маладзечна ці Барысава, самы танны квіток, заходзіла ў вагон, як толькі абвяшчалася пасадка, даставала мяшэчак з ядой: яйкі, соль, памідор з гуркам, — раскладвала ўсё на сурвэтцы і замаўляла гарбату. Праваднікі звычайна пачыналі лаяцца: «Яшчэ цягнік не рушыў! Якая гарбата!» — але кожны раз Галіна Язэпаўна кожнага з іх неяк угаворвала, сядала і ела, з асалодай частуючыся вагоннай гарбатай. У тонкай шклянцы, у бліскучым — пад срэбра — падшклянніку. Вось дзеля гэтага рытуала яна і квіток купляла, і ў цягнік сядала. Калі да адыходу цягніка заставаліся хвіліны і праваднікі пачыналі зачыняць дзверы, яна сыходзіла на перон і доўга глядзела ўслед апошняму вагону.

У яе не было нікога ні ў Барысаве, ні ў Маладзечне. Нідзе ў яе нікога не было. Апроч, можа быць, мяне. Хоць сказаць, што я ў яе быў, можна хіба з нацяжкай. Так, завітаў іншым разам, дапамагаў ёй да цягніка дайсці, чакаў, пакуль яна вып'е сваю вагонную гарбату — і праводзіў дадому. Праз гэта яе новы сусед, адстаўны палкоўнік, які пасяліўся праз сцяну, напісаў у міліцыю, што я хачу грамадзянку Г. Я. Бельвядэрскую нейкім чынам звесці са свету і ўсяліцца ў яе кватэру.

— Бельвядэрская... — грацыёзна падавала ў свае семдзесят гадоў руку для пацаланка Галіна Язэпаўна, і ўсім здавалася прозвішча гэтае аднекуль знаёмым, знакамітым, кожны недзе яго чуў, хоць і даўно. А Галіна Язэпаўна, як яна казала, сама сабе яго прыдумала, калі была акторкай і мела такога наменклатурнага палюбоўніка, які ўпісаў гэтае прыдуманае ёй прозвішча ў яе сапраўдны пашпарт. За гэта яна кахала таго наменклатуршчыка даўжэй, чым іншых, нават нарадзіла ад яго дзіця, якое памерла ў радзільні, і больш Галіна Язэпаўна нарадзіць не магла.



Фота klike.net

Дзіця тое, дзяўчынка, пражыло ўсяго некалькі гадзін, але Галіна Язэпаўна паспела даць свайму дзіцяці імя — і пасля ўспамінала: «Гэта было тады, калі Бог даў мне і Бог забраў у мяне маю радасць, маё шчасце, маё жыццё, маю Кардэлію…». Галіна Язэпаўна ў той час, калі ў яе нарадзілася і памерла дзіця, марыла сыграць ролю дачкі караля Ліра ў драме Шэкспіра, але мара тая памерла таксама. Увогуле ў жыцці Галіны Язэпаўны было шмат смерцяў — і калі б не радасць ад паездак у цягніках, ад яды ў купэ і вагоннай гарбаты, дык яна б і не ведала, што ў гэтым жыцці ёсць такога, каб яго любіць. Не любіць жа ёй жыццё за тое, што пад канец яго да яе прысуседзіўся адстаўны палкоўнік. «Раней я, — спрабаваў жартаваць палкоўнік, — прысуседзіцца не мог. А цяпер магу, дык чаму не прысуседзіцца?..».

Яна яго, палкоўніка, не трывала. І ўсяляк тое паказвала. А ён да яе заляцаўся. І таксама ўсяляк тое паказваў. Заходзіў, газеты прыносіў, абвёўшы нешта ў іх чырвоным фламастарам. «Прачытайце, тут цікава…» Што можа быць у газетах цікавага? Галіна Язэпаўна драла іх — і яе котка ў тое ашмоцце свае лайнешкі заграбала, а палкоўнік газеты насіў і насіў.

Вось котку Фурцу (названую так, бо міністрам савецкай культуры, а значыць, і начальніцай над усімі тэатрамі была ў той час жанчына з прозвішчам Фурцава) Галіна Язэпаўна любіла. Але і котка Фурца памерла, а пасля памерла і Фурцава, якая была міністрам.

*Ад чаго я весялюся?*
*Я на Фурцавай жанюся!*
*Буду мацаць цыцкі я*
*Самыя марксіцкія!*

— праспяваў прыпеўку, прыйшоўшы да Галіны Язэпаўны з газетамі і хатняй вішнёўкай, адстаўны палкоўнік, і яна вішнёўку выпіла, бо любіла вішнёўку, а палкоўніка, хоць той і прыпеўку праспяваў, пратурыла, бо не любіла.

Адбылося ўсё гэта пры мне. Прычым, я застаўся ў кватэры, а палкоўнік — не, дык ён і напісаў у міліцыю, што я збіраюся ягоную суседку звесці са свету, спойваючы яе самаробнымі, небяспечнымі для жыцця напоямі.

«Гадзюган!» — сказала пра адстаўнога палкоўніка Галіна Язэпаўна і наліла вады на ганак. Палкоўнік уставаў раней за ўсіх у доме, дзе яны жылі, і выходзіў у двор прысядаць. Трымаць форму, бо раптам з Галінай Язэпаўнай ажаніцца выпадзе. Была зіма, палкоўнік паслізнуўся на лёдзе, зламаў, грымнуўшыся з ганку, нагу ў сцягне — і насіць газеты Галіне Язэпаўне не мог. Ужо не кажучы пра тое, каб з ёй ажаніцца. А тым больш — пражыць мядовы месяц у цягніку. Яна кажа, што пражыла некалі свой месяц мядовы ў цягніку, наўмысна дзеля гэтага выйшаўшы замуж. Але не кажа, за каго…

Я ў цягніку з Галінай Язэпаўнай і пазнаёміўся, калі ехаў з Мінска ў Талін. Быў некалі такі фірменны цягнік, «Чайка» называўся. Мяне здзівіла жанчына, якая, як толькі ўвайшла ў вагон, расклала яду на сурвэтцы і затрабавала гарбаты.

— Хочаце?.. — працягнула яна мне пабітае, у смятку зваранае яйка, з якога выцякаў жаўток, які запляміў ёй спадніцу. Я падаў ёй насоўку, яна выцерла пляму і схавала насоўку ў сумачку, як сваю.

— Пральную машыну купіла, але ж не падключаць машыну, каб насоўку папраць. Рукамі памыю. Прыдзіце — аддам.

І яна выйшла з вагона. Гэта мяне здзівіла яшчэ больш, чым тое, што яна, толькі-толькі ўвайшоўшы ў вагон, пасцяліла сурвэтку і пачала есці.

Я прыйшоў да яе, вярнуўшыся з Таліна — яна напісала адрас.

— Мне было тры гады, калі памерла маці, і трынаццаць, калі мяне знайшоў у чужых, зусім чужых людзей бацька. Той дзень, калі ён знайшоў і павёз мяне дахаты, быў самым шчаслівым днём у маім жыцці. У вас жывая маці? І бацька ёсць?.. Тады вы ўявіць сабе не можаце, што значыць быць круглай сіратой — і раптам займець бацьку. Мы селі ў цягнік, бацька адразу спытаў: ты галодная? Канешне, я была галодная, як сірата можа быць сытай? Вы не сірата, вы гэтага не ведаеце. Калі б вы былі сіратой, вы б маглі палюбіць мяне як маці.

Я не мог палюбіць яе як маці. У мяне была маці, якую я любіў.

— Тады як сястру. Старэйшую…

І сястра ў мяне была… У адрозненне ад Галіны Язэпаўны, якая не мела нікога, я меў усіх: бацьку, маці, сястру, брата — і ў мяне не толькі бабуля з дзедам, а нават прадзед быў яшчэ жывы…

— Бацька разаслаў сурвэтку, паклаў на яе гуркі, яйкі, памідоры; было лета, сонца бліскала на срэбным падшклянніку, у якім праваднік прынёс тонкую, якая таксама бліскала, шклянку гарбаты — такой смачнай, якой не смакавала я раней ніколі… вы не заўважалі, што гарбата ў цягніках нейкага асаблівага смаку, нават калі праваднік запарвае самы звычайны, крамны пакецік?..

Я не заўважаў. Я шмат чаго не заўважаў да таго часу, пакуль не пазнаёміўся з Галінай Язэпаўнай, якая таксама шмат чаго не заўважала, але зусім не тое, чаго не заўважаў я.

— Скажы, дзяўчынка, гэта твой бацька на героя падобны? — спытаў вайсковец, генерал ці хто там, я не разбіраюся, які ехаў у суседнім купэ і зайшоў да нас выпіць. — Пашчасціла табе такога бацьку мець, я б таксама хацеў мець такога.

Яшчэ б не!..

Бацька пазней, калі я ўжо вырасла, прызнаўся, што дамовіўся з тым вайскоўцам за выпіўку, каб той прыйшоў і так сказаў, але якая розніца, схітраваў бацька ці не, калі ён і праўда здаваўся мне героем. Знайсці мяне ў прасторы ад Магадана да Мінска было не лягчэй, чым іголку ў сене, а ён знайшоў, пасадзіў у цягнік, адразу накарміў і павёз дахаты.

Яшчэ пазней мой бацька прызнаўся ў тым, што забіў маю маці. З пісталета ў патыліцу. Вы падумалі, што застаў яе з палюбоўнікам? Дык вось не. Гэта яна застала яго з палюбоўнікам. Ён разззлаваўся, што яна падлавіла яго — і забіў. Пасля дзесяць гадоў ён сядзеў, а я жыла сіратою.

Гэта змяніла мой лёс. Гэта ўсё нутро маё змяніла.

З таго часу бацька перастаў для мяне быць героем. Але тое, чым і як ён мяне, знайшоўшы, адразу пачаставаў, на ўсё жыццё ў мяне запала, стала маім святам. Я святкую яго так, як святкавала з бацькам. Гэта можна рабіць



у любы дзень, у які куды-небудзь адпраўляецца які-небудзь цягнік. А які-небудзь цягнік адпраўляецца куды-небудзь штодня, толькі далёка я ўжо не магу ездзіць, дый блізка цяжкавата… А так бы ў мяне кожны дзень магло быць свята. Хоць свята не адчуваеш, калі яго спраўляеш. Гэта клопат — спраўляць свята. Свята павінна быць бесклапотным. Як у нас з вамі, бо вы не адчуваеце да мяне клопату ні як да маці, ні як да сястры, ні як…

Яна не дагаварыла, як да каго яшчэ, але я зразумеў.

Я адчуваў да яе клопат. Не як да маці ці сястры, або яшчэ да каго, пра што яна не дагаварыла, але адчуваў. Бо яна нечакана стала дарагім для мяне чалавекам. Не праз дзівацтвы яе, не праз вагонную гарбату, не… Ні праз што. Так — ні праз што… кахаюць, але ж я не мог яе кахаць?

Ці мог?..

Аднойчы мы былі ў тэатры, глядзелі «Караля Ліра». Яна хадзіла толькі на спектаклі па гэтай драме Шэкспіра — больш ні на якія. Калі на сцэне з'явілася Кардэлія, Галіна Язэпаўна падалася да мяне і сціснула руку. Яна не адрывала позірку ад сцэны, уся была там, дзе наймалодшая дачка Ліра так любіла бацьку, так любіла, а ён так пакрыўдзіў яе, так пакрыўдзіў, — але як яна сціснула, як сціснула мне руку, якая хваля прайшла ад пальцаў да пляча, да сэрца, па мне ўсім — якая хваля!..

Пасля гэтага я часцяком думаў: што між намі магло быць, калі б мы спаткаліся, не разведзеныя ў часе? І чым часцей пра гэта думалася, тым больш здавалася, што час з намі абышоўся несправядліва. Як кароль Лір з Кардэліяй.

— Ведаеце, я сёння падумала, што магла б пакахаць гэтага палкоўніка, нават пражыць з ім жыццё — вось у якім я сёння стане, і вы мне патрэбныя, каб я перастала так думаць, — патэлефанавала яна мне за дзень да таго, як паехала ў Мурманск, але я не прыйшоў да яе, раптам пачуўшы, як чапляецца за падсохлы язычок яе голас у ссушаным горле — і падумаўшы: старая.

— Вам здаецца, што я старая? — спытала Галіна Язэпаўна яшчэ тады, калі я застаўся, а яна пратурыла палкоўніка, і я шчыра ўсклікнуў: «Ну што вы!..» — бо па выглядзе яна не здавалася мне старой, зусім не здавалася, а вось па голасе — за два дні да смерці — здалася, і я не прыйшоў яе суцяшаць, шкадаваць, затрымліваць, адпусціў яе ў дарогу, у якой яна памерла.

Рана ці позна маладосць становіцца бязлітаснай да старасці, рана ці позна…

Пра смерць Галіны Язэпаўны я дазнаўся ад палкоўніка, які патэлефанаваў мне і сказаў, што, збіраючыся ў Мурманск, яна жалілася на мяне — і прапанавала яму, палкоўніку, паехаць з ёй. Ён спытаў: «А да каго мы паедзем? Хто ў вас ёсць і што вам трэба ў Мурманску?» — і калі Галіна Язэпаўна адказала, што нікога ў яе ў Мурманску няма і нічога ёй там не трэба, ён упершыню заўважыў, што яна дзіўнаватая. Настолькі дзіўнаватая, што з ёй нельга ажаніцца — не для палкоўніка такая жонка.

На хаўтурах палкоўнік казаў, што суседка ягоная была незвычайная жанчына, ён усялякіх бачыў, але такіх не сустракаў — і, кажучы гэта, плакаў. Дзіўна было бачыць, як слёзы цякуць з вачэй чалавека, пра якога ты пастанавіў, што ён пень дубовы — і не можа плакаць.

— Калі я зламаў нагу, я доўга не падымаўся, бо надта балела. А Галіна Язэпаўна прыйшла мяне праведаць і ўбачыла на шафе патэфон. Стары, ад вайны яшчэ, і яна спытала: «Вы таньчыце?». Я не танцаваў ніколі, а яна зняла, на зэдаль ускочыўшы, патэфон з шафы: «Запрашаю ў школу танцаў!..». Нібы ў мяне нічога не зламанае, не баліць… І я забыўся, што яшчэ паўгадзіны таму ўстаць не мог, што ўвогуле не танцаваў ніколі — і мы танцавалі. Доўга… Потым яна пайшла, я зачыніў дзверы — і ўпаў, як толькі дзверы зачыніў, як толькі яна пайшла. Яна цуды ўмела рабіць, разумееце? І я ўцяміць не магу, як яна памерла, калі ўмела цуды рабіць? Магла б жыць… А то вунь пустая кватэра засталася — у яе ж нікога. Можна было з маёй аб'яднаць, столькі прасторы для школы танцаў…

Палкоўнік выглядаў нібы не палкоўнікам.

На дзевяць дзён я пайшоў на могілкі. Набліжаючыся, пачуў музыку: аргенцінскае танга. На грудку Галіны Язэпаўны стаяў патэфон. Круцілася кружэлка — і палкоўнік таньчыў каля магілы.

— Перастаў разумець, як жыць? Дзеля чаго?.. — казаў ён мне, калі мы там жа, на могілках, паміналі нябожчыцу. Сяду з раніцы перад акном і гляджу на вуліцу. А з вуліцы глядзіць на мяне. І ўсё… Трэба рабіць нешта. Давайце з'ездзім куды-небудзь на якім-небудзь цягніку. Раскладземся ў купэ — яйкі, гуркі… Вось так… Адразу замовім гарбату… Што яна ў гэтым знаходзіла? Трэба ўцяміць. Тады, можа, і астатняе зразумею. Паедзем? Абяцаеце?..

Я паабяцаў, але не паехаў. Куды і навошта было мне з ім ехаць?..

З часам я, мусібыць, пачаў бы забывацца на Галіну Язэпаўну. І пра тое, што яна жыла, і пра тое, што памерла. Жыццё круцілася хутчэй за кружэлку. Але забыцца на памерлую актрыку не давалі мне лісты палкоўніка, якія прыходзілі спачатку зблізку, а пасля з краёў усё больш далёкіх.

«…я прадаў кватэру, плюс пенсія — да скону павінна было хапіць, каб у цягніках пасажырам ездзіць, але адзін кемлівы праваднік, калі я распавёў яму, што да чаго, спытаў: а чаму тады не праваднікам? Усё тое самае: яйкі, гуркі, гарбата — ды яшчэ й зарплата. Я ўладкаваўся праваднікам — і адразу ўсё прапала: не тая гарбата! Ну вось тая самая — і не тая!..»

«…я спытаў яе — пасля таго вечара, калі мяне яна выгнала, а з вамі засталася, памятаеце? — ну што ўва мне не так, што кепска? Чаму вы мяне не трываеце?.. І яна сказала: «Кепска, што вы палкоўнік, які хоча быць палкоўнікам. Разумееце? Вы ўжо палкоўнік — і яшчэ хочаце ім быць…». Я сказаў, што пад пенсію хацеў стаць генералам, тады пенсія большая, дык яна засмяялася: «А гэта яшчэ горш».

«…і паступова, паціху да мяне пачало даходзіць… карацей, без толку я ўсё ездзіў, гарбату піў — дык стоп-кран аднойчы сарваў, выскачыў з вагона і нагу зламаў, тую самую ў тым жа месцы… Ну вось чаму ў тым жа месцы тую самую?.. Мяне прывезлі ў шпіталь, загіпсавалі, а ў палаце па радыё тое самае танга. І медсястра ў палаце. Я паспрабаваў падняцца, запрасіць сястру, танцаваў жа я гэтае танга з гэтай самай паламанай нагой, але і кроку не зрабіў — другая нага падвярнулася. Вось скажыце: чаму з ёй — мог, а з медсястрой — не? Чаму я ўвогуле так жыццё апошнімі гадамі жыву, як бы з ёй гэтыя гады жыў, калі б яна не памерла. Я ведаў, як жыць, я меў лёс палкоўніка і лічыў, што гэта сур'ёзна. А яна давяла мне, што гэта смешна, і цяпер я не маю лёсу ніякага — і жыву невядома як. Ці гэта і ёсць лёс?.. Можа быць. Але ён мяне не дагоніць, не стрэліць у патыліцу».

У канверт быў укладзены фотаздымак: маладыя ў купэ вагона. Ён у вайсковай форме, яна ў фаце. Сядзяць за вагонным столікам, засцеленым дзвюма сурвэткамі.

Я не тое што не пазнаў, нават не падумаў, што гэта яны. Не падобная на Галіну Язэпаўну была нявеста. А ў вайскоўца падабенства з палкоўнікам было… Я перавярнуў фотаздымак — на звароце тым самым почыркам, што і ў лісце, было напісана: «Мядовы месяц».

Праз месяц я знайшоў у сваёй паштовай скрыні газету. Яна называлася «Крымінальны кур'ер». Не ведаю, хто тую газету мог мне ўкінуць, але… Але крымінальны рэпартаж на апошняй стронцы: «Палкоўнік застрэліўся на магіле актрысы», — быў абведзены чырвоным фламастарам.

Бомж, які начаваў на могілках, распавёў журналісту, як яно было. Палкоўнік прыйшоў уночы з патэфонам, завёў кружэлку, пачаў танцаваць, дастаў пісталет, лёг на грудок і, вывернуўшы руку, стрэліў сабе ў патыліцу. Танга скончылася, але кружэлка нейкі час яшчэ круцілася.

Я не ведаю, чаму так, а не інакш пражылі жыццё гэтыя людзі — і чакаю лістоў ад палкоўніка. Галіна Язэпаўна мне ніколі не пісала.

Рыгор БАРАДУЛІН
(1935—2014)

# Небавы сны



### Аж пакуль...

Мінулае
Шматгулае,
А цішыня скупая.
Наступнае
Наступае —
На ўзгадкі наступае.

Сум радуецца рэшце
У радасці ў кішэні.
І цішынёю ўрэшце
Разменіцца цярпенне....

Аж покуль не значэ
слоў ранішніх значэнне.

### Радовішчы радасці

Радовішчы радасці знайсці
Нялёгка,
Бо іх ахоўвае гора.
Жарынкі жарсці
Згарáць на лісці —
На лістах, што ў заўтра
Напіша учора.

Радовішчы радасці, яны
Невычэрпныя,
Таму анікому
Не ўцячы ад сваёй маны,
Што разгубленасць
Верне дадому.

Жаху ані ў галаве,
Дзе ходзіць нявестка —
Вестка благая.
Гора ў харомах жыве.
Радасць пад зямлёй
Залягае...

### Але...

Непрыручаных пнуцца карміць
З рукі
Усе вякі
Дарагімі прысмакамі.
Бываюць з ашыйнікамі ваўкі.
Але
Яны завуцца сабакамі...

### А там...

Жыву не тут,
Дзе пражываю дні,
А там, дзе дні мае
Раслі са мною,
Атуленыя шчырай гаманою
Расчуленай зялёнай цішыні.

Імкнецца ўсё маё
Штодня туды,
Дзе зябне ў ноч завейную
Падпечнік.
Дзе Хатнік
Свой бярозавы падсвечнік
Нясе на кут,
Каб бачылі Дзяды,

Што ў хаце ён —
Руплівы гаспадар.
Чакае. Не спяшаецца.
Трывае.
Тут халадаецца душа жывая,
Забыць баіцца
Нетутэйшы сквар.

Тут мамін сум
Глядзіць яе вачыма.
Тут дні ў нябыт ідуць,
Каб па вясне
Нанова зарунець,
Але не мне,
А на мяне падобнаму,
Магчыма...

### Падзеліцца...

Штоначы засынаем
У беспрабудным наіве,
Што неба падзеліцца з намі
Снамі сваімі.
А небавы сны —
Зніклыя аблачыны
Плывуць
Да ветрам акрэсленай старыны,
Да сваёй незямной айчыны...

### Маладыя дровы

Світанне і змярканне
Хмураць бровы.
Аб лоб нябёс
Пытанне хмарай трэцца:
А можа людзі —
Маладыя дровы,
Якія вечнасць паліць,
Каб сагрэцца?..

### Родная Каменская вуліца

Па яшчэ ацалелым бруку са мною
Ступаюць маладыя правіны.
Маркоце хапае спакою,
Пустазеллю — зямлі.
Да нябыту паварочваюцца спіною
Хаты —
Звечарэлыя дамавіны
Душаў,
Якія тут аднойчы жылі...

### Традыцыйнае

Плыт прыстаў у прымакі
да мяжы,
І цяпер ён — плот.
Студня ў дрымотнай імжы
Пазяхае на повен рот.
Яна не паспела забыцца,
Што сястрою крыніца
была калісьці.
Вечарэе лагода.
Да мяцеліцы чорныя шчокі
гарод
Грэе азяблымі вяснушкамі
жаўталісця...

### Смелая пяшчота

Вянкі цыбулі, як вянкі санетаў,
Сплятала мама ў чэсць
крутой зімы.
Не рассакрэчвалі сваіх сакрэтаў
Апошнія ахрыплыя грамы.
Як слёзы выкрасаць з вачэй
планетаў,
Як з мройных хмар
узводзіць церамы.
І смутны ветах ведаў
сцежкі летаў,
Якімі йшлі начлежныя дымы.
Хоць пад страхой хапала
ўсім гаркоты,
Дык каб не зглоціла
наш нож сухоты,
Яго кармілі вострым,
як ён сам.
Цыбулі спелай залатыя соты
Не шкадавалі смелае пяшчоты
Ні стомленым,
ні маладым слязам.

### Чорны дзяцел

Чорны дзяцел
У заснежаным бары
Ціха лекуе сасонку маладую.
Маладая завіруха калядуе.
У застуджаных вятроў
настрой сыры.

Чорны дзяцел
У наснежаным бары
Да таемнасці жывіцы дападае.
Хоць гадоў не лічыць
Скруха маладая,
Дачакалася зіма сваёй пары.

### Пра чарэнь

І пра кат́а на каптуры
Снам на вуха
Шэпча згадка маладая.
Беспрытульнаму маўчанню
спагадае
Чорны дзяцел
У заснежаным бары...

Кусман сну
Вягарыць на вятры
Пыхаю парусінь.
Ціхая ласка сына —
Газаю ў ліхтары.

Будзеш прасіць: паўтары
Цень ад крыла жураўліны,
Дотык халоднай гліны.

Выраю востры локаць
З тога зялёны,
Калі
Ён упіраўся ў лотаць
На веснавое зямлі.

Вецер як гаспадар...
Дол падмяце слата.
Праглыне ліхтар
Язык дагарэлы кната.

Сцюжаю нагадаецца сквар.
Занядужае вечар-ліхвяр...

Імжа-хуткацечніца
Вечніцца...

### Не дарадца

І малому сучку
На крамяным ствале
Ліставейнай хапае працы.

Я хачу цябе з сэрца прагнаць,
Але
Сэрца — розуму не дарадца.

Парасчуліцца хочацца
Часам скале,
Вогнішчу з туманом пабрацца.
Думкі хочуць забыцца цябе,
Але
Напамін — забыццю не дарадца.

Не панура
Віну й на жалобным стале,
Не самотна віне дакарацца.
Я хачу цвярозым пабыць,
Але
Я шаленству свайму не дарадца...

### Палон

Усе мы ў міласці ў палоне.
І ў нашых адзіных для нас
Аблокамі пахнуць далоні,
На міг запыняецца час.

Да радасці ломімся ў госці,
Сячэм пад сабою сукі.
Мы ўсе ў ягамосці міласці
Напрошаныя жабракі.

Пярун у раскацістым тосце,
Да зор свой паслаўшы дазор,
У гонар крыўдлівай міласці
Падыме прадонне азёр.

І космас брыво небакраю
Нахмурыць, як горды сусед.
Каб выдыхнуць слова к а х а ю,
Аднойчы прыходзім на свет.

І слухае рэўнасць глухая,
Як блытае вернасць сляды.
Былосць звечарэла ўздыхае.
У згоды настрой малады.

Прачнуўшыся з зоркаю ранняй,
І цень свой не ўбачыць спакой.
Паненка знайменіцца паняй.
Міласць не бывае ўдавой.

Ні кпінаў, ні позіркаў косых
Міласць не баіцца нідзе.
Каб толькі не гнуўся той посах,
Што юнага ў сталасць вядзе.

Міласць — і лагода й карыда,
Рака, дзе не спяць берагі.
І самая лютая крыўда
Ад тых, хто табе дарагі.

Такое надумае штосьці
Настрой, што самога сябе
Пачне раўнаваць да міласці
Абдзелены ў шчодрай дзяльбе.

І моцы не хопіць зайздрасці
Халоднай пабыць хоць у снах.
І вочы ў галоднай міласці
Пазычыць баіцца манах.

Шануе міласць аблачынку,
Што жарсці аценіць чало,
Каб неба здалося ў аўчынку,
З якой жыць усё пачало.

Міласць — гэта шчырасць
і праца,
Акічоны набёсамі рух.
І мусяць жывыя старацца,
Каб вечны агонь не патух!

2007

***

*Багата*
*Ў мінулым стагоддзі было:*
*Падлётак сподзеў,*
*Бацька і маці.*
*Ды выпала*
*Застудзіцца гармаце,*
*І ўсё*
*З аблачынкай дыму сплыло...*

***

*Убачыць сваю спіну*
*Хацелася б валуну...*

***

*Як ні напінаецца*
*Струна,*
*Не расчуліцца ніяк*
*Труна...*

***

*І заўтра, і сёння,*
*І ўвесь свой век*
*У самога сябе ў палоне*
*Жыве чалавек.*
*Спачатку вядома*
*Малому,*
*Як уцячы з палону.*

## Насуперак...

*Насуперак чэрстваму суму*
*Канкрэтна,*
*А не ва ўяве*
*Застолле плыве ў задуму*
*На негабляванай лаве.*
*Успыхваюць суха трэскі*
*Зоркамі Млечнага шляху,*
*Не можа ўсяісны вецер*
*Падабраць апранаху*
*Голаму жаху.*
*Вавёрка вёрткая давярае*
*Свае кіпцюры сасне.*
*У існасці*
*Ўсё сябе ўспамінае*
*Ў задуманым сне...*

**2012**

## У неба пехатою

*З незаворлівага кірмаша,*
*Дзе чужыя гандляры і цэны,*
*Любіць беларуская Душа*
*Ад спякоты*
*Затуліцца ў цені.*

*Свой сакрэт у мудрага каўша,*
*Поўнага цудоўнага напою.*
*Пойдзе беларуская Душа*
*Да настрою ў неба пехатою.*

*Хопіць смаглавогнішчу сушша,*
*Каб абсяг не спавядаўся золі.*
*Бачыць беларуская Душа,*
*Як заўсёды руціцца ніколі!..*

**2013**

## Сляды вады

*Сляды вады*
*Адводзяць ад бяды.*
*Бяда пажаравокая*
*Дыміцца.*
*У нецярпення позірк малады.*
*Здалёку*
*Кліча рэха навальніцы.*

*Сляды вады,*
*Гадуючы гады,*
*Атавай смелай*
*Маладзяць сцяжыны.*
*У жарабіцы жарсці*
*Павады*
*Падраліся*
*Аб розбегі чужыны.*

*Сляды вады.*
*Прыстаўшы ад хады,*
*Вядуць у незахлын*
*Зліцця жывое.*
*Дыктант ад Перуна*
*Маланка піша,*
*Ды*
*Памылкі*
*Правярае ноч*
*Савою...*

**2013**

## Як скруху...

*Колькі важыць*
*Сівое крыло крумкача?*
*Колькі цягне*
*Звіслая дзюба?*
*Адказаў бы, напэўна,*
*Арак з-пад карча,*
*Ды яму*
*На святле быць не люба.*

*Далячынь маладая*
*Не ўмее маніць.*
*Рэха шэпча*
*На вуха ліху.*
*Крумкачу сівакрыламу*
*Хочацца сніць.*
*Як скруху чорную,*
*Крумкачыху...*

**2013**

***

*Жарсць нямая.*
*Каханне ўзросту не мае...*

## Як жывы...

*Вырас мярэц*
*З пугурка цыбатага.*
*Закінуў анямелую галаву*
*Прывітаць неба.*
*Рукі развёў*
*Адхапіць як болей жыцця,*
*У паветры разлітага.*
*Ды знянацку*
*Некуды галава сплыла.*
*Абедзьве рукі*
*Маланка адцяла.*
*Дагэтуль*
*Панылы крыж*
*Усё чакае,*
*Што вернецца галава*
*На вострую шыю.*
*Дзве рукі*
*Адрастуць учэпіста.*
*Хоць зноў*
*У цёмны холад*
*Не хочацца...*

**2013**

***

*Здаецца, ад злосці*
*Зайздрасць завые,*
*Нямогла сціскаючы кулакі.*
*Паважна*
*І помнікі, і жывыя*
*Парыж засяляюць*
*Мае землякі.*

*Зацятасць*
*Не баіцца дакораў.*
*Ільдзіну падпаліць*
*Юрліві шал.*
*Ідзе з Камароўкі*
*Барыс Забораў*
*І ў небе коз*
*Пасвіць*
*Марк Шагал.*

*Спакоіцца рызыка*
*З прычыны тае,*
*Што неба парыжскага*
*На ўсіх стае...*

**2013**

## Ласыя

*Ласыя да набыцця*
*Пад дасяжнымі кручамі,*
*Кватаранты жыцця,*
*Мы яму знадакучылі...*

**2013**

## Парада

*Не спяшайся ў рай*
*І куме́ не рай...*

***

*Як дома*
*Я даўно на гэтым свеце,*
*Не дужа-ткі*
*Спяшаюся на той.*
*Яшчэ не карты*
*З мёртваю вярстой,*
*Ні свечкі,*
*Што гарачаю слязой*
*Спакойна свеціць.*
*Яшчэ на гэтым свеце*
*Я як дома.*
*А як на тым,*
*Дагэтуль*
*Невядома.*

**2013**

## Ідзеш...

*Хто прывязаў званец*
*Да рогу той,*
*Што ласуецца*
*Хрупаткой атавой?*
*Усё расце*
*У часа пад пятой.*
*Вітаючы дарогу*
*Згадкаю рухавай*
*Са свету гэтага*
*На той*
*Іду я ўпарта штохвіліны.*
*І кожны*
*Мазгаваць павінны,*
*Як ні хварэй,*
*Ні рухайся,*
*Улогам ні ляжы,*
*Пакуль жывеш,*
*Ідзеш да той мяжы,*
*Якая*
*Чакае.*
*Спакойнай вечнасці*
*Прамежак*
*Нам належыць.*
*Пазычаным жыццём*
*Звыкаеш зваць.*
*Ці ён знянацку*
*Можа стаць*
*Апошні днём.*

**2013**

***

*Апошні сон.*
*Навошта ён?*

**2013**

## Трэба!

*Параіцца трэба з журбой,*
*Як пазнаёміць*
*Сябе з сабой...*



Фота firestock.ru

## Чысты боль

*Ірыне Ржэвускай*

*Прыгажосць*
*Сама сябе баіцца.*
*Толькі б не ўракла*
*Пяшчотну злосць.*
*Гаспадынька*
*Ў беларускага здароўя*
*Ёсць!*
*Кажа кіслагубым,*
*Шчэразубым:*
*До*
*Ісці ў самалюбімыя.*
*Ці*
*Не лепей бачыць,*
*Як вожыкастае гняздо*
*З праменняў*
*Улагоджаных валасоў*
*Нечаканку чаканую*
*Зорную па-зямному*
*Укаранавала*
*Рукою слова.*
*І невыпадкова*
*Надрэчна недарэчны сум*
*Усур'ёз*
*Пакажа нос*
*І рыне.*
*А годнай,*
*Гонкай,*
*Ганаравітай спадручнай*
*Неадольнага жыцця*
*Ірыне*
*За чысты боль*
*Рупіць бяззубым хворым*
*Грымнуць спалоханым хорам*
*Дзякуй!*

## Неадлучны

*Ценю мой,*
*Ты за крутой вярстой*
*Той,*
*Дзе начуе крок.*
*Цябе,*
*Хто не ведае*
*Анідзе*
*Стомы ў хадзе,*
*Пялегуе*
*Задуменны змрок.*
*І ты ступаеш за мной,*
*За маёй спіной,*
*Як непраспаны крык,*
*Двайнік неадлучны.*
*І пакуль некалючы*
*Ты ў цемрадзь не знік,*
*Пакуль за раднію*
*Не лічу траву —*
*Жыву!*

**2013**

## Нанова!

*На адкрыццё курсаў*
*«Мова нанова»*

*Немінуча,*
*Гаюча*
*Нанова*
*Раскрываецца шчырае слова.*
*Мова маці —*
*Крыніца святая —*
*Да вытокаў*
*Намеры вяртае.*
*Як высокія мроі,*
*Аблокі*
*Думкі неба*
*Ратуюць ад спёкі.*
*Мы на гэтым свеце*
*Павінны*
*Гадаваць мову*
*Роднай Айчыны.*

**13 студзеня 2014 г.**

## Прашу...

*Усятрымца ўсяісны,*
*Дазволь*
*Затрымацца на грэшнай зямлі.*
*Моцы дай*
*Вытрываць боль,*
*Ад якога пытанні ўзышлі.*
*Для чаго*
*Я прыйшоў*
*І калі*
*Адпусцяць на волю душу,*
*Агарчэлую ў палыне,*
*Падказаць аднойчы прашу.*
*Хоць і не мне...*

**2012**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8–9 (180–181) | 13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741) Новы Час

# Час second-hand
## (канец чырвонага чалавека)

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ



### Запіскі саўдзельніка

Мы развітваемся з савецкім часам. З тым нашым жыццём. Я спрабую сумленна выслухаць усіх удзельнікаў сацыялістычнай драмы…

У камунізма быў вар'яцкі план: перарабіць «старога» чалавека, трухлявага Адама. І гэта атрымалася… можа быць, адзінае, што атрымалася. За семдзесят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып: «homo soveticus». Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, плячо да пляча пражыла шмат гадоў. Ён — гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, таму што homo soveticus — гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі… Цяпер мы жывём у розных дзяржавах, якія гавораць на розных мовах, але нас ні з кім не пераблытаеш. Пазнаеш адразу! Усе мы, людзі з сацыялізму, падобныя і не падобныя на астатніх людзей — у нас свой слоўнік, свае ўяўленні пра дабро і зло, пра герояў і пакутнікаў. У нас адмысловыя адносіны са смерцю. Увесь час у аповедах, якія я запісваю, рэжуць вуха словы: «страляць», «расстраляць», «ліквідаваць», «пусціць у расход» ці такія савецкія варыянты знікнення, як: «арышт», «дзесяць гадоў без права перапіскі», «эміграцыя». Колькі можа каштаваць чалавечае жыццё, калі мы памятаем, што нядаўна гінулі мільёны? Мы поўныя нянавісці і забабонаў. Усё адтуль, дзе быў ГУЛАГ і страшная вайна. Калектывізацыя, раскулачванне, перасяленне народаў…

Гэта быў сацыялізм, і гэта было проста наша жыццё. Тады мы мала пра яго гаварылі. А цяпер, калі свет незваротна змяніўся, усім стала цікавым тое нашае жыццё, усё роўна якім яно было, гэта было наша жыццё. Пішу, адшукваю па макулінках, па драбках гісторыю «хатняга»… «унутранага» сацыялізму. Тое, як ён жыў у чалавечай душы. Мяне заўсёды прыцягвае вось гэтая маленькая прастора — чалавек… адзін чалавек. Насамрэч там усё і адбываецца. <…>

Савецкая цывілізацыя… Спяшаюся захаваць яе сляды. Знаёмыя твары. Распытваю не пра сацыялізм, а пра каханне, рэўнасць, дзяцінства, старасць. Пра музыку, танцы, прычоскі. Пра тысячы падрабязнасцяў зніклага жыцця. Гэта адзіны спосаб загнаць катастрофу ў межы звыклага і паспрабаваць штосьці распавесці. Пра штосьці здагадацца. Не стамляюся дзівіцца таму, якое цікавае звычайнае чалавечае жыццё. Бясконцая колькасць чалавечых праўдаў… Гісторыю цікавяць толькі факты, а эмоцыі застаюцца за бортам. Іх не прынята ўпускаць у гісторыю. Я ж гляджу на свет вачыма гуманітарыя, а не гісторыка. Здзіўлена чалавекам… <…>

**Гісторыя аднаго дзяцінства. Марыя Вайцяшонак, пісьменніца, 57 гадоў**

– Я — асадніца. Я нарадзілася ў сям'і ссыльнага польскага афіцэра-асадніка (osadnik — па-польску «пасяленец», які атрымаў землі на Усходніх Крэсах пасля заканчэння савецка-польскай вайны ў 1921-м годзе). А ў 1939-м (сакрэтны пратакол пакта Молатава–Рыбентропа) Заходнюю Беларусь далучылі да СССР, і тысячы асаднікаў-каланістаў разам са сваімі сем'ямі былі высланы ў Сібір як «небяспечны палітычны элемент» (з цыдулкі Берыі — Сталіну). Але гэта вялікая гісторыя, а ў мяне свая… маленькая…

Не ведаю дня свайго нараджэння… і нават года… Усё ў мяне прыблізнае. Не знайшла ніякіх дакументаў. Я ёсць, і мяне няма. Не памятаю нічога і памятаю ўсё. Я думаю, што мама з'язджала цяжарная мной. Чаму? Мяне заўсёды хвалююць паравозныя гудкі… і пах шпалаў… і плач людзей на станцыях… Магу ехаць добрым, фірмовым цягніком, але прагрукоча побач таварняк, і ў мяне слёзы. Не магу бачыць вагоны для скаціны, чуць роў жывёл… Нас везлі ў гэтых вагонах. Мяне яшчэ не было. І я была. У мяне ў снах няма твараў… сюжэтаў… усе мае бачанні з гукаў… пахаў…

Алтайскі край. Горад Змеінагорск, рака Змееўка… Ссыльных згрузілі за горадам. У возера. Жыць пачалі ў зямлі. У зямлянках. Я нарадзілася пад зямлёй, вырасла там. Зямля мне з дзяцінства пахне домам. Цячэ са столі, адрываецца камяк зямлі, зваліўся і скача да мяне. Гэта — жаба. Але я маленькая, я яшчэ не ведаю, каго трэба баяцца. Сплю з дзвюма козачкамі, на цёплай падсцілцы з казінага «гарошку»… Першае слова «ме-е-е»… першыя гукі… а не «ма»… «мама». Старэйшая сястра Уладзя ўспамінала, як я дзівілася, што козачкі не размаўляюць, як мы. Маё здзіўленне. Яны здаваліся мне роўнымі. Свет быў цэласны, непадзельны. Я і цяпер не адчуваю гэтай розніцы паміж намі, паміж людзьмі і жывёламі. Заўсёды размаўляю з імі… і яны мяне разумеюць… А жучкі, павучкі… яны таксама былі побач… такія каляровыя, такія размаляваныя жучкі. Мае цацкі. Увесну мы разам выбіраліся на сонца, поўзалі па зямлі, шукалі ежу. Грэліся. А ўзімку абміралі, як дрэвы, упадалі ў спячку ад голаду. У мяне свая школа, мяне вучылі не толькі людзі. Я чую і дрэвы, і траву. Больш за ўсё ў жыцці мне цікавыя жывёлы, сапраўды цікавыя. Як мне адлучыцца ад таго свету… ад тых пахаў… Не магу. Вось нарэшце сонца! Лета! Я — наверсе… вакол прыгажосць асляпляльная, і ніхто нікому не рыхтуе ніякай ежы. І яшчэ ўсё гучыць, усё ў фарбах. Я спрабую на смак кожную травінку, лісток… кветку… усе карэньчыкі… блёкату раз наелася, ледзь не памерла. Цэлыя карціны ў памяці… Памятаю гару «Сіняя барада» і сіняе святло на гэтай гары… асвятленне… Святло ішло менавіта з левага боку, са схілу. Ішло яно зверху ўніз… Якія гэта былі відовішчы! Баюся, што ў мяне не хопіць таленту гэта перадаць. Уваскрасіць. Словы — гэта толькі дадатак да стану. Да нашых пачуццяў. Чырвоныя макі, лілеі-саранкі, мар'ін корань… Усё гэта рассцілалася перад вачыма. Пад нагамі. Ці іншая карціна… Я сяджу поруч нейкай хаты. Па сцяне паўзе сонечная пляма… і яна розных колераў… увесь час змяняецца. Доўга-доўга сяджу на тым месцы. Калі б не гэтыя фарбы, я б, напэўна, памерла. Не выжыла. Не памятаю, што мы елі… ці была ў нас якая-небудзь чалавечая ежа…

Увечар я бачыла, як ішлі чорныя людзі. Чорныя адзенні, чорныя твары. Гэта ссыльныя вярталіся з руднікоў… яны ўсе былі падобныя на майго бацьку. Я не ведаю, ці любіў мяне бацька. Ці любіў мяне хто-небудзь?

У мяне вельмі мала ўспамінаў… Мне іх бракуе. Шукаю ў цемры, імкнуся больш адтуль выцягнуць. Рэдка… вельмі рэдка раптам штосьці ўспомніцца, чаго я не памятала. Мне горка, але я шчаслівая. Я тады страшна шчаслівая.

Нічога не магу ўспомніць пра зіму… Узімку я сядзела ў зямлянцы ўвесь дзень. Дзень быў падобны на вечар. Усё ў змярканні. Ніводнай каляровай плямы… Ці былі ў нас нейкія рэчы, акрамя місак і лыжак? Ніякай адзежы… каб штосьці з адзежы… абгортваліся нейкімі анучамі. Ніводнай каляровай плямы. Абутак… Што з абутку? Галёшы… памятаю галёшы… у мяне таксама галёшы, вялікія і старыя, як у мамы. Напэўна, маміны… Першае паліто мне выдалі ў дзіцячым доме, і першыя рукавіцы. Капялюшык. Памятаю: у цемры ледзь-ледзь бялее твар Уладзі… Цэлымі днямі яна ляжыць і кашляе, яна захварэла на рудніках, у яе сухоты. Я ўжо ведаю гэтае слова… Мама не плача… Не памятаю, каб мама плакала, яна мала гаварыла, а потым, мабыць, наогул перастала размаўляць. Калі кашаль адыходзіць, Уладзя кліча мяне: «Паўтарай за мной… Гэта — Пушкін». Я паўтараю: «Мороз и солнце, день чудесный! Еще ты дремлешь, друг прелестный!». І ўяўляю сабе зіму. Як у Пушкіна.

Я рабыня слова… я слову веру абсалютна… Заўсёды чакаю слоў ад чалавека, і ад незнаёмага чалавека таксама, ад незнаёмага нават больш чакаю. На незнаёмага чалавека яшчэ можна спадзявацца. Як быццам і самой хочацца сказаць… і я рашаюся… Гатовая. Калі я пачынаю камусьці распавядаць, потым на тым месцы, пра які я казала, я нічога ўжо не знаходжу. Там пустэча, я гублю гэтыя ўспаміны. Там імгненна — дзірка. І трэба доўга чакаць, каб яны вярнуліся. Таму я маўчу. Я ўсё апрацоўваю ў сабе. Хады, лабірынты, норкі…

Шматкі… Адкуль у мяне ўзяліся гэтыя шматкі і абрэзкі? Рознакаляровыя, шмат малінавага колеру. Хтосьці мне іх прынёс. З тых шматкоў я шыла маленькіх чалавечкаў, стрыгла сабе валасы, рабіла ім прычоскі. Гэта былі мае сяброўкі… Лялек я не бачыла, нічога не ведала пра лялькі. Жылі мы ўжо ў горадзе, але не ў доме, а ў склепе. Адно сляпое акенца. Але ў нас ужо з'явіўся адрас: вуліца Сталіна, дом сямнаццаць. Як і ў іншых… як і ва ўсіх… у нас ужо быў адрас. Там я гуляла з адной дзяўчынкай… дзяўчынка была не са склепа, а з дома. Хадзіла ў сукенках і ў чаравічках. А я — у мамчыных галёшах… Я прынесла ёй паказаць гэтыя шматкі, на вуліцы яны глядзеліся яшчэ прыгажэй, чым у склепе. Дзяўчынка пачала іх у мяне прасіць, на штосьці хацела выменяць тыя шматкі. Я — ні завошта! Прыйшоў яе тата: «Не сябруй з гэтай жабрачкай», — сказаў ён. Я зразумела, што мяне ўзялі і адсунулі. Мне трэба ціха сыйсці, хутчэй сыйсці з гэтага месца. Вядома, гэта ўжо сталыя словы, не дзіцячыя. Але пачуццё… тое пачуццё я памятаю… Табе так балюча, што ўжо няма крыўды і няма жалю да сябе, у цябе раптам многа-многа свабоды. А літасці да сябе няма… Калі літасць ёсць,

то чалавек яшчэ не так глыбока зазірнуў, ён яшчэ не сыйшоў ад людзей. А калі ён сыйшоў, людзі яму зусім не патрэбныя, яму хапае таго, што ў ім самім. Я занадта глыбока зазірнула… Мяне цяжка пакрыўдзіць. Я рэдка плачу. Мне смешныя ўсе звычайныя беды, жаночыя крыўды… Для мяне гэта шоў… шоў жыцця… Але калі я пачую, што плача дзіця… ніколі не міну жабрака… Ніколі не міну. Пах гэты я памятаю, пах бяды… Нейкія хвалі ідуць, я дагэтуль да іх падлучана. Гэта пах майго дзяцінства. Маіх пялюшак.

Я іду з Уладзяй… мы нясём пуховую хустку… Прыгожую рэч для нейкага іншага свету. Падрыхтаваная замова. Уладзя ўмела вязаць, на тыя грошы мы жылі. Жанчына разлічылася з намі, а потым кажа: «Давайце я вам нарэжу кветак». Як — нам букет? Стаім дзве папрашайкі, у нейкай мешкавіне… галодныя, халодныя… І нам — кветкі! Мы заўсёды думалі толькі пра хлеб, а гэты чалавек здагадаўся, што мы здольныя думаць яшчэ пра нешта. Ты быў замкнёны, замураваны, а табе адкрылі фортку… акно расчынілі… Аказваецца, акрамя хлеба… акрамя ежы… нам можна даць і букет кветак! Значыць, мы нічым ад іншых не адрозніваемся. Мы… такія ж… Гэта было парушэннем правілаў: «Давайце я вам нарэжу кветак». Не нарву, не збяру, а нарэжу ў сваім садзе. З гэтага моманту… Магчыма, гэта быў мой ключ… мне далі ключ… Мяне гэта перавярнула… Я памятаю той букет… вялікі букет касмей… Цяпер заўсёды іх саджаю ў сябе на дачы. (Мы сядзім якраз у яе на дачы. Растуць тут адны кветкі і дрэвы.) Я нядаўна ездзіла ў Сібір… Горад Змеінагорск… вярнулася туды… Шукала нашую вуліцу… наш дом… наш склеп… Але дома ўжо няма, дом знеслі. Ва ўсіх пытала: «А вы памятаеце?» Адзін стары ўспомніў: так, у склепе жыла прыгожая дзяўчына, яна хварэла. Людзі больш запамінаюць прыгажосць, чым пакуту. І букет нам падарылі, таму што Уладзя была прыгожая.

Я пайшла на могілкі… Ля самых варотаў стаяла вартоўня з забітымі вокнамі. Доўга стукала. Выйшаў вартаўнік, ён быў сляпы… Што за знак? «Не скажаце, дзе хавалі ссыльных?» — «А… та-а-ам…» — і махнуў рукой ці то ўніз, ці то ўгару. Нейкія людзі павялі мяне ў самы далёкі кут… Адна трава там… адна трава… Уначы не спала, таму што задыхалася. Спазм… такое пачуццё, што хтосьці мяне душыць… Уцякла з гасцініцы на станцыю. Пешшу праз увесь пусты горад. Станцыя была зачынена. Села на рэйкі і да раніцы чакала. На адхоне сядзелі хлопец з дзяўчынай. Цалаваліся. Развіднела. Прыйшоў цягнік. Пусты вагон… Уваходзім: я і чацвёра мужчынаў у скураных куртках, голеныя, падобныя да крымінальнікаў. Пачалі частаваць мяне агуркамі і хлебам. «Бум у карты гуляць?» Мне не было страшна.

Нядаўна ўспомніла… Ехала і ўспомніла… у тралейбусе ехала… Як Уладзя спявала: «Я могилу милой искал / Но найти ее нелегко…». А аказваецца, любімая песня Сталіна… калі яе спявалі, ён плакаў… І я яе адразу разлюбіла, гэтую песню. Да Уладзі прыходзілі сяброўкі, звалі на танцы. Я ўсё гэта памятаю… Мне было ўжо шэсць ці сем гадоў… Я бачыла, як у трусы замест гумкі яны зашывалі дрот. Каб нельга было сарваць… Там жа адны ссыльныя… зэкі… Забівалі часта. Пра каханне я таксама ўжо ведала. Да Уладзі прыходзіў прыгожы хлопец, калі яна хварэла — ляжала ў нейкіх анучах, кашляла. А ён так на яе глядзеў…

Мне балюча, але гэта — маё. Я нікуды ад яго не бягу… Не магу сказаць, што я ўсё прыняла, удзячная за боль, тут трэба нейкае іншае слова. Цяпер я яго не знайду. Ведаю, што ў гэтым стане я далёка ад усіх. Я адна. Узяць пакуту ў свае рукі, валодаць ёй цалкам і выйсці з яе, штосьці адтуль вынесці. Гэта такая перамога, толькі ў гэтым ёсць сэнс. Ты не з пустымі рукамі… А інакш навошта было спускацца ў пекла?

Вось хтосьці падводзіць мяне да акна: «Паглядзі, вунь вязуць твайго бацьку…». Незнаёмая жанчына цягнула штосьці на санках. Кагосьці ці штосьці… захутанае ў коўдру і перавязанае вяроўкай…

Потым мы з сястрой хавалі нашу маму. Засталіся адны. Уладзя ўжо ледзь хадзіла, у яе аднімаліся ногі. Скура адслойвалася як папера. Ёй прынеслі бутэлечку… Я думала, што гэта лекі, а гэта была нейкая кіслата. Атрута. «Не бойся…» — паклікала яна мяне і дае гэтую бутэлечку. Яна хацела, каб мы разам атруціліся. Я бяру гэтую бутэлечку… Бягу і кідаю яе ў печ. Шкло разбіваецца… Печ была халодная, там даўно нічога не варылася. Уладзя заплакала: «Ты ўся ў бацьку». Хтосьці нас знайшоў… Можа, яе сяброўкі? Уладзя ляжала ўжо ў непрытомнасці… Яе — у лякарню, мяне — у дзіцячы дом.

Бацька… Я хачу яго ўспомніць, але як ні намагаюся, не бачу яго твара, няма ў маёй памяці яго твара. Потым я ўбачыла яго, маладога, на фатаграфіі ў цёткі. Праўда… я на яго падобная… Гэта наша з ім сувязь. Бацька ажаніўся на прыгожай сялянскай дзяўчыне. З беднай сям'і. Хацеў зрабіць з яе пані, а мама заўсёды насіла хустку, насунуўшы яе нізка-нізка на бровы. Не пані. У Сібіры бацька не доўга жыў з намі… ён сыйшоў да іншай жанчыны… А я ўжо нарадзілася… Я была пакараннем! Праклёнам! Ні ў каго не было сілаў любіць мяне. І ў мамы таксама не было гэтых сілаў. Гэта запраграмавалася ў маіх клетках: не роспач, не крыўда… і нялюбасць… Мне заўсёды бракуе любові, нават калі мяне любяць, я не веру, мне ўвесь час патрэбныя доказы. Знакі. Яны патрэбныя мне кожны дзень. Кожную хвіліну. Мяне цяжка кахаць… я ведаю… (Доўга маўчыць.) Я люблю свае ўспаміны… Люблю свае ўспаміны за тое, што там усе жывыя. У мяне там усё ёсць: мама… тата… Уладзя… Мне абавязкова трэба сядзець за доўгім сталом. З белым абрусам. Я жыву адна, але ў мяне на кухні стаіць вялікі стол. Можа, яны ўсе са мной… Я магу ісці — і раптам паўтару нечы жэст. Не мой… Уладзін жэст… ці мамчын… Мне здаецца, мы датыкаемся рукамі…

Я — у дзіцячым доме… У дзіцячым доме сіротаў-асаднікаў выхоўвалі да чатырнаццаці гадоў, а потым адпраўлялі на руднікі. І ў васямнаццаць гадоў — сухоты… як ва Уладзі… Гэта лёс. Дзесьці далёка, казала Уладзя, у нас ёсць дом. Але вельмі далёка. Там засталася цётка Марыля, мамчына сястра… Непісьменная сялянка. Яна хадзіла, прасіла. Чужыя людзі пісалі лісты. Не разумею і цяпер… ну як? Як яна дамаглася? У дзіцячы дом прыйшло распараджэнне: адправіць мяне разам з сястрою па ўсім такім адрасе.

У Беларусь. У першы раз да Мінска мы не даехалі, у Маскве нас ссадзілі з цягніка. Усё паўтарылася: Уладзю — у яе пачаўся жар — у лякарню, мяне — у ізалятар. З ізалятара — у прыёмнік-размеркавальнік. Сутарэнне, пахла хлоркай. Чужыя людзі…

Я ўвесь час жыву сярод чужых людзей… Усё жыццё. А цётка пісала… пісала… Праз паўгода знайшла мяне ў тым прыёмніку. Ізноў я чую словы «дом», «цётка»… Мяне вядуць да цягніка… Цёмны вагон, толькі асветлены праход. Цені людзей. Са мной — выхавальніца. Даехалі да Мінска і ўзялі квіток у Паставы… я ўсе гэтыя назвы ведаю… Уладзя прасіла: «Ты запамінай. Запомні: наш маёнтак Соўчына». З Паставаў ідзём пешшу ў Грыдзькі… у цётчыну вёску… Селі каля моста перадыхнуць. А тым часам сусед ехаў з начной змены на ровары. Спытаў, хто мы. Адказалі, што прыехалі да цёткі Марылі. «Так, — сказаў ён, — правільна ідзяце». І, відаць, перадаў цётцы, што бачыў нас… яна пабегла насустрач… Я ўбачыла яе і кажу: «А вось гэта цётка падобная на маю маму». І ўсё.

Стрыжаная «пад нулёўку», сяджу на доўгай лаве ў хаце дзядзькі Стаха, мамчынага брата. Дзверы адкрытыя, і праз праём відаць, што людзі ідуць і ідуць… спыняюцца і моўчкі глядзяць на мяне… Жывапіс поўны! Ніхто адзін з адным не размаўляе. Стаяць і плачуць. Абсалютная цішыня. Уся вёска прыйшла… І яны перакрылі мой струмень слёз, кожны плакаў са мной. Усе яны ведалі бацьку, хтосьці ў яго працаваў. Не раз я потым пачую: «У калгасе нам «палачкі» налічаюць, а Антэк (бацька) заўсёды разлічваўся». Вось яно — мая спадчына.

Нашу хату перавезлі з хутара на цэнтральную сядзібу калгаса, у ёй дагэтуль сельсавет. Я ўсё ведаю пра людзей, ведаю больш, чым хацелася б. У той жа дзень, калі чырвонаармейцы пагрузілі нашу сям'ю на калёсы і павезлі на станцыю, тыя ж людзі… цётка Ажбета… Юзэфа… дзядзька Мацей… разнеслі з нашай хаты ўсё па сваіх хатах. Дробныя пабудовы разабралі. Раскацілі па бярвенцы. І малады сад выкапалі. Яблынькі. Цётка прыбегла… і панесла толькі вазон з акна на памяць… Не хачу я гэта памятаць. Ганю з памяці. Я памятаю, як вёска мяне няньчыла, насіла на руках. «Ідзём, Манечка, да нас, мы грыбоў наварылі…», «Давай малачка табе налью…». Сёння я прыехала, а назаўтра ў мяне ўвесь твар пакрыўся пухірамі. Пякло вочы. Не магла падняць павекі. Мяне за рукі вадзілі мыцца. У мяне выбольвала ўсё, выпальвалася, каб я паглядзела на свет іншымі вачыма. Гэта быў пераход з таго жыцця да гэтага… Цяпер я ішла па вуліцы, і мяне кожны спыняў: «Якая дзяўчынка! Ай, якая дзяўчынка!». Без гэтых слоў у мяне вочы былі б як у сабакі, якога выцягнулі з палонкі. Я не ведаю, як я глядзела б на людзей…

Жылі цётка з дзядзькам у каморцы. Хата ў вайну згарэла. Паставілі каморку, думалі, на першыя часы, і там засталіся. Саламяны дах, маленькае акенца. У адным куце бульбачка (цётчыны словы) — не «бульба», а «бульбачка», а ў іншым — парася віскоча. Ніякіх дошак на падлозе — зямля накрыта аерам і саломай. Хутка сюды ж прывезлі Уладзю. Пажыла яна трохі і памерла. Цешылася, што памірае дома. Апошнія яе словы: «А што будзе з Манькай?»

Усё, што я даведалася пра любоў, я ведаю з цётчынай каморкі…

«Мая ты птушачка… — звала мяне цётка. — Мая жужалка… пчолка…». Я ўвесь час лапатала, цэрабіла яе. Я не магла паверыць… Мяне любілі! Любілі! Ты расцеш, а табой любуюцца — гэта такая раскоша. У цябе ўсе костачкі распростваюцца, усе цягліцы. Я танчыла ёй «рускага» і «яблочко». Мяне навучылі гэтым танцам у ссылцы… Спявала песні… «Есть по Чуйскому тракту дорога. / Много ездит по ней шоферов…», «Умру, в чужой земле зароют, / Заплачет мамочка моя, / Жена найдет себе другого, / А мать сыночка — никогда…». Набегаешся за дзень так, што ногі ўсе сінія-сінія, абадраныя — абутку ж не было ніякага. Ляжаш увечар спаць, а цётка твае ножкі закруціць у падол сваёй начной кашулі, сагрэе. Яна мяне спавівала. Ляжыш дзесьці каля жывата… як ва ўтробе… Таму я не памятаю зла… Я на зло забылася… дзесьці далёка яно ў мяне схавана… Раніцай прачыналася ад цётчынага голасу: «Я дранікі спякла. Паеш». — «Цётка, я спаць хачу». — «А ты паеш і спі». Яна разумела, што ежа… бліны… для мяне як лекі. Бліны і любоў. А дзядзька наш Віталік быў пастух, насіў на плячы пугу і доўгую берасцяную дудку. Хадзіў у ваенным кіцелі і галіфэ. Прыносіў нам з пашы «торбу» — там і сыр, і кавалачак сала — усё тое, чым яго частавалі гаспадыні. Святая бедната! Яна для іх нічога не значыла, не крыўдзіла, не абражала. Як для мяне важна ўсё гэта… каштоўна… Адна сяброўка жаліцца: «Няма грошай на новую машыну…», іншая: «Усё жыццё марыла, а так і не купіла сабе норковае футра…». Як праз шкло чую… Адзінае, пра што я шкадую, што не магу ўжо насіць кароткую спадніцу… (Разам смяёмся.)

У цёткі быў незвычайны голас… дрыготкі, як у Эдзіт Піяф… Яе звалі спяваць на вяселлях. І калі хтосьці паміраў. Я заўсёды з ёй… побач бягу… Памятаю… Вось яна стаіць-стаіць каля труны… доўга стаіць… У нейкі момант адлучаецца неяк ад усіх, падыходзіць бліжэй. Павольна падыходзіць… яна бачыць, што ніхто не можа сказаць гэтаму чалавеку апошніх слоў. Людзі хочуць, але не ўсе ўмеюць. І вось яна пачынае: «І куды ты, Анечка, ад нас пайшла… светлы дзень і ночку пакінула… хто цяпер будзе хадзіць па тваім двары… хто дзетак тваіх пацалуе… хто ўвечары кароўку сустрэне…». Ціха-ціха падбірае словы… Усё пабытавае, простае, і яно ж высокае. Сумнае. Нейкая самая апошняя праўда ў гэтым простым. Канчатковая. Голас дрыжыць… І ўсе за ёй пачынаюць плакаць. Ужо забыта, што карова не падоена, муж п'яны дома застаўся. Змяняюцца твары, сыходзіць мітусня, на тварах праступае святло. Усе плачуць. Я саромеюся… і шкадую цётку… Вернецца яна дахаты хворая: «Ой, Манечка, галоўка шуміць». Але такое было ў цёткі сэрца… Са школы прыбягу… Маленькае акенца, іголка з палец… Цётка зашывае нашыя анучкі і спявае: «Агонь зальеш вадою, / Каханне ж анічым…». Я азорана гэтымі ўспамінамі…

Ад нашага маёнтка… Ад нашай хаты засталіся адны камяні. Але я чую іхняе цяпло, мяне цягне да іх. Прыязджаю туды, як на магілу. Я магу там заначаваць у полі. Хаджу асцярожна, баюся ступіць. Чалавека няма, а жыццё ёсць. Гул жыцця… розных жывых істотаў… Хаджу і баюся разбурыць нечы дом. Я і сама магу ўладкавацца дзе заўгодна, як мурашка. У мяне культ дома. Каб раслі кветкі… было хараша… Я памятаю, як у дзіцячым доме мяне вядуць у мой пакой, дзе я буду жыць. Белыя ложкі… Шукаю вачыма: ці не заняты ложак ля вакна? Ці будзе ў мяне свая тумбачка? Я шукаю, дзе будзе мой дом.

Цяпер… Колькі гэта мы сядзім і гаворым? За гэты час адгрымела навальніца… суседка прыходзіла… тэлефон званіў… Усё гэта ўплывала на мяне, на ўсё гэта я адгукалася. А на паперы застануцца толькі словы… Іншага нічога не будзе: суседкі не будзе, тэлефонных званкоў… таго, што я не сказала, але яно мільгала ў памяці, прысутнічала. Заўтра наогул я аб усім, можа быць, распавяду інакш. Словы засталіся, а я ўстану і пайду далей. Я навучылася з гэтым жыць. Умею. Іду і іду.

Хто гэта мне даў? Усё гэта… Бог даў ці людзі? Калі Бог даў, то ён ведаў, каму даваць. Пакута мяне выгадавала… Гэта мая творчасць… Мая малітва. Колькі разоў я хацела каму-небудзь усё распавесці. Прагаворвала. Але ніхто мяне ні разу не спытаў: «А далей што… далей?». А я ўвесь час чакала добрых ці дрэнных людзей, не ведаю, але ўвесь час чакала людзей. Усё жыццё чакаю, што мяне хтосьці знойдзе. І я ўсё яму распавяду… і ён спытае: «Ну, а далей што?».

Цяпер пачалі казаць: сацыялізм вінаваты… Сталін… Як быццам у Сталіна была ўлада, як у Бога.

У кожнага быў свой Бог. Чаму ён маўчаў? Мая цётка… наша вёска…

Я памятаю яшчэ Марыю Пятроўну Арыставу, заслужаную настаўніцу, якая наведвала нашу Уладзю ў бальніцы ў Маскве. Чужая жанчына… яна і прывезла яе да нас у вёску, унесла на руках… Уладзя ўжо зусім не хадзіла… Марыя Пятроўна дасылала мне алоўкі, цукеркі. Пісала лісты.

А ў дзіцячым прыёмніку-размеркавальніку, дзе мяне мылі, дэзінфікавалі… Я на высокай лаве… уся ў пене… магу саслізнуць, разбіцца аб цэмент. Слізгаю… спаўзаю… Чужая жанчына… нянька… падхоплівае мяне і прыціскае да сябе: «Маё ты птушанятка».

Я бачыла Бога.

**Пераклад з рускай мовы.**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8–9 (180–181) | 13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741)
Новы Час

# Памяць нядрэмная

Генадзь БУРАЎКІН (1936-2014)

* * *

*З гаманкіх сталічных станцый*
*У мурожны кут глухі*
*Цягне зноў і зноў*
*Вяртацца*
*Праз гады*
*І праз шляхі,*
*Каб знаёмы водар жытні*
*Удыхнуць у хаце зноў*
*І знайсці свае сцяжынкі*
*Між замшэлых валуноў,*
*На рыпучы ганак выйсці,*
*Згледзець бусла ў вышыні*
*І заціхнуць,*
*Як калісьці,*
*У дрымотнай цішыні,*
*І глядзець,*
*Як ля адрыны —*
*Не забылася яшчэ —*
*Слуп нястомны камарыны*
*Апантана мак таўчэ,*
*І адчуць,*
*Што не дарэмна*
*На вятрах чужых дарог*
*Ты*
*Для памяці нядрэмнай*
*Патаемна ўсё збярог…*

* * *

*Ну што паробіш,*
*Не магу іначай —*
*Не слухаючы мудрых засцярог,*
*Я зноў хачу*
*Прайсці сцягой юначай,*
*Адрынуўшы наезджанасць дарог.*

*Мяне туды ўсё кліча сэрца,*
*Быццам*
*Яно жыве там з даўняе пары*
*І я ні заблудзіцца,*
*Ні згубіцца*
*Не здолею ў сасновым гушчары.*

*Я ведаю:*
*Рачулка наша гіне,*
*Палянкі загубіліся ў быллі…*
*Быў іншы час.*
*Былі мы ўсе другімі*
*І дрэвы невысокімі былі.*

*І, можа,*
*З новай яваю сваяцтва*
*Я сумнаю душою не прыму,*
*А ўсё ж хачу*
*Вярнуцца ў свет юнацтва,*
*Хоць толкам і не ведаю,*
*Чаму…*

* * *

*Праплывае месяц лодкаю*
*Над разлівамі расы.*
*А жыццё —*
*Яно кароткае,*
*Як дабаўкі не прасі.*

*Як шчаслівa ні галёкай*
*На сцяжынках між атаў,*
*Адспяваў сваё салоўка,*
*Адзвінеў,*
*Адшчабятаў.*

*Як вяртання ні выпрошвай,*
*Падганяе зноў і зноў*
*Цёплы вецер жытняй пожні,*
*Горкі водар палыноў…*

* * *

*Вы гэтулькі чакалі іх*
*І зблізку,*
*І здаля,*
*Іх профілі чаканілі*
*На новых медалях.*

*Вы іх прыйсці прасілі*
*Ва ўладу на пастой.*
*Вы верылі іх сіле*
*І спрытнасці крутой.*

*І вось яны*
*Нахрапам*
*Пасады занялі.*
*І стала бачна раптам*
*Што ўсе яны —*
*Нулі,*
*Што ў іх усё разлічана:*
*І клёк,*
*І благадаць,*
*Ды толькі за аблічамі*
*Асобаў не відаць,*
*Ды толькі справядлівасці*
*У іх зусім няма.*
*І вам з-пад іх не вылезці.*
*І шчасце сніць —*
*Дарма.*

*За золата прымаеце*
*Дзяшовенькую медзь…*
*Ну што ж,*
*Вы тое маеце,*
*Што так хацелі мець…*

* * *

*Пазбавіўшыся ад цароў,*
*Займелі мы такую ўладу,*
*Што прызначае нам сяброў*
*І вызначае нам пасаду.*

*Дыктуе правілы свае.*
*Каб не было ні ў кога лішку,*
*Усім наедак раздае:*
*Каму — чарпак,*
*А каму — лыжку.*

*Ніхто не трэба ёй,*
*Апроч*
*Тых,*
*Што з клыкастымі лычамі.*
*Нібы астрожнік,*
*Дзень і ноч*
*Стаіць нядрэмна за плячамі.*

*І марыць,*
*Каб усе*
*Сп'яна*
*Ляжалі перад ёю плазам…*
*А вы лічылі,*
*Што яна*
*Сыйшла ў нябыт*
*З царамі разам…*

* * *

*Няпраўда,*
*Што імгненна паміраюць*
*Бязгрэшнікі ў намоленай цішы.*
*Анёлы смерці*
*Доўга падбіраюць*
*Свой ключ*
*Да іх асуджанай душы.*

*Даюць спаўна спазнаць*
*Людскія мукі,*
*Бяссілле крыўды*
*І адчай трывог,*
*А потым*
*Ціха іх вядуць за рукі*
*Па той,*
*Апошняй з іх зямных дарог.*

*З аблокаў*
*Дазваляюць азірацца*
*На дзедаў крыж,*
*На матчына вакно,*
*На хмельнае шчаслівае юнацтва*
*І на сяброў,*
*Што здрадзілі даўно.*

*З плячэй здымаюць*
*Іхні скарб сабраны,*



*Сціраюць пыл,*
*Нязмыты пры жыцці,*
*І ў райскі сад,*
*Што за высокай брамай,*
*Толькі пасля ўжо*
*Клічуць увайсці…*

* * *

*Хто з дудой,*
*Хто з нябеснаю маннай,*
*Хто з тутэйшых,*
*А хто з чужакоў —*
*Колькі зведалі мы іх,*
*Падманных*
*І нахрапістых важакоў!*

*Як яны нам спявалі асанну,*
*Як кавалі для нас медалі,*
*Толькі б мы,*
*Неразумныя,*
*Самі*
*Ім жаданую ўладу далі!*

*Не даваў ім суцішыцца*
*Верад*
*Абяцанкі пустыя нізаць.*
*Нам кляліся павесці наперад,*
*Самі ж праглі вярнуцца назад.*

*І цяпер*
*На глухіх раздарожжах*
*Нерашуча глядзім з-пад рукі*
*І ніяк разабрацца не можам,*
*Нас куды завялі важакі…*

* * *

*Ах, палітычныя паяцы!*
*Ах, чынавенскія карчы!*
*Усё вам хочацца смяяцца.*
*Усё вам здзекавацца карціць.*

*З трыбун высокіх*
*І са сцэны*
*Вы пырскаеце ўсмак слінoй,*
*Нібы ў вас досвед неацэнны*
*І справядлівасць за спіной.*

*Усіх, хто вам не даспадобы,*
*Гатовы спляжыць вы датла.*
*Абы заўжды было вам добра*
*І чарка поўная была.*

*А як вы кпіце на нарадзе:*
*Які запал,*
*Які напор!*
*І дзіўна аж,*
*Што ў заняпадзе*
*Сатыра ў нас да гэтых пор…*

* * *

*Над вячэрняй цішай хмызнякоў,*
*Над дрымотнай апусцелай шырай*
*Прашумела чарада шпакоў,*
*Што сабраліся ў далёкі вырай.*

*Іх пакліча ўранні шлях цяжкі*
*І не грэе ўжо мурожны выган,*
*Дзе стаяць панурыя стажкі*
*І блішчыць ракі халодны выгін.*

*Каля весніц лісця намяло.*
*І я ў шэры змрок гляджу нясмела…*
*Вось і лета позняе маё*
*Лёгкімі крыламі адшумела…*

* * *

*О, прысады мінскія,*
*Балюстрады нізкія,*
*Кветнікі з цюльпанамі,*
*Лаўкі пад каштанамі.*

*Там ішлі мы поначы,*
*Ласкай сэрца поўнячы,*
*Дзелячыся з ценямі*
*Снамі-летуценнямі.*

*Там маўчаць апоўначы,*
*Нашы клятвы помнячы,*
*Над вадою віснучы,*
*Вербы каля Свіслачы.*

* * *

*Духата,*
*Як спрут,*
*Сціскае сэрца,*
*Блытае і плавіць думкі ўсе.*
*І краплісты дождж,*
*Што з неба сеецца,*
*Ні на міг палёгкі не нясе.*

*Сціхлі птушкі.*
*Апусцілі лозы*
*Лісце перагрэтае ў раку.*
*Нават камары*
*І тыя млосна*
*Раптам пахаваліся ў цяньку.*

*І ўжо ў зморы бачыцца,*
*Як дзіва,*
*Што да сонца*
*Ў бляклай сіняве*
*Немінуча,*
*Грозна*
*І маўкліва*
*Хмара навальнічная плыве.*

* * *

*Спяшаюся дарогай торнай*
*Да хат,*
*Прымоўклых між прысад,*
*І радуюся,*
*Як прасторна*
*Мне расхінуўся далягляд.*

*плывуць ужо*
*Пад небам чыстым*
*У край далёкі жураўлі.*
*І так лагодна і ўрачыста*
*Спакой пануе на зямлі.*

*Жнівом падстрыжаныя нівы*
*Яшчэ змаркотнелі не ўсе.*
*І ветрык,*
*Лёгкі і гуллівы,*
*Мне ўслед саломінку нясе…*

* * *

*Вось нарэшце ўжо зіма адужала*
*Мокрую, расхрыстаную восень.*
*І дыхнула з неба*
*Колкай сцюжаю.*
*І ў вазах*
*Званчэй скрыгочуць восі.*

*Зранку*
*Праяўляюцца на вокнах*
*Першыя марозныя узоры.*
*Кроплі зледзянелыя*
*На вольхах*
*Свецяцца,*
*Як выстылыя зоры…*



Анатоль КУДРАВЕЦ
(1936—2014)

# Бацька

Елка стаяла не з самага краю лесу, але ў прасвет паміж камлямі іншых дрэваў — маладзейшых, з высока падабранымі лапкамі, добра было відаць, што робіцца ў канцы пасёлка.

Урэшце, і канец пасёлка Сцяпана не надта цікавіў. Яго цікавіла трэцяя хата па той бок вуліцы. Тры акны ў блакітных аканіцах, тры вертыкальныя ромбікі, прарэзаныя ў франтоне. Ромбікі замянялі акенца, каб на гарышчы можна было нешта бачыць. Ён сам іх праразаў, гэта была яго хата.

Другі дзень яны з Валодзем глядзяць на гэту хату, і другі дзень ніхто не адчыніў дзвярэй ні туды, ні адтуль. І за вокнамі не было відаць ніякага жыцця — усё замуравана белым холадам. Быццам у хаце не было нікога жывога.

А там павінны быць сын і дачка. Пётрусь і Анеля. Пётрусю — дванаццаць, Анелі — сем. Два гады як памерла іх маці, пакутніца Алена, і два гады, лічы, усё на плячах хлапца — і яда, і дровы, і сястрычка, і хата. Сіроты пры жывым бацьку. І бацька, як загнаны звер, месца сабе не знаходзіць. Туляецца, як бадзяжка. Чужы ў сваім лесе, чужы ў сваім сяле. Вунь яна, твая хата, твае слівы, твае яблыні. Сам садзіў, сам даглядаў, няньчыў. Ці то не мужык, не гаспадар, ці то зломак — хоць з тапаром, хоць з касой, хоць плячо пад бервяно...

Хацелася волі: і сабе, а болей дзецям, каб нічога не баяліся, каб чулі сябе людзьмі. Каб ніхто не камандаваў, не ездзіў на табе, як на скаціне. Здавалася, — можна, здавалася, яшчэ трошкі пацярпець, яшчэ трошкі і... І... Не далі. І тыя не далі, і гэтыя не даюць. І не дадуць. Але, дзякаваць Богу, лёс міласаў: крыві на яго руках не было. Не было... Хлопцы пайшлі за войскам, на захад. «Хадзем, — казалі і яму. — Хадзем, бо тут табе жыцця не будзе». — «А дзеці? Як я дзяцей кіну?» — «І дзецям жыцця не будзе...»

Не пайшоў. Не захацеў пайсці. І вось ляжыць пад елкай і глядзіць на сваю хату.

Хата жыве, пакуль у ёй жывуць, — гэта Сцяпан ведаў добра. Яшчэ даўжэй хата жыве, калі ў ёй гаспадары — сваё ёсць сваё. Свая і болька дарагая. Таму і працаваўся, каб дзяцей забіралі ў прытулак. Калі па душы, працаваўся не толькі таму, што хата трымала. Ён ведаў: забяруць дзяцей — і болей ён іх ніколі не пабачыць. А пакуль яны тут, тут усё яго, тут яго сям'я, тут яго дом, ***яго*** дом. Не стане іх — не стане нічога. А так хоць праз тыдзень, хоць праз два, хоць крадком, хоць на некалькі хвілін, але яны разам, усёй сям'ёй разам. Усім гняздом.

Дзеці таксама не хацелі ісці ў прытулак. «Мы будзем з бабай». Баба, Сцяпанава маці, жыла на сваім селішчы, у залесной вёсцы, за тры кіламетры. Пра бацьку дзеці стараліся ні з кім не гаварыць. Яны ведалі, што пра бацьку нікому напамінаць не трэба. Яго лічылі бандытам, яго шукала міліцыя, яго лавілі. Бандыт. Які ён бандыт?.. Чаму ён бандыт?

Але чаму з коміна не ідзе дым?.. Хай і на вясну пайшло, хай і невялікі мароз, але ж зіма. Можа, дзеці не вытрымалі чакаць і пайшлі за лес да бабы? Але ж ён сказаў, каб былі дома, каб чакалі. Ён абяцаў прынесці хлеба, а можа і яшчэ чаго. Ён заўсёды прыносіў нешта з яды. Цяпер хлеба не прынёс, прынёс бульбы. Вунь яна, у торбе, у ігліцы.

Тыя разы ён прыходзіў адзін. Аднаму прасцей у сваім сяле, у сваім двары, у сваёй хаце. А Валодзю няма куды дзецца: ні дома, ні радні, усё з'ела вайна. Пасля Цераболі, калі іхнія зямлянкі аблажылі энкавэдысты, з шасці жывымі выйшлі толькі яны ўдвух. Так і ходзяць разам.

Елка была старая, магутная, — можа, з метр, можа, болей у камлі. Сукі пачыналіся высока, у рост чалавека, але раскідвалі голле так шырока, што не маглі ўтрымаць уроўні з зямлёй ні зялёную мятлу-кучомку, ні саміх сябе, апускаліся ўніз, выгіналіся дугой, дастаючы да самай зямлі. Зверху налягалі другія лапкі — зеленейшыя, маладзейшыя, густа аброслыя іголкамі, робячы з елкі тое, што называецца словам «шацёр». Ні дождж, ні снег не маглі прабіць гэты высозны зляжалы панцыр, пад самым верхам якога знайшла месца для свайго гнязда сям'я каршакоў. Разумныя птушкі, выбіраюць дрэва і не ў самай глыбі лесу і не з самага краю.

За гэты час, як мужыкі тут, коршак прылятаў двойчы. Пасядзіць, пасядзіць між галля, быццам у яго ніякага клопату няма, потым ціха сарвецца ўніз, нават не сарвецца — мякка паплыве на разгорнутых крылах убок вёскі, крута развернецца, разы са два ляніва ўзмахне пругкай сілай распраўленага пер'я і пойдзе над лесам.

Быццам і не прылятаў, быццам яму і клопату мала да гэтых двух мужыкоў, што ляжаць пад ягоным гняздом на сухой іглiцы, засланай сенам.

Дзень хіліўся да захаду. Сонца высвеціла ўсе тры акны хаты — спачатку першае, ад слівы, потым другое, потым трэцяе. Пагуляла промнямі на слюдзяных шыбах, на блакітных аканіцах, на франтоне з трыма ромбікамі.

— Сцяпан, ты сам зашываў франтон? — спытаў Валодзя.

— Сам.

— І не бачыў, што адну дошку, вунь тую, правей цэнтра, прышыў крыва?

— Ска-а-жаш...

— А ты прыгледзься...

Сцяпан прымружыў вочы. І праўда, калі глядзець адсюль, то трэцяя ад цэнтра дошка нібыта знізу ссунута ўбок і не клалася ў роўны вертыкальны строй усіх астатніх. Як жа так? Ён жа сам прыбіваў, сам меркаваў...

— Мы глядзім з боку. Калі б глядзелі ў лоб — там ніякай касіны, міліметр да міліметра, — сказаў Сцяпан.

Памаўчалі, але нядоўга.

— Валодзя, я не магу болей ляжаць, я пайду.

— Ты пойдзеш па сваю смерць, — адказаў Валодзя.

— Яны галодныя. Маё сэрца чуе: іх мораць голадам. І холадам. Ты бачыш: другі дзень не паліцца ў печы.

— Можа, яны сышлі да тваёй маці?

— Яны не маглі пайсці. Я сказаў, што прыйду і прынясу хлеба. Яны гэта ведаюць. Няхай Анеля — дзіця, а Пётрусь — гэта ўжо мужчына. А тут, бачыш, і ў печы не паліцца. Можа, там ужо нікога жывога няма...

— Як рошыш. Калі што, я іх прышыю, — Валодзя паказаў вачыма на кулямёт, які стаяў побач на раскірэчаных ножках. Талерка дыска пляската, як шыя ў кобры, раздзімалася над ствалом. Сцяпан ведаў: калі хопіць патронаў, Валодзя прышые ўсіх, каго трэба прышыць.

— Я не пайду напрасткі і сялом. Я падыду з балота, з-за хлявоў. Калі там засада, яна чакае мяне ноччу, а не повідну. А я вось так, сярод белага дня, — Сцяпан прыўзняўся на калені, паляпаў Валодзю па плечуку: — Усё будзе добра.

Валодзя павёў плечуком — не то пагаджаўся, не то сумняваўся.

— Ладна. Ідзі.

— Аўтамат я не буду браць. Днём, у сяле, з аўтаматам... Хай застаецца тут...

— Ну, брат... — Валодзя хацеў яшчэ нешта сказаць, але Сцяпан ужо ступіў за елку. Ступіў і прапаў, як растварыўся ў лесе.

Валодзя ізноў прылёг на сена, доўга глядзеў у прагал між камлямі крайніх ад поля елак. Глядзеў не столькі на хату, як на тыя тры ромбікі ў франтоне. Непрыгожа яны чарнелі. Калі ёсць небяспека, то яна там, за імі. І гэта дошка... Як ён мог так коса яе прышыць?..

Валодзя падсунуў да сябе кулямёт, развярнуў раструбам да пасёлка, на Сцяпанаву хату, пацягнуў на сябе рамку прыцэла. «Колькі тут метраў? Сто ці болей? Соткі — метраў шэсцьдзясят, вуліца дваццаць, і тут, да сотак... Значыць, сто... Возьмем сто дзесяць». Зноў зірнуў на хату з ромбікамі.

І ўбачыў Сцяпана. Які малайчына! Сцяпан, як прыліплы, сунуўся па сцяне хаты, з-за вугла да дзвярэй. Пастаяў ля дзвярэй, відаць, слухаў, што там, у сярэдзіне хаты. Пацягнуў на сябе дзверы і знік за імі.

Было ціха ў сяле, ціха ў лесе. Так ціха, што Валодзя чуў, як шуміць кроў над вухам: «Шу-шу-шу!».

Анеля ўбачыла бацьку адразу, як толькі ён адчыніў дзверы. Яна ляжала на ложку пад тоўстай коўдрай — двое чорных вачанят над зялёным прасцірадлам. У нагах кажух — яго стары кажух. Пётрусь ляжаў побач, адвярнуўшыся да сцяны. Ён спаў.

Анеля ўскінула вачыма ўгору, на столь. Бацька зразумеў яе, кіўнуў галавой. Нячутна ступаючы, падышоў да ложка, прыгарнуў вольнай рукой падатлівыя дзіцячыя костачкі. На другім плячы ў яго была торба з бульбай. Зняў торбу, паклаў на лаўку, паказаў на яе вачыма. Дачка заківала галавой. Пастаяў, нешта думаючы.

— Нам не даюць выходзіць, — прашаптала дачка.

Бацька прыклаў палец да губ: «Ціха!». Сказаў аднымі губамі:

— Ідзіце да бабы.

Яшчэ раз прыціснуў дачку да сябе, зірнуў на сына. Спіць... Хай паспіць. Паўтарыў:

— Ідзіце да бабы.

Анеля пільна паглядзела на яго, быццам хацела пра нешта спытаць, але прамаўчала. Над галавою было глуха. Сцяпан яшчэ раз прыклаў палец да губ: «Маўчок!». Ён заўсёды рабіў так, калі між ім і дачкой была нейкая тайна. Анеля па-змоўніцкі кіўнула галавой.

Чаму яго павяло на вуліцу, Валодзя не разумеў.

— Дурань, што ты робіш?!.

Вароты ў двор былі расчынены, і ў гэтым быў непарадак. Не трацячы шмат сілы, Сцяпан прыўзняў іх, вярнуў на месца, як яны і павінны былі стаяць, і вароты рыпнулі. Відаць, гэтага голасу хапіла, каб разбудзіць тых, на гарышчы. Праз ромбікі яны ўбачылі, як за варотамі павярнуўся і спакойна пайшоў па вуліцы чалавек — высокі, крутаплечы, у куфайцы. Ды гэта ж ён, Сцяпан! Здаецца, і ў Цераболі ўсё зрабілі, каб узяць, а не ўзялі. Выслізнуў. І тут маглі праспаць... Бач, да дзяцей пацягнула сволач. Пацягне, мы гэта ведалі. Вось ён, колькі тут — дзесяць, пятнаццаць метраў?.. Трое сутак прымусіў мерзнуць, падла. Але дачакаліся. Лепшай удачы не дачакаешся!.. Цікава, здагадваецца ён пра засаду ці не? Канечне, не. Калі б здагадваўся, не падстаўляўся гэтак адкрыта, спіной, у куфаечцы... без аўтамата...

Чарга была кароткая і злая. Прашытая дзясяткамі куль куфайка на Сцяпанавых плячах проста ўліпла ў цела. Здавалася, што гэта і не кулі прайшліся, а дождж касым наваротам сыпнуў жменю кропель, пакінуўшы на куфайцы часты шнурок ад правага пляча да паясніцы і ніжэй.

Сцяпан яшчэ змог развярнуцца, каб глянуць на свае тры ромбікі, на тры белыя акны, і ткнуўся плячом у снег.

Валодзя ўсё гэта бачыў. Ён бачыў і тое, як касая дошка ў франтоне ад'ехала ўбок яшчэ больш, і ў шчыліну высунуўся чорны ствол аўтамата. Стралялі адтуль.

Ён чакаў.

І дачакаўся.

Дзверы хаты раптам адкінуліся, быццам іх выбілі нагой, і на вуліцу выскачылі двое з аўтаматамі, у белых форменных кажушках. Яны схапілі Сцяпана за руку, перавярнулі на спіну. Ён, мусіць, яшчэ дыхаў, бо адзін з двух прыставіў дула аўтамата да разяўленага рота і націснуў на курок.

Той чаргі Валодзя не пачуў. Яна злілася з яго кулямётнай — глухой і зацятай доўгай. Густое рэха падхапіла і панесла яе па лесе. Валодзя глядзеў над прыцэлам і бачыў, як падскочыў угору адзін белы кажушок, потым другі, і як яны вяла, быццам замарожаны, сталі класціся на снег побач са Сцяпанам...

Кулямётная чарга сарвала з елкі коршака, і ён плаўна пайшоў над полем. Знізу Валодзя ўбачыў, які ў яго шырокі размах крылляў і якое прыгожае пер'е — жоўта-белае спадыспаду, з круглымі чорнымі разводамі, як у бабы на святочнай спадніцы.

Як і ў тыя разы, коршак крута развярнуўся над полем і паляцеў у лес.

А з хаты з голасам выбягалі хлопчык і дзяўчынка.



Фота radzima.org

# Неба прыйшло на зямлю...



Васіль ЗУЁНАК

## Начлежны світанак

*Белы конь, як белы туман*
*Пад чырвонаю грывай зары,*
*І ў кашах сунічных палян*
*Лета выспеленыя дары.*

*З імі ў згодзе й прасмолены бор:*
*Коціць водар на паплавы.*
*Дагарае начлежны касцёр,*
*Уступаючы сонцу правы.*

* * *

*Выбар вялікі,*
*А пэўнасць адна, –*
*Тут не разлікам*
*Шана і цана,*

*Тут сэрцу мерак*
*Не дадзена знаць:*
*Богу – верыць,*
*Жанчыну – кахаць!..*

## Прышэсце

*Сонечнай радасці крэскі*
*Весняць крыло матылю,*
*Сведчаць на ўзлеску пралескі:*
*Неба прыйшло на зямлю!..*

* * *

*Даўно такога не было:*
*Пад яблыняй – сумёты.*
*З пялёсткаў снегу намяло,*
*А вулей спеліць соты.*

*Даўно пчаліную гурму*
*Так не шчадрыла квецень:*
*Абвесніў мёдную зіму*
*Рой – і сабе, і дзецям.*

## Наваселле

*Купіў лесавік – і танна! –*
*У чэрвеня новы дом:*
*Без сцен, без вакон – паляна –*
*Дыхае цёплым святлом.*

## Старога парка жыхары

*У атачэнні ліп і клёнаў,*
*Пад іх наглядам векавым*
*Дрэў маладых квітнеюць кроны,*
*На завязь песцячы правы.*

*Ланіты раніцы абвеяў*
*Галінкай яблыневай сад,*
*Як у руцэ паненкі веер*
*Пад сонцам трыста год назад.*

*І тым, хто сёння маладзее,*
*І тым, з вякамі на кары, –*
*Усім вясну пароўну дзеляць*
*Старога парка жыхары...*

## Настальгічны матыў Валі

*«Купіце фіялкі!*
*Купіце фіялкі!» –*
*Спяваў патэфон.*
*А ў памяці даўкай,*
*А ў памяці даўкай*
*Той голас, як сон.*

*Заела пласцінку,*
*Заела пласцінку, –*
*Збіваецца круг.*
*А голас – націнкай,*
*А голас – націнкай:*
*Амаль што заглух...*

*Ды сонечным раннем –*
*Як выклік паданням –*
*На Лысай гары*
*З-пад рук тваіх дбайных*
*Зляцела з гайданнем*
*Сто кропель зары.*

*Як неба прыветнік,*
*Размаіўся кветнік:*
*Цюльпаны цвітуць!*
*Праз вёсны і леты*
*З пласцінкі тандэтнай*
*Той голас нясуць.*

*«Купіце фіялкі!..»*
*А сонечны ранак*
*Ідзе нагадаць:*
*Не ўсё адспявана –*
*Квітнеюць цюльпаны, –*
*Навошта купляць!..*

* * *

*А мне ўжо «энны» дзясятак, –*
*І гэта не трыццаць тры!.. –*
*А ўсё малады, незаняты*
*Гняздуецца чорт унутры.*

*І носіць вясновыя ласкі*
*Асенняя золь у душу,*
*І лета само, без падказкі,*
*Прыходзіць, хоць я не прашу.*

*Аднак, не спяшайце лякацца,*
*Старэчых не тузайце сноў:*
*Віноўніца ўсіх правакацый*
*Адна і нязменная – зноў!..*

*Такі ўжо ў яе характар,–*
*А я – пра яе, пра яе:*
*Гэта паэзія раптам*
*Завалу гадоў узарве.*

*І што з ёй рабіць? «Глуповатой»*
*Сам Пушкін яе ахрысціў...*
*А мне ўсё ж «энны» дзясятак... –*
*Паэзія, адпусці...*

## Надпіс на кнізе «Пісьмы з гэтага свету. 1995»

*Лістоў лянотна не пісаў –*
*Разборак і паклонаў сумесь,*
*Паціху рыфмы выкрасаў –*
*І тым трымаў са светам сувязь.*

*З канвертаванай мітуснёй*
*Паштовых не ганяў кур'ераў.*
*Не-не, я не лічыў хлуснёй*
*Лісты, ды болей вершу верыў.*

*З начнымі думамі яго*
*Я адпраўляў да адрасатаў –*
*І да сяброў, і да багоў,*
*І перад кім быў вінаваты...*

*Цяпер шкадую: што ж, стары,*
*Век звекаваў, лічы, сам-насам,*
*І для архіва не стварыў*
*Эпістalярнага запасу.*

*І толькі верш, бяссонніц брат,*
*Зрэдзьчас ці кпіць, ці суцяшае:*
*«Як апраўдацца нам? Наўрад*
*Скажу, бо й сам таго не знаю...»*

## Зямное і нябеснае

*З часам раблюся ўсё больш зямны:*
*Слухаю не сілы касмічныя, –*
*Хіба мацней, хто скажа, яны*
*За сілу зямную?*
*Не вечнасцю час адлічваю,*
*Ды касмічна шчырую:*
*Дзве-тры вечнасці –*
*І не меней –*
*За адно зямное імгненне*
*Космасу ахвярую.*

*А на зямлі раблюся*
*ўсё больш нябесны,–*
*На зямлі – цесна.*
*Слухаю не ўдары сарака саракоў*
*У адліткі славы пудовыя.*
*Не шукаю скрынку цвікоў,*
*Каб будаваць палацы лядовыя.*

*Ні найдзюкоў,*
*Ні кансерватараў,*
*Ні бальшавікоў,*
*Ні завадатараў,*
*Ні тылавікоў,*
*Ні ліквідатараў-*
*Сілавікоў... –*

*Усе і ўсё –*
*Нібы камень на дно.*

*А са мной*
*На арбіце зямной*
*Застаецца адно:*

*Слухаю ўдары сэрца свайго*
*Маленькага, –*
*О, не знаць бы, што ўсё гэта*
*ў ім сабранае! –*
*І нябеснае, і зямное... –*
*Колькі ў ім усяго-ўсявенькага...*
*А яно ўсё ідзе –*
*Не з жабрацкай кавенькаю,*
*На сардэчнасць не абабранае,*
*Не засіленае маною,*
*Ідзе –*
*Не трымціць па-рабску каленькамі*
*Перад уладнаю брамаю,*
*Ідзе –*
*У саюзе са мною.*

*Веру, сэрца, табе –*
*Ты знаеш:*
*Колькі ў мары маёй магіл,*
*Столькі згублена светам дарог...*
*Ты – зямны мой бог*
*І малітва мая зямная, –*
*Я ўсё табою напоўню,*
*Дзе разрывае вечнасць кругі,*
*І на шляху крыжавым,*
*Зноў і зноў я табе напомню*
*Пра зямныя мае даўгі:*
*Іх цяжар не пакінь жывым.*

## Дыялог

*Жыццё:*
*– А мне ўжо – ці круць, ці верць –*
*Ісці пад тваё крыло.*
*І што б ты рабіла, смерць,*
*Калі б жыцця не было?*

*Смерць:*
*– Запомні: я адбіццё*
*Тваё ў зваротным канверце.*
*І ці было б жыццё,*
*Каб раптам не стала смерці?..*

## Сучасныя

*Да багоў днём і ноччу*
*Абіваюць парогі:*
*На зямлі быць не хочуць,*
*А ў нябёсах – не могуць...*

## АХОВА

*Купіла жаба купіну*
*Ў самотнага вужа.*
*А тое, што ўжо куплена,*
*Пазначыла мяжа.*

*Ахова на валоданне*
*Бусліная прыйшла,*
*І жаба ўзнагародаю*
*На снеданне была...*

* * *

*Калі ўсё тое здарыцца –*
*О, каб жа ды знацца!.. –*
*Я б з кожным з вас па чарачцы*
*Узняў за небыццё –*

*За ўласнае, за вечнае, –*
*Не ўнікнеш жа яго, –*
*Каб не чапляць на плечы вам*
*Груз адбыцця свайго.*

*І словы ўсе апошнія*
*Я, пэўна б, сам сказаў, –*
*Няйнакш, як зняў бы пошліну,*
*Што сам жа й навязаў...*

*Ну, і яшчэ па поўненькай –*
*За грэшную душу, –*
*Усіх з маім ахоўнікам –*
*Па поўненькай! – прашу!..*

*Дальбог, пакуль не пляснула*
*Жалобнай хвалі медзь,*
*Як вып'е Юда ўласны мой –*
*Цікава паглядзець!..*

*А што не ўспеў патрэбныя*
*Ён выведкі прадаць –*
*Я ма́ю трыццаць срэбнікаў,*
*Каб за́жыва аддаць.*

* * *

*Гнеў у генах, – адкуль ён? Здалёку,*
*Пэўна, памяць прынесла яго:*
*Ад бунтоўных зямных прарокаў,*
*Шэравокіх паганскіх багоў.*

*То й глядзяць на мой чын*
*бязвольны*
*І пытаюць: – Што ж здрадзіў ты*
*Нашым – лесу, рэчкам і полю?*
*Чым жывеш ты і чым святы?..*

*Ланцугамі аблытаны туга*
*Мудраслоўя, пасланага звыш,*
*Ходзіш век свой затоптаным*
*кругам,*
*І надзеі няма, што ўзляціш...*

*Шлях развёў нас купалаўскім*
*ранкам...*
*Развітаннем працяты, стаю:*
*Я зямлю, як і вы, люблю,*
*Небу верачы па-хрысціянску.*

*Што яшчэ ў апраўданне скажу?*
*Я такі ж, як і вы, калісьці,*
*Ды нябеснаму Богу служу:*
*«Не забі, не змані, не зламыслі»...*

## Перад вечнасцю

*Пакуль жыву, пакуль жывыя вы,*
*Ва ўсіх у нас адсутныя правы,*
*Ва ўсіх у нас падсудныя хвіліны:*
*Душу спытае вечнасць за правіны.*



Фота pausage.com

# Пра Моцю і яго сястрычку

## З цыкла «Пра Моцю»



Віктар КАЗЬКО

Моця пад вечар быў непадобны сам на сябе. Так непадобны, што не мог і прыдумаць, на каго ён на самой справе падобны. Хутчэй на дзьмухаўца, які ўжо адкрасаваў, а цяпер белым пухам завіс па-над зямлёй, гатовы ў неба, на другое адраджэнне. Прарастанне, завязь, цвіценне, і зноў — у палёт, у неба. І каб ніколі не злазіць з яго, хай яму і есці туды падаюць, адно марожанае ды цукеркі. Хаця пасля іх можна адзін-другі і дранік, толькі на масле і з вяршкамі.

Расчулены, насалоджаны такімі думкамі, ён і сам не прыкмеціў, як пачаў цалаваць бабулю. У вусны і з прыцмокам, чаго да гэтага цураўся, нават грэбаваў. Здзівіцца не паспеў. Здзівілася бабуля. Доўга выцірала губы на рагі па-піянерску завязанай пад падбароддзе белай у зялёны гарошак хусцінкай. І мала таго — адварочвалася і плявалася:

— Здзяцінеў ты ці што?

— І зусім не здзяцінеў, пасталеў, падрос, параўняўся з бацькам... А ты чаго смаркаешся?

— А таго, — адказала бабуля. — Сама што таго.

–Ну, тады можаш, — дазволіў Моця. — Тады можаш і ў кулак, і на дарогу жабаў і жабянят пускаць. Я сёння добры, бо крыху шалёны.

— Во дзіва, — сказала бабуля, — толькі крыху. Ты заўсёды і быў...—Такім чынам сапсавала Моцін настрой бабуля. Зняла, скінула, сцягнула з самага што ні на ёсць сёмага неба. Абзямлячыла.

Моця ледзь не кінуўся біцца з ёй. Але хоць і на зямлі, на калдобінах з цвілой і без доўгіх дажджоў застаялай у іх і адчувальна смярдзючай вадой разважлівасць і надзвычоркавая лагода перамаглі. Старая, парахня, што яна можа разумець у яго сённяшнім жыцці, калі даўно ўжо і забылася на яго, на палёты ў сне і на яве. Пэўна, ніколі і не ведала: кухня, хлеў, венік і яго, Моцяў, каршэнь, а да гэтага — бацькаў, і стогн, стогн — якія ж дзеці пайшлі, горш учорашніх. Адно толькі — заўсёды белая, па-піянерску на рагі хустка ў вечназялёны гарошак пад падбародак. Таму не варта з ёй сварыцца, тым больш біцца. Звязвацца сабе даражэй.

З гэтым ён і даклыпаў да хаты. А там замілаванне і шалёная ўзнёсласць зноў узялі верх. Не, жыццё, нават не гледзячы на бабулю, усё ж мае сэнс. Нездарма, нездарма прыдумалі яго. Варта, варта жыць і ўвечары, нават уначы, калі цябе прымушаюць класціся ў ложак. У ложак...

Моця наледзь дачакаўся маці, так яго распірала, поўніла вар'яцкай радасцю недарэмна пражытага дня. І толькі маці ступіла на парог, як ён адразу ж і вельмі голасна, столь падскочыла і збялела:

— А я сёння спаў са Светкай!

Твар маці на нейкае імгненне стаў падобны да столі, сутаргава сціўся і расціўся. Але ж яна вельмі хутка ўзяла сябе ў рукі. Толькі аднаго разу вохкнула ды двойчы развяла рукі і пляснула далонямі, што Моця ўспрыняў як апладысменты:

— Ты сёння... спаў... са Светкай?

— Ага ж, у адным ложку і цэлыя дзве гадзіны.

— Дзіва, дзіва,— амаль бабуліным голасам мовіла маці.

І Моця адчуў, што ніякага дзіва тут ёй няма. Нібыта ён усё жыццё спаў са Светкай, і не па дзве гадзіны ўдзень, а дзень і ноч напралёт, не пакідаючы ложку. І яна загадзя ўжо ведала, што ён будзе спаць са Светкай. Прывыкла ведаць і ніколькі не здзіўляецца.

«Ну чаму яны такія, — з прыкрасцю падумаў Моця.– Што бабуля, што маці. Дзе і калі яны згубілі здзіўленне. Раздзяцінелі. Дзе і калі яны так паразумнелі, што назаўсёды страцілі... не, не толькі здзіўленне, а саму радасць здзіўляцца. Згубілі, згубілі патаемнасць таго ж дзьмухаўца, што ўжо адкрасаваў, але адчуваннем асалоды таго, што ён вось-вось памножыцца, адскочыць ад амярцвелай, струпам збялелай сівой галоўкі, былой сваёй і чалавека ўцехі, і кінецца ў белы свет, залунае, залунае, кулаючыся пад сонцам і блакітам неба. Паляціць, паляціць па-над зямлёй, а мо і прэч ад зямлі — у сусвет, невядомых жыцці, планеты, як лётае, не адчуваючы ні цела, ні ног ён, Моця, як лётаў і сёння дзве гадзіны, пакуль спаў са Светкай і працягвае лятаць і цяпер. Толькі нябачна.

І гэтая нябачнасць прымусіла Моцю больш пільна прыглядзецца да маці, мо яна саромеецца яго, хавае сябе перад ім. А на самой справе яны аднолькавыя, і адчуванні іх аднолькавыя. Толькі маці не выказвае сябе. Бо яна ўсё ж маці, яго маці. Але якраз у гэтым уся і справа: абодва яны не могуць далёка адбегчыся адно ад аднаго.

Але вынік гэтай глыбокадумнасці і пільнасці да выразу твару і постаці маці быў зусім інакшы і вельмі нечаканы нават для Моці. Падсвядома, усё ж нешта маючы ў галаве, як гэта бывае толькі ў раннім дзяцінстве і ў дзяцей, ён некуды пранік. Патрапіў у недасягальнае яшчэ яму і яго розуму, мо і зусім не чалавечае, хутчэй звярынае, а найбольш верагодна ўвогуле нікому з жывых неўласцівае. Зноў жа, апроч дзяцей у пэўным узросце, дараванае невядома кім, мо нябёсамі, а мо і зямлёй, падзямеллем. Дараванае толькі на імгненне і цалкам і адразу з узростам адабранае. Адабранае нейкім найвышэйшым, каб чалавек не надта вытыркаўся па-над зямлёй і з зямлі сярод тых жа чалавекаў.

— Нешта апошнім часам ты надта патаўсцела, маці, раздалася ўперадзі і ўшыркі.

Маці зачырванелася і прысела на крэсла каля стала. Але Моцін промільг, пэўна, ужо скончыўся, і паперла з яго ўжо звычайная будзёншчына, уласцівая кожнаму ў сталасці цвярозасць і разважлівасць.

— На дыету трэба садзіцца, маці, надта ты ўжо прыпадаеш да мучнога і салодкага. Абмяжоўваць трэба сябе дыетай.

— Дыета тут не дапаможа, сынок, — уздыхнула маці і расквецілася ўсмешкай.

— Усім дапамагае, а табе не? — здзівіўся Моця. — Так не бывае. Зірні ў тэлевізар, якія там трэскі, вешалкі і фасолі. І як жа яны выдзыгаюцца, хаця, я думаю, пешкі, сваімі сарочымі нагамі не кожная з іх і да магілак дапне... А ў Светкі ножкі спраўныя, абедзьве...

— Як у нашага кабанчыка? — спытала маці.

— Уга, як у нашага кабанчыка, хаця яна таксама на дыеце са сваёй маці. Тыдзень на садавіне, тыдзень на кефіры, а ў дадатак яшчэ гербалайф, крамлёўскія таблеткі, паасобнае харчаванне па... па...

— Ну, ты і адукаваны, — папраўдзе ўжо здзівілася маці.

— Дурная справа не хітрая, — па-даросламу разважліва адказаў ёй сын. — Звар'яцелі дзеўкі. І ўсе адразу і ўсе разам.

— Ну, разумнік, ну, разумнік, і ў каго ты толькі такі.

— А табе лепш ведаць, — сказаў Моця. — Табе і бацьку. Якім ужо зрабілі.

Але сказаў, пэўна, нешта не тое, бо маці ўсердзілася і ўхапіла яго за віхор:

— То ты спіш са Светкай, то... Як жа гэта ты спадобіўся пераспаць з ёй?

— Адпусці, — буркнуў Моця, — тады скажу. А так гаварыць не буду.

— Будзеш, яшчэ як будзеш, — запэўніла яго маці.

— Не буду, хоць табе, бачу я, вельмі ўжо цікава, як спяць хлопчыкі з дзевачкамі.

— Ды не так ужо і вельмі, — сумелася маці і адпусціла віхор. — І ўсё ж як гэта было?

— Было, — сказаў Моця.

— Як?

— А вельмі проста, калі ўжо так карціць табе ведаць.

— Проста?

— Зусім не проста. Спрэс адна мітрэнга і бязладдзе... Рамонт у нашай спальні быў. Ложкі павыкідвалі, і на ўсіх не хапіла. І я прапанаваў Светцы спаць са мной. Леглі і заснулі...

— І ўсё?

— Ну, не зусім. Не без таго ўжо... Пагаварылі, пабусікаліся. І дамовіліся, што заўсёды будзем спаць разам, пакуль не пажэнімся. А тады ўжо і як ты з бацькам, паасобку.

— Чаму ж гэта так: я з бацькам паасобку...Паасобку я з бацькам. Бач ты, паасобку.

Моця ніяк не мог зразумець, чаму маці так расхвалявалася, што крыўднага ёй ён сказаў. Праўду сказаў, і нічога балючага ў гэтай праўдзе няма. Чаму гэтыя дарослыя такія пераменлівыя і не трываюць ні хлуслівай, ні праўдзівай праўды. Якой жа трасцы ім трэба. На самой справе ўсім ім на дыету садзіцца трэба: мазгі ці то падсушыць, ці набрацца іх. Ён так і сказаў маці, хаця і быў супраць. Падобна, такой жа думкі прытрымлівалася і маці, бо пачала смяяцца. Ды так увішна, весела і голасна, што цяпер ужо ўсердзіўся Моця.

— Здзекуешся, усё жыццё здзекуешся. А вось Светка лепшая за цябе. Ніколі, ніколі з мяне не смяецца.

— Дурненькі, ох і дурненькі ж ты. — Маці ўстала з крэсла, выйшла з-за стала. Падышла да Моці, падняла на ногі і яго, але чамусьці зноў за віхор. І Моця хацеў ужо канчаткова раззлавацца, але маці прытуліла яго тварам да сябе, да свайго раздабрэлага ўшыркі, а больш уперад жывата.

— Чуеш? — амаль у самае вуха, што ад нечаканасці і абурэння стала бураковым і зусім не чуйным, ціхенька і ласкава спытала маці.

— Нічога не чую, — адказаў Моця.

— Ну як жа, яна ж голас табе падае і брыкаецца. Вітае і ўжо крочыць насустрач табе.

— Хто, хто вітаецца і крочыць? — перахопленым ад неспадзяванкі голасам, узбуджаным і зноў крыху відушчым нябачнае і непазбежнае, як ачужэлым яму сэрцам, спытаў Моця.

— Сястрычка. Твая сястрычка.

— Як, як яна ў жывот табе трапіла?

— Трапіла, родненькі, трапіла.

— Ты праглынула яе?

— Але ж, Моцечка, але ж...

— Ну і што ты нарабіла, што я з табой рабіць буду? Гэта ж злачынства!

— Ды не ж, Моцечка, не. Гэта не злачынства, а зусім нават наадварот.

— Як... як зусім наадварот, калі яна ў цябе ў жываце і квакае.

У жываце ў маці нешта, здаецца, сапраўды квакала, як жабяня па вясне на купіне ў балоце, калі яно ўжо ўгрэецца і пачынае набываць мову. І гэта мова чэрава матулі была ніколькі не горкай, не жаласлівай. Нейкая абвяшчальная яна была. Так абвяшчае сябе жаўтароты верабейка, што першы раз хапіў, каўтнуў з зялёнага лістка бярозы кропельку, слязінку вады, маладой расы. Мо так нікому не чутна падае голас і пушынка дзьмухаўца перад тым, як набыць крылы, залунаць пад небам і ўгрэўным сонейкам. І то быў голас, здалося Моці, яго, калі ён прачнуўся пасля ціхага часу ў ложку разам са Светкай.

І адчуванне гэтага ўласнага голасу нібыта апякло Моцю. Апякло як загадзя, як крыху наперад, пякучым агнём і зыркім полымем будучыні. Яго ўласнай і непазбежнай будучыні.

— Што ж гэта значыць, што ж гэта значыць? — вусцішна і амаль нема закрычаў Моця. — Гэта і ў Светкі цяпер можа завесціся жабяне?

— Ды не, сынок, не. Дзеці зачынаюцца зусім інакш.

— Як, як інакш?.. Толькі не трэба мне ля-ля пра капусту і бусла. Я ўжо прыглядаўся да капусты. Вусені там, вусені адны, што караеды пражэрлівыя і брыдкія, зялёныя ўсярэдзіне ад соку капусты.

— Вой-вой, — адсланілася ад Моці матуля. — Прагледзела, не ўпільнавала капусту. Пабягу ж зараз...

— Не пабяжыш, не ўцячэш...— сказаў Моця. — Ад мяне і праўды не ўцячэш... І пра буслоў мне не трэба. Бачыў я, як той буслік цягнуў у кубло сабе гадзюку. Вось толькі на што і здольныя вашыя белыя буслы. Гадзюк прыносяць, а не дзяцей. Брыдота, а не птушка. Я не хочу, не жадаю быць параджэннем бусла. Але ўсё ж тады... Як, адкуль, ад каго?

— Ад радасці, ад кароткага нашага шчасця... Ад таго, што мы таксама часам лётаем... Вось лётала, лётала і заляцела. — Маці ўнурылася і замоўкла.

— Чаму ж ты тады не радая ад таго, што можаш лятаць? Я вось рады, рады, што не з капусты і не ад бусла. Рады таму, што і ты, мая матулька, здольная лётаць. Рады... — Моця гаварыў гэта, але ўжо не зусім верыў, што ён сапраўды рады. Мімаволі яму здавалася, што час яго палётаў заканчваецца. Ці ж давядзе яго да дабра гэтае жабяня ў жываце маці. Дагэтуль ён быў адзіны, непаўторны і любы. А цяпер гэтую непаўторнасць і любасць бацькам прыйдзецца дзяліць надвое. І якая доля дастанецца яму?

Ён зноў наблізіўся да маці, прыхіліўся да яе жывата:

— Дай паслухаць. — Прыпаў вухам, амаль да голага распранаючы маці. І яму так урэзалі па вуху, нібыта ён рабіў нешта вельмі і вельмі непрыстойнае. Так урэзалі, што ён адхіснуўся, адпаў ад чэрава маці, як адпадае перасычаная п'яўка ад цела чалавека.

— Брыкаецца. Глядзі ты, брыкаецца цялічка-сястрычка. Біцца будзем, вой будзем біцца...

Падумаў, памаўчаў і нечакана загадаў маці:

— Садзіся і разяў рот.

І такая рашучая непрыхільнасць чулася ў яго голасе, што маці без ваганняў адразу ж і падпарадкавалася, як дзевачка.

Моця схіліўся да шырока разяўленага рота матулі:

— Дабранач. Дабранач, сястрычка!

# Той, каго ўдарылі па шчацэ

## Фрагмент рамана



Леанід ДАЙНЕКА (1940-2019)

Мой бацька не баяўся смерці. Мой бацька памёр, памёр, як паміраюць усе людзі, калі пакліча іх з зямных абшараў у сваю вечную нябесную дзяржаву Бог.

Я не прысутнічаў пры ягоным кананні, не ведаю, лёгка ці ў пакутах адыходзіў ён, бо так ужо запавешчана зверху нам, людзям: радуемся разам, пакутуем паасобку. Дарафееўна, другая бацькава жонка, казала мне, што той зімовай марозлівай ноччу апошнімі бацькавымі словамі былі: «Хутчэй дай мне лякарства!». Ды лекі ўжо не дапамаглі.

Я люблю ягонае імя. У нашай спрэс зрусіфікаванай Клічаўшчыне ў кожнай вёсачцы было аж зацесна ад Іванаў, Сямёнаў і Рыгораў. Бацькава ж імя было нейкае нетутэйшае, было, як выкапнёвы мамант, цвіло чужацветам на савецкім лузе. Начальнікі і начальнічкі розных рангаў прамаўлялі яго, калі ўзнікала такая неабходнасць, на расейскую манеру — Мартын. А гэта было пашанотнае старадаўняе еўрапейскае імя! Марцін, служка грознага рымскага бога вайны Марса!

То й праўда — у чатырох (!) войнах удзельнічаў мой міралюбны бацька. У так званым «вызваленчым» паходзе 1939 года, калі Сталін з Гітлерам з двух бакоў няшчадна грамілі Польшчу, у наймарозлівейшым студзені 1940-га, калі крамлёўскія стратэгі вырашылі за кошт фінскіх земляў «обеспечить безопастность колыбели революции Ленинграда», улетку 1940-га ў горадзе Рызе, калі працоўныя Латвіі адзінадушна, як, захліпваючыся ад шчасця, крычалі штатныя савецкія прапагандысты, вырашылі ўліцца ў СССР, і, вядома ж, у звышжорсткай і звышкрывавай вайне 1941—1945 гадоў.

Што далі тыя войны майму бацьку, усёй нашай сям'і і мне? Ды нічога добрага. Бацька стаўся інвалідам — аж шэсць нямецкіх куляў пранізала яго бліз польскага горада Ломжы. Маці мая з малалетнімі дзецьмі панабегалася, пакалацілася ад страху падчас акупацыі ў лясах і балотах. Удзень апошні харч забіралі паліцаі. Уначы нярэдка заходзілі партызаны. Тыя і другія не раз ставілі да сценкі, пагражаючы расстрэлам. Нас, дзяцей, як мышэй, заганялі ў падпечча. Усю вайну і ўсю акупацыю народ быў між двух смяротных агнёў. Вечны жах. Вечны голад. Пастаяннае ўсведамленне, што ты нікчэмнейшая мізэрнейшая кузюрка, якую ўзброены да зубоў чалавек, што па-гаспадарску ўваліўся ў тваю хату, можа прыкончыць адным шчаўчком пальца.

Ды я адхіліўся ад сваёй першапачатковай задумы… Пачынаю свой аповед, сваю гісторыю дзеля таго, каб, заглыбіўшыся ў стагоддзі, расказаць пра хрысціянскую вуніяцкую веру, якая на працягу амаль 250 гадоў ( 1596—1839) была жывой верай нашага народа, якая, калі прамаўляць высокім штылем, стварыла нашу сённяшнюю Беларусь, якая падчас «нямогa» для беларушчыны XVIII стагоддзя адзіная паміж усіх захавала беларускую мову ў сваіх храмах і якую гвалтоўна знішчылі, высеклі пад корань. Вось чаму я вяртаюся да першапачатковага сказу гэтага твора, бо менавіта ад свайго бацькі я ўпершыню пачуў пра вуніяцтва.

Мой бацька не баяўся смерці. Ён, як літаральна ўсе савецкія людзі, быў атэістам, дакладней, вымушаны быў быць атэістам, бо Улада Ваяўнічых Бязбожнікаў, якая сцірала з твару зямлі Божыя храмы, расстрэльвала або гнаіла ў турмах святароў, скідвала са званіцаў званы, ператрушчвала ў залаты і срэбны металалом святыя абразы, тушыла свечкі і душы, не давала чалавеку права выбару жыццёвай дарогі. Толькі адна дарога была ў кожнага і ва ўсіх разам. Толькі тая, што вядзе ў камунізм. Іншыя дарогі абавязкова вялі або на Салаўкі, або ў Курапаты.

Яны, Ленін і кампанія, зрынуўшы Бога, самі сябе аб'явілі багамі. Яны ў свой гонар прыжыццёва сваімі імёнамі называлі гарады і вуліцы, марскія караблі і калгасы. «Cuius regio, eIus religio» — чыя ўлада, таго й вера. Крамлёўскія ўладары вельмі добра засвоілі канцэпцыю Аўгсбургскага міру 1555 года, канцэпцыю, якой скончылася ў Еўропе крывавая рэлігійная вайна. Адзінай верай, калі толькі верай можна назваць звышлютую дыктатару, была аб'яўлена камуністычная вера.

Дарэчы, амаль ніхто не задумваўся, адкуль узяўся псеўданім Уладзіміра Ульянава — Ленін. Лічылася і лічыцца, што такое прозвішча пайшло ад сібірскай ракі Лены, у крайнім выпадку, ад жаночага імя Лена. Прапаную сваю разгадку. Псеўданім камуністычнага правадыра створаны ад слова «лен», што азначае зямельнае ўладанне, якое на ўсё жыццё ўручаў пан-суверэн васалу за ягоную звышверную службу. Ад каго ж, ад якога такога гаспадара атрымаў лен (усю Расійскую імперыю!) васал Ленін?

…Мой бацька Марцін Дайнека быў атэістам, але не быў камуністам, хоць членамі кіруючай партыі і членамі камсамолу былі ўсе ягоныя пяцёра братоў. Каб не здраджваць ісціне, зазначу, што ён таксама хацеў уступіць у партыю, пісаў заяву і насіў яе за шэсць кіламетраў у райцэнтр у Клічаў, ды поспеху не меў. Аказваецца, ён быў жанаты на сястры ворага народа, то бок, на маёй маці, старэйшы брат якой, Павел, старшыня калгаса, згінуў, як камар у спёку, падчас чарговага яжоўскага хапуна. І невядома, дзе прах ягоны. Ясна адно — не ў крамлёўскай маскоўскай сцяне. У ёй, сцяне, і каля яе мірна спачываюць верныя слугі і апрычнікі камуністычнага рэжыму.

Адзінага старшынёўскага сына Толю загналі аж на Калыму. Толькі ў 1956 годзе вярнуўся ён дадому, сядзеў у нашай хаце, прагна піў гарэлку, закусваючы кіслай квашанай капустай, моцна, неяк істэрычна захмялеў, садраў з сябе кашулю, і на ягонай шырокай валасатай грудзіне ўбачылі татуіроўку: «Отец, ты спишь, а я страдаю».

Але ці быў мой бацька і ўвесь навакольны люд бязбожнікам? Вядома ж, не. Чалавек ужо з матчынага лона выпраўляецца ў неабсяжны белы свет запраграмаваным на рэлігійнасць, гэтаксама як запраграмаваны ён на адчуванне голаду, смагі, цеплыні, пяшчоты, любові… І гэта не мая белетрыстычная выдумка. Гэта цвярозы голас сённяшняй шматвектарнай усюдыіснай навукі. Бог быў. Бог ёсць. Бог будзе заўсёды. І нават калі патухне над нашай зямлёй вечнае сонца, Бог будзе. А тыя, што скідвалі яго з нябёсаў, зрабіліся мярзотным пылам мярзотных падзямелляў, дзе поўзаюць бязвокія мярзотныя павукі.

Па словах маці, мой бацька мог бы стацца вялікім начальнікам, калі б у свой час не збег дадому са Свіслачы (не гродзенскай, а магілёўскай), дзе вучыўся на настаўніка. Што падштурхнула яго на гэта? Сум па роднай Змітраўцы? Адсутнасць харчоў? «Вунь Васілька ў Клічаве дырэктарам школы робіць, а ты быкам хвасты круціш», — часцяком, раззлаваўшыся, ушчувала бацьку маці. Васілька (Васіль Кандратовіч ) разам з бацькам паехаў у Свіслач, але не збег адтуль, датрываў да канца вучобы, у чыне дырэктара важна хадзіў па райцэнтру ў сінім гальштуку і ў белым капелюшы.

Марцін жа Сцяпанавіч пры ўсім сваім вострым прыродным розуме, дасціпнасці і нязводным гумары пайшоў, як камень, на сацыяльнае дно. Не, ён не ператварыўся ў шараговага селяніна-калгасніка, аднаго з тых ціхмяных аднаколерных людзей, што спрадвеку сахой, а затым і трактарным плугам рэжуць зямлю, і пра якіх іранічна кажуць: «Бяры болей, кідай далей». Перад самай вайною ён быў старшынём мясцовага змітраўскага калгаса «Пяцігодка», пасля вайны — загадчыкам прадуктовай базы на станцыі Несята, куды аж з-за акіяну, з Амерыкі, прысылалі прадукты харчавання. Тады мы пачулі таямнічае слова «лэндліз». Базаўскія грузчыкі выкладвалі цэлыя піраміды з прыгожых бліскучых кардонных скрынак, якія называліся «рацыёнамі». Іх дзяліла-размяркоўвала згаладаламу да дзікунства мясцоваму насельніцтву раённае начальства. Нейкая драбяза перападала й майму бацьку Марціну. Калі сёння нехта па камуністычнай завядзёнцы бэсціць Амерыку, я ўспамінаю той галодны год і тыя «рацыёны». Толькі дзякуючы ім мы выжылі. Дзякуючы ім мы даведаліся, што такое таматны сок, шакалад, кава, свіная тушонка, апетытна нарэзаная вяндліна ў бляшанках, жуйка… Нашы камуністы-гуманісты, нашы начальнікі ўсё гэта елі ўдосталь яшчэ да вайны, але свайму народу далі магчымасць паспытаць-пакаштаваць такія прадукты толькі гадоў праз пяцьдзясят.

Пасля гэтай базы мой бацька, так мовіць, заўсёды быў на кіруючых пасадах сярэдняга звяна. Брыгадзір, загадчык малочнай фермы, каморнік-землямер… Яму даручалі нарыхтоўваць у навакольных вёсках бульбу і вагонамі адпраўляць яе данбаскім шахцёрам. І вось за гэтую самую бульбу, што змерзла ў капцах, ён атрымаў пяць гадоў зняволення, якія (два з пяці) адбухаў у мінскай турме. З турмы прывёз шахматы — уласнаручна выточаў іх на турэмным станку, часам гуляў са мною, але хутка стамляўся, загарэлай даланёй змятаў фігуры з дошкі.

Няпростае нялёгкае жыццё, вядома ж, гняло яго, і ён моцна пасябраваў з гарэлкай. Працуючы брыгадзірам, ездзіў на кані. Іншым разам п'яны не мог сесці ў сядло, чапляўся рукамі за лейцы, намотваў лейцы на рукі, і разумны конь асцярожна валачыў яго па зямлі дадому. Аднойчы прыкалываўся ўначы да сваёй хаты, пастукаў у шыбіну і жалосна папрасіў родную жонку:

— Жанчынка, падкажы, у якім баку Змітраўка.

Успамінаючы пра такое, я абсалютна ўпэўнены, што не абражаю свайго любімага бацьку, што, прачытаўшы гэта, ён весела ад душы пасмяяўся б разам са мной і, смеючыся, абавязкова сказаў бы:

— Калі б я не піў, ужо б даўно памёр. Налівай, Лёнік. Глынем яшчэ па адным каліву. І, дай Бог, не апошняму.

О, гэты жыццярадасны бацькаў смех! Да скону не забуду яго. Да скону не забуду тыя доўгія восеньскія і зімовыя вечары, калі над нашай хатаю глуха шумелі старыя змрочныя ліпы, чэрства шкрэбліся халодным голлем у вокны, а мы сядзелі пад жоўтым утульным святлом керасінавай лямпы, і бацька з гумарам і дасціпам распавядаў пра сваё жыццё-быццё. І радасна ззялі ягоныя добрыя, самыя сінія на зямлі вочы.

Сам сябе бацька называў бальшавіком, хоць савецкай уладзе не верыў.

— Ат, замянілі аднаго цара другім, — махнуўшы рукою, быццам адганяючы надакучлівую муху, іншым разам казаў ён мне. Калі ж я паступіў вучыцца на журфак у Мінску і пакрысе пачаў натольваць сваю заўсёдна дэмакратычную душу неўтаймаваным студэнцкім вальнадумствам, ён з усёй абачлівасцю і клапатлівасцю папярэдзіў:

— Не лезь у паліціку. Заб'юць.

Слова «заб'юць» і дагэтуль сядзіць у маёй свядомасці як моцна загнаны востры жалезны цвік. І цвік той не вырваць з душы ніякімі абцугамі.

Да майго пісьменніцтва адносіўся з паразуменнем, але без асаблівага піітэту. Прачытаў мой першы раман «Людзі і маланкі», калі адпасваў радоўку ў лузе.

— Пішы, — толькі й пачуў я ад яго. Але гэта кароткае бацькава слова значней і важней для мяне шмат якіх рэцэнзій. У звязку з гэтым хачу падзяліцца з вамі, мае цярплівыя паважаныя чытачы, вось якой думкаю… Вышэйшае кіраўніцтва жадае, каб беларускія пісьменнікі напісалі новую «Войну и мир» Льва Талстога, а не новую "Новую зямлю» Якуба Коласа, і тады яно, вышэйшае кіраўніцтва, шчодра ўзнагародзіць пісьменнікаў, бо сучасным беларусам край як трэба ведаць пра жыццё багатага памеснага рускага дваранства XIX стагоддзя. Што на гэта можна сказаць? Кіруюць Беларуссю не нашы чытачы…

Недзе пасля васьмідзесяці, як я заўважыў, бацька пачаў задумвацца пра сваю магчымую смерць. Неяк мы стаялі каля магілы маёй маці, а ягонай жонкі, і я з маладзёвай жорсткай прасталінейнасцю ва ўпор спытаў, ці баіцца ён смерці.

Бацька зірнуў на мяне, усміхнуўся, сказаў:

— Хоць зараз вось тут яміну капай — і я лягу побач са сваёй Тэкляй.

Гэта не было бравадаю. Гэта не было старэчай халоднасцю, калі паступова тухне агонь ва ўсіх жылах. Нешта іншае было ў гэтых словах, і, пэўна, я расшыфрую іхні патаемны глыбінны сэнс толькі тады, калі сам буду паміраць, адлятаць душою ў нябёсы.

Даўно ўжо няма майго любімага бацькі. Я не магу дакрануцца да яго, не магу пачуць ягоны голас, не магу ўбачыць самыя сінія на свеце вочы. У таямнічым шуме начнога ветру, у няспынным загадкавым цячэнні рознакаляровых воблакаў, у срэбным звоне кропляў, што зрываюцца з даху майго лецішча і пляскаюцца аб пясок, тчэцца родны воблік. Здаецца, зрабі крок, і ажыве мінулае, але… Але смерць змятае людзей з твару зямлі, быццам смецце. Балючае параўнанне? Непрыемнае? Неэстэтычнае? Згодзен з вамі. Але ўслухайцеся — якія падобныя два гэтыя словы. Смецце. Смерць.

Тады, каля матчынай магілы, я ўпершыню пачуў ад свайго бацькі пра вуніяцтва. Напомню, што за камуністычным часам амаль усе мы, у тым ліку мой бацька і я, былі атэістамі, а рэлігія, як бадзёра навучалі нас тыя, што шчыльнымі шэрагамі стаяць сёння са свечкамі ў руках у святых храмах, была опіумам для народа. Калі-нікалі мне цьмяна ўзгадвалася, што мы праваслаўныя. Але толькі цьмяна і толькі калі-нікалі. І не больш.

— Мы не праваслаўныя. Мы — юніяты, — сказаў раптам ба-

цька, стоячы каля магілы маёй маці, сказаў менавіта «юніяты», а не «вуніяты». — Нашага прадзеда Мікіту сілком загналі ў праваслаўе. Як і ўсіх мясцовых людзей. Людзі не хацелі, шмат хто са святароў не хацеў, але іх загналі. Знішчылі амбоны. Забаранілі іграць на арганах.

З найвялікшым здзіўленнем глядзеў я ў той дзень на свайго бацьку. Вось што, аказваецца, жыло ў ягонай душы і нарэшце вырвалася на волю, як вырываецца з-пад халоднага снегу і лёду вясновы ручай!

Пасля такой размовы я адразу пайшоў у бібліятэкі (ніякага Інтэрнэту тады ж не было), з галавою нырнуў у даведнікі і энцыклапедыі. І вось што высветлілася, вось што выплыла з глыбіняў гісторыі.

18 кастрычніка 1596 года на царкоўным саборы ў горадзе Берасці аб'ядналіся праваслаўная і каталіцкая царква Рэчы Паспалітай. Кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза зацвердзіў гэтае аб'яднанне, якое атрымала назву Берасцейскай вуніі. Рымскі папа Клімент VIII таксама ўхваліў вунію. Праваслаўная царква Рэчы Паспалітай стала грэка-каталіцкай (вуніяцкай), прызнала вяршэнства Папы рымскага, прызнала каталіцкі дагмат аб зыходжанні святога духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына. Узамен за гэта яна захавала сваю ўласную арганізацыйную структуру і іерархію, шмат якія праваслаўныя абрады, народныя мовы (ліцвінскую (беларускую) і ўкраінскую) у рэлігійнай літаратуры і казаннях. Пётр Скарга, Іпацій Пацей, Язэп Руцкі, Кірыла Цярлецкі, Міхал Рагоза, Рыгор Загорскі, Лявонцій Пяльчыцкі, — вось якія мудрыя выбітныя людзі прычыніліся да гэтай эпахальнай падзеі. Берасцейская вунія — рэха Фларэнційскай вуніі 1439 года, ейны заканамерны, добра прадуманы, падказаны жыццём працяг. Фларэнційская вунія была ў свой час спробаю стварыць агульнаеўрапейскі бастыён супраць няўмольнай экспансіі туркаў-асманаў, што паставілі на калені Візантыйскую імперыю, імкнуліся авалодаць Венай і Рымам. Рэч Паспалітая, народжаная ў 1569 годзе, і ейнае дзіця — вуніяцкая царква — трымалі ў полі зроку не толькі ваяўнічых асманаў, але ў першую чаргу агрэсіўную Масковію, якая ў 1589 годзе самахоць аб'явіла аб стварэнні свайго праваслаўнага Патрыярхату, аб сваім гістарычным праве (!?) на ўсё наследдзе былой Кіеўскай Русі, прагавіта вастрыла зубы на землі Вялікага Княства Літоўскага, няспынна атакавала ягоныя ўсходнія межы. Па сутнасці, Масковія была той жа мангольскай імперыяй Чынгісідаў, ваяўнічай і жорсткай, толькі перафарбаванай у хрысціянскія еўрапейскія колеры.

Так нарадзілася Вунія. Так яна набірала сілу, расла, мацнела і зрабілася, урэшце, народнай рэлігіяй. Напрыканцы XVIII стагоддзя, перад самым сконам Рэчы Паспалітай ад рук драпежных суседзяў, у Вялікім Княстве Літоўскім жыло 39 адсоткаў вуніятаў, 38 — каталікоў, 6,5 — праваслаўных, 4 — стараавераў, 1,6 — пратэстантаў. Вуніяцкія цэрквы Княства ўваходзілі ў склад Кіеўска-Віленскай, Пінскай і Полацкай дыяцэзій. Кіеўска-Віленская дыяцэзія апекавалася духоўным жыццём 1 804 388 парафіянаў, Полацкая — 765 154, Пінская — 85 103.

Тры падзелы Рэчы Паспалітай, тры вераломныя ўдары проста ў сэрца адбыліся з 1772 па 1795 год. Аўстрыя, Прусія і Расія, як тры сцярвятнікі, разарвалі на кавалкі славяна-балцкую хрысціянскую дзяржаву ў самым цэнтры Еўропы. Толькі з-за акіяну, з амерыканскіх штатаў, данёсся голас пратэсту. Еўропа ж не заўважыла разбой двух немцаў і адной немкі — расійскай імператрыцы Кацярыны II. Пэўна, палякам і ліцвінам помсцілі за Грунвальд, за ганебную паразу пад Воршай у 1514 годзе, а таксама не супраць былі паласавацца багатай чужой маёмасцю, прыхапіць чужой зямлі.

Сканала Рэч Паспалітая. А неўзабаве за ёю накінулі вяроўку на шыю вуніяцкай веры. Усё падавалася як дабраахвотнае «воссоединение, возвращение к природной вере праотцов». Але чаму ж тады ў студзені 1839 года ў Віцебскую губерню быў накіраваны 29-ы казачы полк палкоўніка Карнеева? Казакоў размясцілі ў Лепельскім, Сенненскім, Полацкім, Дрысенскім і Себежскім паветах. Загарцавалі казацкія коні, заблішчэлі шаблі ў шмат якіх паветах Менскай губерні. Ва Ушачы для сціхамірвання вуніятаў сцягнулі артылерыю. У вёсцы Забор'е Полацкага павета сяляне, калі туды прыехаў дэкан Нікановіч перадаваць вуніяцкую царкву праваслаўным, павалілі яго на зямлю, вырвалі з рук ключы ад царквы, закрычалі, як адзін:

— Не жадаем веры ламаць!

Супраціўленне забойству сваёй царквы аказалі базыльянскія кляштары ў Полацку, Жыровічах, Менску, Барунах, Быцені. Віцебскія манашкі на велізарным белым палатне вышылі чырвонымі ніткамі лік архіепіскапа-пакутніка Язафата Кунцэвіча, трымаючы яго ў руках, загарадзілі ўваход у кляштар праваслаўнаму святару.

— Святы Язафаце, абарані нас! — крычалі манашкі.

Асэсар Беларускай кансісторыі Ян Ігнатовіч разам з рэктарам полацкай семінарыі Міхалам Шалепіным, інспектарам той жа гімназіі Антоніем Тамкавідам, іераманахам Канецкім уначы збіраў у сваёй полацкай кватэры незадаволеных, з усёй жарсцю заклікаў духоўных асобаў берагчы вунію, змагацца супраць яе скасавання і далучэння да праваслаўя. Акрамя таго ён пастаянна ездзіў у Себежскі і Дрысенскі паветы, сустракаўся са шляхтай і сялянамі, гаварыў з імі, узбадзёрваў, натхняў, абнадзейваў і ўмольваў. Падрыхтавалі прашэнне да імператара Мікалая I, якое падпісалі 111 святароў. «Калі вунія будзе ўсё ж скасавана, — заяўлялася ў прашэнні, — мы жадаем перайсці ў каталіцтва».

Ды аб якой вуніі і якім каталіцтве можна было заікацца ў «единой и неделимой»? Полацкі ваенна-палявы начальнік падпалкоўнік Агатонаў загадаў неадкладна арыштаваць Яна Ігнатовіча разам з Антоніем Тамкавідам і 29 святарамі. Суд быў кароткі: Ігнатовіча і Тамкавіда на высылку, астатніх — каго ў кляштары, каго ў дзячкі.

12 лютага 1839 года ў Полацку быў падпісаны Саборны Акт з просьбай аб далучэнні вуніяцкай царквы да праваслаўнай. Акт гэты завезлі ў Санкт-Пецярбург, і Святы Сінод адразу ж зацвердзіў пастанову «О принятии греко-униатской церкви в полное и совершенное общение святых православно-католических Восточныя церкви и в нераздельный состав церкви Всероссийской». Імператар Мікалай I, якому ўрачыста паднеслі гэты дакумент, «изволил начертать» на ім: «Благодарю Бога и принимаю». Вось такая гісторыя.

Калі я сёння чую і чытаю аб росквіце і шматлюднасці Беларускай праваслаўнай царквы, якая падпарадкоўваецца Маскоўскаму Патрыярхату, калі па тэлевізіі паказваюць бясконцыя шэсці, службы, натхнёныя твары бабулек і юных дзяўчатак, залаты бляск адзення святароў, імпазантныя касцюмы ўрадавых чыноўнікаў са свечкамі ў руках, я памятаю, я не забываю, што ў абсалютнай большасці сваёй усе гэтыя людзі — прамыя нашчадкі тых вуніятаў, у якіх калісьці адабралі іхнюю царкву, «зламалі» іхнюю веру. Няспынная рака жыцця даўно знесла ў далёкую далячынь колішнія ўздыханні і слёзы іхніх продкаў. Тая рака ўжо не вернецца, бо новыя рэкі пабеглі па зямлі. А яны, сённяшнія беларускія праваслаўныя, зачараваныя галасістым перагудам маскоўскіх званоў, нават не ведаюць пра сваіх папярэднікаў-вуніятаў.

Асабіста мне сумна, што сучасная Беларуская праваслаўная царква, дзяржаўная, калі казаць па-шчырасці, царква, не аўтакефальная. Мне сумна, а некаму вельмі радасна з гэтае прычыны. Нічога не папішаш. Такое жыццё. Такія ягоныя законы. І кожны з нас, людзей, павінен годна несці свой вызначаны Богам і лёсам крыж...

Але я ведаю, што й дагэтуль жыве вуніяцкая вера і вуніяцкая царква на нашай зямлі. Так жывуць копты ў Егіпце, парсы ў Іране. Паміж мора іншаверцаў, якія далёка не заўсёды сябры. Іх пакуль што няшмат, але яны ёсць, яны з годнасцю ідуць духоўнай дарогаю сваіх прадзедаў. І ў самым пярэднім іхнім шэразе — нашыя беларускія пісьменнікі. Значыць, не ўсё страчана, і ёсць надзея на новы крылаты ўзлёт. І ён ужо, як бы цяжка ні было, пачаўся. Вунія — гэта вуліца, па якой ішоў і сёння ідзе народ, гэта — вочы, якімі ён глядзеў і сёння глядзіць на свет Божы.

Што тычыцца майго бацькі, мы мелі з ім яшчэ адну вельмі запамінальную размову — зноў жа на змітраўскіх могілках.

— Калі памру, — усміхаючыся, сказаў бацька, — дам табе адтуль нейкі знак, нейкі сігнал.

Ён круціў у руках жоўтую калючую шышку, што ўпала на зямлю з пракаветнай хваіны. Такія хваіны, гонкія меднаствольныя, шумяць над тутэйшымі магіламі ўжо не першае стагоддзе.

Бацька па складу свайго характару быў містыкам, а я ўрадзіўся падобным на яго.

— Ды ты што? — запярэчыў я, але запярэчыў слаба і няўпэўнена, бо добра ведаў: мой бацька Марцін Сцяпанавіч слоў на вецер не пускае. Калі ўжо што надумаў, то грунтоўна, усур'ёз.

У мітульзе дзён, месяцаў і гадоў забыліся тыя бацькавы словы. Навалілася столькі клопатаў, столькі праблемаў, што толькі паспявай сціраць пот з ілба і хаўкаць ротам. Памёр бацька. Мы пахавалі яго побач з маці. Зашумелі над ім, як і над ягонымі равеснікамі, меднаствольныя хваіны, што ад старасці не вытрымлівалі напору ветру, і ўсё часцей з грукатам і крэктам абрушваліся на металічныя магільныя агароджы і крыжы. З родных у Змітраўцы ў мяне засталася жыць старэйшая сястра Дзіна. (На жаль, 9 лістапада 2010 года і яе не стала ). Вось да сястры я й паехаў аднойчы па замеценых снегам зімовых няўтульных дарогах, дакладней, паехала мая жонка Зіна, як кіроўца аўтамабіля, а я сядзеў побач з ёю і з дрыготкай паныласцю пазіраў наўкола. Ехалі ад Мінска на Бабруйск, потым на Клічаў, адтуль у Змітраўку. Усё было спавіта нейкай нерэальнай цішынёй. Згубіліся галасы. Згубіліся гукі. Мяккалапая белая зіма асцярожнай ваўчыцаю кралася па лясах і палетках. Здавалася, за вакном аўтамабіля не дваццаць першае стагоддзе, а сямнаццатае або нават шаснаццатае.

Пагасцяваўшы пару дзён у сястры, засабіраліся назад у Мінск. Ужо калі выбраліся з сестрынога падвор'я на шашу, што вядзе ў Клічаў, я раптам загадаў жонцы спыніцца, кумільгом выскачыў з машыны, па калена правальваючыся ў снезе, пайшоў-пабег да могілак, метраў сто па цаліку. Снег быў то зіхотка-белы, то сіні.

— Ты куды?! — крыкнула ўслед здзіўленая жонка. Але я толькі махнуў рукою. Як бы нейкае яркае-яркае святло ўспыхнула ўва мне. Як бы нейкі голас паклікаў.

Вось і могілкі. Вось і месца вечнага спачыну маіх маці і бацькі, цэнтр майго зямнога сусвету. Цішыня. Снег. Старыя хваіны. Ніякага голасу. Ніякага зыку. Ніякага следу. Я здзёр з галавы шапку, перахрысціўся, ступіў колькі крокаў наперад да сіняй зледзянелай агароджы і раптоўна спыніўся, замёр, адчуўшы гарачы штуршок у сэрцы. Паміж непарушнай белі тоўстага, як падушка, снегу, што выпаў, пэўна ж, уначы і яшчэ быў цнатліва-чысты, прамяніста-свежы, на магіле бацькі якраз у тым месцы, дзе калісьці супакоілася пад покрывам зямлі ягоная галава, мне ўбачылася круглая чорная дзірка. Быццам нечым надзвычай гарачым выпаліла-выплавіла снег. Яшчэ раз паўтаруся: наўкол, па ўсіх могілках, не было ні следу, ніякага следу, нават пункцірнага птушынага. Што ж гэта? Варона несла нешта цяжкое і выпусціла з дзюбы? Не падобна. Сарвала рэзкім парывам ветру з хваіны шышку і шпурнула ўніз? Не. Кропля зорнага дажджу, аскалабачак метэарыту завітаў з касмічнага бязмежжа ў нашу ціхую Змітраўку? Не. Тады што гэта? І раптам мне ўспомніліся бацькавы словы: «Калі памру, дам табе адтуль нейкі знак, нейкі сігнал».

Я ўздрыгнуў, я сеў проста ў снег, а потым паглядзеў у студзёнае зімовае неба. І мне падалося, што з неабсяжных вышыняў пазіраюць на мяне, цёпла і клапатліва ўваходзяць-усяляюцца проста ў душу самыя родныя, самыя сінія на зямлі вочы. Дзе ж ты, бацька?

Пішу гэтыя радкі, успамінаю цябе, мой Марцін, мой еўрапеец, мой вуніят. І мне добра.


Фота franciscanas.org.br

# Духоўны знак



Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## Адзін дзень у БНР

***(Паводле праекта Беларускай службы Радыё Свабода, прысвечанага 90-годдзю БНР)***

*Самая лепшая з улад —*
*Тая, што раіцца з кожным і ўсімі,*
*Тая, дзе мудрасць у пашане і сіле,*
*Тая, дзе ўвесь народ — урад.*
**З ранейшага верша «Раіцца» (1966 г.)**

*Адзін толькі дзень?*
*Усяго адзін?*
*Усяго толькі некалькі гадзін? —*
*пытанні я задаю сабе.*
*І сам у сябе шукаю адказу.*
*Адказ знаходзіцца неяк адразу:*
*«Справа ж не ў колькасці, а ў цане».*

*Справа не ў тым, колькі, а як,*
*як дзень той прайшоў,*
*як быў ён пражыты,*
*які быў яго духоўны знак,*
*як там пачуваўся люд паспаліты.*

*Спрабую ўявіць гэты дзень, тых людзей.*
*Спрыяе вось гэтая фотакартка,*
*гэты адбітак слаўных падзей:*
*«Бурбіс, Варонка, Смоліч, Захарка...».*
*Дзевяцера сталі ў адзін рад.*
*Яны: Сакратарыят Народны.*
*Наш першы беларускі ўрад.*
*Насамрэч беларускі, родны.*
*Я зноў углядаюся ў воблікі іх.*
*Я з імі вітаюся, я ў іх пытаюся,*
*я з імі ў БНР вяртаюся.*

*Мне дораг дня таго кожны міг.*
*Жыва ўяўляю пачатак дня.*
*Займаецца ярка і ціхамірна.*
*Затым напаўняецца цішыня*
*гукамі пранікнёнага гімна.*
*У гімне пяецца пра «вольны прастор»,*
*пяецца пра «дух беларускі, родны».*
*Найпачай пяе свабодны хор,*
*свабодна пяе пра народ свабодны.*

*Гучыць неўзабаве нейчы зварот...*
*Варонкі? Крэчэўскага? Езавітава?*
*З цікавасцю слухае. Так менавіта.*
*(На тое ж яна і БНР,*
*каб не фальшывілі мы, не хлусілі,*
*каб тут былі ў законнай сіле*
*праўда, сумленнасць і давер.)*
*Да ранніх тых спеваў, прамоў і званоў, —*
*паважліва слухаюць места і вёска, —*
*лучацца словы іх верных сыноў —*
*Луцкевіча, Ластоўскага, Лёсіка.*
*Няцяжка, мяркую, цяпер уявіць,*
*як гэты дзень далей адбываўся,*
*на лёсе народным як адбіваўся,*
*вілася далей як іх гоная ніць;*
*якімі, цягам часу, былі*
*ягоныя поўдзень і адвячорак,*
*якія аблокі над імі плылі,*
*колькі ўзыходзіла над ім зорак.*

*Ва ўсякім разе — мой родны край*
*засвойваў дзяржаўным чынам строга:*
*«І сам жыві, і другому давай...»,*
*«Не рабі ліхога і не бойся нікога...»,*
*«Каб не памерлі, не згінулі каб,*
*не пакідай матчыну мову,*
*мову сваю шануй, як скарб,*
*цані, як заруку, як аснову...»,*
*«На Бога разлічвай, у Бога вер,*
*ды й сам не гніся, за справу бярыся...»...*

*Так мне ўявіўся ў агульных рысах*
*жыцця адзін дзень у БНР.*
**2007—2008, Стары Лепель — Менск**

## Ода электрычнасці

***Ніне Мацяш***

*Прысніўся сон —*
*страшэнны, змрочны:*
*блукаю ў пошуках свайго жытла,*
*блукаю без надзеі і святла...*

*Прачнуўся на зыходзе ночы.*
*І гэтым сном цяжкім разбіты,*
*прыходзіў доўга у сябе.*
*Нарэшце ўгледзеў на сцяне*
*знаёмыя да болю рэквізіты:*
*то бок — разетку, шнур і бра.*

*Ура! Не ходзіць ліха без дабра.*
*Пакуль ты мроіў роспачныя сны,*
*жыла сваім жыццём электрасетка,*
*цябе чакалі ў галавах яны —*
*электрапровад, лямпачка, разетка.*

*Намацаў выключальнік машынальна.*
*І ўраз яскрава-асляпляльна*
*святло запаланіла мой пакой*
*і стрэс начны зняло, нібы рукой.*

*«Жывём!» — падумалася.*
*Ёсць ён, электрычны,*
*загадкавы такі і такі звычны,*
*не відавочны, але й не містычны,*
*ток электрычны, светланосны ток.*

*Ён тут як тут. Мой асвятлі ў куток.*
*І ўспомніліся з гэтае нагоды*
*радкі, напісаны ў добры час:*
*«Зла са святлом змаганне йдзе заўсёды.*
*Няхай святло перамагае ў нас!».*

*І ў думках слаў я ўдзячнае вітанне*
*на адрас паэтэсы з паэтэс*
*й... белаазёрскай яе ДРЭС,*
*ім разам дзякаваў за ратаванне.*

*А потым падаспела і світанне...*
**2007**

## Лясныя асацыяцыі

***Павалу Севярынцу — аўтару «Лістоў з лесу».***

*Новыя рыфмы: П а в а л і леса-п а в а л.*
*І жанр нейкі новы зусім: лісты з лесу.*
*Літаратура старая, бывай!*
*Хоць, праўда, прагрэс гэты*
*горш ад рэгрэсу.*

*У лесе пісаліся,*
*з лесу ішлі лісты.*
*Дзякаваць Богу, што лес гэты*
*наскі, блізкі,*
*не самы глухі, не самы густы,*
*не беспрасветны —*
*накшталт тайгі сібірскай.*

*Там, у сіблагаўскай*
*тайзе*
*не пісалі лістоў.*
*Калі хто рашаўся —*
*ляцелі крывавыя пырскі,*
*на белым снезе радок чырванеў...*
*Пагатоў — каралі без права перапіскі.*

*У нашым разе*
*з лесу ўшлі лісты.*
*І нават адольвалі*
*шлях да друку няпросты.*
*Спрыялі, пэўна,*
*родныя дрэвы-кусты...*
*«Ой, бярозы ды сосны,*
*партызанскія сёстры...»*
*«Лясная песня», «Лясная быль»...*
*І вось працяг тэмы — «Лісты з лесу».*
*Тэма старая —*
*новы змест і стыль.*
*Нешта ўсё-ткі накшталт прагрэсу...*
**2007**

## Сінявокая ў масковіі

***Сучасная казка***

*Ці то ясным днём, ці то ў непагадзь,*
*ці то раніцай, ці то вечарам*
*ды дайшла-даехала, Сінявокая,*
*да ўладарства трыдзявятага,*



Фота www.news.ru

*трыдзясятага таго царства*
*са сталіцаю Белакаменнаю,*
*Залатаглаваю, Першапрастольнаю,*
*з гэтай самаю Масковіяй.*
*Пакланілася ёй нізка*
*і спыталася нясмела:*
*— Ты скажы мне, Масква-Масковія,*
*як вітаць мне цябе, якой моваю*
*мне пачаць размову з табою?*
*Сказаць ветліва: «Добры дзень!»?*
*Сказаць: «Добры дзень у хату»?*
*Альбо, можа, неяк іначай?*

*Ухмыльнулася Белакаменная,*
*усміхнулася Залатаглавая,*
*засмяялася Першапрастольная*
*і адразу ж адказала:*
*— Ну й дзівачка ж ты, Сінявокая,*
*вочы сінія, наіўныя!*
*Задаеш мне такое пытанне...*
*Ты напраўду не знаеш, не ведаеш,*
*як са мною трэба вітацца*
*і якой гаварыць са мной моваю?*
*Ты хіба не знаеш, не ведаеш,*
*што найлепшая з усіх моваў —*
*гэта мова мая, маскоўская,*
*гэта мова мая, расійская.*
*Ты спытаеш, чаму найлепшая?*
*А таму, што магутная самая,*
*а таму, што самая гучная,*
*і ёй дадзена ўладарыць,*
*панаваць над іншымі мовамі.*
*І навошта тваё гэта смешнае*
*«добры дзень... добры дзень у хату...»,*
*калі ёсць маё «здравствуйте!.. здрасте!..».*
*Зразумела, Сінявокая?*

*Тая колькі хвілін маўчала,*
*бо сумелася ад нечаканасці.*
*А затым прамовіла ціха:*
*— Не, не ведала я... Я думала...*
*А я думала, Масковія...*

*Засмяялася Першапрастольная:*
*— Во цікава... Яна думала...*
*Што ж тут думаць, Сінявокая,*
*калі тут і думаць нечага,*
*калі ўсё і так зразумела!*
*Казаць трэба: «Здравствуйте!..*
*здрасте!..».*

*Адазвалася Сінявокая,*
*ціхім голасам сказала:*
*— Калі я да цябе ішла-ехала,*
*то была ў галаве адна думка,*
*і была гэта думка пра тое,*
*што, шаноўная Масковія,*
*мы не толькі суседкі блізкія,*
*а мы сёстры родныя, крэўныя,*
*ва ўсім роўныя мы з табою,*
*што мы любім адна другую,*
*і таму ты не будзеш смяяцца*
*з маёй мовы, з майго прывітання:*
*«Добры дзень... дзень добры ў хату!».*

*Засмяялася Першапрастольная,*
*усміхнулася Залатаглавая,*
*ухмыльнулася Белакаменная:*
*«Здрасте, здрасте, Сінявокая!*
*Значыць, вось ты пра што думала*
*сваёй буйнаю галоўкаю,*
*значыць, вось ты чаго захацела...*
*А ці знаеш ты, а ці ведаеш,*
*што хоць сёстры мы, ды няроўныя:*
*ты — малодшая, я — старэйшая,*
*ты — малая, а я — вялікая*
*і ва ўсім за цябе я большая.*
*Пра любоў ты нешта сказала?*
*Дык вось слухай, сястра-сястрыца,*
*Сінявочка дарагая.*
*Ёсць падставы ў мяне сумнявацца,*
*што напраўду мяне самую*
*бескарысліва ты любіш.*
*Не мяне ты любіш, здаецца,*
*а найперш — мае грошы-траншы,*
*а найбольш — мой газ, маю нафту.*
*Ці не ўся тут любоў-сімпатыя?*
*Ці не так, сястра-сястрыца,*
*мая лепшая хаўрусніца*
*і саюзніца мая першая?*

*Разгубілася Сінявокая.*
*Разгубілася, сумелася,*
*засмуцілася і заплакала,*
*Паліліся з вачэй яе сініх*
*слёзы светлыя, буйныя.*
*Адно толькі з плачам казала:*
*— А я думала... а я думала...*

*Ухмыльнулася Белакаменная,*
*усміхнулася Залатаглавая,*
*засмяялася Першапрастольная,*
*запыталася ў Сінявокай:*
*— Пачакай... Што з табой, дарагая?*
*Ты заплакала? Ты плачаш?*
*Але ж ты дарма гэта робіш,*
*але ж слёзы твае марныя.*
*Ты хіба не знаеш, не ведаеш,*
*што Масква слязам не верыць?*
*Так, не верыць слязам спрадвеку.*
*Ні буйным не верыць, ні дробным,*
*ні салёным і не горкім,*
*ні чужым і не сястрынскім.*
*Ты хіба не ведаеш гэта?*

*— Я ці ведаю?.. Ці знаю?..*
*Не, я думала... я думала... —*
*прычытала ў адказ Сінявокая,*
*выціраючы слёзы горкія.*
*Хутка-хуценька засабіралася*
*у зваротны шлях-дарогу,*
*да сваіх абсяраў-гоняў,*
*да сваіх азёраў сініх*
*і да рэкаў сваіх блакітных.*
*І якраз у гэты момант*
*зазванілі-забілі куранты,*
*тыя, што на крамлёўскай вежы,*
*нібы звонам сваім пацвярджалі*
*(так пачулася Сінявокай),*
*што не верыць слязам Белакаменная*
*і не верыць Залатаглавая,*
*што яе нехта шчыра любіць*
*(хіба можна любіць за нафту?).*
*І яшчэ ў тым звоне адметным*
*яўна чулася Сінявокай,*
*што яна, Першапрастольная,*
*прызнае адно толькі вітанне*
*на адной толькі, гэтай вось мове:*
*«Здравствуйте... здрасте-здрасте...».*

*Тут і казцы канец, якую*
*я пісаў то пяром, то алоўкам*
*то ўранні, то познім вечарам*
*і назваў недарэмна сучаснаю,*
*бо яна сапраўды такая.*
**2015**



# Знак свабоды

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

### Цёплы пыл

***Майму маленству прысвячаю***

*Што праходзіць*
*Праз увесь мой гонкі лёс?*
*Што найперш успамінаецца заўсёды?*
*Цёплы пыл у каляінах ад калёс*
*На шляху,*
*Што паўстае,*
*Як знак свабоды.*

*З вёскі ціхай*
*Шлях пралёг паміж азёр,*
*Ён рассек*
*Палі,*
*Лугі,*
*Дубровы,*
*Пушчы,*
*Ён наступнаму адтуліну прадзёр,*
*Каб я стаў да волі*
*Чуйным і відушчым…*

*Аглядаючы абсяг жывых гадоў,*
*Што ў сабе неспадзявана назапасіў,*
*Бачу, як брыдуць маруднаю хадой,*
*Узнімаючы пылок,*
*Каровы з пашы.*

*Крочу ўслед,*
*Прапахлы сонцам, малаком,*
*Дзень стаміў,*
*Бо бегатнёй ушчэнт загушкаў.*
*Мне зара*
*Чырвоным доўгім языком*
*Ліжа рыжую, віхрастую макушку…*

*Цёплы пыл,*
*Як час,*
*Між пальцамі працёк,*
*Ён гаіў не раз*
*Балючы лёсу выверт,*
*Ён сагрэў*
*Мой першы знойдзены радок,*
*І душу да вольнай волі ўрэшце*
*Вывеў.*

### Дыктат

*Усё ўжо сказана да нас,*
*Але радкі дыктуе час.*
*Дыктуе свет, які наўкол:*
*Лясы,*
*Азёры,*
*Рэчкі,*
*Дол.*
*Дыктуе кожны чалавек,*
*Бо ён — загадкаю спрадвек.*
*Дыктуе вораг,*
*Сябра,*
*Брат,*
*Суаўтараў дыктуе шмат…*

*Я прызнаю такі дыктат!*

### Зямля

*Ці папытаўся ты ў сябе калі:*
*«Дык што мяне трымае на Зямлі?».*

*Мая выснова простая зусім:*
*Любові прыцягненне —*
*Над усім.*

*Ёсць войны,*
*Подласць,*
*Катаванні,*
*Кроў…*
*Але непераможная — любоў!*

*З нас кожны ў дол кладзецца,*
*Як вянец,*
*Зямля — людскі пачатак і канец.*

*Усіх яна ва ўлонне прыняла —*
*І вестунўў дабра,*
*І вояў зла.*
*Адпрэчыць прыцягненне не змаглі…*
*Бо мы — зямля,*
*Хоць ходзім па Зямлі.*

### Няўмольны час

*Час — наш няўмольны валадар,*
*З ім фінт хлусні не выгарыць.*
*Кідае ён пальчатку ў твар,*
*І паядынак выйграе.*

*Жыццё няўлоўнае, як дым,*
*У вечнасць вецер ссоўвае,*
*І трэба пагадзіцца з тым,*
*Што ўсе і ўсё —*
*Часовае.*

### ZERN: эксперымент «Вялікі Выбух»

*Нашто вандроўнаму паэту*
*Прыпынак доўгі ў тых краях,*
*Дзе розумы з усёй планеты*
*Даследуюць Сусвету шлях?*

*Навошта пра калайдар звесткі*
*Таму, хто ў Францыю ляцеў,*
*Каб лекі, як хутчэй, прывезці —*
*Шанц для чарнобыльскіх дзяцей?..*

*Карціць вучоным вынік выдаць,*
*Зрабіць у невядомасць крок:*
*Імітаваць Вялікі Выбух —*
*Да Часу і Жыцця штуршок.*

*Але пакуль часцінкам робяць*
*Нязнаны — лоб у лоб — прымус,*
*Ад іх у Ветцы ці ў Нароўлі*
*Канае хворы беларус.*

*То ўдалы ўдар пучкі раскрошыць,*
*То намаганні ўсе дарма…*
*А я кую паэмай грошы,*
*Каб медыцыну падтрымаць.*

*Хоць пальму першынства заўсёды*
*Цікаўным фізікам аддам,*
*Ды не хачу, каб фліртз прыродай*
*Зямлю ператварыў у хлам…*

*Жыццё — нібыта лёгкіх выдых,*
*Як бы расіначка адна…*
*Навошта мне Вялікі Выбух,*
*Калі паўсюль грыміць вайна?*

### Студэнцтва

*Калі мой век пражыты растасоўваць,*
*Па значнасці гады збіраць на веча,*
*Студэнцтва стане светлай паласою,*
*Якая здольная жыццё падсвечваць.*

*Але з вышынь,*
*Дзе рэй вядзе практычнасць,*
*Цяпер лягчэй прыйсці*
*да праўды голай —*
*Усё было даволі рамантычным,*
*Калі не ўлічваць пастаянны… голад.*

### Выбілі лепшых

*Улада не любіць разумных людзей,*
*Ёй больш да спадобы —*
*Грошы,*
*Распуста.*
*Калі на трон запаўзе прахіндзей,*
*То ў наваколлі становіцца пуста.*

*Стагоддзя апошняга каламуць*
*Завершана найвялікшым*
*скандалам…*
*Хоць паўтаралі: «Усіх не заб'юць!»,*
*Але сапраўдных засталося мала.*

### Інтэрв'ю

*Шлях у вечнасць западае лістам,*
*Бо бярэ пачатак ён з зямлі…*
*Абяцалі стрэцца журналісты,*
*Толькі да паэта не прыйшлі.*

*Адкладалі гутарку на потым,*
*Каб цяпер бязгучна мовіць: «Ах!».*
*Ён знікае там — за паваротам,*
*А над ім імгліцца Млечны Шлях.*

### Небу пажаліцца некаму

*Спорненькі дождж ык.*
*Вымак пінжак.*
*Неба жальбуе над доляю.*
*Крыўда наўмысная?*
*Можа, няўзнак?*
*Мне разгадаць не дазволена.*

*Нейкі ў прыродзе нябачаны збой,*
*Зроблены ён недарэкамі…*
*Ты можаш плакацца тым,*
*Хто з табой…*
*Небу пажаліцца некаму.*

### Заходняя Дзвіна

*Ёсць у мяне свая рака,*
*Яна цячэ, як кроў у венах.*
*Дзе б я ні быў, што б ні шукаў —*
*Успамінаецца імгненна.*

*Я службу, як яна, нясу*
*У свеце, што ўсё больш лютуе,*
*І нават самы светлы сум*
*Ад грозных думак не ўратуе.*

*Мая віна ляжыць у тым,*
*Што на вачах рака мялее,*
*Што быў пясочак залатым,*
*Ды стаў даўно ўжо клейкім глеем.*

*Цень карабельнае сасны,*
*Водаахоўныя палосы*
*Шмат год знішчалі дзікуны*
*Пры патуранні безгалосым.*

*А сонечныя берагі*
*Спавіты невыносным смогам,*
*Бо за няясныя даўгі*
*Узяты фермамі ў аблогу…*
*Сініцу маю я ў руцэ,*
*А чым памог сваёй рацэ?*
*Цячэ Заходняя Дзвіна…*
*Расце, расце мая віна…*

### У табе

*Ты — у нязнанасць казачныя дзверцы,*
*Ты — самы дасканалы інтэрнэт…*
*Усё змяшчаецца ў маленькім сэрцы,*
*Хоць за вакном шуміць вялікі свет.*

*Дзень новы*
*Шчодра праўдай не надзеліць,*
*Ён зноў хлуснёй*
*Па мазжачку дзяўбе…*
*А самыя сур'ёзныя падзеі*
*Вось зараз адбываюцца ў табе.*

### Бяззубыя псы

*Снег выпаў,*
*І зноўку бяззубыя псы*
*З дрымоты ляцяць у сваволю,*
*Бо спрактыкаваныя ў нюху насы*
*Учуялі пах звабнай волі.*

*Ля будак утульных*
*Ляжаць ланцугі…*
*Там быць трэба ў час і дарэчы,*
*Дзе зло наразае мярзоты кругі,*
*Каб годнасць людскую нявечыць.*

*На ўскрайку жыццёвай крутой паласы*
*Выдатнай павінна стаць гонка…*
*Ну што, пабрацімы — бяззубыя псы,*
*Яшчэ павалтузім падонкаў?*

### Апошні сон

***«Nox est perpetua una dormienda».***
***(«Нас усіх чакае вечная ноч», — лац.)***

*Мы з вечнай цемры ў белы свет*
*Прыходзім,*
*Каб пагасіць і назаўжды сысці.*
*Кругаварот,*
*Што вершыцца ў прыродзе,*
*Прымае ўдзячна кожны пры жыцці.*

*Ёсць сэнс вялікі ў змене пакаленняў,*
*Каб чалавецтва курс трымала свой —*
*Ад дня невыпадковага стварэння*
*Прастор і час пранізвала стралой…*

*Мае нашчадкі — васілёчкі ў жыце,*
*Жадаю вам*
*Трыльён шчаслівых дзён!..*
*Сваю Зямлю і Волю беражыце…*
*А я пайду глядзець апошні сон.*

### Вышук

*Так павялося ў свеце з даўніны,*
*Што за людзьмі,*
*Якія годнасць маюць,*
*Цікуюць несупынна таптуны —*
*Падслухваюць,*
*Падглядваюць,*
*Здымаюць.*

*Куды б мяне дарогі ні вялі,*
*Хавацца ад віжоў няма патрэбы.*
*Не страшны злосны вышук на зямлі…*
*Я помню,*
*Што за мною сочыць Неба.*

### Любоў невыведная

*Сяджу пад вярбінаю ніцаю,*
*Гляджу на запылены шлях…*
*Усыпаны часу абсяг,*
*Як зоркамі,*
*Скрозь таямніцамі.*

*Пакінуў любоў невыведную*
*Той век, што пасланы на злом:*
*Усіх адарыў серабром,*
*І мне даў капеечку медную.*



Фота Антона Кірыка

# Чорны чалавек на зялёнай канапе

## Фрагменты аповесці



*Уладзімер АРЛОЎ*

### 1

Вы, пэўна ж, чулі выслоўе *Habent sua fata libelli*, а ў перакладзе з лаціны — *Кнігі маюць свой лёс*... Яно належыць сучасніку Марка Аўрэлія старажытнарымскаму граматыку Тэрэнцыяну Маўру і насамрэч мае ці то свядома — калі казаць пра саміх аўтараў кніг — ці то проста, праз адвечную чалавечую ляноту, прызабыты і амаль згублены ў стагоддзях працяг: *адпаведна таму, як іх прымае чытач.*

### 2

Колькі гадоў таму я прыехаў у родны горад, каб нарэшце напісаць аповесць, якая нібыта даўно выспела і прасілася на волю, але класціся на паперу ў сталіцы — з самых розных, як уяўлялася, неістотных прычын кшталту позняй вясны, лёгкага абвастрэння піеланефрыту або дажджлівага чэрвеня — катэгарычна адмаўлялася. Можна сказаць, што яна, яшчэ не перакладзеная на словы аповесць, нагадвала спакуслівы залацістабокі, з румянцам яблык, якому, тым не менш, хочацца даць трошкі часу, каб ён за пару пагодлівых дзён стаўся налітым і паказаў бы ў глыбіні жывога светлага бурштыну цёмныя кропелькі зярнятак, дзе запісаныя таемныя сэнсы, датычныя і гэтага плода, і яблыні, і цэлага саду.

У выніку было вырашана — пагатоў на небе нарэшце трывала атабарылася сонца — скарыстацца ад'ездам сястры ў адпачынак і, як ужо не раз бывала, ператварыць у кабінет адзін з пакояў ейнай вялікай чатырохпакаёвай кватэры, што засталася нам у спадчыну ад бацькоў на трэцім паверсе пяціпавярховіка з зацішным зялёным дваром, спакой якога, праўда, цяпер парушала аўтапаркоўка каля суседняга гатэля.

Дом з аднаго боку стаіць блізка ад Дзвіны, а з другога — ад ляснога возера. Такім чынам, у перапынках паміж працай я мог не толькі выпраўляцца на бясшлумную праходку, але і дасхочу плаваць, выбіраючы, залежна ад настрою, раку з моцнай пругкаю плынню або азёрны спакой у атачэнні ялін і хвояў.

### 3

Першы ж дзень на самоце, засведчыў, што інтуіцыя не падманула: увечары паўтузіна спісаных і скрэмзаных старонак легла са стала на падваконне. Тут трэба патлумачыць, што я старамодна пішу пачатковы варыянт ад рукі асадкай і адно потым прысаджваюся да кампутара.

Мой светлы драўляны стол месціўся пры акне ў таксама светлым сонечным пакоі, куды трапляеш з доўгага і прасторнага калідора, што адначасова служыць і вітальняй. Злева ад стала роўнядзь зеленаватай сцяны займаюць ясеневыя кніжныя шафы з некалькімі паліцамі нашых дзіцячых кніг, што робіць пакой асабліва прытульным.

Калі сядаеш за стол, за спінай апынаецца зялёная велюравая канапа з трыма падушкамі. Туды, на канапу, падчас маіх прыездаў звычайна перасялялася сястра, саступаючы мне шырокі ложак у колішняй бацькоўскай спальні, што ў канцы калідора направа.

### 4

Тэрэнцыян Маўр, а разам з ім і вядомы афарызм засталіся ў гісторыі дзякуючы вершаванаму трактату «Пра літары, склады і метры Гарацыя». Імя аўтара сведчыць пра паходжанне з рымскай правінцыі Маўрытаніі, абшар якой сённяшнія навукоўцы называюць краінамі Вялікага Магрыбу. Інакш кажучы, Тэрэнцыян быў цемнаскурым маўрам, або, па-нашаму, мурынам.

### 5

Кожны літаратар ведае: сумовіцца з аркушам паперы, што палохае цнатлівай нерушшу, або з маніторам кампутара, які асабіста мяне напачатку злёгку жахае, бо, дзякуючы вочку відэакамеры, падаецца амаль жывой істотай, — занятак не з самых лёгкіх. Таму, сказаўшы, што працаваў з насалодаю і не зважаў на гадзіннік, я апынуўся б далекавата ад ісціны. Я не забыўся ні разагрэць пакінуты сястрой на першы выпадак абед, ні спусціцца да паштовай скрыні, ні — дзеля моцнай чорнай гарбаты з цытрынай, мёдам і тэленавінамі на канале Euronews — патануць тры разы ў сваім улюбёным скураным фатэлі ў гасцёўні.

Але тое, што адзін з калегаў называў неспадзяванкаю душы, а другі — больш кваціста і нясціпла — пошумам анёльскіх крылаў, усё ж здарылася. Пасля гарбаты а пятай адчуванне часу неўпрыкмет знікла. Нягледзячы на цудоўнае надвор'е і падрыхтаваныя ручнік з плаўкамі, я забыўся і пра паход на Дзвіну, і пра вячэру, на якую сястра пакінула, відаць, з намёкам — маўляў, не размаўляй, а пішы — вараны цялячы язык.

Аднак не буду ідэалізаваць сябе: пра вячэру я ўспомніў. Адчувалася, што яшчэ здатны з разгону напісаць старонку-паўтары новага раздзела, якія ўжо бачыў перад сабой, прычым менавіта так — старонку і ладны хвост на наступнай — ды абмежаваўся тым, што зрабіў накід з падкрэсленымі словамі-ключыкамі, якія заўтра мусілі адамкнуць абзацы і цэлыя старонкі.

Прыстоіўшы каля кніжных шафаў, я з удзячнасцю правёў рукой па карэньчыках выданняў на трох верхніх паліцах, дзе заслужана адпачывала чытанае-перачытанае ў дзяцінстве. Пальцы прайшліся па ружовых тамах Вальтэра Скота і блакітных Аляксандра Грына, затрымаліся на чорных, як і належыць, томіках Эдгара По...

У зборы твораў Фенімора Купера адной малахітавай кнігі не хапала: яе нахабна, ледзьве не на вачах, сцягнуў некалі, схаваўшы за пазуху, мой аднакласнік, апантаны гульнямі ў індзейцаў, сярод якіх ён зваўся братам Вялікае Вуха. Аднакласнік даўно жыў у Амерыцы і трымаў недзе на мяжы з Канадай рэстаран. Магчыма, усміхнуўся я, такому лёсу паспрыяў якраз скрадзены том, і куперsucceeded... 

Тут прыцэльна: і купераўскія матывы гучаць у інтэр'еры ягонай харчова-пітной установы. Мо і сама тая кніга знайшла пачэснае месца паміж аўтэнтычнымі тамагаўкамі і, трэба спадзявацца, несапраўднымі скальпамі бледнатварых ворагаў. Цікава, які ў Вялікага Вуха спіс страваў? Ці знойдзецца штосьці з таго, чым кармілі нас маці ў дзяцінстве? Напрыклад, класічны дэсерт — халодная вараная бульба з бруснічным сочывам?

Урэшце думкі пра ежу скіравалі мяне на кухню, уваход у якую знаходзіўся цераз калідор і трохі наўскос ад кабінета. За вакном апусцілася на горад мяккае і ўтульнае ліпеньскае сутонне, і па двары, павольна запаўняючы сабою ўсе закуткі, плыла цішыня. У абладзе ціхай радасці ад таго, што ведаю, як узяцца за тэкст заўтра, я меўся аздобіць вячэру келіхам-другім прывезенага з сабой чылійскага шыразу.

### 6

Там, на кухні, разглядваючы вінную этыкетку, я і адчуў, *што ў кватэры прысутны хтосьці яшчэ.* Раптоўнае адкрыццё змусіла перахапіць неадкаркаваную пляшку за рыльца. Пасля кароткага роздуму я перакінуў гэтую зброю ў левую руку, у правай сціснуў самы вялікі кухонны нож і асцярожна ступіў у калідор.

Першае павярхоўнае абследаванне кватэры не прынесла ніякіх вынікаў. Надзейныя дубальтовыя дзверы на лесвічную пляцоўку былі на моцнай металёвай засаўцы. Пластыкавыя вокны прачыненыя зверху, і ў іх, апрача мух і камароў, маглі заляцець хіба што матылёк і, пры моцнай ахвоце, верабей.

Але адчуванне чужой прысутнасці не пакідала, а рабілася мацнейшым. Яно прымусіла рассунуць у спальні дзверцы шафы-купэ і перабраць вешакі з сястрынымі сукенкамі, каб упэўніцца, што за імі або ў іх саміх ніхто не затаіўся. Зазірнуўшы дзеля прыліку пад ложак і напалохаўшы порсткага павучка, я з парога зноў уважліва абвёў позіркам гасцёўню. Упэўніўся, што нікога няма ні ў кабінеце, ні ў маленькім пакоі паміж спальняй ды кухняй, які некалі служыў у бацькоў спальняю для гасцей. У вітальні я падміргнуў расхваляванаму чалавеку ў вялікім авальным люстры. Чалавек з люстра міргнуў у адказ, тым самым сведчачы, што з ягонай прасторы ў маю ніхто пакуль што не патрапіў. *Праінспектаваўшы* прыбіральню з лазенкай, я вярнуўся да круглага кухоннага стала і ўсё ж вырашыў — перадусім дзеля супакаення — выпіць келіх віна. Перапрацаваўся, паспрабаваў я ўголас растлумачыць свой стан, ды атрымалася зусім непераканаўча.

Корак з пляшкі выйшаў так звонка, нібы шніпар быў у руках у некага іншага. *Нервы... Яно, можа, і не дзіва, калі ўзяць пад увагу, што ты пішаш.*

Мая аповесць, умоўна кажучы, прысвячалася самнамбулам. Спярша гэта былі трое дарослых — Настаўнік, Залаціставаласая і Кіяскёрка, а таксама двое падлеткаў — Гімнастка-васьмікласніца ды крыху старэйшы за яе хлапчук, ад імя якога і распавядалася гэтая гісторыя. Ён быў адзіны, хто, прачнуўшыся, усё памятаў, таму што раней бачыў адбытае і на яве. Яны збіраліся з розных канцоў горада на даху недабудаванага закінутага гатэля і танчылі пад зоркамі, каб пасталець, згубіцца ў вялікім свеце і зноў — каму пашанцуе — сустрэцца ў маўклівым паўночным танцы ў памяць пра тых, хто танчыць на дахах ужо ў тагасветных гарадах. Разам з людзьмі ад самага пачатку танчыла Котка — нібыта звычайная трохколерная бела-чорна-рудая рыска, аднак з дзівосна доўгім хвастом, які, перакінуты на спінку, даставаў да вушак.

Шыраз трапіўся сапраўдны — густы, цёмна-фіялетавага колеру, букет, як і ўласціва гэтаму віну, бліжэйшы не да садавіны, а да спецыяў, з выразнымі смакавымі адценнямі шакаладу і чорнага перцу. Адмыслоўцы, згадалася мне, нездарма называць шыраз віном пачуццёвым ці нават непрыстойным.

Ды падмануць сябе не ўдалося: думкі пра віно існавалі самі сабой, а ўся істота наструнена прыслухоўвалася да кватэры, прымушаючы ўнутраны зрок зноў, пачаўшы ад спальні, сканаваць пакой за пакоем.

Праз колькі імгненняў келіх з віном ледзь не выпаў з рукі. Цяпер я ўжо напэўна ведаў: *хтосьці ў кабінеце.* Прысутнасць гэтага *кагосьці* лакалізавалася на зялёнай велюравай канапе. Вольна адкінуўшыся на падушкі і паклаўшы нага на нагу, на канапе сядзеў... абсалютна чорны чалавек.

### 7

Каб авалодаць сабой, я зрабіў глыток, затым другі і трэці. Шыраз цалкам страціў нядаўнія ўласцівасці, перайначыўшыся ў шараговае пітво айчыннай фірмы «Ambassador», якая з аднолькавай сыравіны паспяхова вырабляла амаль што ўсе на свеце віны. Я механічна дапіў келіх і падняўся. Сказаўшы, што дзейнічаў рашуча, я нахабна б схлусіў. Праўдзівым было б іншае слова — зацкавана. Аднак я зрабіў некалькі крокаў, выйшаў у калідор і, таймуючы сэрца, асцярожна зірнуў у прачыненыя дзверы майго часовага кабінета. Як і чакалася, там нікога не было. І разам з тым *ён*, бясспрэчна, знаходзіўся ў гэты момант на канапе.

Зноў апынуўшыся на кухні, я зразумеў, што здолею разгледзець *яго* лепей. Першы раз здалося, быццам Чорны чалавек голы, але на ім выявілася нешта накшталт цёмнаатрамантавага, з лёгкім серабрыстым адлівам трыко. На нагах ён меў чорныя, нізкія і пляскатыя пантофлі з даўгімі, загнутымі ўгару мыскамі. Такі абутак можна ўбачыць на палотнах старых майстроў ва ўборах прыдворных блазнаў, хоць мой няпрошаны госць выдаваў на каго заўгодна, але не на блазна. З тае прычыны, што ён сядзеў, рост вусцішнага візітанта заставаўся нявызначаным, і пра яго мне наканавана было даведацца адно праз два тыдні.

Спадабаўшыся самому сабе, я даволі спакойна выпіў другі келіх шыразу. Рука не трымцела, віно вярнула сабе смакавыя якасці і прыемна паколвала язык.

Чорны чалавек, які рабіўся невідочным, калі я зазіраў у кабінет, і матэрыялізоўваўся, як толькі я адводзіў пагляд, ані не нагадваў аблічам мурына — ні класічнага жыхара экватарыяльнай Афрыкі, ні чарнаскурага амерыканца. Не выдаваў ён — тут, мяркую, са мною пагадзіўся б і Тэрэнцыян Маўр — і на жыхара Магрыбу, дзе мне калісьці пашчасціла тыдзень павандраваць і нават выключыць з гульні двух скарпіёнаў.

Еўрапейскія рысы твару, у меру высокі лоб, прамы, з

няўлоўнаю гарбінкаю нос. Валасы кароткія, але не ў дробныя кудзеркі, як руно, а — густы падрослы вожык і такая самая кароткая кучаравая барадка. Вызначыць колер вачэй у прыцемку не ўдалося, але яны падаліся агатавымі, не, лепей сказаць, чорнасліўовымі.

**8**

Выратавальную, як выглядала спачатку, думку — затэлефанаваць некаму з сяброў і, вымысліўшы праўдападобную прычыну, папрасіцца нанач — я цвёрда пастанавіў не разглядаць. Па-першае, час набліжаўся да поўначы. Па-другое, хатні тэлефон стаяў на паліцы ў кабінеце, і тамсама, на стале побач з рукапісам, я пакінуў мабілку. Па-трэцяе, госць, хоць і ствараў у кватэры напружанне, відавочна не ўяўляў сабой непасрэднай пагрозы. Апрача таго, кожны з нас знойдзе ў памяці, прынамсі, адно здарэнне, якое аніяк немагчыма вытлумачыць у звыклай сістэме матэрыялістычных каардынатаў.

Карацей, ад намеру сысці да сяброў, на недалёкі адчынены ўначы аўтавакзал або проста на лавачку ў парку каля ракі, бо ноч была аксамітава цёплай, я адмовіўся. І не без палёгкі. Едучы да сястры, я пастанавіў унікаць сустрэч са знаёмымі, каб не парушыць неабходнай адзіноты. Дый адваротны варыянт — сыход з дому — стаўся б маладушнымі ўцёкамі. Хто ведае, што атрымалася б у выніку. Напрыклад, ці не была б кватэра, калі я вярнуся, зачыненая на засаўку зсярэдзіны?

Дзеля смеласці я выцадзіў новы келіх віна, а тады досыць бадзёра накіраваўся ў спальню, дзе, зачыніўшы дзверы, прылёг на неразасланы ложак і вымкнуў святло. Адчуванне *ягонай* прысутнасці не пакідала. Круцячыся на ложку, што зрабіўся страшэнна мулкім, не раўнуючы, як у матрац нехта падступна насыпаў жвіру, а падушку наладаваў пілавіннем, я ўспомніў пра *маміны вяртанні*.

Пасля пахавання мамы сястра штоночы прачыналася роўна ў дваццаць хвілін на трэцюю ад таго, што адчувала несумнеўнае маміна з'яўленне. Яна тады спала ў маім цяперашнім кабінеце, бо мама прамовіла апошнія словы якраз там, дзе я зараз варочаўся з боку на бок, страціўшы ўсякі спадзеў знайсці зручнае месца. У сваю сённяшнюю спальню сястра перасялілася толькі пасля ўгодкаў мамінай смерці.

Мама заўсёды вярталася сюды, у пакой, дзе развіталася з намі, затым, паводле слоў сястры, выходзіла ў гасцёўню і доўга стаяла там каля вакна, гледзячы ў яго праз свае акуляры з чарапахавай аправай, але ніколі не пераступала парог вітальні. Першыя дні сястра баялася, ды неўзабаве прывыкла, аднак да трэцяе гадзіны ночы — пакуль мама не развітвалася з роднымі сценамі — ляжала без сну. Але ў адну з начэй не прачнулася, і мама з яе паслясмерця больш ніколі не завітвала.

З візітамі мамы было збольшага зразумела. Яна, пакуль канчаткова не знайшла сабе месца ў новых, таемных для нас сферах, прыходзіла дамоў. Адкуль жа і чаму акурат у нашай кватэры з'явіўся Чорны чалавек? Што ў яго за мэты? З якой такой прычыны ён абраў менавіта кабінет? З сумам падумалася, што мара вярнуцца дахаты з новай аповесцю ма́е высокія шанцы пайсці дымам.


Фота gero.org

**9**

Трэба, аднак, было неяк датрываць да раніцы. Мой лёгкі хмельны кураж тым часам стаўся ўспамінам, але задача выглядала цалкам рэальнай, паколькі Чорны чалавек не дэманстраваў варожых намераў.

Я падняўся і выйшаў у калідор. Зачыніў дзверы ў гасцёўню, зрабіў тое самае з усімі астатнімі, акрамя дзвярэй кабінета і кухні, да якіх не рызыкнуў набліжацца. Пасля, зачыніўшыся ў спальні, разаслаў ложак, разнасцежыў вакно, што выходзіла на паркоўку пры гатэлі, і лёг. Позняй парою паркоўка, на жаль, азвалася не ўтульнымі зямнымі гукамі, якіх прагла знерваваная душа, а густой глыбокай цішынёю.

Каб заснуць, я паспрабаваў вынайдзены ў гады студэнцтва досыць дзейсны спосаб: у адваротным парадку, ад апошняга да першага, згадваць імёны нашых вялікіх князёў і каралёў. Звычайна ўжо недзе на сярэдзіне, прыкладна на Жыгімонце Аўгусце або на ягоным бацьку Жыгімонце Старым, жанатым з італійкаю Бонай Сфорца, думкі пачыналі блытацца ў прадчуванні блізкай дрымоты, і астатнія манархі маглі адно прысніцца. Гэтым разам мае намаганні скончыліся тунна. Аўгусцейшыя асобы, пакінуўшы старадаўнія партрэты і няроўна пашыхтаваўшыся, кпліва зіркалі на бяссонніка, а Бона з Барбараю Радзівіл нечакана аб'ядналіся ў непрыхавана здзеклівым смеху.

Дапамога з'явілася, адкуль я яе не чакаў. У начной вусцішы натхнёна зазвінеў і спікіраваў на мяне камар. Ён падаўся стварэннем бясконца зямным, блізкім і родным. Беспаспяховае, але шчаслівае змаганне з камаром і дазволіла заснуць.

Я не назваў бы сон спакойным і ціхамірным. У ім мроілася, што я ўскокваю ад рыпення дзвярэй, і вачам адкрываецца іхні пусты прахон, які, між тым, зусім не пусты. Па-сапраўднаму глыбока заснуць удалося тады, калі ў вакно разам з радасным званком самага ранняга трамвая папрасіўся світанак.

**10**

Раніца падаравала развітанне з тэатрам сціхотных ценяў. Дапамог і кароткі начны дождж, што пакінуў мокрыя газоны ды лужынкі на падсохлым асфальце, якія павінны былі вось-вось дазвання знікнуць разам з рэшткамі трывогі. Яшчэ лежачы ў ложку, я мог бы прысягнуць, што больш у кватэры нікога няма.

Паснедаўшы аўсянкай, я з кубкам гарбаты і сліўкай у шакаладзе за шчакой смела зайшоў у кабінет. На сонечнай стальніцы, як і на зялёнай канапе, нічога — калі не лічыць, што разрадзіўся сотавы тэлефон, — не перайначылася. Акурат затэлефанавала з санаторыя сястра. Мы паразмаўлялі на звычайныя ў такіх выпадках тэмы, і я лёгка развітаўся з прамільгнулым жаданнем запытацца штосьці накшталт: *Ці не заўважала ты калі-небудзь у пакоі з кнігамі нечага дзіўнаватага?*

Словы-ключыкі пачалі пераўвасабляцца ў сказы і абзацы раней, чым я сеў за стол. Учорашнія прыгоды надзіва не заміналі, а — прынамсі, хацелася так думаць — абвастрыўшы пачуцці, спрыялі руцэ з асадкай. Нечаканы візітант зараз успрымаўся чымсьці сугучным маім таксама начным героям, маленькая сябрына якіх удзень распадалася на незнаёмых між сабою чужых людзей.

Нядаўняя прысутнасць Чорнага чалавека ніяк не адчувалася ці, можа, выявілася ў тым, што я зноў, але ўжо асэнсавана, не пайшоў купацца. Урупіўшыся ў тэкст, я проста забыўся на начнога госця, але, калі за вакном зашарэла, у душы заварухнуўся неспакой. Чорны чалавек зараз не выглядаў плёнам гульні ўяўлення, якое ўчора на знак падзякі ці пакарання за нешта намалявала тую невераемна жывую карціну — ажно да адметна загнутых мыскоў блазенскіх пантофляў.

І надышоў момант, калі ўва мне прагучаў выразны загад ставіць на сёння кропку, інакай у кабінеце можа зрабіцца зацесна. Без панікі адступаючы на кухню, я не забыў прыхапіць мабілку, халаднаватая пластыкавая рыбінка якой прыкметна дадавала ўпэўненасці.

**11**

Чорны чалавек з'явіўся той самай парою. Праўда, цяпер ён сядзеў на канапе не закінуўшы нага на нагу, а роўна, з пакладзенымі на калені рукамі. Яго сур'ёзная і ўадначас мірная пастава спадабалася мне значна болей, хоць, зрэшты, што тут магло асабліва падабацца?

Удзень я з дому не выходзіў, таму вячэра была падобнай да ўчорашняй як дзве кроплі вады. Праўдзівей — не вады, а віна, бо разам з рэшткамі халоднага языка чакаў недапіты шыраз. Зрабілася ясна, як божы дзень, што Чорны чалавек — наведнік невыпадковы, і датычна яго трэба выбудаваць адпаведную лінію паводзін. Няхай, вырашыў я, гэта будзе палітыка асцярожнага нейтралітэту з магчымымі дыпламатычнымі кантактамі.

Калі б Чорны чалавек паседжваў на канапе і раней, сястра неадменна б папярэдзіла мяне і без лішніх роспытаў. Адсюль вынікала, што ягонае з'яўленне звязанае якраз з маім прыездам і, відаць, з тым, чым я займаюся.

Перад сном я зачыніўся ў спальні і паспрабаваў чытаць захопленага з дому Марка Аўрэлія. Утульны томік разгарнууўся на кнізе сёмай: *Усё матэрыяльнае вельмі хутка знікае ў сусветнай сутнасці... І памяць пра ўсё не менш хутка знаходзіць сваю магілу ў вечнасці.* Не сказаць, каб сентэнцыя надта б спрыяла добрым снам. Я перагарнуў некалькі старонак. *Уяві, што ты памёр, што жыў толькі да гэтага моманту...* Дачытаўшы да канца, я быў узнагароджаны: *а час, што табе застаўся, успрымай як дадзены звыш адмеранага і жыві ў ім згодна з прыродай.*

Я нечакана супакоіўся: *жыві ў ім, жыві ў ім...*і на мяжы явы і сну працягнуў: *жыві ў ім... пры ім... за ім... над ім... ім...* Думкі блыталіся, ды, адплываючы ў сон, я паспеў згадаць дасціпна заўважанае калісьці, што *імператар* Марк Аўрэлій стаўся адно выпадковасцю, якая напаткала філосафа з тым самым імем. *Прысніцца можаце абодва*, запрасіў я, аднак з Маркам Аўрэліем у тую ноч спаткаўся хтосьці больш шанцоўны.

**12**

Шторанцы, папіваючы першы кубак наймацнейшай за цэлы дзень гарбаты, я перачытваў напісанае напярэдадні і вяртаўся да сваіх танцораў. А мо гэта яны вярталіся да мяне, і я па чарзе нейкай часткаю істоты ператвараўся ў аднаго ці ў адну з іх, не мінаючы і Коткі. Каб перанесціся ў іхні свет, часам я нават пачынаў танчыць, робячы зусім маленькія, адпаведныя памерам кабінета, колы. Нарэшце хтосьці з маіх нябачных, але ўсё больш адчувальных партнёраў дакранаўся мне да рукі або да пляча. Гэта і служыла знакам таго, што вяртанне здзейснілася. На колькі гадзін я забываў і пра Чорнага чалавека, і, калі шанцавала, пра ўсё астатняе.

**13**

Травеньская ноч была цёплай і чуйнай. Шчыльныя аблокі захінулі месяц і зоркі, аднак, ратуючы наваколле ад цямрэчы, злёгку свяціліся самі. Як звычайна, мы збіраліся па адным, але Залацістая з Коткай заўсёды чакалі астатніх каля квадратнага люка, усё роўна як і не пакідалі даха з мінулага разу.

Тонка праспявала нябачная страла, і ўслед за ёю недзе ўзляцела рука таямнічага дырыжора. Узляцела і застыла ў найвышэйшай кропцы, каб праз нязлоўнае імгненне даць сігнал музыкам...

Мы паспелі прайсці некалькі колаў, мяняючы хуткасць ды накірунак і пакрысе напаўняючы танец усё большай энергіяй, як раптам нас зрабілася не шасцёра, а сямёра.

У паветры ціха прашамацелі крылы, і на плячук Гімнасткі апусцілася дзіўная начная птушка, падобная да грака, але з двума ярка-зялёнымі пералівістымі пёрамі на баках і такой самай аблямоўкаю чорнай шыі. Трэцяе пяро — доўгае і вузкае, спакойнага салатавага колеру — трымала ў дзюбе. Прыгледзеўшыся, я зразумеў, што гэта не пяро, а стрэлка аеру.

Як выглядала, ні Гімнастка, ні хто-небудзь яшчэ з танцораў, апроч мяне, не заўважыў нябеснай госці. Адно Котка насцярожылася і наставіла поўсць так, што стала добра відаць ейная абсалютна круглая ружовая плямка-пячатка, выпаленая некім ці нечым на падчарэўцы справа. Але праз хвілю наша чатырохногая танцорка ўжо ўсім сваім выглядам паказвала, што ніякае небяспекі яна не адчула.

Птушка не замінала танцу, і ён ні на момант не перапыняўся — ні тады, калі мы мяняліся месцамі, ні тады, калі, працятыя сціхотнай самотаю, браліся за рукі. Толькі перад тым, як бы на нечы загад, мы павінны былі абняць адно аднаго за плечы, зрабіўшы нашае кола зусім вузкім, птушка паднялася ў паветра. Трымаючыся накірунку агульнага руху і не выпускаючы аеравай сцяблінкі, яна пачала лётаць над намі нізкімі кругамі — як быццам таксама брала ўдзел у танцы.

Калі невідочныя музыкі, нібы папярэджваючы нас пра небяспеку, зайгралі зусім ціха і мы яшчэ раз узяліся за рукі, каб далей танчыць, заплюшчыўшы вочы, птушка зноў апусцілася на плячо Гімнасткі. Няўжо наша зялёнапёрая госця наперад ведала, што цяпер яна найбольш патрэбная менавіта дзяўчынцы, што на сваіх цёплых спружыністых ступачках найчасцей датанцоўвала да самага краю.

Птушка заставалася з намі да той хвіліны, калі напрыканцы мы ўскінулі рукі да зорак...

# Адна ў белай хаце

Алесь ЖУК

У «Літаратурнай Беларусі» паведамлялася пра зварот Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага Хельсінскага камітэта да колішняга генеральнага пракурора Беларусі Пятра Міклашэвіча з просьбай-прапановай «фармальна» рэабілітаваць вядомую беларускую паэтэсу Ларысу Геніюш (паколькі ейная грамадская рэабілітацыя адбылася ў чытацкай павазе і любові). Аднак у нашай дзяржаве нават генеральны пракурор (у якога тое ж прозвішча, што і паэтэсавае ў дзявоцтве) не мае… права на тое. Як аказалася, пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 24 лістапада 1999 года Ларыса Антонаўна Геніюш прызнаная не падлеглай рэабілітацыі, а беларускі суд, як вядома, ***…
Повязь жа Ларысы Геніюш з нацыянальнай культурай — непарыўная, і сёння «Ь» друкуе прысвечанае паэтцы эсэ Алеся Жука (увойдзе ў новую кнігу прозы пісьменніка «Па дарозе дадому»), а таксама неардынарны дакумент мінулага — ліст Ларысы Геніюш да першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава.

Пра Ларысу Геніюш я ўпершыню пачуў ад Юркі Голуба, з якім мы былі аднакурснікамі. У той час кантактаваць з Ларысай Антонаўнай, асабліва моладзі, было непажадана. Людзі з органаў цікавіліся тымі, хто наведваў яе. А нацыянальна настроеная моладзь цягнулася да яе. І наведвала. Тую, што была сакратаром эміграцкага ўраду БНР, тую, што друкавалася ў перыядычных выданнях таго часу, выдала сваю першую кнігу «Ад родных ніў» у Празе ў 1942 годзе. Тую, што ў 1948-м была арыштавана, вывезеная ў Мінск і асуджана на 25 гадоў лагераў, так і не рэабілітаваная ў 1956-м камісіяй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Камісія толькі скараціла тэрмін да 8 гадоў, практычна проста выпусціла на волю, пакінуўшы абвінавачванне ў сіле. «Няўдзячная» Геніюш, выйшаўшы на свабоду, не прыняла савецкага падданства, хаця і засталася жыць на радзіме, у Зэльве…

Для ўлады Ларыса Геніюш «как была, так и осталась националисткой», адным з тых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, віна якой была толькі ў тым, што любіла сваю Радзіму, свой народ, жадала яму «свайго пачэснага пасаду між народамі». Колькі светлых галоў заплаціла за гэтае імкненне жыццём, колькі талентаў так і прапала, зачахла ад свае незапатрабаванасці!

Ларыса Геніюш была адной з тых, хто не зламаўся, хто выстаяў да канца, хто верыў у тое, што зробленае імі не прападзе марна. Ларыса Антонаўна дасягнула свайго, няхай і пасля смерці. Напісанае ёю надрукавана, выдадзена, імя яе ўвайшло ў кагорту тых слаўных, кім ганарыцца Беларусь.

Але праз што даводзілася прайсці, якія хвіліны адчаю былі пераадоленыя, гаворыць і пісьмо Ларысы Геніюш на імя Пятра Міронавіча Машэрава. Наўрад ці трэба каментаваць гэты дакумент — сведчанне перажытага болю і адчаю, асабістай годнасці і вялікай чалавечай мужнасці.

На пісьме штэмпель групы рэгістрацыі пісем ЦК КПБ і няма ніякіх рэзалюцый. Але калі меркаваць па тым заданні, якое я атрымаў ад сакратара па ідэалогіі А.Т.Кузьміна, Машэраў пісьмо прачытаў. Аляксандр Трыфанавіч выклікаў мяне да сябе, сказаў, што па пісьме Ларысы Антонаўны мне трэба з'ездзіць у Зэльву, правесці гутарку з мясцовым кіраўніцтвам аб іх адносінах да паэтэсы, рэкамендаваць ім не перашкаджаць, а нават і спрыяць таму, каб Ларыса Антонаўна магла выступаць перад людзьмі, чытаць вершы. І яшчэ — каб ніякіх дзеянняў супроць Ларысы Геніюш не праводзілася. Калі што — звязвацца з сектарам мастацкай літаратуры ЦК.

Праз дзень я быў у Зэльве, дзе адбылася непрыемная для першага сакратара райкама партыі гаворка, але аспрэчваць указанні «таго дома» было не прынята.

Самае памятнае з тае камандзіроўкі — сустрэча і знаёмства з Ларысай Геніюш. Па дарозе ад райкама да хаты Ларысы Антонаўны я заўважыў, што прыстаўлены да мяне інструктар абкама Іван Граблеўскі нярвуецца. На маё пытанне, у чым справа, ён неахвотна патлумачыў, што Ларыса Антонаўна такая жанчына, што можам атрымаць ад варот паварот. Відаць, адчуваў нейкі грэх за сабою.

Запомнілася яшчэ брудная пасля зімы, няўтульная красавіцкая вуліца, просты вясковы плот, варотцы. Першым пра нас даў знаць сабака, які з'явіўся з-за хаты. Вуліца была пустая. Людзі з вокнаў назіралі за белай абкамаўскай «Волгай» і за людзьмі, якія з яе выйшлі. Неўзабаве дзверы сянец адчыніліся, да нас падышла жанчына. Гэта была суседка Ларысы Антонаўны, якая дапамагала ёй па гаспадарцы. Мы назваліся, жанчына вярнулася ў хату, і адтуль хутка выйшла сама Ларыса Антонаўна, нечакана моцная, па-мужчынску шырокая ў плячах, у лёгкай летняй сукенцы. Яна адчыніла варотцы, запрасіла заходзіць у хату, распранацца і садзіцца за стол, сказала суседцы, каб прыгатавала чай.

Маю інфармацыю пра наведванне райкама выслухала стрымана, зрэдку злёгку ківаючы галавой ні то ў знак удзячнасці, ні то што норавы і павадкі сваіх чыноўнікаў ведае лепш за нас. Але з твару пасвятлела, узялася засцілаць стол, як было заведзена ў яе, вышываным прыгожым «поясам», паставіла талерачкі з «печывам» — сухарыкамі, дамашнім пячэннем, на што была вялікая майстрыца. І зусім нечакана на стале з'явіліся кілішкі і тое, што ў іх наліваюць. І пытанне:

— Ці пры выкананні начальства ня п'е?

Давялося аджартавацца, што якое ж гэта начальства, калі яно не п'е. А потым гаворка за чаем, нязмушаная, але і неабавязковая, як і звычайна паміж людзьмі раней не знаёмымі, роспыты пра Мінск. Да сваіх праблем Ларыса Антонаўна не вярталася, не скардзілася, толькі мімаходзь заўважыла, што яшчэ халаднавата на двары, а брыкет ніяк не могуць прывезці. Іван Станіслававіч адразу ж запэўніў яе, што брыкет будзе, папрасіў Ларысу Антонаўну на будучае запісаць ягоны тэлефон. Ларыса Антонаўна тэлефон запісала, але ўсміхнулася і паддзела:

— Вось бачыце, варта інструктару ЦК загаварыць па-беларуску, дык і абкам, аказваецца, умее.

Я нагадаў Ларысе Антонаўне пра вершы: у маё даручэнне ўваходзіла ўзяць вершы Ларысы Геніюш для надрукавання ў рэспубліканскіх выданнях. На нейкае імгненне яна быццам задумалася, потым падышла, здаецца, да шафы, вярнулася з папкай і нечакана прапанавала:

— А хочаце, я пачытаю вам свае вершы?

Чытала яна стоячы перад сталом і адначасна раскладвала лісткі ў два стосікі са словамі: «Гэта можна. Гэта ня пойдзе».

Чытаць Ларыса Антонаўна ўмела, пачуццё меры, як і разуменне сваёй годнасці былі ўласцівы ёй арганічна. І чытку яна не зацягнула. Паклала адабраныя лісткі ў папку, падала мне са словамі:

— Перадайце Максіму. Паклон яму ад мяне. І скажыце, няхай сам распарадзіцца.

Мне не трэба было тлумачыць, што Максім — гэта Максім Танк. Забягаючы наперад скажу, што Яўген Максімавіч распарадзіўся: у летніх нумарах «Полымя» і «ЛіМа» 1979 года былі надрукаваныя падборкі вершаў Ларысы Геніюш, а ў 1982-м была выдадзена і «вялікая» кніга паэтэсы «На чабары настоена», другая пасля «Невадам з Нёмана» 1967 года.

Правяла нас Ларыса Антонаўна да варотцаў, і калі я азірнуўся з машыны ад'язджаючы, здалося, што яна злёгку кіўнула галавой на развітанне. Падумалася, як цяжка і адзінока ёй у вялікай хаце з пабеленымі сценамі, разлічанай на вялікую сям'ю, жыць адной пасля смерці мужа, і як, мабыць, часта яна глядзіць на сцяну, дзе вісіць у рамачцы невялікая аматарская фатаграфія, з якое глядзяць на яе такія маладыя Данута Бічэль-Загнетава, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк… І яшчэ падумалася, што залішне зацятыя барацьбіты з нацыяналізмам наўрад ці перастануць рабіць ёй дробныя паскудствы, але на вялікія наўрад ці адважацца.

Вось кароценька і ўсё, што засталося ў памяці ў сувязі з пісьмом Ларысы Геніюш, дзякуючы якому я пабачыўся з сапраўднай паэтэсай і патрыёткай любімай ёю Беларусі.

## «МАРАЛЬНАЕ МАРАДЗЁРСТВА, НЕДАСТОЙНАЕ БЕЛАРУСІ» ЛІСТ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ ДА ПЯТРА МАШЭРАВА

Высокапаважаны тав. МАШЭРАЎ.
Прозвішча маё Геніюш Ларыса Антонаўна. Жыву ў Зэльві, Гродзенская вобл., вул. Савецкая, 7. Мне вельмі патрэбная Вашая дапамога, бо інакшай не маю тут. 8/II сёлета памёр мой муж, лекар-пенсіянер, і яшчэ раз сустрэўшыся з дзікунствам, амаль нейкім маральным марадзёрствам тутэйшых зэльвянскіх уладаў, я не магу не напісаць Вам з розных меркавань.

*«У космас узляцелі,*
*прасторы змаглі,*
*Розум на гэта патрэбны*
*і праца,*
*А я хачу пэўна ступаць*
*па зямлі*
*І злыдняў ніякіх на ёй*
*не баяцца!»*

Жыццё мужа і маё было тут і ёсьць невыноснае. Калі стары і хворы адыходзіў на пенсію, дык забаранілі калегам яго і персаналу нават праводзіць яго па-чалавечу. Нават прафсаюзу забаранілідаць тыя грошы, якія даюць усім, хто на пенсію адыходзіць. Болей таго. Болей, калі моцна захварэў, не магла нікога даклікацца з лекараў, каб яму дапамог! Тады я звярнулася да др. Багдановіча, Облздрава ў Гродне, і ён прыслаў кансультанта і назначыў тэрапеўта, які б даглядаў «Ветерана труда». Як пасля я даведалася, дык інструктар РКП у Зэльве спэцыяльна папераджаў лекараў, каб да нас не заходзілі нават! А муж задыхаўся, стагнаў і мучыўся на маіх руках. Была я тут сама і бязсільная ў сваёй розпачы. Парыла зёлкі, са сьлязьмі выпрошвала «Валакардзін» і купляла тое, што сам ён сабе назначаў…
Вось сканаў на маіх руках. Сумленна даглядала яго др.Кулікава, але медыцына аказалася бязсільнай, як і мая любоў. Чужыя, простыя нашыя людзі, са шматвяковай народнай культурай у сэрцы, нават малапісьменныя памагалі мне тут, як маглі. Адазвалася сумленне і ў былых калегаў мужа. Адведалі яго хоць па сьмерці, падаравалі жывыя кветкі. Хацелі зрабіць апошнюю радасьць нябошчыку і загадалі стужкі на вянках падпісаць на яго роднай, каханай беларускай мове. Жаль, у майстэрні нейкі тав.К. загадаў сарваць тыя стужкі і напісаць іх па руску. Я шаную рускіх і іх мову і культуру, але за жыцьця і па сьмерці я хачу чуць удома і сваю родную мову! У нас Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік, а не нейкі «Эйн фольк, эйн райх, эй фюрэр!», гдзе ўжо нічога, нікому нельга! Цягалі, казалі людзі мне, тых бедных «геройскіх» лекараў, але яны маўчаць, бо баяцца. Няўжо і па сьмерці нельга той любай моваю карыстацца? Начальнік зельвенскай міліцыі нават забараніў шафёру хуткай дапамогі ехаць на могілкі і прывезьці каго з нашай сям'і, калі б там абамлеў з гора… Якое дзікунства! Хлапец спалохаўся. Нейкія тыпы падыходзілі да людзей і «грозна» папяраджалі: «Никаких речей, никаких ракет /?/». Калі людзі пыталіся, хто яны такія і якім правам да іх з падобным звяртацца, дык адыходзілі. Бегаў і нешта ўсё запісваў у блакнот маленькі «мудры» Верстак, Палячок зельвенскі, начальнік Горсавета. Пасля аказалася, што ў спісак заносіў тых, хто нёс вянкі і галоўнае: крыж. А крыжа таго нёс наш далёкі сваяк, інвалід, якога некалі лячыў мой муж. Крыж быў зробляны ў хаце, бо якжа нам іначай, калі мужаў дзед быў некалі царкоўным старастам у гэтым, здаецца, з XVI стагодздзя, старым храме….. Удома паставілі толькі пласцінку «Авэ Марыя» па італьянску, а вось несьлі яго, як і дзядоў нашых — з крыжам. Падаў той Верстак беднага таго Ваню ў Райспалком, каб судзілі, панапісваў небыліцы проста і загадаў, каб чалавека пакаралі штрафам 50 рб. Каб хоць 10 рб, думае бедны чалавек, а скуль вазьму 50… Ледзь не плакаў, але тая камісія яму даравала… І дырэктар школы і той Верстак выклікалі людзей нашто неслі вянкі? Палохалі… А на могілках безліч рознай міліцыі! Ціж не жах? Пад канвоям хаваюць, беднага, загаманілі людзі. А мы за сьлязьмі не бачылі сцежкі. Ніхто не выступаў, не прамаўляў. І толькі сын падзякаваў усім добрым людзям і запрасіў на хаўтурную вячэру ў хату.
Я хачу прасіць Вас, каб Вы запэўнілі мне хоць крыху спакой, пакуль не зраблю парадак з магілкаю мужа /зямля павінна асесці/, а пасля дапамаглі мне выехаць недзе, хоць да Папуасаў, каб я такога болей не бачыла! Мне ўжо тут пагражалі, але сказалі: «Пусть ещё поживёт»….. Думайце, тав. Машэраў, бо Вы не ведаеце, што тут з людзьмі выпрабляюць. Вельмі прашу Вас, уважце мой боль і гэтую маю просьбу дапамагчы мне спакойна пражыць у сваёй хаце час, пакуль магілу не прывяду ў парадак. Яшчэ далучаю Вам ліста, якога ўчора атрымала. Піша гэта настаўнік з Гудзевіч, Гродзенскай вобл., які арганізаваў там добры літаратурна-краязнаўчы музей. Я абецала дапамагчы яму, але людзі, напалоханыя тымі паховінамі, ужо і пісаць мне баяцца, ня толькі дапамагчы. Йзноў надзея толькі на Вас. Чалавек гэта разумны, вартасны і цяжка хворы.
Калі гляджу на Вас па тэлебачанню, на Вашыя сустрэчы з сапраўды высокакультурнымі і гуманнымі паліт. дзеячамі сваёй і іншых краінаў, дык хочацца верыць, што такое знушчанне над жывымі і мёртвымі, маральнае такое нейкае марадзёрства, пакажацца і Вам недастойным нашай Беларусі!
Застаюся з глыбокай павагай да Вас і з вераю, што абоім нам дапаможаце.

**Ларыса Геніюш**
**Зэльва, 31/III.1979 г.**

P.S. Я буду чакаць адказу ад Вас, ці вышлю яшчэ Вам копію свайго ліста, калі не дадуць Вам гэтага, бо ўсё думаю:

*Ўжо свечкі даўно пагашаны.*
*І магілы пад снегам спяць…*
*— Няўжо і мяне няшчасную*
*Пад канвоям будуць хаваць?*

**Ларыса Геніюш**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

Беларусь Спартыўная

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

40 ШТО БУДЗЕ З БЕЛАРУСКІМ ТЭНІСАМ ПАСЛЯ АЛІМПІЯДЫ?

47 КЕЙС ЦІМАНОЎСКАЙ






Фота SPORT-EXPRESS.RU

# І была Алімпіяда, і былі мы…

Сяргей КАЙКО

**У нядзелю 8 жніўня патух алімпійскі агонь у далёкім Токіа. Скончыліся Гульні, якія адразу ж назвалі ці не самымі дзіўнымі ў гісторыі. Самымі фантасмагарычнымі і паранармальнымі — такімі, якія нельга было ўявіць сабе яшчэ некалькі гадоў таму.**

Але ж яны прайшлі — і, у прынцыпе, атрымаліся неблагімі. Са сваімі палаючымі інтрыгамі і галівудскімі сюжэтамі, з калейдаскапічнай медальнай гонкай і героямі на ўсе часы, з хвілінамі трыумфаў і драм… І, вядома, са скандаламі, без якіх спорт не спорт і жыццё не жыццё.

Усяго хапала — на тое яна і Алімпіяда. Найлепшае, што прыдумала чалавецтва ў жанры спаборніцтва дзеля задавальнення інстынкту дамінаваць і навукі перамагаць.

І было гэтым летам у Японіі ўсялякае…

…І была пандэмія каронавіруса — той самы чыннік, што забяспечыў Гульням арэол нейкага постмадэрну. Пачынаючы з таго, што тэрміны Алімпіяды давялося адсоўваць на год — і ў выніку яна, здаецца, упершыню адбылася ў няцотны год. І заканчваючы тым, што колькі разоў увогуле паўставала пытанне аб адмене алімпійскага свята.

Адмены не здарылася, аднак меры эпідэміялагічнай перасцярогі зашкальвалі і фактычна на два тыдні зрабілі з Токіа рэжымны аб'ект. Абмежаванні падчас цырымоній адкрыцця і закрыцця, абмежаванні на наведванне спаборніцтваў заўзятарамі, абмежаванні ў Алімпійскай вёсцы, абмежаванні ў кантактаванні спартсменаў. Абмежаванні, абмежаванні, абмежаванні… А атлеты, нягледзячы на татальную сацыяльную дыстанцыю, ўсё роўна хварэлі і вымушана самаізаляваліся. Балазе, маштабы інфікавання не дасягнулі крытычнай масы і ўсе старты адбыліся паводле раскладу, усе медальныя камплекты набылі сваіх уладальнікаў. Міжнародны алімпійскі камітэт, перахрысціўшыся, выдыхнуў: «Мы зрабілі гэта — і ўсё было недарма». А прэзідэнт МАК Томас Бах канстатаваў на развітанне, што «ўпершыню пасля пачатку пандэміі свет аб'яднаўся».

…І быў агульны медальны залік — неафіцыйны, але, як звычайна, найпрэстыжнейшы. Той самы кірмаш ганарыстасці, на які мудрыя людзі раяць не звяртаць увагі, аднак ён па-ранейшаму квітнее. Перамога ў гэтай сімвалічнай гонцы спартыўных узбраенняў казыча амбіцыі і нацыянальныя пачуцці, таму пакуль ёсць Алімпіяда — то будзе і валасы намалот каштоўнага металу.

Гэтым разам фурору зноў далі Злучаныя Штаты. Іх 113 медалёў (39 залатых, 41 срэбраная, 33 бронзавых) — цудоўны вынік, хаця ў Рыа ў 2016 было больш (121 узнагарода). Шмат гадоў таму амерыканцы на гэтым алімпійскім фронце змагаліся з СССР — і потым з Расіяй як спадкаемцай камуністычнай дзяржавы. Але тыя часы сышлі: расіяне ў агульным заліку летніх АГ усё часцей балансуюць на 4-5 месцах. Іх такійскі 71 медаль выглядае блякла на тле спраўджанай амерыканскай мары (а залатых узнагарод у РФ наогул толькі 20 — амаль удвая меней, чым у Штатаў).

Цяпер у амерыканцаў іншы ідэалагічны праціўнік — Кітай. І варта адзначыць, што гэтыя Алімпійскія гульні ЗША ў Паднябеснай выйгралі, так бы мовіць, у адну брамку. Кітайцы назбіралі толькі 88 медалёў (з іх 38 — залатыя). Праз тры гады — у Парыжы-2024 — кірмаш працягнецца.

…І былі ў Токіа людзі — канкрэтныя імёны і прозвішчы, за чым выступленнем свет назіраў з захапленнем і шырока расплюшчанымі вачыма. Узгадваць кожнага з герояў — так не хопіць аніякага газетнага месца. Але не назваць «самых-самых» таксама нельга, бо менавіта з імі будзе асацыявацца Токіа-2020 — як, напрыклад, Барселона-1992 асацыюецца з беларускім гімнастам Віталём Шчэрбам (6 залатых узнагарод!).

Самым паспяховым удзельнікам сёлетняй Алімпіяды стаў амерыканскі плывец Калеб Дрэсал. 24-гадовы майстар вольнага стылю і батэрфляю проста пазбавіў сэнсу сваіх канкурэнтаў нырэць з ім у адзін басейн. Бо яшчэ да заплыву было вядома, хто пераможа. У Токіа Калеб з Фларыды ўзяў пяць залатых медалёў. Калі дадаць іх да дзвюх перамог, здабытых у Рыа, то зараз малады амерыканец ужо ажно сямікратовы алімпійскі чэмпіён. Нават славуты аўстраліец Іан Торп цяпер глядзіць на Дрэсала знізу ўверх — і гэта ўсё пры тым, што ў хлопца нападзе яшчэ прынамсі дзве Алімпіяды. То-бок нямала шанцаў павялічыць сваю ўласную медальную скарбонку. Праўда, дацягнуцца да славы свайго знакамітага суайчынніка Майкла Фелпса (23 алімпійскія перамогі!) Калебу будзе цяжка.

Сярод жанчын у Токіа, зразумела, таксама знайшоўся «звышчалавек». Дадатковае месца ў багажным адсеку самалёта на зваротным шляху магла замаўляць аўстралійка Эма Макеан. Яна, як і Калеб Дрэсал, плыўчыха — то-бок прадстаўніца таго ж надзвычай медалеёмістага віду спорту. З Гульняў на радзіму дзяўчына звезла сем медалёў: чатыры залатыя і тры бронзавыя. Магчыма, дамоў яна вярталася адным рэйсам — бо кірунак агульны — з легендарный новазеландскай весляркай Лізай Кэрынгтан. Калі так, то ім было аб чым пагаварыць: Ліза ў Токіа заваявала адразу тры чэмпіёнскія ўзнагароды.

…І была на Гульнях зборная Беларусі. Каманда нашых суайчыннікаў, якая мела на Токіа вялізныя планы, а выступіла ў выніку зусім няўдала. Сем медалёў (адзін залаты, тры срэбраныя і тры бронзавыя) — гэта найменшая іх колькасць за ўсю гісторыю нашага ўдзелу ў летніх Алімпіядах. Інцыдэнт з Крысцінай Ціманоўскай — гэта найгучнейшы скандал, у які патрапіў беларускі спорт у апошнія гады.

Зрэшты, Беларусь на Гульнях у Токіа — гэта ўсё ж асобная гісторыя, і вы знойдзеце яе на старонках сённяшняга «Новага Часу»…

Працяг тэмы на стар. 38–39 (2–3) »

# Гістарычны антырэкорд па колькасці выйграных медалёў

Антон МАКАЎЧУК

**Чым заўгодна былі гэтыя Алімпійскія гульні для Беларусі, але толькі не зорным часам. Як ні карцела спартыўным чыноўнікам і функцыянерам паказаць цудоўныя вынікі ў Токіа пасярод «года народнага адзінства», не атрымалася анічога. Спорт як візітоўка краіны і сведчанне яе няўхільнага развіцця пад мудрым кіраўніцтвам — гэтая ідэалагема чарговы раз не спрацавала, бо супраць лічбаў і фактаў не папрэш.**

Лічбы гаротныя. Усяго сем медалёў, з якіх толькі адзін залаты. Пра тое, што гэта гістарычна найгоршы паказчык удзелу беларусаў у летніх Гульнях, узгадалі, напэўна, ужо ўсе медыя. Сем медалёў — гэта, уласна, правал, калі называць рэчы сваімі імёнамі. І калі ён пра нешта і сведчыць, то толькі пра заняпад бягучай мадэлі нацыянальнага спорту.

## Антырэкорд за антырэкордам

Так, на выпадковасць такую журботную статыстыку аніяк не спішаш. Ужо з той прычыны, што адзінкавым збоем яна не выглядае з любога гледзішча. Наадварот, сённяшнія вынікі ідэальна кладуцца ў агульную карціну алімпійскіх экзерсісаў суверэннай Беларусі. Кладуцца — і выразна падсвечваюць відавочны трэнд.

Некалі — калі беларускі спорт яшчэ штурхала наперад інерцыя савецкіх методык і практык — нашы спартсмены рэгулярна прывозілі з Алімпіяд па паўтара дзясятка медалёў. Апагей здарыўся ў аўстралійскім Сіднеі ў 2000-м, калі айчынныя атлеты сабралі ажно 17 узнагарод (23-е месца ў агульным заліку). Апошняя паспяховая гастроль датаваная 2008 годам — тады ў Пекіне беларусы ўзыходзілі на п'едэстал 14 разоў і імі сапраўды можна было ганарыцца. Той жа Андрэй Арамнаў — 20-гадовы просты хлопец з Барысава — вярнуўся з Кітая ў званні аднаго з наймацнейшых людзей планеты. Менавіта так называюць алімпійскіх чэмпіёнаў-штангістаў, якія спаборнічаюць у цяжкай вазе.

Што стала з далейшай кар'ерай Арамнава, ведаюць не толькі спартыўныя заўзятары. Што стала з далейшай алімпійскай дынамікай беларускага спорту — таксама сакрэтам не з'яўляецца. Ад той пары і надалей нашы ўраджаі на Гульнях пачалі несупынна гаршэць, адлюстроўваючы ўсё больш сумныя рэаліі.

Лондан-2012 — 10 медалёў (2 залатыя), Рыа-дэ-Жанейра-2016 — 9 узнагарод (1 золата) і вось Токіа-2020 — ужо толькі 7 нагод для задавальнення (1 золата). У агульным табелі гэта толькі 45-ты радок. Ніжэй за Косава, Багамы і Уганду. Ніжэй за постсавецкія Грузію і Узбекістан, не гаворачы пра Украіну і тым больш Расію.

У гэтым шэрагу антырэкордаў, як у кроплі вады... Ну, вы зразумелі.

## Батут — наша ўсё?

Пераходзячы да дэталізацыі актуальных дасягненняў народнай спартыўнай гаспадаркі, можна з лёгкасцю намацаць моцныя (іх менш) і слабыя (іх больш) месцы беларускага алімпійскага спектру.

І выглядае, гаворачы ленінскай мовай, што з усіх спартыўных мастацтваў самым квітнеючым для нас з'яўляюцца скачкі на батуце. Параўнальна нядаўна (у алімпійскай праграме з 2000 года) і так званы суб'ектыўны від, які мэтанакіравана культывуюць пакуль не ва ўсіх краінах.

Зрэшты, гэта аніяк не змяншае маштабу, які набылі ў краіне і свеце беларускія батутысты. У Рыа пяць гадоў таму вышэй і зграбней за ўсіх на пругкай сетцы скакаў віцьблянін Уладзіслаў Ганчароў. Менавіта ён і стаў адзіным уладальнікам залатога медаля ў зборнай Беларусі. Зараз у Токіа гісторыя паўтарылася — з той толькі розніцай, што Ганчароў гэтым разам на п'едэстал не ўзышоў, затое яго месца на верхняй прыступцы заняў іншы беларус — 20-гадовы Іван Літвіновіч з Вілейкі.

У спорце кажуць: стабільнасць — прыкмета майстэрства. Тым больш, што айчынныя батутысты ўжо традыцыйна на першых ролях і ў іншых міжнародных турнірах — на тых жа чэмпіянатах свету. Адзначаем гэта невыпадкова, бо методыка выхавання чэмпіёнаў у індывідуальных дысцыплінах — гэта справа не столькі сістэмы, колькі намаганні аднаго асобна ўзятага трэнера.

У беларускім батуце такая светлая галава ёсць. Гэта галоўны трэнер Вольга Уласава, унёсак якой у свае поспехі спартсмены заўсёды падкрэсліваюць з асаблівым імпэтам. Былая гімнастка, яна своечасова занялася развіццём новага віду спорту, і таго ж Ганчарова зрабіла чэмпіёнам уласнымі высілкамі — пасля таго, як хлопца адлічылі з секцыі гімнастыкі з прычыны бесперспектыўнасці. Пад яе апекай займаецца і Літвіновіч — аўтаслесар па адукацыі і чэмпіён Токіа па факце.

На такіх таленавітых і кемлівых трэнерах стаялі і стаяць розныя віды спорту ў Беларусі. Нацыянальную школу фрыстайла стварыў легендарны Мікалай Казека, чые выхаванцы прывозяць медалі з кожных зімовых Гульняў. Мастацкую гімнастыку шмат гадоў падтрымлівае на элітным узроўні Ірына Лепарская, і тут самы час узгадаць, што бронзавы медаль у Токіа даволі нечакана выйграла мінчанка Аліна Гарноська. Веславанне на байдарках і каноэ — пакліканне мэтра Уладзіміра Шантаровіча, чый шматгадовы шлях таксама высланы медалямі Алімпіяд і чэмпіянатаў свету.

Усё гэта, канешне, добра, але ў кожнай палкі, як кажуць, ёсць два канцы. І ў пэўным ракурсе сітуацыя не выглядае бясхмарна.

Бо Мікалаю Казеку ўжо 71 год і праз сваю прынцыповую грамадска-палітычную пазіцыю працы з камандай фрыстайлістаў ён фактычна пазбавіўся — цяпер выклікае пытанне, ці завоюць яны хоць што-небудзь у наступным годзе ў Пекіне.

Ірыне Лепарскай ужо 64, і наконт пераемнасці ў мастацкай гімнастыцы таксама існуюць сумневы — ужо таму, што калі б айчынныя «грацыі» вярнуліся з Японіі з пустымі рукамі, то гэта нікога асабліва не здзівіла б.

Уладзімір Шантаровіч не нашмат маладзейшы за Казеку — яму 69, і куды вяслуюць беларускія байдарачнікі і каноісты, зноў жа, сказаць цяжка. У Токіа, упершыню за безліч гадоў, яны ўсур'ёз рызыкавалі застацца без медалёў — і гэта стала б аглушальным правалам. Сяк-так, ужо напрыканцы Алімпіяды, адну ўзнагароду ўсё ж выхапілі: «срэбра» на рахунку жаночай байдаркі-чацвёркі на дыстанцыі 500 метраў. Аднак цень няўдачы напоўз на некалі паспяховы від, і гэтыя кепскія адчуванні застануцца з вяслярскай зборнай надоўга.

## Халодная вада 2021-га

На веславанні ўвогуле варта засяродзіць увагу — як на прыкладзе адмоўнай дынамікі апошніх алімпійскіх цыклаў. Вядома, высновы рабіць рана — магчыма, мы проста маем справу з балючым працэсам змены пакаленняў. Але ж нешта вельмі панура цягнецца гэты працэс — у той час, як канкурэнты, тыя ж венгры, грабуць і грабуць да залатых вяршынь.

Сістэмна беларускія байдаркі і каноэ запрацавалі ў 2004-м годзе, калі Гульні прайшлі ў Афінах. Першую беларускую бронзу ў гэтым энергазатратным відзе спорту заваявалі Раман Петрушэнка і Вадзім Махнеў. Калі нехта паспеў скептычна падумаць, што адзін раз і палка страляе, то далейшымі намаганнямі айчынныя весляры выбарліва даказалі адваротнае.

Прыйшоў Пекін 2008-га — і беларускія байдарачнікі заграблі медалёў вялікім браднікам. Петрушэнка з Махневым узялі яшчэ адну бронзу, але яе тады не надта і заўважылі. Бо пляскалі ў ладкі з іншых нагод. Браты Аляксандр і Андрэй Багдановічы сталі алімпійскім чэмпіёнамі, а акрамя таго залатыя медалі прымерыў і мужчынскі квартэт — там у кампаніі з няўрымслівымі Петрушэнкам і Махневым вёсламі спраўна папрацавалі яшчэ і Аляксей Абалмасаў з Артурам Літвінчуком.

У 2012-м у Лондане алімпійскай славы зноў пабольшала. На слыху і ў цэнтры ўвагі былі знаёмыя ўсё твары. Тыя ж браты Багдановічы цяпер фінішавалі на другім месцы. Як і тыя ж Петрушэнка з Махневым. Гэтыя прозвішчы ўжо сталі сімвалам развіцця веславання, і пільныя журналісты ўжо разгледзелі за поспехамі постаць і почырк галоўнага трэнера Уладзіміра Шантаровіча. А тут жа яшчэ і жанчыны падцягнуліся на медальны агеньчык — трэцяй стала чацвёрка.

І вось так сталася, што ад той пары на гэтай дзявочай дысцыпліне беларускія байдаркі і каноэ і едуць. Бо скончылі кар'еры па выслузе гадоў былыя лідары, а новых, як выяўляецца, не падрасло. На Алімпіядзе-2016 жаночы квартэт стаў трэцім, цяпер у Японіі — другім. І толькі зусім ужо хрэстаматыйныя аптымісты ўбачылі ў тэм нейкія прыкметы прагрэсу.

З прагрэсам насамрэч усё дрэнна. Беларускія атлеты стартавалі ў дзевяці дысцыплінах, і сярод разыграных 27 узнагарод ім дасталася толькі адна. Па праўдзе — і на тле ранейшых трыумфаў — канешне, слёзы. І, дарэчы, толькі 17 месца ў агульным карпаратыўным заліку. Атрымліваецца, што лепш за беларусаў сёння грабуць не толькі вызнаныя карыфеі халоднай вады: венгры, новазеландцы, немцы. Ужо глядзім мы ў плечы і чэхам, і кітайцам, і амерыканцам... Ужо і Куба, і Славакія, і Славенія дасягаюць большага, хаця любы прапагандыст можа з чыстым сумленнем сказаць: маўляў, у нас жа добрая інфраструктура — і адмыслова пабудаваныя грабныя каналы



Фота getty images

**БЕЛАРУСЫ НА АЛІМПІЯДЗЕ-2020**

| Імя | Від спорту | Месца |
|---|---|---|
| Іван Літвіновіч | Батут | 1-е |
| Ірына Курачкіна | Барацьба | 2-е |
| Магамедхабіб Кадзімагамедаў | Барацьба | 2-е |
| Маргарыта Махнева, Надзея Папок, Вольга Худзенка, Марына Літвінчук | Веславанне (байдарка-чацвёрка) | 2-е |
| Максім Недасекаў | Лёгкая атлетыка | 3-е |
| Ванэса Каладзінская | Барацьба | 3-е |
| Аліна Гарноська | Мастацкая гімнастыка | 3-е |

**ТОКІА-2020. АГУЛЬНЫ МЕДАЛЬНЫ ЗАЛІК**

| | Каманда | Золата | Срэбра | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗША | 39 | 41 | 33 | 113 |
| 2. | Кітай | 38 | 32 | 18 | 88 |
| 3. | Японія | 27 | 14 | 17 | 58 |
| 4. | Вялікабрытанія | 22 | 21 | 22 | 65 |
| 5. | АКР (Расія) | 20 | 28 | 23 | 71 |
| 6. | Аўстралія | 17 | 7 | 22 | 46 |
| 7. | Нідэрланды | 10 | 12 | 14 | 36 |
| 8. | Францыя | 10 | 12 | 11 | 33 |
| 9. | Германія | 10 | 11 | 16 | 37 |
| 10. | Італія | 10 | 10 | 20 | 40 |
| 45. | Беларусь | 1 | 3 | 3 | 7 |




Фота reuters

адпавядаюць усім міжнародным стандартам.

Так, інфраструктура ёсць. Чэмпіёнаў толькі чамусьці прыкметна паменела.

## Выратавала барацьба

Медальныя дасягненні беларусаў у Токіа былі б зусім сціплымі, калі б не ўсплёск у адным з відаў спорту — барацьбе. Што ёсць, тое ёсць: на барцоўскім дыване нашы атлеты выглядалі зграбна. Тры з сямі ўзнагарод належаць менавіта майстрам захопаў і кідкоў.

Ірына Курачкіна спынілася ля самай вяршыні. Годна праадолеўшы ўсе этапы, яна дайшла да фіналу, дзе саступіла славутай японцы Рысака Каваі і задаволілася срэбным медалём. Ванэса Каладзінская таксама можа спакойна глядзець у люстэрка — і бачыць ззянне бронзы, здабытай у сталіцы Японіі. Трэці поспех зафіксаваны ў мужчын, і стаўленне да яго, што праўда, можа быць розным.

Срэбны медаль заваяваў хлопец, чыё імя-прозвішча рэжа беларускае вуха: Магамедхабіб Кадзімагамедаў — паспрабуй яшчэ запомніць. Так, гэта прывазны атлет — родам з Дагестана. Беларускае спартыўнае грамадзянства ён прыняў толькі ў 2020 годзе, і выхаванцам айчыннай школы барацьбы яго пры ўсім жаданні не назавеш. Дый ладна: натуралізаваць замежнікаў даўно ўвайшло ў звычку ў беларускім спорце. А той жа Каўказ — вядомы клондайк барацьбы. Вунь пяць гадоў таму ў Рыа пад беларускім сцягам бронзу ўзялі Ібрагім Саідаў і Джавід Гамзатаў — абодва з часам неяк зніклі з вялікіх спартыўных гарызонтаў.

Акрамя барацьбы ў разрэзе асобных відаў хваліцца, як быццам, і няма чым. Лёгкая атлетыка ва ўсе часы была апорай і надзеяй беларускага алімпізму, аднак і тут сонца сёлета не заззяла. Скакун у вышыню Максім Недасекаў ехаў на Гульні ў статусе ці не галоўнага фаварыта, а выйграў толькі бронзу. А больш прадстаўнікі «каралевы спорту» нічым важкім не адзначыліся. Дзе тыя часы, калі беларускія імёны гучалі пад фанфары ў кідковых дысцыплінах — моладзе, кап'і і ядры? Дзе тое паданне, як Юлія Несцярэнка белай маланкай бліснула на залатой стометроўцы ў Афінах? Што было — тага больш няма.

Што казаць, калі нават у пяціборʼі — там, дзе безагаворачнымі прэтэндэнткамі на пʼедэстал былі Анастасія Пракапенка і Вольга Сілкіна — у выніку не атрымалася анічога. 8 і 18 месцы адпаведна. Тое самае ў тэнісе, на які быў асаблівы разлік у кантэксце ўдзелу Арыны Сабаленка. Тое самае — у плаванні, цяжкай атлетыцы, стральбе...

Зрэшты, на выніковыя паказчыкі яшчэ паглядзець... Бо гэта афіцыйныя медыя фантаніравалі «ўра-патрыятызмам» напярэдадні цырымоніі адкрыцця Алімпіяды. Гучалі нават прароцтвы, што магутныя беларускія хлопцы і дзяўчаты могуць набраць ці не 25 медалёў. Уважлівы чытач «НЧ» тым часам мусіць памятаць, што, паводле нашага прагнозу, суайчыннікі возьмуць на Гульнях толькі восем узнагарод. То амаль так яно і атрымалася, тым больш сёмая — у мастацкай гімнастыцы — сталася сапраўднай сенсацыяй.

## Малайчына Мазуронак

Вы, пэўна, ужо заўважылі, што ў нашым аповедзе дагэтуль няма згадкі пра палітычныя погляды беларускіх удзельнікаў Алімпіяды. Хаця шмат хто з заўзятараў дазаваў свае сімпатыі ля тэлевізара з улікам менавіта гэтых абставін. Зразумела — у сённяшняй Беларусі сапраўды важна, хто які адкрыты ліст падпісваў пасля падзей леташняга жніўня.

Аднак на праўладных спартсменах акцэнтаваць увагу не будзем — і так жа лёгкія на ўспамін і Недасекаў, і Марзалюк, і Драздоўская, і Ціхан, і ўсе тыя, хто, заплюшчыўшы вочы, уласны дабрабыт гатовы паставіць вышэй за дэмакратычную будучыню Беларусі. Але пра свабодных беларускіх атлетаў нам забывацца не варта.

На жаль, ніхто з іх на алімпійскі подыум не ўзышоў — зрэшты, шанцы на тое ад пачатку былі невялікія. Што ў плыўца Яўгена Цуркіна, што ў лёгкаатлеткі Эльвіры Герман, што ў баксёра Дзмітрыя Асанава, што ў лучніцы Карыны Казлоўскай... Дар'я Барысевіч праз траўму ўвогуле не выйшла на бегавую дарожку. Як і Марыя Жодзік, якая спецыялізуецца на скачках у вышыню, — яе з ліку ўдзельнікаў выкрасліла недастатковая колькасць здадзеных перад Гульнямі допінг-тэстаў.

Гэтая недапушчальная няўважлівасць спартыўных функцыянераў наогул дорага каштавала беларускай дэлегацыі. Бо менавіта праз такі адміністрацыйны непрафесіяналізм развалілася першапачатковая жаночая эстафета 4 па 400 метраў. Спробы аднавіць яе з дапамогай «унутраных рэзерваў» спарадзілі сусветны скандал імя Крысціны Ціманоўскай. Зрэшты, гэты кейс мы вылучылі ў «асобную вытворчасць» (гл. 47 стар.), а тут і цяпер самы час распавесці пра іншае.

Сярод атлетаў, якія падтрымалі перамены, аніяк нельга прамінуць Вольгу Мазуронак. Наша славутая лёгкаатлетка даказала ў Японіі, што па-ранейшаму застаецца ў эліце сусветнага марафонскага бегу — неверагодна прэстыжнай дысцыпліны з касмічнай канкурэнцыяй.

Вольга на Алімпіядзе заняла пятае месца, чым дэ-факта пацвердзіла, што на сёння з'яўляецца наймацнейшай марафонкай у Еўропе. Дамінуюць жа ў гэтым цяжкім бегу на 42 кіламетры, зразумела, цемнаскурыя спартсмены — што ў мужчын, што ў жанчын. Вольгу Мазуронак на Гульнях апярэдзілі дзве прадстаўніцы Кеніі (топавай марафонскай дзяржавы), а таксама амерыканка і эфіопка.

Адметна, што на шпаркі фініш нястомнай суайчынніцы адгукнуўся ў сацсетках былы старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі Вадзім Дзевятоўскі. Прайшоўшы праз Акрэсціна і пазней пакінуўшы пасаду, ён бачыў спаборніцтвы як просты глядач. І высока ацаніў вынік былой падапечнай: «Для большасці марафонцаў пятае месца на Алімпіядзе — гэта мяжа мар. Але дакладна не для Вольгі, якая ставіла задачу заваяваць медаль. Ёсць адчуванне, што ў Парыжы, на Алімпіядзе-2024, Воля прыбяжыць да сваёй запаветнай мары, чаго ад душы ёй жадаю, як і ўсім нашым алімпійцам, якія аддалі ўсё сваё жыццё любімай справе і якія маюць патэнцыял і шанец рэалізаваць сябе ў поўнай меры».

Гэта справядлівая адзнака — і нават вядомы пафас тут да месца.

## Не лятуць тыя коні

Ну а завершым свой нарыс па матывах мінулай Алімпіяды невялічкай замалёўкай на тэму актуальнай спартыўнай заалогіі. Не, гэта не метафара і не гратэск — навіны са свету жывёл таксама даляталі да Беларусі са сталіцы Гульняў-2020. Тут калі нейкі жанр і вызначаць, то хутчэй гэта канфуз. Ці сімвал — як каму зручней.

Адразу двое беларускіх жакеяў так і не выступілі на Алімпіядзе — прычым з адной і той жа прычыны. Самі мужчыны — Аляксандр Фамінаў і Аляксандр Зяленка — былі гатовыя і, як кажуць у спорце, рваліся ў бой. Не рваліся іх коні — з мянушкамі Марціні і Карла-Грандэ. Коні захварэлі і не прайшлі тэставанне ў ветэрынараў, таму да спаборніцтваў іх не дапусцілі.

Усё змяшалася, такім чынам, у беларускіх алімпійцаў — коні, людзі... Усё разам і прывяло да такіх невясёлых вынікаў. Да самай няўдалай Алімпіяды ў суверэннай гісторыі і галоўнае — да пачуцця, што нешта не тое дзеецца ў нацыянальным спорце і ён працягвае паглыбляцца ў крызіс.



Фота www.zerkalo.io

Ванэса Каладзінская: адна з нешматлікіх беларускіх медалістаў на Гульнях у Токіа

# Што будзе з беларускім тэнісам пасля Алімпіяды?

Кірыл ІВАНЧУК

**Правал у Токіа можа сапсаваць рэшту сезона — прынамсі, трэцяй ракетцы свету Арыне Сабаленка.**



Фота GETTY IMAGES

### Перад Алімпіядай

Напярэдадні старту Гульняў у Токіа пра беларускія перспектывы ў тэнісным турніры гаварылі ў асноўным духапад'ёмна. Прасkоквала нават слова «медаль». Раскатаць губу было ад чаго.

Па-першае, галоўная надзея Беларусі Арына Сабаленка ў ліпені выдала лепшы вынік у кар'еры на турнірах «Вялікага шлема», дабраўшыся да паўфіналу «Уімблдона», і ўскараскалася на рэкордны для сябе трэці радок сусветнага рэйтынгу. Больш магутна сезон праводзілі толькі Эшлі Барці і Наомі Осака. Прычым японка, сутыкнуўшыся з псіхалагічнымі праблемамі, прапусціла перад Алімпіядай некалькі турніраў і відавочна падыходзіла да хатніх Гульняў не ў лепшай форме. Так што Сабаленка па ўсіх фармальных прыкметах ляцела ў Токіа адной з галоўных фаварытаў.

Па-другое, пэўныя надзеі звязвалі з Вікторыяй Азаранка. Яна ўжо не такая добрая, як сем-восем гадоў таму, затое не па чутках ведае, як заваёўваць медалі на Алімпіядах (прывітанне, Лондан-2012!). А калі перастаюць перашкаджаць траўмы і думкі пра судовыя разборкі з экс-бойфрэндам па апецы над дзіцём, беларуска ўсё яшчэ здольная на вялікія подзвігі. Летась яна паказала фенаменальны тэніс на «US Open», дзе толькі ў вырашальным матчы саступіла Осака. Да гэтага ў фіналах турніраў «Вялікага шлема» Азаранка не гуляла сем гадоў.

Па-трэцяе, нядурнымі бачыліся перспектывы дуэта Сабаленка — Азаранка ў парным разрадзе. Яны не выступалі разам два гады — з паўфіналу Кубка федэрацыі супраць аўстраліек. Тым не менш, аб'ядналўшыся ў чэрвені, беларускі з ходу ўзялі тытул у Берліне, намякнуўшы, што паразуменне нікуды не дзелася і ў Токіа яны будуць прадстаўляць грозную сілу…

Пазітыў праклёўваўся нават у мужчынскай частцы спаборніцтваў. Медалёў ад Іллі Івашкі і Ягора Герасімава, вядома, ніхто не чакаў. Тым не менш, той жа Івашка выдаў прарыўное лета, патрапаўшы ў Гале нервы саманму Федэрэру, а затым сенсацыйна дабраўшыся да чацвёртага круга «Уімблдона» і саступіўшы там толькі будучаму фіналісту Марыё Бэрэціні. Так далёка на «Вялікіх шлемах» беларусы рэдка працiскаліся, нават калі на корт яшчэ выходзілі Мірны і Ваўчкоў. Толькі ўявіце: папярэдні раз беларус урываўся ў топ-16 15 гадоў таму! Стрэліў Мірны — таксама на «Уімблдоне».

Першы ўдар па алімпійскім пазітыве прыйшоўся на сярэдзіну ліпеня адкуль не чакалі — з інстаграма Азаранка.

«Я прыняла вельмі цяжкае рашэнне — не ўдзельнічаць у Алімпійскіх гульнях у Токіа. У мяне шмат выдатных успамінаў, калі я выйгравала золата алімпійскага турніру і прадстаўляла Беларусь на папярэдніх Гульнях. Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, з якімі мы сутыкаемся ў сувязі з пандэміяй, у глыбіні душы я ведаю, што гэта правільнае рашэнне для мяне і маёй каманды. Я з нецярпеннем чакаю Алімпіяду 2024 года ў Парыжы, каб прадстаўляць Беларусь. Жадаю ўсім спартсменам бяспечных, здаровых і паспяховых гульняў!» — напісала тэнісістка.

Ва ўласцівым стылі Азаранка нікому нічога не стала тлумачыць ні словам больш, спарадзіўшы як мінімум адну канспіралагічную тэорыю: не паляцела ў Токіа, бо не захацела выступаць на фоне таго, што адбываецца цяпер у Беларусі. Чым кіравалася Азаранка на самой справе — хто ведае. Дакладна стала зразумела адно: за медаль у Токіа пазмагаецца толькі Сабаленка ў адзіночным разрадзе.

Справа ў тым, што адмова Азаранка рушыла ўжо пасля ўсіх алімпійскіх дэдлайнаў, і заявіць у пару да Сабаленка Аляксандру Сасновіч не было ўжо ніякай магчымасці. Заставалася толькі адна шчыліна: знайсці напарніцу сярод тых, хто прабіўся на Алімпіяду па рэйтынгу, — але Сасновіч крыху не хапіла, а іншага варыянту і не было.

Тым не менш, у «адзіночцы» беларускія шанцы ўсё яшчэ выглядалі нядрэнна.

### У Токіа

Шлях па медаль Сабаленка пачала па-фаварыцку: разграміла Магду Лінет, аддаўшы польскай тэнісістцы толькі тры геймы. Хто б мог падумаць, што ўжо на наступны дзень трэцяя ракетка свету саступіць сорак сёмай і завершыць выступленне на турніры. Дона Векіч не бог ведае які супернік, і ўжо сапраўды яна не правяла супраць беларускі матч жыцця. Больш за тое, ужо ў наступным раўндзе харватка ціха прайграла ў двух сэтах Рыбакінай, толькі зацвердзіўшы ўвесь тэнісны свет у думцы: не такая добрая была Векіч, як выхалашчаная Сабаленка.

Лягчэй за ўсё непрыемны вынік спісаць на спякоту ў Токіа. На надвор'е скардзіліся многія тэнісісты, а заадно тлумачылі ім свае няўдачы, тыкаючы ў слупок тэрмометра. Найлепшая тэнісістка свету Эшлі Барці наогул вылецела ў першым жа раўндзе… Зрэшты, што з нагоды правалу думае сама Сабаленка, ніхто так і не даведаўся. Пасля паразы ад Векіч беларуска была змрачней за хмару і адмовілася кантактаваць з прэсай. А там яе і след прастыў.

Падобна да таго, Сабаленка вельмі натхніў ўзлёт па ходзе гэтага сезона, і ў Токіа беларуска ляцела з выразнай думкай пра медаль — разважаючы толькі, якой годнасці тая будзе. Вынік хвоснуў быццам абухом па галаве.

Яе поспехі ў 2021-м сапраўды ўражваюць: узяла прэстыжныя турніры ў Абу-Дабі і Мадрыдзе, ускочыла ў топ-3… Аднак каб выйграць шмат, яна і згуляла шмат. Вельмі шмат нават для маладога 23-гадовага арганізма. Далёка не заўсёды Сабаленка была стабільная альбо забіралася высока па сетцы. Да «Уімблдона» беларуска з'яўлялася ледзь не адзінай у топ-30, хто ні разу ў кар'еры не дабіраўся да чвэрцьфіналу турніру «Вялікага шлема». Дый гэтае «ледзь» — толькі таму, што кампанію ёй у гэтым клубе складала Сакары. Ну, дык грачанка на той момант замыкала дваццатку рэйтынгу. З гульца з топ-3 і попыт іншы.

Цяперашні высокі рэйтынг Сабаленка — найперш следства таленту, але збольшага і гатоўнасці гуляць шмат і без перадышак. Трымаць жа ашаламляльную форму цэлы сезон проста немагчыма. Тое, што з гульні беларускі знікае іскра, можна было заўважыць нават на паспяховым «Уімблдоне», асабліва ў паўфінале з Плішкавай. Матч не складваўся, яна шукала ўнутры сябе рэзерв, але не знаходзіла.

Алімпіяда ў Токіа толькі зафіксавала, што спад працягваецца. Пры гэтым усімі паводзінамі Сабаленка дэманстравала, што разлічвае ў Токіа на добры вынік. Наколькі цяжкім ударам для яе акажацца неадпаведнасць чаканняў і рэальнасці, зараз сказаць складана.

#### НАШЫ Ў ТОКІА-2020

***Арына Сабаленка («адзіночка»)***
*1/64 фіналу. Магда Лінет (Польшча) — 6:2, 6:1*
*1/32 фіналу. Дона Векіч (Харватыя) — 4:6, 6:3, 6:7*

***Ілля Івашка («адзіночка»)***
*1/64 фіналу. Гаэль Монфіс (Францыя) — 6:4, 4:6, 7:5*
*1/32 фіналу. Міхаіл Кукушкін (Казахстан) — 6:7, 6:3, 6:3*
*1/16 фіналу. Кеі Нісікоры (Японія) — 6:7, 6:3, 1:6*

***Ягор Герасімаў («адзіночка»)***
*1/64 фіналу. Жыль Сымон (Францыя) — 4:6, 6:3, 6:4*
*1/32 фіналу. Фабіа Фаньіні (Італія) — 4:6, 6:7*

***Ілля Івашка / Ягор Герасімаў («пара»)***
*1/64 фіналу. Маркус Дэніэл / Майкл Вінус (Новая Зеландыя) — 3:6, 6:7*

### Пасля Алімпіяды

Ва ўсялякім выпадку, неспадзяваная перадышка павінна пайсці Сабаленка на карысць. Падобна, яна і сама гэта ўсвядоміла. Бо каляндар спакушаў: можна было, не пераводзячы дух, ірвануць на буйны турнір у Сан-Хасэ і працягнуць чэмпіёнскую гонку. Так зрабілі і Лінет, і Векіч, і Рыбакіна, ад матчу з якой у Токіа беларуска спынілася ў адным кроку. А Сабаленка ўзяла паўзу, каб прывесці думкі і фізічны стан у парадак.

На ўсё пра ўсё — два тыдні. У жніўні адзін за адным стартуюць прэм'ер у Манрэалі, мастэрс у Цынцынаці, «US Open», перанесены Індыян-Уэлс… Гэтыя турніры без важкай прычыны не прагуляеш, і там зноў трэба паказваць свой максімум. Прычым у Сабаленка нядрэнная стартавая пляцоўка, каб адштурхнуцца і заскочыць у сусветным рэйтынгу яшчэ вышэй. Папярэднія падыходы на гэтых турнірах у беларускі не задаліся: вылеты ў першым, другім, трэцім колах… Затое зараз за плячыма няма багажу, які давялося б адстойваць. Амаль усе ачкі, якія Сабаленка заробіць, пойдуць як прыбаўка да бягучага рэйтынгу. Пры пэўным збегу акалічнасцей можна нават прымерыць званне першай ракеткі свету!

А вось перад Азаранка, якая фенаменальна правяла канцоўку мінулага года, стаіць нетрывіяльная задача: абараніць тытул у Цынцынаці і фінал «US Open». Без гэтых ачкоў можна і з топ-30 выпасці да кастрычніка. Пры гэтым зусім незразумела, у якім зараз стане знаходзіцца экс-першая ракетка свету. Апошні раз яна выходзіла на корт на «Уімблдоне», дзе прайграла ў другім раўндзе, а ў Токіа не паляцела, нічога не патлумачыўшы…

Так што пра эмацыйны і фізічны стан што Азаранка, што Сабаленка застаецца толькі здагадвацца. Як і пра тое, наколькі адчувальна на беларускіх прым уплываюць апошнія навіны з Мінска. Пасля правальнай Алімпіяды, не чакаючы яе заканчэння, у адстаўку падаў старшыня Беларускай федэрацыі тэніса Сяргей Цяцерын, які займаў пасаду з 2017 года.

Новага кіраўніка выберуць на справаздачнай канферэнцыі ў верасні, і беларускі тэніс, верагодна, атрымае новы вектар. Не выключана, такі, што быў пры папярэднім кіраўніку — Аляксандру Шакуціну. Менавіта пры ім з'явілася і вырасла ў зорку Сабаленка, а зборная Беларусі дайшла да фіналу Кубка федэрацыі.

Аляксей АСАНОВІЧ

# «Уцякай!»
## Савецкія спартсмены, якія вырашылі збегчы на Захад

**Крысціна Ціманоўская — далёка не першы спартыўны ўцякач у гісторыі. Беглі ў пошуках лепшай долі і хаваліся ад рэпрэсій ад самага заснавання СССР. «Новы час» сабраў найбольш гучныя выпадкі змены полюсаў спартсменаў з Савецкага Саюза.**

### Аляксандр АЛЁХІН, шахматы

Будучы чэмпіён свету па шахматах стаў першым важным уцякачом з СССР. Варыянтаў у спартсмена дваранскага паходжання было няшмат. Рэвалюцыя пазбавіла яго тытулаў і грошай. А ў 1920-м на яго завялі справу за «сувязь з дзянікінскай контрвыведкай».

Пасля гэтага ён выехаў у Латвію, адкуль праз Літву адправіўся ў Берлін. Ёсць версія, што для гэтага Алёхін ажаніўся са швейцарскай журналісткай Аннай-Лізай Руг, якую адразу кінуў.

Праз сем гадоў ён пераможа Хасэ Рауля Капабланку ў матчы за шахматную карону. Затым часова саступіць яе галандцу Максу Эйве, але потым верне і ўжо нікому не аддасць да самай сваёй смерці ў 1948-м.

Перад вайной яму прыходзілі запрашэнні наведаць Маскву, але ў той час ён страціў званне чэмпіёна свету, а проста прэтэндэнтам вяртацца ў СССР Алёхін не хацеў.

### Віктар КАРЧНЫ, шахматы

Карчны мог збегчы і раней, чым у 1974-м. Ён пасля распавядаў, што яшчэ ў 1966-м яму прапанавалі застацца ў ФРГ, але ён адмовіўся, пра што потым шкадаваў: «Я згубіў 11 гадоў чалавечага жыцця...»

Прайграўшы Карпаву матч прэтэндэнтаў, ён даў югаславам інтэрв'ю, у якім паскардзіўся, што прайграў у тым ліку праз ціск «зверху». На нейкі час Віктар стаў невыязным. А калі (пры дапамозе таго ж Карпава) ўсё-ткі ад'ехаў за кардон, то там і застаўся.




Справа была ў Амстэрдаме на турніры IBM. Той самы Эйве паабяцаў Карчному, што ён зможа выступаць — і той папрасіў палітычнага прытулку. Галандцы ў выніку далі яму толькі від на жыхарства, а грамадзянства Карчны ў рэшце рэшт атрымаў у Швейцарыі. Савецкае ў яго адабралі ў 1978-м.

Яго жонцы і сыну не давалі выехаць ў Ізраіль («падаваліся» яны чатыры разы) на працягу шасці гадоў. Сын адмаўляўся служыць у войску (праз гэта ён мог стаць невыязным яшчэ і як носьбіт ваенкай тайны) і трапіў у турму на 2,5 гады як «ухіліст»...

У 1978-м і 1981-м Карчны супрацьстаяў Анатолю Карпаву ў матчах за званне чэмпіёна свету. Карпаў не падаў яму рукі пасля перамогі ў Багіа. Савецкая прэса называла яго толькі «прэтэндэнтам», без прозвішча.

### Людміла БЕЛАВУСАВА і Алег ПРАТАПОПАЎ, фігурнае катанне

Белавусавай на момант уцёкаў было 44 гады, Пратапопаву — 47, і актыўныя выступы яны ўжо скончылі. Прычым скончылі ў статусе легенд савецкага спорту: яны ўзялі «золата» дзвюх запар



Алімпіяд (Інсбрук-1964 і Грэнобль-1968). Маглі выйграць і трэцюю, але, паводле слоў Алега, іх не пусцілі ў Сапара, бо баяліся, што яны там застануцца.

Пратапопаў і Белавусава скончылі аматарскую кар'еру і пайшлі ў прафесіяналы — у Ленінградскі балет на лёдзе. Падчас гастроляў у Швейцарыі пара шакавала ўсіх, застаўшыся на Захадзе. «У балеце на лёдзе я адчувала ціск. Таму мы вырашылі: будзе магчымасць — нам у ім няма чаго рабіць».

У СССР крычалі «Ганьба!», пазбавілі ўсіх званняў, выкраслілі з даведнікаў і адкрыта называлі здраднікамі. Пара атрымала швейцарскае грамадзянства ў 1995-м і нават выступіла на адкрыцці чэмпіяната Еўропы ў Сафіі. Упершыню яны зноў вярнуліся ў Расію ў 2003-м, былі рэабілітаваныя і нават прысутнічалі на адкрыцці Алімпіяды-2014.

### Уладас ЧЭСЮНАС, веславанне на каноэ

Алімпійскі чэмпіён Мюнхена-1972, чатырохразовы пераможца першынстваў свету і шматразовы трыумфатар чэмпіянату СССР, падчас чарговага ЧС Уладас Чэсюнас паспрабаваў застацца ў нямецкім Дуйсбургу. Што здарылася потым, нават зараз невядома.

Заходнія СМІ пісалі, што падчас урока нямецкай мовы ў Дортмундзе яго выкралі агенты КДБ. Пісалі нават, што нейкая Урсула Форкерт запрасіла яго да сябе і ўсыпіла. Потым яго завезлі ў савецкую амбасаду ў Боне і пераправілі назад у Савецкі Саюз.

У інтэрв'ю «The Los Angeles Times» у 2002-м ён сказаў, што вярнуўся добраахвотна, бо яму пагражалі 15 гадамі працы ў шахце за ўцёкі, але яго выратавала Алімпіяда. Працаваў ён потым дзіцячым трэнерам і на літоўскай мытні.

### Сяргей НЯМЦАНАЎ, скачкі ў ваду

Яшчэ адны ўцёкі «from USSR» не ўдаліся праз бюракратыю. 17-гадовы Сяргей Нямцанаў на Алімпіядзе-1976 выступіў кепска, але нарабіў шуму, папрасіўшы палітычнага прытулку ў Канадзе. Былі слухі, што на яго паўплывала 21-гадовая Кэрал Лінднэр са зборнай ЗША — дачка вядомага бізнэсмена Рычарда Лінднэра. Той, праўда, рамантычную сувязь выключаў.

Савецкі бок спачатку сказаў, што спартсмена скралі імперыялісты, а потым тлумачыў рашэнне Сяргея «агрэсіўнымі дзеяннямі канадскай міграцыйнай службы». Пачалася кампанія «Sergei Come Home!».

Галоўнай праблемай Неманцова стаў... узрост. На той момант яму было толькі 17 — а Канада афіцыйна прымала бежанцаў з 18 гадоў. Савецкі бок апратэставаў рашэнне. Уцекачу далі паслухаць магнітафонны запіс голаса бабулі, якая прасіла яго вярнуцца. Павагаўшыся, Сяргей выканаў просьбу.

Асаблівых рэпрэсій да яго не прымянілі: ён скончыў інстытут, выйграў першынства Саюза па скачках з 10-мятровай вышкі і ўдзельнічаў у маскоўскай Алімпіядзе. Там ён палепшыў манрэальскі вынік: 7-е месца замест 9-га.

На замежныя спаборніцтвы яго больш, зразумела, не пускалі. Хутка спартыўная кар'ера была скончаная. Пазней у Сяргея пачаліся праблемы з алкаголем. У выніку яго мары здзейсніў сын: і ў ЗША з›ехаў, і скакуном у ваду таксама стаў.

### Алена АХМЫЛОЎСКАЯ, шахматы

З СССР уцякалі не толькі мужчыны. Хапала і жанчын. Шахматыстка Ахмылоўская ў 1988-м з шахматнай алімпіяды ў грэчаскіх Салоніках адправілася напрост у ЗША з капітанам зборнай «зорна-паласатых» Джонам Доналдсанам.

Гуляла яна моцна: жывучы ў Краснаярску, была першым грасмайстарам на азіяцкім кантынеце. Потым з Доналдсанам яны разышліся, але Алена засталася ў Штатах. Там яна зноў выйшла замуж — за яшчэ аднаго экс-савецкага шахматыста Георгія Арлова, які трэніраваў яе яшчэ ў СССР.

Апошні раз Алена наведала Краснаярск у 2003-м, дзе была ганаровай госцяй чэмпіяната Расіі сярод жанчын.

### Марына АБРОСЬКІНА ДЭ ГАРСІЯ, баскетбол

Яшчэ адна захапляючая гісторыя кахання. У 1990-м валгаградскае «Дынама» паехала ў турнэ па Мексіцы. Перад вяртаннем у СССР, напярэдадні вылету, другі трэнер каманды вырашыў зрабіць абход нумароў... І раптам высвятліў, што Марыны ў пакоі няма.

Пошукі, не далі вынікаў. «Дынама» вярнулася дамоў. А Марына выйшла замуж за трэнера зборнай Мексікі дэ Гарсію. Свае ўцёкі яна потым растлумачыла каханнем.

На той момант Аброськіна ўжо была чэмпіёнкай Еўропы ў складзе зборнай СССР. Потым паспела выступіць і за Мексіку, але хутка разлаялася і пакінула каманду. 9 гадоў гуляла за мексіканскія клубы, некаторы час выступала ў Расіі за «Спартак» і валгаградскую «Надзею», а потым — і ў Швейцарыі. Праўда, без асаблівых поспехаў.

### Аляксандр МАГІЛЬНЫ, хакей

Уцёкі аднаго з самых таленавітых хакеістаў свайго пакалення сталі шокам для СССР. Але сам Магільны ўсё тлумачыў проста: «Я быў алімпійскім чэмпіёнам, чэмпіёнам свету, трохразовым чэмпіёнам СССР. І не меў нават метра жылля. Каму патрэбна такое жыццё? І гэтыя медалі-граматы?»

Падчас чэмпіянату свету-1989 у Швецыі ён проста ўцёк з гатэлю, дзе жыла зборная Саюза. Кажуць, што скаўты «Бафала» перадалі яму канверт з інструкцыямі.

Пасля ўцёкаў амаль увесь склад зборнай быў дапрошаны ваенай пракуратурай і КДБ: Магільны быў фармальна ваенным і здрадзіў не толькі радзіме, але і прысязе. Пра свой учынак Аляксандр не пашкадаваў. У 2000-м ён выйграў у складзе «Нью-Джэрсі Дэвілз» Кубак Стэнлі, але за зборную Расіі амаль не гуляў (калі выключыць Кубак свету-1996). Наведаць радзіму ён атрымаў дазвол толькі ў 1994-м.

### Сяргей ФЁДАРАЎ, хакей

Аднаму з найвыдатнейшых талентаў у гісторыі савецкага і райскага хакея на драфце-1989 далі толькі 74-ы нумар — баяліся, што ён не зможа выбрацца з-за жалезнага занавесу. Але ён змог.

Падчас Гульняў добрай волі ў Сіэтле Сяргей паведаміў прадстаўнікам «Дэтройт Рэд Уінгз», што гатовы бегчы. Віцэ-прэзідэнт «Чырвоных крылаў» Джым Лайтс чакаў яго ў вестыбюлі гатэлю, а ў Дэтройт хакеіст адправіўся на асабістым самалёце ўладальніка клуба Марка Іліча.

На радзіме Фёдараў быў адразу пазбаўлены толькі што атрыманага звання заслужанага майстра спорта. У НХЛ Фёдараў (які, дарэчы, ў маладосці трэніраваўся ў Мінску і нават правёў за мясцовае «Дынама» сезон-1985/86) стаў не проста зоркай, а суперзоркай. Тры Кубкі Стэнлі — проста неверагодны вынік, а ў Фёдарава ёсць і процьма індывідуальных узнагарод. 1248 гульняў, 483 галы і 696 ассістаў у НХЛ гавораць самі за сябе. За зборную Расіі ён браў срэбра і золата Алімпіяд і выйграў у 2008-м чэмпіянат свету. Званне заслужанага майстра спорту яму потым вярнулі.



# Жыццё не цукар

Іван КАРПЕНКА

**Якія з беларускіх клубаў могуць зазнаць заняпад і нават знікнуць?**

Мінскія «Тарпеда», «Атака-Аўра», «Партызан» і «Дынама-93», магілёўскія «Савіт» і «Тарпеда-Кадзіна», «Дарыда» з Мінскага раёна і «Смалявічы», бабруйскі «Фандок», мікашэвіцкі «Граніт», «Гарадзея»... Не, гэта не ўдзельнікі чэмпіянату ў нейкай прэстыжнай беларускай лізе. Гэта нешта накшталт выспы загінуўшых караблёў — спіс футбольных клубаў, якія некалі выступалі на элітным узроўні, перамагалі, збіралі поўныя стадыёны... А потым сышлі ў нябыт: у лепшым выпадку — у мінорныя дывізіёны, дзе бессэнсоўна і памалу корпаюцца, у горшым — увогуле сканалі, пакінуўшы пасля сябе толькі сумную старонку ў «Вікіпедыі».

Сёння мы не будзем узгадваць тых, пра каго альбо добра, альбо нічога. Мы зробім тонкі намёк на тоўстыя абставіны — і акрэслім каманды вышэйшай лігі, у якіх няма ўпэўненасці ў заўтрашнім дні і якія аднойчы могуць працягнуць спіс эпітафій шматпакутнага беларускага футбола.




Фота ФК «Рух»

У якую будучыню рушыць брэсцкі «Рух»?

## «СПАДАРОЖНІК» (Рэчыца)

Уласна кажучы, рэчыцкі клуб ужо не падае аніякіх прыкмет жыцця, пра што ў прэсе багата напісана. Сённяшняе існаванне «Спадарожніка» — усяго толькі радок у турнірнай табліцы, дзе каманда застанецца да самага фінішу. Такія правілы. Гэта як глыбокая кома, калі пацыент у вегетатыўным стане, не мае нават матэматычных шанцаў, але адключаць яго ад прыбораў штучнага падтрымання нельга: рэгламент.

Каматоз у «Спадарожніка» такі, што ад клуба не засталося нават абалонкі. Даўно няма гульцоў, трэнераў, персанала, функцыянераў — няма нічога і нікога. Рэчычане «гуляюць» у вышэйшай лізе чыста сімвалічна: у кожным туры атрымліваюць тэхнічныя паразы 0:3 — нібы за няяўку на гульню.

З футболам у Рэчыцы даўно бяда. Але быў жа ў 90-х клуб «Ведрыч» — і нават даходзіў да фінала Кубка краіны. Аднак... Безграшоўе — спрадвечны дрын беларускай футбольнай эканомікі — напаткала каманду яшчэ недзе на стыку стагоддзяў, і з той пары там аніякага развіцця. Толькі бляклы сфагнум, скрозь які зрэдку прарастае нешта выпадкова сімпатычнае — і адразу знікае пад ціскам неспрыяльных кліматычных абставін.

Напэўна, футбольная Рэчыца і гэтым разам рэінкарнуе недзе ў другой лізе — адпаведны досвед мае. Але гэта будзе ўжо зусім іншая гісторыя — пра што заўгодна, але не пра прафесійны спорт.

## «СЛУЦК»

Яшчэ зусім нядаўна ў вышэйшай лізе была адметная разынка — так званае «цукровае дэрбі». З аднаго боку «Гарадзея», з другога — «Слуцк». І там, і там галоўны спонсар — цукровы камбінат. І там, і там — амбіцыйныя кіраўнікі з тэмпераментам шчырых футбольных заўзятараў. У «Гарадзеі» за галоўнага быў Міхаіл Крыштаповіч, у «Слуцку» — Мікалай Пруднік. Заклятыя сябры не шкадавалі грошай на свае каманды і супернічалі зацята — на іх матчы любілі прыязджаць нават сталічныя журналісты.

Аднак у студзені мінулага года ў краіне грымнула рэзанансная карупцыйная гісторыя. І сталася так, што замест «цукровага дэрбі» ў медыя запанавала «цукровая справа». Пачалася яна дэтэктыўна: каб затрымаць дырэктараў, па загадзе Аляксандра Лукашэнкі давялося вяртаць на беларускую зямлю самалёт «Белавія», які ўжо ўзяў курс з Мінска ў Мюнхен. Вярнулі, Крыштаповіча і Прудніка змясцілі пад варту... І так супала, што літаральна пару тыдняў таму над імі — а таксама над кіраўнікамі Жабінкаўскага і Скідзельскага цукровых заводаў — пачаўся судовы працэс.

Зразумела, што футбол ад такіх калізій пацярпеў моцна. «Гарадзея» памучылася сезон без цукру — на хлебе і солі — дый прыпыніла існаванне. Новае кіраўніцтва камбіната не праявіла імпэту да лёсу футбольнага дзецішча ды запусціла механізм эўтаназіі.

«Слуцк» пакуль трывае. Хаця ў мінулым годзе даваў сігналы SOS: маўляў, грошай крытычна бракуе, няма чым плаціць гульцам за іх цяжкую працу. Падцягнуўшы слуцкія свае паясы, да канца сезона хлопцы дацягнулі. Цягнуць неяк і сёлета, аднак колькі тое будзе працягвацца — над гэтым пытаннем у раённым цэнтры стараюцца не задумвацца. Жывуць сённяшнім днём — і правільна робяць. Але ж рэчаіснасць такая, што калі «Слуцк» паўторыць шлях «Гарадзеі», то наўрад ці гэта стане сенсацыяй.

## «ЭНЕРГЕТЫК-БДУ» (Мінск)

Увогуле ні адзін з беларускіх футбольных клубаў цяпер не можа жыць-гуляць спакойна, не турбуючыся за бясхмарнае неба над галавой. Растрэсці можа нават «Шахцёр» — вунь Літва праз мігранцкі крызіс на мяжы пагражае перакрыць экспартныя плыні «Беларуськалія» цераз порт у Клайпедзе. Што ўжо казаць пра ўсялякія «Мінскі» ды «Іслачы», якіх ашчадна падсілкоўваюць бюджэтныя крыніцы.

Але калі называць, у працяг нашага сюжэту, кагосьці больш відавочнага, то чаго б аднойчы бабулі з касой не прыйсці па «студэнтаў-энергетыкаў»? Даўно вядома, што яны перабіваюцца з хлеба на ваду — заробкі ў клубе ці не самые малыя ў вышэйшай лізе. Нібыта ім падкідвае грошай ВА «Белэнерга», аднак гэтай гуманітарнай дапамогі хапае, толькі каб зводзіць канцы з канцамі. А супрацоўніцтва «Энергетыка» з Рэспубліканскім цэнтрам алімпійскай падрыхтоўкі дае камандзе толькі трэніровачную інфраструктуру на мінскай вуліцы Сямашкі.

То-бок за жыццё гэты суб'ект нашай футбольнай гаспадаркі трымаецца не надта моцна. І што важна — сваю галоўную стратэгію, падобна, таксама вычарпаў. У «Энергетыку» хацелі зарабляць па-еўрапейску — за кошт трансфернай дзейнасці. Іншымі словамі, планавалі гадаваць і прадаваць больш заможным клубам маладых гульцоў. Выглядае, што як-кольвек азалаціцца тамтэйшыя стратэгі не здолелі. Бо нават на сваёй самай яркай зорцы — нападаючым Іллі Шкурыну — сарваць вялікі куш не ўдалося. Што казаць пра больш дробную рыбу...

Таму канстатуем пэўны экзістэнцыяльны тупік гэтага сталічнага праекта. І нагадваем, што «Энергетык»-БДУ, па сутнасці, узрос на спадчыне іншага мінскага клуба — «Зоркі»-БДУ. Якая ў свой час гарэла-гарэла, а потым ціха згасла.

## «РУХ» (Брэст)

Вы здзівіліся? Ёсць ад чаго: зараз «Рух» — адзін з самых заможных і стабільных клубаў краіны. Яго залатая жыла — шчодрасць праўладнага бізнесмена Аляксандра Зайцава. Так, таго самага — кіраўніка «Sohra Group», аднаго з кіраўнікоў «Брэміна груп» і яшчэ шэрагу ліквідных актываў. Здавалася б, з такім дабрадзеем можна гуляць і ісці ў атаку з песняй. Уласна, «Рух» тое і робіць, аднак спакою за яго будучыню няма.

Зайцаў ніколі не хаваў, што проста закопваць валюту ў футбол — гэта не яго шлях. Ён марыць аб тым, каб футбольны кірунак прыносіў не толькі маральнае задавальненне, але і нейкую фінансавую аддачу. А вось з аддачай пакуль што бяда — і прасвету не бачна.

«Рух» — другі праект прадпрымальніка ў беларускім футболе. Першым было брэсцкае «Дынама», і з ім пан-гаспадар скарыў усе нацыянальныя вяршыні. Чаго каштуе толькі чэмпіёнства ў 2019-м. Зрэшты, літаральна чаго каштуе, якраз вядома. Недзе каля 10 мільёнаў долараў у год — менавіта столькі складаў гадавы бюджэт клуба. А калі дадаць, што да залатых медалёў брэстчане ішлі некалькі гадоў, што па дарозе раскідваліся сродкамі — і нават аднойчы выпісалі на свой хатні матч самога Дзіега Марадону ў якасці ганаровага госця... Словам, у тлустую капейчыну ўляцелі Зайцаву яго спартыўныя амбіцыі, а на выхадзе — хуткі мінулагодні вылет з Лігі чэмпіёнаў, працверажэнне, самотны падлік страт. І — рашэнне прыглушыць гук.

Зайцаў вырашыў пакінуць «Дынама» і ўзяць пад апеку «Рух» — клуб, фактычна створаны ім з нуля. Што з нуля, тое добра, але ж самаакупнасцю не пахне і тут. З «Рухам» не заробіш нават на продажы квіткоў, бо брэсцкі заўзятар новую каманду не прыняў і на яе матчы амаль не ходзіць. То куды тады вядзе гэты фарватар? Усё туды ж — праз марнаванне грошай да расчаравання і апатыі.

А тут яшчэ і эканамічныя санкцыі на Зайцава абрынуліся. Хочаш не хочаш, а задумаешся: ды на халеру мне той футбол...

## БАТЭ (Барысаў)

А вось адносна БАТЭ апакаліптычныя прагнозы здзіўляць не павінны. Даўно было вядома: пакуль Барысаў перамагае, у яго ўсё добра, а перастане перамагаць — пачнуцца незваротныя працэсы. Ну, вось яны і пайшлі — сёння, ўчора ці крыху раней, калі заўчасна памёр заснавальнік клуба Анатоль Капскі.

Пагоршыліся вынікі, прыпыніліся выплаты па лініі УЕФА, а буйнога спонсара за 25 гадоў «жоўта-сіні» клуб сабе так і не прыдбаў. Цяпер неяк перабіваецца на дзяржпадтрымцы, але якая там гэтая падтрымка... Фармальна БАТЭ — каманда са сціплага раённага цэнтра, дзе аніводнага прадпрыемства-донара не знойдзеш. Таму ўжо сыходзяць гульцы, мяняюцца трэнеры, драбнеюць легіянеры. І чым далей, тым горш перспектывы ў колішняга гегемона, чыя эпоха, здавалася, ніколі не скончыцца.

# Біном для Вудкрафта:
## ці патрапяць беларускія хакеісты на Алімпіяду?

Іван КАРПЕНКА

**У трох кропках планеты з 26 па 29 жніўня адбудзецца хакейная алімпійская кваліфікацыя — заключны этап адбору на бліжэйшыя зімовыя Гульні. Так, ледзьве паспелі адгрымець летнія, а наступная Алімпіяда ўжо грукаецца ў дзверы. Яна ўжо блізка — пройдзе ў лютым наступнага года ў Пекіне. Ці паедуць туды беларускія хакеісты — адна з наймацнейшых інтрыг гэтага лета.**


Фота hockey.by

Крэйг Вудкрафт: куды ідзем?

Наша зборная проста зараз — сярод дванаццаці прэтэндэнтаў на тры апошнія алімпійскія ліцэнзіі. Барацьба чакаецца бязлітасная, і ад яе вынікаў залежыць многае. Калі беларускія «клюшкары» зноў прайграюць, наступствы прадказаць будзе цяжка. Прынамсі, над кіраўніцтвам хакейнай федэрацыі, а то і ўсёй спартыўнай галіны, дакладна навісне пагроза адстаўкі.

Зрэшты, згушчаць фарбы загадзя не варта. Напачатку лепш распавядзём пра тое, якім менавіта чынам беларуская хакейная каманда паспрабуе прабіцца ў сталіцу Кітая.

### Тузін гатовы

У мужчынскім хакейным турніры на Гульнях удзельнічаюць звычайна дванаццаць каманд. Упершыню гэтая сістэма пачала дзейнічаць з Турына-2006, бо раней на Алімпіяды запрашаліся чатырнаццаць зборных. Адпаведна зменам у колькасці каманд быў сфармаваны і новы рэгламент шматступеньчатай кваліфікацыі на Гульні.

Шматступеньчатай — перш за ўсё для тых, хто знаходзіцца ў ніжэйшых дывізіёнах. Таму што раней шанцаў зарабіць вельмі жаданыя алімпійскія ліцэнзіі ў іх не было наогул.

Большасць алімпійскіх хакейных пуцёвак ужо размеркавана. Так, уладальнікам першай з'яўляецца — лёгка здагадацца, — краіна-гаспадыня першынства. У дадзеных абставінах — Кітай, чые хакейныя здольнасці, канешне, пакідаюць жадаць лепшага. Але ж як ёсць — так ёсць.

Наступныя восем квот адышлі наймацнейшым зборным свету. Тут вырашальным паказчыкам служыць рэйтынг Міжнароднай федэрацыі хакея (IIHF) наогул — і вынікі апошняга чэмпіянату свету ў прыватнасці.

Такім чынам, за сваю пекінскую «плацкарту» могуць быць спакойныя каманды Канады, Расіі, Швецыі, Фінляндыі, Чэхіі, ЗША, Германіі і Швейцарыі.

Застаюцца тыя самыя тры месцы, якія пакуль вакантныя і на якія прэтэндуе тузін нацыянальных зборных, у тым ліку беларуская. Вось для іх, жадаючых ускочыць ў апошні вагон, і прадугледжана фінальная кваліфікацыя.

Пералічым гэтыя дванаццаць суіскальнікаў: Славакія, Латвія, Нарвегія, Беларусь, Францыя, Данія, Аўстрыя, Італія, Паўднёвая Карэя, Польшча, Венгрыя, Славенія. Зноў жа, у адпаведнасці з сусветным рэйтынгам (ён ніжэй пазначаны ў дужках), каманды былі падзелены на чатыры групы. І ў выніку склалася наступная карціна.

**Група D:** Славакія (9), БЕЛАРУСЬ (14), Аўстрыя (15), Польшча (22).

**Група E:** Латвія (10), Францыя (13), Італія (16), Венгрыя (21).

**Група F:** Нарвегія (11), Данія (12), Паўднёвая Карэя (17), Славенія (18).

Адразу дарэчна будзе прывесці расклад матчаў у квартэце D, куды трапілі беларусы.

26.08. **БЕЛАРУСЬ** — Аўстрыя 15.00
26.08. Славакія — Польшча 19.00
27.08. Аўстрыя — Польшча 15.00
27.08. Славакія — **БЕЛАРУСЬ** 19.00
29.08. Польшча — **БЕЛАРУСЬ** 13.00
29.08. Славакія — Аўстрыя 17.00

Расклад просты: алімпійскае шчасце дастанецца толькі пераможцам сфармаваных груп. А каб іх выявіць, каманды правядуць па тры матчы — у фармаце аднаколавага скарацечнага турніру.

І яшчэ важнае: гульні квартэту D прыме Браціслава — то-бок гаспадарыць у нашай «пульцы» будуць славакі (зноў жа, па праве больш высокага рэйтынгу), для якіх тое стане дадатковым казыром. На зімовым стадыёне імя Андрэя Няпелы, які змяшчае да 10 тысяч гледачоў, яны пачуваюцца як дома.

Ужо толькі гэты факт недвухсэнсоўна сведчыць, што галоўным фаварытам розыгрышу зборная Беларусі не з'яўляецца. Але дэталёва пра шанцы яшчэ пагутарым. А зараз зробім крок у блізкае мінулае, каб прасачыць цікавую тэндэнцыю.

### Тры плямы

Пасля прыняцця актуальнага адборачнага рэгламенту зборная Беларусі толькі аднойчы трапіла на Гульні. Здарылася гэта ў Ванкуверы-2010. І тое не праз той самы этап спаборніцтваў, пра які мы распавялі. Справа ў тым, што таму поспеху паспрыяў шэраг удалых выступаў на чэмпіянатах свету. Так, былі і такія часы. Найгоршым месцам на працягу таго цыклу для беларускіх хакеістаў было… адзінаццатае. Цяпер пра такое «найгоршае» застаецца толькі марыць.

Што тычыцца фінальнай алімпійскай кваліфікацыі, то беларуская зборная прымала ў ёй удзел тройчы — і кожны раз заставалася сярод тых, хто прайграў. У 2005 годзе наша зборная саступіла латышам, у 2013-м — славенцам, у 2016-м — ім жа зноў. Прычым штораз сцэнар быў падобны да галівудскага.

Дасведчаны чытач мусіць памятаць, як 16 гадоў таму за пяць хвілін да канца сустрэчы беларусы перамагалі латышоў з лікам 4:2. Але літаральна за некалькі хвілін супернік здолеў не толькі адыграцца, але і выйсці наперад — 5:4. Тую паразу тагачасны галоўны трэнер Міхаіл Захараў назваў кашмарам, абвінаваціў у ёй усіх, каго магчыма, а сам у выніку страціў пасаду.

У 2012-м сталася так, што мы больш асцерагаліся датчан, але зноў занялі другое месца ў групе — пасля нечаканага фіяска ў матчы са сціплымі славенцамі. Наіўна думалі, што ў іх на належным узроўні гуляе толькі адзін хакеіст — зорка энхаэлаўскага «Лас-Анджэлеса» Анжы Копітар… Высветлілася ж адваротнае: у маленькай краіне, дзе насельніцтва як у Мінску, а прафесійных хакеістаў менш за 40 тысяч, ёсць каманда з байцоўскімі якасцямі нашмат лепшымі, чым індывідуальнае майстэрства Калюжнага, Сціпанава і астатніх, — 2:4. І, што адметна, з крэслам настаўніка тады развітаўся Андрэй Скабелка.

Гісторыя паўтараецца звычайна ў выглядзе фарсу. Наступную алімпійскую кваліфікацыю прымала ўжо «Мінск-Арэна» — у верасні 2016-га. Славенцы перамаглі беларусаў і на гэты раз — у булітнай серыі, дзе Копітар сваю спробу выканаў «на ўра», а Андрэй Касціцын — не. На трэці раз адразу звальняць галоўнага трэнера у федэрацыі паасцерагліся. Канадзец Дэйв Льюіс папрацаваў яшчэ два гады. Але, як паказала жыццё, нічога станоўчага больш беларускаму хакею не прынёс.

Цікава, які лёс чакае сённяшняга коўча беларускай зборнай — іншага канадца Крэйга Вудкрафта? Асабліва калі каманда вернецца з Браціславы з адмоўным вынікам. Як ні круці, хакей у краіне — прадмет нацыяльнай ганьбы… ці нацыянальнага гонару… У залежнасці ад ліку на табло. Калі лік дрэнны, з трэнерам не цырымоняцца.

Таго ж Захарава пасля правалу на нядаўнім ЧС увогуле развянчалі ўшчэнт — нават знялі яго сімвалічны хакейны швэдар з-пад столі на «Мінск-Арэне», «Чыжоўка-Арэне» і на катку «Юнацтва» ў парку Горкага.

### Дзве пасады

Джэрсі Крэйга Вудкрафта ў яго гонар пакуль нідзе ў Беларусі не вывешваюць. Затое канадскі спецыяліст зараз у нас у іншым фаворы — трэніруе не толькі зборную, але і клуб-флагман мінскае «Дынама». У спорце гэта называецца — «сумяшчаць пасады», і такая практыка ў свеце ўвогуле не вітаецца.

У беларускім хакеі ў падобнага досведу супярэчлівы бэкграўнд. Ды што там — хутчэй негатыўны. Дастаткова прыгадаць, як Глен Хэнлан (таксама канадзец) пасля звальнення з адной пасады адмовіўся працаваць на другой. Ці выпадак Андрэя Сідарэнкі, які вярнуў зборную ў эліту, пасля чаго быў пазбаўлены абедзвюх прац. Пагледзім, як атрымаецца ў Вудкрафта, у яго яшчэ ўсё наперадзе.

Падрыхтоўку да адборачнага старту беларускія гульцы пачалі у сярэдзіне ліпеня. Менавіта тады хакеісты мінскага «Дынама», якія складаюць касцяк галоўнай каманды краіны, выйшлі з адпачынку. Цікавая акалічнасць: асобна адно ад аднаго трэніруюцца прадстаўнікі «зубраў» і патэнцыйныя «зборнікі» з ліку хакеістаў іншых клубаў. Выпадак беспрэцэдэнтны, адказнасць на Вудкрафце вялікая, увагу яму патрэбна звяртаць на ўсё. Ці здолее?

Дарэчы, цікава, наколькі Крэйг цяпер звернецца да паслуг гульцоў з экстралігі? Яго папярэднік Захараў толькі і рабіў, што крытыкаваў чэмпіянат краіны і адтуль ў зборную браў адзінкавых прадстаўнікоў. Канадзец, як паказвае практыка, таксама аддае перавагу КХЛ, аднак ці хопіць іх на цэлы ростар?

Напрыканцы звернемся да бягучых спраў мінскага «Дынама», якое ўжо не проста выйшла на лёд, а і правяло шэраг таварыскіх матчаў. Вось іх вынікі.

24.07. «Дынама Мн» — «Адмірал» (Уладзівасток) — 3:4 (Клімовіч, Бек, Масалёў). 30.07. «Дынама Мн»— «Сібір» (Навасібірск) — 4:3 (Масалёў — 3; Когалеў). 6.08. «Дынама Мн» — «Северсталь» (Чарапавец) — 3:2 (Пінчук, Яроменка, Усаў).

Уласна, самі лічбы на гэтым этапе падрыхтоўкі вялікага значэння не маюць. А вось прозвішчы аўтараў шайб — іншая справа. Зрэшты, і тут высновы яшчэ заўчасныя. Добра, канешне, што дынамаўскі офіс здолеў захаваць Дзяніса Масалёва, але на працягу ліпеня-жніўня беларуская выканаўцы, мякка кажучы, не ўражваюць.

То як яно будзе ў Браціславе?

«СПАРТЫЎНАЯ БЕЛАРУСЬ» | 13 жніўня 2021 | № 31–33 (739–741) Новы час

# Падлік медалёў — гэта якім не хапае

Уладзімір МАКАРАЎ

**Вядомы журналіст папулярнай расійскай газеты «Спорт-Экспрэс» Арнольд Эпштэйн з›ехаў у Ізраіль два з паловай гады таму. І ўжо адтуль сачыў за падзеямі на Алімпіядзе ў Токіа. Заўзеючы, зразумела, за спартсменаў сваіх любімых краін — былой і цяперашняй.**

Першая, як звычайна, білася за больш высокае месца ў агульнакамандным заліку, а другая, здаецца, проста атрымлівала задавальненне ад самога факту ўдзелу ў галоўным старце цяпер ужо піцігоддзя. У чым розніца спартыўнай стратэгіі дзвюх краін, Арнольд нам і растлумачыць. І заадно раскажа пра многія іншыя адрозненні Ізраіля і Расіі. І, канешне, не абміне ўвагай сучасную Беларусь.

***— Наколькі пільна ў краіне сачылі за Алімпіядай?***

— Сачылі і радаваліся той колькасці медалёў, якая ёсць. Іх у скарбонцы зборнай атрымалася чатыры — два золата і дзве бронзы. Напрыканцы Гульняў чэмпіёнкай стала зорка сусветнай мастацкай гімнастыкі Лінай Ашрам, з якой звязваліся абгрунтаваныя надзеі. У выніку наш ураджай большы, чым на Гульнях у Рыа — там было толькі дзве бронзы.

Для мяне, дарэчы, стала адкрыццём, што Ізраіль, акрамя нашага «алімпійскага» пра яго ўяўлення, краіна вельмі спартыўная. Возьмем від спорту нумар адзін — футбол. Калі першую трэніроўку ў сезоне іерусалімскага «Бейтара» наведвае чатыры тысячы заўзятараў, то гэта ўражвае.

Я раней жыў у Самары, і мне заўсёды здавалася, што ў гэтым горадзе эталоннае стаўленне да футбола: неяк два гады запар мы былі самай наведвальнай камандай Усходняй Еўропы. Цяпер я жыву ў Хайфе і, назіраючы за тым, што адбываецца вакол мясцовага «Макабі», паступова пераасэнсоўваю нейкія рэчы.

Дастаткова сказаць, што на наступны дзень пасля таго, як «Макабі» стаў чэмпіёнам краіны, у многіх школах горада (не бяру, вядома, рэлігійныя) навучальны дзень пачынаўся з праслухоўвання гімна клуба. Тут ёсць адзін панк-гурт, у якога ўся праграма складаецца з кампазіцый, прысвечаных найлепшаму футбольнаму клубу Хайфы.

***— У Расіі, вядома, нешта падобнае ўявіць цяжка. Там вырашаюць задачы глабальнага маштабу і галоўныя СМІ пачынаюць трывожна біць у набат, калі краіна ў камандным заліку спаўзае на шостае месца.***

— Падлік медалёў, на мой погляд, гэта доля тых краін, якім не хапае самадастатковасці. Даволі зневажальная працэдура, таму што Алімпіяда — гэта перш за ўсё людзі, а яны ў гэтым выпадку сыходзяць на задні план і замяняюцца лічбамі. Гэта падобна да гонару ад выплаўлення мільёнаў тон чыгуну і рапарту на якім-небудзь з'ездзе: а мы вось выплавілі яго больш за ўсіх у свеце.

Такая ж сублімацыя была з Універсіядай — там у расіян атрымлівалася непараўнальна лепш і пастаўленыя пад ружжо лепшыя атлеты рабілі вынік у барацьбе са звычайнымі студэнтамі. Дэпутаты апладзіравалі, а мне было смешна.

Паказваць сваю сілу трэба на Алімпіядзе, што, напрыклад, выдатна робяць амерыканцы. І я разумею, што ўсе іх медалі маюць пад сабой трывалую аснову — сур'ёзную папулярнасць у краіне кожнага з відаў спорту, дзе былі здабытыя перамогі, федэрацыю, якая мае нейкія грошы і зарабляе іх сама, не распілоўваючы чарговы федэральны бюджэт. Ёсць вялікая аўдыторыя прыхільнікаў. У тым ліку дзякуючы ўніверсітэцкаму спорту. Хоць у Старым Свеце мала хто разумее значнасць гэтай з'явы не толькі для амерыканцаў, але і наогул у маштабах усяго сусветнага спорту.

Калі ж Расія раз на чатыры гады ўспамінае пра які-небудзь тэквандо, то, зразумела, што яго развіваюць выключна для алімпійскага заліку.

***— Але прызнайцеся, вы ж раней таксама лічылі медалі ў камандным заліку. Ёсць у гэтым нейкі нацыянальны гонар, уласцівы, зрэшты, усім постсавецкім краінам. Уключаючы Беларусь — мы дагэтуль так і робім.***

— Напэўна, я ў гэтым плане дысідэнт, але больш за ўсё заўсёды радаваўся за маленькія краіны, якія здабывалі хоць бы адзін медаль. Бо чым меншая краіна, тым менш у яе шанцаў штосьці выйграць.

Мне мала заўзець за спартсменаў толькі таму, што ў іх у кішэні такі ж пашпарт, як у мяне. Трэба адчуваць да іх нейкую асабістую сімпатыю. Напрыклад, мне прыемна, што алімпійскай чэмпіёнкай стала Насця Паўлючэнка. Яна з Самары, і мне трохі даводзілася з ёй мець зносіны. Люблю гандбольную зборную — хай нават і без галоўнага трэнера Трафілава, але гэты сусвет мне цікавы.

Што тычыцца замежных сімпатый, то мяне натхніў поспех Фіджы ў рэгбі 7 на 7. Выспы, закінутыя ў Акіяніі, — упэўнены, большасць людзей пра месцазнаходжанне гэтай краіны даведалася, толькі зайшоўшы ў «Вікіпедыю». Насельніцтва — менш, чым у той жа Самары. І там прымудрыліся сабраць цэлую каманду выдатных гульцоў, якія абыгралі наймацнейшыя зборныя ўсяго свету. Ну як не парадавацца за такіх слаўных хлопцаў?

Я быў рады, калі ў самым пачатку Алімпіяды Косава выйграла два залатыя медалі і ў агульнакамандным заліку яно некаторы час апярэджвала цэлых шэраг вельмі моцных спартыўных краін. Кожная краіна вартая свайго свята.

***— Вы сачылі за беларусамі?***

— Прызнаюся шчыра, асабліва нікога не ведаў. Але пасля некаторых падзей адно прозвішча запомніў, думаю, не толькі я. Гэтая падзея сапраўды стала міжнароднай, і пра Крысціну Ціманоўскую гаварылі больш, чым пра многіх чэмпіёнаў.

Адзін не самы ўдалы пост у Instagram прывёў да таго, што ўся гэтая вар'яцкая дзяржаўная машына закруцілася і ўсё скончылася скандалам. Вялікім скандалам з нічога, з абсалютна рабочай праблемы, якую можна было вырашыць на раз, у кароткай размове паміж зацікаўленымі бакамі.

Не думаю, што Крысціна такая ярка выяўленая апазіцыянерка. І, зразумела, адпрэчваю ўсе гэтыя канспіралагічныя тэорыі пра задумы, што даўно выношваліся, — як адкрыта вар'яцкія. Дзяўчына аказалася закладніцай сітуацыі, і мне б не хацелася, каб яе кар›ера была зламаная.

Не хачу быць скептыкам, але мне цяжка ўявіць, што пасля такіх моцных узрушэнняў і змены месца жыхарства і трэніровак яе вынікі пойдуць уверх. Хоць, вядома, я быў бы рады памыліцца.

Дарэчы, карыстаючыся выпадкам, хачу прызнацца ў яшчэ адной сваёй памылцы. Я быў ашаломлены тым, наколькі беларусы аказаліся гатовыя выказваць сваю пазіцыю год таму, адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў. І наколькі шчыра і прыгожа яны гэта рабілі — расіяне ў гэтым плане ім, канешне, значна саступаюць. Хоць мне раней здавалася, што Беларусь куды больш «забітая» краіна, чым Расія.

***— Дзякуй. Засталося толькі параўнаць прэміяльныя за алімпійскія медалі Беларусі і Ізраіля.***

— За першае месца ўрад дае 500 тысяч шэкеляў, за другое 400 тысяч, за трэцяе — 250 тысяч (курс шэкеля да долара — 0,31. — Заўв. «НЧ»). Праўда, чэмпіёну і прызёрам яшчэ давядзецца заплаціць падатак у памеры 16 адсоткаў. Калі параўноўваць з вашымі прызавымі, то, думаю, сумы прыкладна роўныя.

***— Ведаю, што ізраільская дзяржава не лічыць спорт вышэйшых дасягненняў сваім прыярытэтам, зрэшты, як і практычна ўсе заходнія краіны. Але нават не самыя вялікія прызавыя шчодра акупляюцца сумамі рэкламных кантрактаў — ці працуе гэтае правіла ў Ізраілі?***

— Думаю, зноў жа, многае залежыць ад федэрацыі і ад папулярнасці віду. Скажам, дзюдо цэніцца ў нас вельмі высока, і Канстанцін Развозаў, не выйграўшы ні аднаго алімпійскага медаля, але стаўшы два разы віцэ-чэмпіёнам Еўропы, зрабіў добрую дзяржаўную кар'еру. З гэтага года ён заняў пасаду міністра турызму.

Іншы дзюдаіст, Арык Зязві, якому на Алімпіядзе пашанцавала больш: у Афінах у 2004-м ён выйграў бронзу, дый на чэмпіянатах Еўропы і свету медалёў таксама заваяваў больш, — думаю, выдатна зарабіў на рэкламных кантрактах. І зарабляе да гэтага часу — сам бачыў яго ў рэкламе банка і нейкіх медыцынскіх праграм.

А вось прадстаўнікі іншых відаў спорту — першы алімпійскі чэмпіён у гісторыі Ізраіля «паруснік» Галь Фрыдман — як мне здаецца, зацікавіў рэкламадаўцаў значна менш. Тое самае можна сказаць і пра весляра Міхаіла Калганава, які стаў прызёрам Сіднея-2000.

Напэўна, у іншай, больш спартыўнай краіне было б інакш, але тут дзяржава сапраўды не мае звычкі цярпліва гадаваць і песціць таленты. І яны вымушаныя прабівацца самі. Усім вядомая гісторыя Аслана Карацева — адкрыцця тэніснага сезона гэтага года і срэбнага прызёра Гульняў у Токіа. Ён жа пачаў займацца гэтым відам спорту ў Ізраілі, куды сям'я рэпатрыявалася з Уладзікаўказа. Але праз недахоп фінансавання яны з бацькам выбралі Расію, дзе ён і працягнуў сваю кар'еру. Застаўшыся ў Ізраілі, ён бы яе, хутчэй за ўсё, паспяхова скончыў.

Тут любяць футбол. Ізраільскія футбалісты зорак з неба не хапаюць, але іх у рэкламу бяруць з вялікім задавальненнем — з куды большым, чым баскетбалістаў. Хоць гэтыя два віды, на мой погляд, цалкам маглі б паспрачацца за ўплыў на розумы заўзятараў. Бо баскетбольны тэль-авіўскі «Макабі» — самы тытулаваны клуб краіны і дагэтуль з'яўляецца адным з флагманаў еўрапейскага баскетбола. На яго матчы немагчыма дастаць квіток.

На футбол таксама ходзяць добра. На фінішы мінулага сезона знялі ўсе кавідныя абмежаванні і ўсе важныя апошнія



Архіўнае фота

# доля тых краін, самадастатковасці

матчы праходзілі пры аншлагах. За тры туры да канца быў практычна вырашальны матч за чэмпіёнства: «Макабі» (Тэль-Авіў) супраць «Макабі» з Хайфы. Дык квіткі ў спекулянтаў каштавалі да 500 долараў. Для футбольнай правінцыі, якой многім здаецца Ізраіль, пагадзіцеся, гэта лічбы. А наогул самы танны квіток на матчы «Макабі» (Хайфа) каштуе 20 долараў — гэта цалкам прымальныя для Ізраіля лічбы, таму што ўзровень і заробкаў, і жыцця тут, вядома, іншы.

І футбол тут уладкаваны абсалютна інакш, чым у той жа Расіі. Калі пра расійскую ФНЛ — другі дывізіён — яшчэ можна сказаць, што там ёсць нейкае жыццё, то ніжэй ужо нічога няма. А ў Ізраілі я паглядзеў выдатны дакументальны фільм, які называецца «Ліга Гімель». Гэта кіно пра пятую лігу чэмпіянату Ізраіля, дзе, калі што, гуляе 128 каманд!

Я быў шакаваны тым, якія там кіпяць жарсці і якія яркія асобы ў гэтым працэсе замяшаныя. І адно са сваіх будучых жыццяў я хацеў бы пражыць у такой камандзе. Яна, магчыма, ніколі нічога не выйграе, але затое цвёрда стаіць на зямлі. Вакол яе кіпяць эмоцыі, і яна цікавая таму колу людзей, для якіх гуляе.

— Кажуць, простыя ізраільцяне з задавальненнем вядуць здаровы лад жыцця. Балазе, гэта можна рабіць практычна круглы год.

— Гэта дакладна. Куча народу бегае — раніцай і ўвечары, для чаго існуюць спецыяльныя дарожкі. Шмат раварыстаў. Шмат адкрытых пляцовак, на якіх можа займацца практычна любы жадаючы — і дарослы, і дзіця.

Паленне тут наогул мінімізавана, а алкаголь вітае, мабыць, толькі частка савецкай дыяспары. Ну, гэта тая звычка, як мы разумеем, якую не можа выкарчаваць аніводная краіна свету, куды б ні трапіў наш чалавек.

***— Што вас яшчэ здзіўляе ў Ізраілі?***

— Такой колькасці дабра, цяпла і святла ў мяне не было, мабыць, нават у дзяцінстве. Ёсць даволі ходкая прымаўка: калі ты палюбіш Ізраіль, то ён будзе любіць цябе. Але я б перафразаваў яе ў не менш папулярную ісціну аб тым, што стаўленне людзей да цябе вызначаецца тваім стаўленнем да іх.

Перад тым, як з'ехаць, я часта чуў папярэджанні аб тым, што хітрыя яўрэі будуць падманваць цябе на кожным кроку. На самой справе за ўвесь гэты час ні з чым падобным не сутыкаўся. І многія міфы і пра старую, і пра новую краіну проста разбурыліся ўшчэнт.

Нас ўсё жыццё выхоўвалі на наратыве пра тое, што савецкія людзі — самыя спагадлівыя ў свеце і як ніхто гатовыя дапамагаць адно аднаму. Але я бачу, якія тут зусім іншыя і куды больш глыбокія традыцыі ўзаемадапамогі — і наколькі людзі арыентаваныя на дабро.

Тут вельмі моцныя традыцыі валанцёрства, і паспяховыя людзі займаюцца гэтым з вялікім натхненнем. Таму што ў іх ёсць патрэба ў тым, каб дапамагаць — тым, хто меней паспяховы, хто хворы ці стары, дзецям, жывёлам.

Многія здзіўлены той колькасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі, ці, як у постсавецкіх краінах іх яшчэ называюць, «інвалідаў», якія жывуць у краіне. «Ого, колькі іх тут!» Але тут яны проста не хаваюцца па дамах, як у некаторых іншых краінах, а адчуваюць сябе раўнапраўнымі членамі грамадства. Ва ўсіх гарадах ёсць даступная інфраструктура для перамяшчэння, а пандусамі абсталяваны практычна ўсе месцы, неабходныя для іх нармальнай жыццядзейнасці.

Яшчэ мяне ўражвае стаўленне да хатніх жывёл. Часцей за ўсё ў Расіі я сутыкаўся з тым, што калі ў цябе ёсць сабака, то ён абавязкова павінен быць пародзістым. А тут я бачу карціну, як да набярэжнай пад'язджае дарагая машына і з яе выходзіць пагуляць гаспадар — разам з дварнягам, якога ён, відавочна, проста ўзяў з прытулку. Ды што далёка хадзіць — пару дзён таму я рабіў зарадку і сам назіраў, як дзяўчына выгульвала сабаку на трох лапах. Вельмі шчаслівага, які прыязна віляў хвастом насустрач практычна ўсім мінакам.

Я быў у мясцовым гадавальніку, у якім вырошчваюць лабрадораў і потым раздаюць іх сляпым людзям — цалкам бясплатна. Дзяржава ніяк не прыкладае да гэтага руку — гэта ўсё ініцыятыва прыватных спонсараў. Сабак спачатку дрэсіруюць, потым з двух гадоў да дзесяці яны працуюць павадырамі. А затым выходзяць на пенсію, і іх аддаюць у сем'і, дзе была нейкая душэўная траўма ці ёсць пакалечаны салдат. Таму што яны вельмі разумныя і добрыя і там ужо дажываюць свае гады.

Тут зусім іншае стаўленне да войска: ім ганарацца. Ніхто не хаваецца ад прызыву, не «косіць» з дапамогай бацькоў і знаёмых медыкаў. Наадварот, служыць у арміі — гэта ганаровы абавязак кожнага ізраільскага юнака і дзяўчыны. А ў тых, каму служыць у войску забараняе



Фота PIA

Лінай Ашрам: спартыўны гонар Ізраіля

рэлігія ці не дазваляе здароўе, ёсць магчымасць праходзіць альтэрнатыўную службу — даглядаць пажылых, асаблівых дзяцей, удзельнічаць у кучы гуманітарных праектаў.

У тым ліку яны займаюцца з намі, новымі рэпатрыянтамі, іўрытам. І ўсё гэта адбываецца па-сапраўднаму, людзі ўсю душу ўкладваюць у гэтую дзейнасць.

Калі ў супермаркеце чарга і ў ёй стаіць ваенны, то яго абавязкова прапусцяць наперад. Тут ёсць такі афіцыйны тэрмін, які гучыць для нас даволі прышпільна: «салдат-адзіночка». Ім можа быць мужчына ці жанчына — тыя, у каго няма сям'і. І калі гэтага адзіночку адпускаюць на шабат дадому, то да яго паслуг ёсць цэлы рух. Гэта сем'і, якія стаяць у чарзе па тое, каб запрасіць такіх салдат да сябе на выхадныя дадому — каб тыя не адчувалі сябе самотнымі.

Кожны дзень я сутыкаюся з нейкімі гісторыямі і пераконваюся, наколькі тут іншае стаўленне людзей адно да аднаго. Літаральна сёння ішоў з метро і бачыў, як дзяўчынка, абвешаная нейкімі пакупкамі, прапанавала ахоўніку перакусіць чымсьці са сваіх запасаў. Ён ветліва адмовіўся, але такая карціна тыповая для гэтай краіны, і падобная прапанова нікога не здзіўляе і не крыўдзіць. Гэта ў парадку рэчаў — калі зусім чужы чалавек праяўляе клопат пра свайго бліжняга. Ці іншая гісторыя: у перыяд пандэміі колькасць калясак у супермаркетах істотна скараціла. І часам, каб яе знайсці, даводзілася адыходзіць даволі далёка ад крамы. І аднойчы я цягнуў яе з прыпынку грамадскага транспарту і сустрэў яшчэ аднаго такога ж, як і я. Ён з надзеяй спытаў: «А там яшчэ ёсць?» І толькі парадаваўся за мяне, калі я яго засмуціў: «Вось малайчына!» У Расіі, упэўнены, у такой сітуацыі пачуў бы толькі раздражнёную лаянку і што-небудзь тыпу: «Які бардак! Сталіна на іх няма!»

Калі ж пачытаць рускія паблікі пра Ізраіль, то можа скласціся ўражанне, што я жыву ў нейкай іншай краіне. Але, зноў жа, калі ты хочаш, каб цябе палюбіў Ізраіль, то спачатку палюбі яго сам.

***— І для пачатку вывучы іўрыт.***

— Неяк нашы самарскія «Крылы Саветаў» гулялі матч у Кубку Інтэртота — у латвійскім Даўгаўпілсе. Горад знаходзіцца на самай мяжы з Расіяй, і на стадыён прыйшлі шмат мясцовых рускамоўных людзей. Усе яны даволі шумна падбадзёрвалі нашу каманду і ў прыватных размовах даволі няўхвальна выказваліся пра латвійскія ўлады. Пры гэтым нікому і ў галаву не прыходзіла думка вярнуцца назад у Расію.

Тут нешта падобнае. Горшае, што ёсць у Ізраілі, — гэта жахлівая спякота летам, пастаянная тэрарыстычная пагроза і пэўная частка рускамоўнай дыяспары. Не скажу пра ўсіх, вядома, але ёсць людзі, якія жывуць тут па трыццаць гадоў і ведаюць паўтара слова на іўрыце. І бачаць жыццё, у адрозненне ад мяне, які вучыць мову ўпарта і ўжо даволі прасунута, выключна ў чорным колеры.

Але, зноў жа, жыццё ёсць тым, што мы пра яго думаем, і таму кожны выбірае сваё шчасце сам.



Фота getty images

Сабака — сябар чалавека ў Ізраілі

# Паралімпіяда

## Ад дзесяці да дванаццаці медалёў: паралімпійцы маюць план

Георгій ЗАГОНСКІ

**У паралімпійцаў план на медалі — у адрозненне ад спартсменаў, якія не маюць аніякіх абмежаванняў па здароўі — існуе.**

Я годва месяцы таму на спецыяльнай прэс-канферэнцыі, прысвечанай падрыхтоўцы нашых будучых удзельнікаў у Токіа-2021, агучыў генеральны сакратар Паралімпійскага камітэта Мікалай Шудзейка. Дык вось фіксуем: не меней за дзесяць месцаў на подыуме.

Наколькі гэта рэальна, яшчэ абмяркуем, а напачатку разгорнута кранемся наогул падзей, якія папярэднічаюць старту Паралімпіяды ў сталіцы Краіны ўзыходзячага сонца.

Старт, дарэчы, адбудзецца 24 жніўня, спаборніцтвы будуць працягвацца да 5 верасня.



Фота reuters

### Па слядах Алімпіяды

Напэўна, нашы чытачы дастаткова абазнаныя адносна падзей ў свеце, якія непасрэдным чынам паўплывалі на міжнародны спартыўны каляндар. Гэта, безумоўна, тычылася амаль усіх запланаваных на мінулы год падзей, звязаных з неабходнасцю пералётаў і вочных стартаў. Усе спаборніцтвы сярод звычайных атлетаў былі прыпынены ў сакавіку 2020-га.

Непрыемныя наступствы каронавіруса закранулі і справы атлетаў з фізічнымі абмежаваннямі. Рэгламент жа кваліфікацыйных паралімпійскіх стартаў вельмі падобны да адбору на «звычайныя» Гульні. Да прыкладу, калі гаворка пра ўжо згаданыя плаванне ці лёгкую атлетыку, то існуе шэраг нарматываў. Выконваеш іх — чакаем цябе на маштабным злёце.

«Сістэма адбору амаль нічым не адрозніваецца. Адзіная розніца: Міжнародны паралімпійскі камітэт загадзя акрэслівае максімальную колькасць квот для кожнай краіны, карыстаючыся рэзультатамі на працягу папярэдніх алімпійскіх цыклаў, а таксама апошнімі ў бягучым. Здараецца, зашмат больш нашых спартсменаў здольныя былі б атрымаць ліцэнзіі, а бывае — зусім наадварот», — распавядаў на пачатку лета аўтару гэтых радкоў трэнер плыўцоў Дзмітрый Кошаль.

Навошта гэтая прэамбула? Каб пацвердзіць, што паралімпійцы аказаліся ў вельмі складаным становішчы. Па-першае, ніхто не клапаціўся, каб у іх былі хоць нейкія старты па-за трэніроўкамі — накшталт Камерцыйнай лігі плавання (ISL) ці анлайн-стартаў па лёгкай атлетыцы. Па-другое, адсутнасць любых выездаў да апошняга перашкаджала сістэме кваліфікацыі ў Токіа. Дастаткова адзначыць, што імёны шмат якіх удзельнікаў Гульняў высветліліся толькі зараз — на пачатку жніўня.

### Унікальнасць Токіа-2020

Паралімпійскія гульні ў Токіа таксама захавалі лічбавы суфікс «2020». Хай у гэтым выпадку нейкія маркетынгавыя страты былі несуразмерна меншымі. Зроблена гэта, па ўсім відаць, з меркавання педантызму і дзеля гісторыі. Гісторыі, у якой будучая Паралімпіяда ўпершыню пройдзе без замежных гледачоў на трыбунах.

Апроч таго, амаль на трэцюю частку скарочана колькасць абслуговага персаналу. Не на вялізны адсотак, аднак вымушаны быў прымаючы бок адмовіцца і ад запланаванай колькасці атлетаў. Між тым, КНДР, напрыклад, сама вырашыла ўвогуле не ляцець у Токіа. Ну, на тое яна і Паўночная Карэя — на ўсё у яе сваё асобнае меркаванне.

Паглядзець на Паралімпіядзе, канешне, будзе на што. Паралімпійскі камітэт крочыць нага ў ногу з Алімпійскім і пашырае праграму на кожныя наступныя Гульні. Так, у гэтым годзе спартсменам будзе прапанавана рэкордная лічба камплектаў медалёў — 540 (у Рыа-2016 было 526)! Дакладней пра дысцыпліны і класы — а іх мноства — пагаворым ніжэй, а пакуль адзначым, што пашырылася праграма за кошт бадмінтона ды тэквандо.

Напрыканцы бягучага блока яшчэ адна важная інфармацыя. Пераважная большасць атлетаў, не толькі беларускіх, упершыню пабачыць тыя самыя алімпійскія аб›екты, дзе неабходна змагацца. Часцей за ўсё гэта гуляе на руку не фаварытам, а зусім наадварот. Калі высветліць, што сапраўдных надзей у нас літаральна некалькі чалавек, то, верагодна, гэта на карысць і беларусам.

### На што раўняцца

Калі заўзятары спорту з колькі-небудзь значным стажам прыкладна ўсё ж назавуць дыяпазон медалёў, з якімі вярталіся дадому беларускія алімпійцы на тых ці іншых Гульнях, то адносна паралімпійскіх дасягненняў цяжкасці з успамінамі, пэўна, узнікнуць амаль у кожнага. Што ж, зручны час зазірнуць у нядаўнюю гісторыю, каб адзначыць суверэнныя поспехі беларусаў.

**БЕЛАРУСЬ НА ПАРАЛІМПІЯДАХ**

| Гульні | Медалі | Месца у табліцы |
|---|---|---|
| Атланта-1996 | 13 (3+3+7) | 33 |
| Сідней-2000 | 23 (5+8+10) | 28 |
| Афіны-2004 | 29 (10+12+7) | 19 |
| Пекін-2008 | 13 (5+7+1) | 21 |
| Лондан-2012 | 10 (5+2+3) | 25 |
| Рыа-2016 | 10 (8+0+2) | 19 |

Калі мець на ўвазе не толькі колькасць узнагарод, але і іх якасць, то найбольш удала ў нас склаўся выступ у Афінах-2004. Там 29 разоў нашы прадстаўнікі іванспорту ўзыходзілі на п’едэстал — у прыватнасці, у дзесяці выпадках — на вышэйшую яго ступень. Адпаведна, найбольш высокае месца занялі і ў агульнакаманднай табліцы — 19-е.

А вось якую з Паралімпіяд у выкананні беларускіх спартсменаў лічыць найменш выразнай — пытанне. Тут з якога боку падысці. Калі звярнуцца да чэмпіёнскіх тытулаў, то-бок залатога здабытку, — позірк спыняецца на Атланце-1996. Менавіта там беларусы зарабілі ўсяго тры вышэйшыя ўзнагароды і выніковую 33-ю пазіцыю ў канчатковым заліку сярод дзяржаў. Калі засяродзіцца на валавай колькасці, то, несумненна, узгадваем два апошнія форумы. Дзесяць — столькі было у Лондане-2012 ды Рыа-2016.

### Не меней за дзесяць

Якраз гэтыя лічбы называюцца ў якасці задачы-мінімум цяпер. І тут, нарэшце, чытачам стане зразумела, чаму часцей за ўсе ў гэтым матэрыяле мы кранаем справы ў басейне, дакладна — на воднай дарожцы. Адказ просты: найбольшыя



Фота www.vmogileve.by

Ігар Бокі: лідар сусветнага інваспорту

спадзяванні ўскладаюцца менавіта на каманду плыўцоў.

Вядома чаму. На папярэдніх Гульнях яны прынеслі восемь медалёў з дзесяці! Відавочна, прагнозы зараз адпаведныя, і ў першую чаргу — на Ігара Бокага, які вярнуўся пяць гадоў таму з Бразіліі з шасцю залатымі ўзнагародамі, а таксама адной бронзавай. Яшчэ адно золата было на рахунку Уладзіміра Ізотава.

У складзе Бокі і сёння. Здаецца, сярод паралімпійцаў спартсмен, якога не аднойчы папракалі быццам бы ў прымальным зроку для выступаў са здаровымі атлетамі, здолеў узяць усе тытулы, якія толькі ёсць.

Мяркуйце самі: адзінаццаціразовы паралімпійскі чэмпіён, 22-разовы чэмпіён свету — дзе тут шукаць матывацыю 27-гадоваму маладому чалавеку? Але ж недзе ўдаецца. Што крывіць душою, лёгка выказаць здагадку: фінансавы бок, мабыць, на першым плане. Толькі ўявіце сабе: за залаты медаль, пачынаючы з лонданскіх Гульняў, дзяржава абяцае паралімпійцам 50 тысяч долараў. Канешне, гэта ў тры разы менш, чым за «звычайнае» алімпійскае золата. Але, калі разгледзець сітуацыю Бокага, усе выглядае шыкоўна. Напрыклад, па выніках мінулай Алімпіяды ён зарабіў 320 тысяч долараў — тое, аб чым могуць марыць алімпійцы. Большасць з іх нават і шанцаў не мае, бо ў іх відах на Гульнях няма столькі дысцыплін.

Вось тут мы і пераходзім да самага цікавага. Бо ў іванспорце важную ролю адыгрывае тое, ў якім класе па абмежаванні здароўя акажацца той ці іншы атлет. Калі ідзе гаворка пра слабы зрок — а ўсе беларускія надзеі ў плаванні менавіта з гэтай катэгорыі (вядомага праўладнага атлета Аляксея Талая да спісу патэнцыйных уладальнікаў узнагарод не адносім), — то іх тры: адзінаццаты, дванаццаты і трынаццаты. Дык вось: ёсць паралімпійцы, да якіх, так бы мовіць, не дачэпішся. Кожны год яны праходзяць медыцынскі агляд — і адпаведная камісія пагаджаецца з ранейшымі абставінамі. Але маецца і другая частка. Раз-пораз іх адносяць да самай здаровай групы, іншы — да сярэдняй.

У беларускай камандзе гэта тычыцца вышэй згаданага Уладзіміра Ізотава і яшчэ аднаго таленавітага плыўца — Дзмітрыя Салея. Адзін сезон яны выступаюць у дванаццатым класе, наступны — у трынаццатым.

Акрамя плавання, згадаем ці не адзінага кандыдата на медалі з іншых відаў. Гэта лёгкаатлет Сяргей Бурдукоў, чыя спецыялізацыя — скачкі ў даўжыню. На астатніх асаблівага разліку няма. Дарэчы, менавіта асэнсаваннем гэтага факта, мабыць, і дыктуецца даволі сціплы адносна мінулых Паралімпіяд план па ўзнагародах. У дадзеным выпадку кіраўніцтва галіны добра разумее: як і алімпійцам, прадстаўнікам іванспорту будзе вельмі складана ўтрымаць былыя пазіцыі. Нават тыя прыземленыя, на якія беларусы выйшлі ў Лондане ды Рыа.

# Кейс Ціманоўскай

## Як на роўным месцы беларускі спорт патрапіў у міжнародны скандал

Сяргей КАЙКО

**Самая гучная алімпійская гісторыя з удзелам беларускай каманды не мае аніякага дачынення да медалёў, ачкоў і секунд. Токіа-2020 і прадстаўнікі BLR — цяпер гэта найперш пра лёгкаатлетку Крысціну Ціманоўскую, якая спачатку не пабаялася выказаць уласнае меркаванне, потым сутыкнулася з непрапарцынай рэакцыяй сістэмы і ўрэшце стала палітуцякачкай. Сусветная прэса некалькі тыдняў гудзела з гэтай нагоды — тэлевізійнымі рэпартажамі, газетнымі перадавіцамі і рэдакцыйнымі артыкуламі ў сеткавых медыя. І будзе гудзець надалей, бо кейс яшчэ зусім не вычарпаны.**



Фота www.sport24.ru

Сёння дзяўчына ўжо ў Польшчы, дзе ёй далі прытулак і паабяцалі працяг спартыўнай кар'еры. Беларускі ж НАК аказаўся ў цэнтры спецыяльнага расследавання Міжнароднага алімпійскага камітэта, вынікам якога могуць стаць чарговыя санкцыі.

«Новы Час» узгадвае асноўныя сюжэтныя павароты самага буйнога скандалу Алімпіяды і адказвае на галоўныя пытанні, з ім звязаныя.

### Хто такая Крысціна Ціманоўская?

Крысціне Ціманоўскай 24 гады, яна родам з Клімавіч, што на Магілёўшчыне. На малой радзіме і пачала займацца спортам, выбраўшы адзіночны спрынтарскі бег. Яе ўлюбёныя дыстанцыі — 100 і 200 метраў.

У 18-гадовым узросце Крысціна ўвайшла ў склад беларускай зборнай. Спачатку ўдзельнічала ў спаборніцтвах на юніёрскім узроўні, з цягам часу перайшла ў дарослы спорт.

Скажам шчыра: новай Юліі Несцярэнка з Крысціны Ціманоўскай пакуль не атрымалася і наўрад ці атрымаецца ў будучыні. Дзяўчына старанная, лепшая ў сваёй дысцыпліне ў краіне, міжнародных поспехаў яна не няшмат. Найлепшыя з іх — перамога на Сусветнай Універсіядзе ў Неапалі ў 2019 годзе (200 м) і срэбра на Еўрапейскіх гульнях-2019 (100 м) у Мінску.

Гэта не павінна бянтэжыць, бо класічны спрынт — вельмі прэстыжная дысцыпліна ў лёгкай атлетыцы. Адпаведна, канкурэнцыя тут неймаверная, таму нават проста быць ва ўмоўным топе-10 — ужо добрая справа.

Падчас леташніх палітычных падзей Крысціна Ціманоўская праявіла сябе хай умеранай, але ўсё ж прыхільніцай перамен. Яна ўдзельнічала ў запісе відэа, на якім члены лёгкаатлетычнай зборнай Беларусі выступілі з асуджэннем гвалту сілавікоў. Яе подпіс з'яўляўся і пад вядомым адкрытым лістом спартыўнай супольнасці за новыя выбары і супраць таго ж гвалту, праўда, праз нейкі час — магчыма, сутыкнуўшыся з ціскам адміністрацыі, — яна свой аўтограф адазвала.

Крысціна Ціманоўская замужам. Мужа завуць Арсеній Зданевіч, працуе трэнерам. Пасля інцыдэнту ў Токіа ён экстрана пакінуў Беларусь і зараз таксама знаходзіцца ў Польшчы.

### Што здарылася ў Токіа?

На Алімпіяду спартсменка прыехала, каб прабегчы дзве свае каронныя дыстанцыі — 100 і 200 метраў. Пад гэты расклад была спланаваная падрыхтоўка, пад гэты графік быў распрацаваны цыкл трэніровак ужо на месяцы падзей. Усё ішло як мае быць, пакуль не здарылася тое, што сёння можна лічыць хрэстаматыйным casus belli — трыгерам, з якога ўсё пачалося.

У адзін цудоўны дзень Крысціна Ціманоўская са здзіўленнем знайшла сябе ў спісе беларускіх удзельніц эстафеты 4х400 м, і гэта яе, мякка кажучы, не ўзрадавала. Не ўзрадавала — з цэлага шэрагу прычын.

Па-першае, дзяўчына ніколі не ўдзельнічала ў такой беговай дысцыпліне. А тая — вельмі спецыфічная. Бо эстафета патрабуе асобных навыкаў — у прыватнасці, перадачы эстафетнай палачкі без страты хуткасці. Гэты тэхнічны элемент адпрацоўваецца гадамі. Бо 400 метраў — наогул досыць своеасаблівая дыстанцыя. Спецыялісты кажуць: не спрынтарская і не стаерская, а нейкая прамежкавая. У побыце яшчэ гавораць так: на адным дыханні да фініша не дабяжыш, а другое адкрыцца не паспявае. То-бок, зноў патрэба ў належнай аэробнай падрыхтоўцы, якая дасягаецца доўгімі трэніроўкамі.

Без падрыхтоўкі і трэніровак — рызыка траўмы альбо аглушальнае фіяска на дарожцы на пацеху заўзятарам.

Па-другое, вакансіі (іх было дзве) у эстафетным квартэце ўзніклі праз недагляд адказных асоб — не тое трэнераў, не тое адміністратараў. Яны не змаглі забяспечыць дастатковую колькасць допінг-проб для дзвюх эстафетніц, і тых з ліку алімпійцаў МАК проста выключыў — з гэтым у сучасным спорце строга. Атрымліваецца, што беларускія спартыўныя менеджары, рыхтуючы каманду да самага важнага старту чатырохгоддзя, груба кажучы, не змаглі далічыць да дзесяці. Цаной памылкі сталі лёсы атлетаў, якіх наўпрост выкінулі з сеткі Гульняў. На такія памылкі спартсмены заўсёды рэагуюць балюча.

Нарэшце, па-трэцяе, Ціманоўскую абурыў не столькі факт яе ўключэння ў эстафетную чацвёрку, колькі тое, што «ажанілі» яе без яе. Нават не пагаварылі, не спыталі пра гатоўнасць, не патлумачыўшы экстранасці ўзніклай сітуацыі. Пра свой удзел у забегу Крысціна даведалася фактычна з прэсы — і, натуральна, адчула сябе зняважанай.

Яна — раз, другі, — спрабавала звязацца з трэнерамі, каб даведацца падрабязнасці, аднак тыя на яе запыты так і не адказалі. І тады спартсменка вырашыла задзейнічаць уласныя сродкі камунікацыі. Запісала і выклала ў сацсеткі эмацыйны спіч, у якім спачатку канстатавала, што «наша начальства вырашыла ўсё за нас», а потым задала пару лагічных пытанняў. «Чаму я дазнаюся пра гэта ад "левых" людзей?!» і «Чаму ж мы павінны расплачвацца за вашы "касякі"?»

І панеслася... Праз некалькі сутак Крысціна Ціманоўская стане ці не самай знакамітай удзельніцай Алімпіяды.

### Чаму гісторыя выйшла на сусветны ўзровень?

Аднак важна разумець: лёгкаатлетку з Клімавіч праславіў не эмацыйны пост у Інстаграме. Халера з ім, з тым пастом, бо такія гісторыі — абсалютна звычайная з'ява ў прафесійным спорце. Хтосьці штосьці сказаў, не тое зрабіў... Трэнер жорстка абышоўся з атлетам, і той пакрыўдзіўся... Атлет сарваўся на трэнера, і той ужыў уладу... Што казаць, калі лепшыя футбалісты свету, бывае, б'юцца ў распранальнях як п'яныя матросы. А лепшыя трэнеры свету кідаюцца ў сваіх гульцоў тупымі цяжкімі прадметамі, як здурнелыя вар'яты.

Вялікі спорт — гэта пік маральнага і фізічнага напружання. Чаго тут толькі ні здарацца. Але галоўнае ў іншым — у камунікацыі, з дапамогай якой можна патушыць любы канфлікт. Яшчэ і вылучыць з таго дадатковую энергію, якая потым дапаможа перамагчы.

Аднак бяда ў тым, што камунікацыя і дыпламатыя — гэта не пра сённяшні беларускі спорт. Нашым сучасным рэаліям больш пасуюць адносіны з вайсковага статуту, дзе адны аддаюць загады, а другія мусяць іх выконваць і лішніх пытанняў не задаваць.

Менавіта з гэтай прычыны выступ Ціманоўскай у сацсетках атрымаў ашаламляльны працяг, які агаломшыў увесь белы свет. Замест таго, каб паразмаўляць і за пяць хвілін вырашыць усе супярэчнасці, сістэма пачала ламаць спартсменку цераз калена. Паводле нейкага высокага распараджэння (некаторыя лічаць, што яго аддаваў ці не асабіста Аляксандр Лукашэнка), Крысціну Ціманоўскую спачатку літаральна знялі з прабегу — выкраслілі з ліку ўдзельніц забегу на 200 метраў, а потым паспрабавалі прымусова эвакуяваць у Мінск...

Што было далей — занадта добра вядома, каб лішні раз пераказваць. У такійскім аэрапорце беларуска прыцягнула ўвагу паліцыі і журналістаў і дадому, канешне, не паляцела. Замест гэтага на наступны дзень адправілася ў Польшчу — адну з таго вялізнага шэрагу краін, што выказалі гатоўнасць прыняць уцякачку. Потым — прэс-канферэнцыі, інтэрв'ю, расповеды пра ціск і пагрозы, пра асцярогі апынуцца на радзіме ці ў псіхіятрычнай бальніцы, ці наогул у турме... І вобраз дысідэнткі, які канчаткова склаўся, хаця сама дзяўчына таго ані разу не жадала.

### Што будзе далей?

Зразумела, што Міжнародны алімпійскі камітэт кейс Ціманоўскай па-за ўвагай не пакінуў. Ведамства Томаса Баха адразу ж уключылася ў тэму і задзейнічала звыклы алгарытм рэагавання. Была заснаваная адмысловая камісія, якая неадкладна занялася расследаваннем інцыдэнту. Па выніках усебаковага вывучэння справы будзе напісана афіцыйная справаздача, якую агучаць на адным з бліжэйшых пасяджэнняў выканкама МАК. Потым — вердыкт, які наўрад ці ўзрадуе беларускі бок. Тым больш, наш НАК і так застаецца пад санкцыямі, накладзенымі яшчэ колькі месяцаў таму.

Некаторыя рашэнні, зрэшты, уступілі ў сілу і па гарачых слядах. Двое датычных да ціску на спартсменку функцыянераў — галоўны трэнер лёгкаатлетаў Юрый Маісевіч і чыноўнік з РЦАП Артур Шумак — былі хуценька пазбаўленыя акрэдытацыі і выселеныя з алімпійскай вёскі. Менавіта іх галасы, як мяркуецца, гучалі на той знакамітай «плёначцы», на якой заплаканую Ціманоўскую «вучаць жыццю» і прымушаюць «па-харошаму» адмовіцца ад алімпійскіх спаборніцтваў і датэрмінова адправіцца ў Мінск...

Якім будзе канчатковае рашэнне МАК, сёння сказаць складана. Нельга выключаць, што санкцыі Лазана прыменіць драконаўскія — наўпрост да вываду беларускага НАК з-пад алімпійскай юрысдыкцыі з аўтаматычным пазбаўленнем нашых спартсменаў права спаборнічаць пад дзяржаўным сцягам і слухаць гімн пасля перамог. Правы атлета — лічы, чалавека, — тое, што міжнародныя спартыўныя інстытуцыі апошнім часам абараняюць надзвычай дбайна і зацята.

Ну, пачакаем — пабачым. Тым больш, час падціскае: наступная Алімпіяда — зімовая ў Пекіне — ужо праз паўгода.

# «НАК і міністр спорта сказалі мне не спаборнічаць...»

## Як спартсмен уцёк ад дыктатуры і выйграў у Токіа срэбра для Манголіі

Аляксей АСАНОВІЧ

**Дзяржава ўкладвае ў спорт вялізныя грошы, «стварае ўмовы» і патрабуе паміраць за сябе на спаборніцтвах. Але дзе тая мяжа, калі спартсмен павінен сказаць «Досыць»?**



Фота AP

### Ахвяры байкоту

Іранскія атлеты — у фаварытах не аднаго віда спорту. Яны не баяцца нікога. Палохае іх толькі сустрэча з ізраільцянамі — нават калі супернік «на паперы» нашмат слабейшы.

Тлумачыцца гэта проста: ніякага бою, матча ці схваткі ў гэтым выпадку не будзе. Улады Ірана не прызнаюць Ізраіль і лічаць прамыя спаборніцтвы з імі адной з форм легітымізацыі Зямлі Абетаванай. За апошнія 20 гадоў здарылася не менш за 30 выпадкаў, калі персы здымаліся з турніраў пры варыянтах сустрэцца з ізраільцянамі. Футбол, баскетбол, барацьба, плаванне, фехтаванне, тэквандо, бадмінтон, каратэ, шахматы, снукер, тэніс (і вялікі, і настольны), валейбол (звычайны і пляжны)... Байкотнаму спісу не бачна канца.

У гэтых выпадках іранцы калі-нікалі спасылаюцца на траўмы, калі-нікалі — на іншыя абставіны.

У 2005-м, даведаўшыся, што ў адной групе давядзецца спаборнічаць з Ізраілем, зборная Ірана адмовілася ехаць у Аргенціну на маладзёжны чэмпіянат свету па баскетболе праз «цяжкасці з атрыманнем візы».

На Алімпіядзе-2008 у Пекіне Махамад Аліразаі зняўся з кваліфікацыі ў брасе, каб пазбегнуць спаборніцтва ў адным басейне з ізраільцянінам Томам Беэры. Іранец спасылаўся на праблемы са страўнікам. Ён жа праз тры гады сказаўся «вельмі стомленым» і байкатаваў заплыў на чэмпіянаце свету ў Шанхаі. Пара пляжнікаў — Сабер Хашманд і Абас Пурасгары — выдумалі сабе траўму на пляжным валейболе ў Ёкагаме ў 2015-м, а каратыст Маджыд Хасаніна ў Парыжы шчыра сказаў: «Для кожнага іранскага атлета важныя яго ці яе меркаванні і падтрымка безабароннай палестынскай нацыі».

У 2017-м на чэмпіянаце свету U23 у Быдгашчы Алірэза Карымі наўмысна прайграў, каб не трапіць на ізраільцяніна Юрыя Калашнікава. Справу падалі ў дысцыплінарны камітэт, які выпісаў іранцу дыскваліфікацыю: было даказана, што прайграў ён па інструкцыі свайго трэнера.

...Дзюдаіст Саід Малаэі рухаўся па сетцы чэмпіяната свету-2019 у Токіа ў катэгорыі да 81 кілаграмаў даволі ўпэўнена. Што зразумела: на той момант іранец быў пераможцам першынства планеты-2018, а ў 2017-м у яго быў бронзавы медаль. Але паход за яшчэ адной узнагародай раптоўна быў пастаўлены на паўзу. Перад чвэрцьфіналам Саіду загадалі: на наступны бой выходзіць не трэба. Некаторыя іранскія СМІ нават паспелі паведаміць, што Малаэі зняўся па траўме.

Расклад маляваўся празрыста: у выпадку чвэрцьфінальнай перамогі ў паўфінале Малаэі чакаў бельгіец Маціас Кас. У іншым паўфінале змагаўся ізраільцянін Сагі Мукі. Такім чынам, і ў фінале, і ў матчы за трэцяе месца патэнцыйна магла здарыцца сустрэча Мукі і Саіда.

Але іранец выйшаў на рынг. У чвэрцьфінале перамог, але потым раптам неспадзявана прайграў і Касу, і паядынак за бронзу. Ён з кожным разам выглядаў на татамі ўсё больш збянтэжана. Мала хто на трыбунах знакамітай японскай залі «Будакан» ведаў, якая драма разыгрывалася за кулісамі.

### Званок з Тэгерана

У чвэрцьфінале Малаэі супрацьстаяў расіянін Хасан Халмурзаеў — алімпійскі чэмпіён-2016. За лічаныя хвіліны да пачатку барацьбы трэнеру Малаэі патэлефанаваў першы намеснік міністра спорту Ірана з простым загадам: зняцца са спаборніцтваў, каб не трапіць на ізраільцяніна. Паводле сайта Міжнароднай федэрацыі дзюдо, загад быў з пагрозамі Малаэі і яго сям'і.

Саід заплакаў і паваліўся долу. Ён проста не мог трымацца. Да менеджара спаборніцтваў Лайзы Алан падышоў трэнер з Таджыкістана Вахід Сарла і растлумачыў: Малаэі трэба ратаваць. Сярод тых, хто гэта рабіў, быў Абдуло Мурадаў, памочнік члена выканкама Жэрарда Бенонэ.

Абдуло потым расказаў: «Я правёў з ім увесь дзень. Вадзіў усюды, дапамагаў з перакладам, бачыў напалоханасць у яго вачах, калі ён думаў пра наступствы. Сітуацыя выйшла з-пад яго кантролю. Ён быў бездапаможны. Цяжка была глядзець на яго. Такія сітуацыі не павінны здарацца з атлетам».

«Я спартсмен, а не палітык. Я не хачу разбірацца ў палітыцы. Я хачу выконваць алімпійскую Хартыю. У той момант я быў разгублены і баяўся», — успамінаў потым Саід.

Перад паўфіналам трэнеру Малаэі зноўку патэлефанавалі — на гэты раз прэзідэнт НАК Ірана. Па відэасувязі Саід бачыў і чуў усё. Спартсмену паведамілі, што агенты нацыянальнай бяспекі ўжо каля дома яго бацькоў. Яны спрабавалі пераканаць бацьку Малаэі папрасіць сына не змагацца. І ў гэтым стане яму давялося спаборнічаць з бельгійцам.

«Я мог стаць чэмпіёнам свету. Трэніраваўся дзеля гэтага, столькі стараўся. Я перамог алімпійскага чэмпіёна і бронзавага медаліста. Але лёс быў мне іншы: я не змог спаборнічаць праз законы маёй краіны і таму, што я быў напалоханы наступствамі для маёй сям'і і сябе. Сёння Нацыянальны алімпійскі камітэт і міністр спорту сказалі мне не спаборнічаць, і я вымушаны быў падпарадкавацца. Я баец. Я хачу спаборнічаць увесь час. Але я жыву ў краіне, якая не дазваляе мне зрабіць гэта. У нас няма выбару, усе атлеты павінны слухаць, што ім кажуць. Тое, што я зрабіў сёння, — для майго новага жыцця», — сказаў Саід пасля ў інтэрв'ю сайту Міжнароднай федэрацыі дзюдо.

Малаэі распавёў пра сітуацыю прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі Марыусу Візэру. Ён цалкам стаў на бок спартсмена. Іранец баяўся вяртацца дадому — гэта было проста небяспечна. Прытулак барцу дала Германія. А хутка паступіла прапанова яшчэ лепш: прэзідэнт Манголіі Халтмаагійн Батугла (ён жа — прэзідэнт Федэрацыі дзюдо краіны) запрасіў спартсмена прыняць мангольскае грамадзянства. Саід пагадзіўся.

### Вялікі мангол

За два гады ў якасці мангола Малаэі не толькі не знізіў вынікаў, але і змог упершыню наведаць раней забароненны для яго Ізраіль і пасябраваць з тым самым Сагі Мукі.

«Ізраільцяне былі вельмі добрымі да мяне з моманту майго прыезду. Я трэніраваўся са зборнай Ізраіля і ніколі гэтага не забуду. Дзякуй ім за ўсю добрую энергію», — сказаў Малаэі ў інтэрв'ю «The Jerusalem Post». І дадаў «todah» — «дзякуй» на іўрыце ў гутарцы з рэпарцёрам.

«Я супершчаслівы за Саіда. Ведаю, праз што ён прайшоў і як моцна ён жадаў гэтага. Ён — мой блізкі сябар, і я рады, што ён дасягнуў сваёй мары. Ён заслугоўвае гэтага. Яго шлях вельмі натхняльны!» — сказаў Мукі ў інтэрв'ю «The Times Of Israel».

Мукі ўвогуле пачаў кампанію ў Інтэрнэце, каб падтрымаць сябра напярэдадні вялікай разборкі з іранскім НАКам.

«Чацвер будзе лёсавызначальным днём для майго добрага сябра, дзюдаіста Саіда Малаэі з Ірана. Ён з'явіцца ў швейцарскай Лазане на працэсе супраць Іранскага алімпійскага камітэта, які патрабуе, каб ён вярнуўся ў Іран. Іранскі НАК хоча, каб Саід на Алімпіядзе выступаў пад іранскім сцягам. Уся краіна супраць аднаго грамадзяніна, аднаго спартсмена. Шмат чаго было напісана пра гэтую сітуацыю, і я ганаруся тым, што мы з Саідам — блізкія сябры.

Што адназначна — гэта пакаранне смерцю на мінулым тыдні іншага ўдзельніка Алімпіяды — баксёра Навіда Афкары, які пратэставаў супраць рэжыму за правы на свабоду і роўнасць у сваёй краіне. Гэтая падзея — яснае паведамленне Саіду, што чакае яго і іншых людзей, якія выступаюць супраць улады. Заклікі лідараў іншых краін не дапамаглі Навіду. Ён мёртвы. Я пішу гэта і не магу спыніць думкі пра гэтую балючую сітуацыю, якая звязана з маім уласным жыццём.

Саід проста прасіў выйсці са мной на татамі і сумленна спаборнічаць на чэмпіянаце свету ў Токіа-2019. Рэжым дзейнічаў бязлітасна і не даў яму зрабіць гэта, як і на іншых турнірах. Саід абраў быць свабодным чалавекам, які ганарыцца сваёй культурай і краінай, але працягвае быць атлетам і дзюдаістам. Ён лічыць ліберальныя каштоўнасці святымі і падтрымлівае дух Алімпійскіх гульняў. Малюся, каб ён здзейсніў сваю мару і прыняў удзел у Алімпіядзе.

Я размаўляў з Саідам, падбадзёрваў яго. Яму цяпер вельмі цяжка. Я сказаў яму, што зраблю для яго ўсё, дзе ў свеце ён ні будзе, каб ён жыў у бяспецы і міры. Ведаю, што справядлівасць настане і мы сустрэнемся на адным дыване як роўныя. Калі ласка, давайце аб'яднаемся ўсім Ізраілем і светам за іранскіх грамадзян, якія знаходзяцца ў турме. #weareallwithsaeid — мы ўсе з Саідам! Твой Сагі Мукі», — такі ліст напісаў ён перад пасяджэннем Міжнароднага спартыўнага арбітража.

Малаэі выйграў у іранскага НАКа і атрымаў нарэшце свабоду.

«Я ўдзячны прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі дзюдо Візэру ад усяго сэрца. Ён сказаў мне, што дапаможа паехаць на Алімпіяду і мая мара паспрачацца за званне алімпійскага чэмпіёна здзейсніцца. Сказаў, што я змагу працягнуць спаборнічаць. Мне патрэбная дапамога. Улада маёй краіны сказала, што я магу вярнуцца без праблем, але я ўсё роўна баюся. За сябе і за сваю сям'ю», — успамінае Малаэі.

У 2021-м Саід сапраўды атрымаў шанец на Алімпіядзе. І выкарыстаў яго бліскуча: у тым самым «Будакане» ён упэўнена выйшаў у фінал, дзе толькі трошкі саступіў гаспадару Таканоры Нагасе. Для Манголіі гэта найлепшы вынік у Токіа — ёсць яшчэ толькі дзве бронзы (таксама ў дзюдо).

«Гэты медаль прысвячаю таксама сваім ізраільскім сябрам і спадзяюся, што ізраільцяне шчаслівыя за мяне. Напэўна, я ўжо ніколі не вярнуся ў Іран», — прызнаецца Саід. Але цяпер ён адчувае сябе як дома адразу ў некалькіх іншых краінах.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1361

Падпісана да друку 12.08.2021. 8.00. Наклад 5500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.